ISSN 1945-8665

# БЕЛАРУС
## 2009

**Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа**
**выдаецца са жніўня 2007 году**

# BIELARUS
## 2009

**Literary almanac of Belarusan writers abroad**
**published since August 2007**

**Заснавальнік:** Марат Клакоцкі.
**Выдавец:** рэдакцыя газэты “Беларус”.

**Адрас для допісаў:** *BIELARUS*
*P. O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
*USA*
**E-mail:** *hazetabielarus@att.net*

Падрыхтоўка тэкстаў да друку і макет - Марат Клакоцкі.
Карэктар - Алена Высоцкая.

На першай старонцы вокладкі зьмешчаны фотаздымак *Ірыны Варабей,* зроблены на 28-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Кліўлендзе.
На апошняй старонцы вокладкі здымак вышыванкі майстрыхі *Ірыны Варабей* з Канады.

# ЗЬМЕСТ

# ПАДЗЯКІ

*Шчыра дзякуем усім, хто сваім удзелам ці дапамогай спрычыніўся да выхаду ў сьвет літаратурнага альманаху “БЕЛАРУС” за 2009 год.*

*Асаблівая падзяка асобам, якія зрабілі грашовыя ахвяраваньні адмыслова для друку гэтага нумару, а менавіта:*

| | |
|---|---|
| ***В. Кіпелю*** | ***$200*** |
| ***К. і Я. Вініцкім*** | ***100*** |
| ***М. Дэмковіч*** | ***100*** |
| ***У. Ракуцю*** | ***100*** |
| ***Я. Шыбуту*** | ***100*** |
| ***Т. Бэрду*** | ***50*** |
| ***Я. Запрудніку*** | ***50*** |
| ***А. і Н. Вакулічам*** | ***20*** |
| ***Т. Красоўскай*** | ***20*** |

*Вялікі дзякуй сп.* **Віталю Воранаву** *за папулярызацыю выданьня ў Эўропе і дапамогу ў яго распаўсюджваньні.*

# ПЛЯНЫ НА БУДУЧЫНЮ

*З выхадам у сьвет гэтага нумару альманаху пачынаецца падрыхтоўка да друку наступнага, выхад якога заплянаваны на лета 2010 году. Апошні тэрмін дасылкі твораў для друку ў ім –* ***1 чэрвеня 2010 году****. Дасылаць матэрыялы найлепш, скарыстаўшы электронную пошту на адрас:* ***hazetabielarus@att.net*** *. Калі нехта з аўтараў ня мае доступу да Інтэрнэту, то свае творы, запісаўшы на электронныя носьбіты інфармацыі (CD, DVD), можна даслаць поштай на адрас:*

***BIELARUS***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
***USA***

*Калі ў некага з аўтараў творы існуюць толькі ў рукапісе, і ён ня мае доступу да кампутара, то даслаць іх можна на гэты ж адрас.*

*У альманаху "Беларус" могуць быць надрукаванымі літаратурныя творы самага рознага кшталту: паэзія, проза, падарожныя зацемкі, успаміны, але аўтары павінны жыць па-за межамі Беларусі.*

*Альманах друкуецца клясычным правапісам, таму ўсе тэксты будуць адаптаваныя да яго. Пасьля выхаду новага нумару кожны з аўтараў атрымае асобнік бясплатна і будзе мець магчымасьць набыць яшчэ некалькі па зьніжаным кошце. На жаль, выдавецтва ня мае магчымасьці выплочваць ганарары, бо не займаецца камэрцыйнай дзейнасьцю.*

*Замовіць наступны нумар альманаху ці мінулыя, можна напісаўшы на вышэйпададзены адрас.*

*Будзем вельмі ўдзячныя ўсім ахвярным людзям, хто зможа падтрымаць гэтае выданьне фінансава. Вашыя імёны будуць абавязкова пададзеныя ва ўступным артыкуле, і вы першымі атрымаеце новае выданьне пасьля выхаду з друку.*

***Марат КЛАКОЦКІ.***



**АСКЕРКА Георгі** (Аўсейчык Георгі) нарадзіўся ў горадзе Менску 20 красавіка 1987 году. Бацькі — Карпава Вольга і Аўсейчык Сяргей, па прафэсіі інжынэры-будаўнікі мастоў. Мае старэйшую сястру Ганну. Скончыў у 2004 годзе політэхнічную гімназію № 6. Потым адвучыўся тры гады ў БНТУ на факультэце транспартных камунікацый па спэцыяльнасьці інжынэр-будаўнік мастоў.

З 2007 году жыве і працуе ў ЗША. Дакладнае месца жыхарства на сёньняшні дзень — штат Пэнсільванія горад Лансдэйл.

Цікавіцца гісторыяй, замежнымі мовамі, транспартнымі сродкамі вялікай хуткасьці і, канешне, усім, што датычыцца Беларусі. Піша вершы пачынаючы з трэцяй клясы школы. Шчыра дзякуе бацькам, сябрам, Радзіме, Богу і Ёй за натхненьне.

## Аб Беларусі

### за што я люблю яе (хаця, канешне, проста люблю)

Люблю, бо яна ў сэрцы. Ня выбіць нічым, я вырас на гэтай зямлі. Мае дзяды ляжаць тут, сям'я мая змагалася за волю гэтага краю. Люблю яе за тое, што Бог на Беларусі жыве. Люблю за мову, якая дадзена нам Богам. Люблю за сонейка, што ўзыходзіць ранкам, люблю за ўсьмешку беларускай дзяўчыны, люблю за прастору яе палёў, за ціхі сум лесу ўвечары. Люблю яе за дождж, за бабулек у вёсцы, што частуюць печаным яблыкам. За азёры, за спакой, які зьяўляецца на душы пры вяртаньні дадому. Люблю цябе, Беларусь, за тваю непаўторнасьць! За духоўную моц, зь якой ты трываеш усе пакуты. Люблю так моцна, што ўсяму сьвету ахвота сказаць: ЛЮБЛЮ!

## Мае беларускія крылы

Узносяць мяне над зямлёю
Мае беларускія крылы.
Радзіма, я буду з табою,
Пакуль ты мяне не забыла.

І веру, што ты не забудзеш,
Бо мне ты як родная маці.
А тая ніколі ня згубіць
Сваёга раднога дзіцяці!

І буду я марыць штодня
Пра лёс наш агульны шчасьлівы.
І можа, надзея мая
Таксама дасьць табе крылы!

*жнівень 2007*

* * *

Захад фарбуе небасхіл,
І я гляджу, нібы зачараваны.
Мне чымсьці вечар гэты міл,
Бо, пэўна, ў думках ён напоўнен вамі.

*2005*

## Вечны рух

Ня бачыць нічога, шукаць адзіноты,
Маўчаць ціха сэрцам, ламаючы ноты,
Што музыку жыцьця нясуць ў мой пакой.
І прэч праганяць іх, бо ў смутку – спакой.

Але ў іх ёсьць моц, іх, мабыць, мільёны.
Мільёны гучаньняў, адценьняў ды моваў.
Абудзяць душу, што застыла ў змроку.
І ня хочучы, да сьвятла робіш крокі.

Бо як ты ні дбай, ты часьціна сусьвету,
Цябе ён ня кіне, табе знойдзе мэту.
І вось, нецярплівы, ты крочыш ізноў
Туды, дзе ёсьць нешта ў сьвятле прамянёў.

І цягнуцца рукі да таямніцы чарговай,
Нястрашна зусім, не баісься і болю.
Няхай апячэ і няхай будзе кроў,
Але ж ты жывы, ты крочыш ізноў....

*вясна 2008*

## Дарога наперад

Разношу зноў чарговыя вароты.
Баран, такі я ад прыроды.
Іду наперад, хай навокал кпіны,
Іду упарта, адчуваю позірк ў сьпіну.

Няхай глядзяць, няўцяміць ім ніколі:
Што шлях мой вольны, іншы ён.
Я бачу сонца ў вочах, вецер ў полі,
Стары, пануры ля дарогі клён.

То краявіды тых мясьцінаў,
Што ў марах бачыў я раней.
Цяпер іду да іх чужой краінай.
Ну ды нічога, крок сьмялей!

Нікога побач, ды я звыкся.
Нашто цяжар дзяліць на двух?
Я веру, Бог не памыліўся,
Бо даў замест мне моцны дух.

Але ж я ведаю, прыйдзе каханьне,
Спаткае небараку на канцы шляхоў.
Я буду ў стоме, але пры спатканьні
Я буду варты сваіх слоў!

Бо доўгі шлях – жыцьця навука
Ён выпрабоўвае ўвесь час,
Праходзіш, нібы у пакутах,
Але на справе атрымаеш скарб.

Такі вось мой жыцьцёвы вопыт,
Я крочыў, падаў, думаў і губляў.
Камусьці нёс дабро, камусьці – клопат,
Да болю часам кулакі сьціскаў.

Зрабіўся моцным? Усё лухта!
Рабіцца трэба чалавекам.
Такая праўда у жыцьця,
Такой была яна спрадвеку...

*8 трайня 2008*

## Ноч успамінаў

Канапа. Ноч. Лаптоп гудзе.
Няма нікога. Толькі час паўзе.
Няўмольна. Па пушыстым дыване.
Жыцьця хвіліну. У мяне крадзе.

Сьвятло ад лямпы. Сум ад адзіноты.
Віруюць думкі. Галаве ізноў турботы.
Скалечан: дзьве рукі і сэрца.
Але ж пішу яшчэ, ды ў целе нешта б'ецца.

Два тэлефоны. На стале. Навошта?
Маўчаць. Халера! Дзякуй, кніжкі поштай.
Яшчэ ключы. Там дом і гонда.
Унутры пытае нехта: "Як ты, морда?"

О Божа! Голас! Інтанацыя!
Да болю. Успаміны. У іх застацца.
Праседзець так. А што ж яшчэ?
Памару трошкі, і ізноў пячэ...

*Кастрычнік 2008*

## Разьвітаньне

Прыйшла часіна, адвярнуліся усе.
Ізноў адзін, але ці дзіўна гэта?
Ня ў першы раз на чорнай паласе,
І у чарговы раз чакаю лета.

Яно прыйдзе, я пакланюся гледачам.
І горка усьміхнусь, сыйду са сцэны.
Ня трэба словаў, ціхі мой адчай
Па залі разьнясуць жыцьця-тэатру цені.

Шкада, канешне, больш не зазірну
У сьвет твой, што ў вачох схаваны.
Але так лепш, з надзеяй хоць памру,
Што я быў твой, адзін абраны...

*Кастрычнік 2008*

## Надзея

Як растлумачыць, родная, табе?
Што два гады ў чужой краіне
Імкнуўся кожны дзень я да цябе.
Чакаў і думаў, жыў праз успаміны.

Я іншых абдымаў і цалаваў,
Было і так тады, канешне.
Але у кожнай зь іх шукаў
Твой погляд, словы, тваю зьнешнасьць.

Як клаўся спаць, была ты побач
Я абдымаў пухоўку, быццам бы цябе.
У снах шпацыравалі разам, поруч,
З усьмешкай, з сонцам, па вясьне.

На працы з ног валіўся, але ж ты чакала
Там недзе, думкі надавалі сілы.
Бо немажліва, каб ты не кахала,
Бо я ня веру, што мяне забыла!

*Вясна 2008*

## Мары

Мары,
напісаны на твары.
Іх бачна у вачах,
іх сьню я па начах.
Жыву для іх
і для цябе.
Сачу за тым,
куды нас занясе...

*2008*

## Змаганьне

Насустрач крочыць дваццаць першы век:
Гай-тэк, кампутары, машыны й космас.
Але ранейшым застаецца чалавек,
Жывым, з душой і сэрцам простым.

Няхай пануе інтэграцыя паўсюль,
Глябалізацыя ды іншыя хваробы.
Мы застанемся тымі ж і пад градам куль
Свайго ня кінем з-за чыесьці змовы.

Народ наш гартаваўся шмат вякоў,
Каб выстаяць і зьберагчы сьвятое.
І зараз час прыйшоў ізноў
Змагацца за Радзімы мрою!

*Кастрычнік 2008*

## Крык

Аловак, сшытак, ў галаве пытаньні.
Твой голас, вочы, зноў расстаньне.
Адказ бязгучны, вершам на паперы.
Спрабую дакрычацца: “Дай мне веры!”

Далёка я, ня хутка й вызваленьне.
Жыву гадзіны, дні, нібы ў трызьненьні.
Шукаю, дзе знайсьці цярплівасьць тую.
Усё ўспамінаю і сябе катую.

Але ня маюць мае словы больш улады,
Ягоным пацалункам ты бязьмежна рада.
Нічога не папішаш, ўсё мая віна.
Мо і ягонай будзеш, але ўсё ж мая!!!

*Кастрычнік 2008*

## Сапраўдны, ён заўсёды сябра

Няўмольна час ідзе па днях,
І расстаўляе ўсё як трэба.
Я зараз у чужых краях,
Як без зямлі малое дрэва.

Імкнусь да сонца як магу,
Але згубіў карэньне дзесьці.
Не пажадаў бы й ворагу
Такі цяжар па жыцьці несьці.

І ўспамінаю тых, з кім быў.
І горка, бо ужо расчараваньне.
Адзін узяў ды і забыў
Аб небаракі існаваньні.

Затое іншы – я і не чакаў!
Ён словы не кідаў пустыя,
А проста мне дапамагаў,
Як быццам мы браты радныя.

Ён моўчкі даў мне зразумець,
Наколькі блізкія мы людзі.
І я хачу надзею мець,
Што хутка разам зь сябрам будзем!

*14 сьнежня 2007*

## Апошняя нататка

Маці, маці, я стаміўся, маці.
Дыхаецца цяжка, час ўжо паміраці.
Але ж я ня хочу. Цябе, мая маці,
Адну ў журбе ў сьвеце пакідаці.

Спрабаваў упарта мужыком зрабіцца,
Але нешта, можа, мог я памыліцца.
Трошкі збракавала, мабыць, мне здароўя,
З-за такое працы ўмываўся kpoўю.

Доказы камусьці? Грошы дзеля чога?
Вось ужо і скончылася жыцьцянькі дарога...

*Жнівень 2008*

## Беларусь у сэрцы

Беларусь у сэрцы.
Зь ёй бы і памерці.
Да яе зямліцы
У журбе схіліцца.
Быццам сваю маці,
Ў шчасьці цалаваці.

Абдымаць старую,
Мілую, радную.
Ад яе пяшчоты
Плакаць, ціха, ўпотай...

*Вясна 2008*

## У роспачы

Чаму так позна зразумеў,
Што лепшае пакінула мяне?
Яна была, нібы сьвятла прамень.
Нібы анёл, убачаны у сьне.

А я, як дурань, быў сьляпы.
Прымаў усё і думаў: так і трэба.
Ніколі не цаніў, ня бачыў цеплыні.
Не заўважаў у сэрцы неба.

Так неабсяжны думак сьвет яе.
І так прыгожы вочы, быццам зьнічкі.
Цяпер яе мне моцна нестае,
Як кнігі лепшай на жыцьця палічцы.

Дай, Божа, ёй шчасьлівых дзён,
Людзей навокал шчырых, годных.
Усьмешкай хай бярэ ў палон,
Калі адчуе весялосьці подых.

Нічога ўжо ня зьменяць словы,
Хто вінаваты, зразумела й так.
Хачу сказаць свае высновы:
Ты маеш рацыю, я сапраўды лайдак.

Я памыліўся моцна, і цябе няма.
Але я памятаю ў тваёй залі танец,
На дыване, пад вечар, ты і я.
Даруй, анёлак, дай мне шанец...

*26 ліпеня 2008*

## У вакно маё пагрукаў дождж

У вакно маё пагрукаў дождж
Пад сумны гоман дрэваў звонку.

Сказаў, што болей не прыйдзеш,
Што час гартаць жыцьця старонку.

Чакаў і ведаў, ды ўсё роўна боль
Марудна разыходзіўся па сэрцы.
Нібы вада на шкле, па кроплях ці цурком
Той восеньню ён ліўся і цяпер шчэ льецца...

*Кастрычнік 2008*

## Нашае гора

Падаруйце мне голас, падаруйце мне крылы,
Дакрычацца хачу да людзей, што застылі.
Узьнясьціся высока па-над родным абшарам,
Бачыць Маці-Радзіму у пакутах і шнарах.

Падаруйце аблокі, зь імі шэрыя хмары,
Боль Радзімы спатолім яе дзетак сьлязамі.
Мы агульнае гора: што зямля і што людзі,
Яна ўся у крыві, ну а мы ўсе у брудзе...

Вінаватых шукаць? Гэта глупства і марна.
Кара боская нам, гістарычная кара.
Але рук апускаць беларусам ня трэба,
Хопіць працы на ўсіх, хопіць хлеба ды неба.

Гартаваныя лёсам, не такое й трывалі:
Руйнавалі краіну акупанцкія хвалі.
Але дух і наш Божа не зьнікалі ад тога,
Цяжкі шлях сярод цемры – гэта наша дарога...

*31 кастрычніка 2008*

## Вечар

Халодны лістапад забраў мой вечар,
У павольных думках еду я дадому.
Навокал адзінота, а ў душы пустэча,
Прырода нібы адчувае маю стому.

Ніводным гукам не турбуе цішыні.
Крый Божа, нагадаць, што варта жыць.
Сябе я бачу ў сьветлай вышыні,
У якой з табой бясконца можна быць...

*10 лістапада 2008*

## Мы

У стракатым натоўпе хадзілі з табою,
Сярод танных рэчаў шукалі мы зброю.
Паміж ліхаманкай і ўладай чужога
Сябе мы знайшлі, і знайшла нас дарога.

Спачатку, як сьцежка ў балоце глухім,
У дрыгве ўсё пятляе, зьнікае зусім.
Пакрысе, марудна ішла на уздым,
І вось мы ўжо цьвёрда на глебе стаім.

А далей ўжо бачны сьвятла прамяні.
Празь лес прабіваюцца, вабяць яны.
І сонца нас кліча ў абдымкі хутчэй,
Яно сумавала бязь зьзяньня вачэй.

І дзякуем, Божа, што ты дапамог
Абраць нам сваё сярод мноства дарог.
У кожным з нас Божы сьветач жыве
Любві да Радзімы, любві да цябе!

## Менск

Родны горад, мой браце ўлюбёны,
Мой найлепшы, адзіны і родны да сьлёз!
Твае вулкі, праспэкты ды клёны
Ў маіх думках штодзённых пануюць наскрозь.

Я сумую аб жоўта-чырвоных трамваях,
Аб цудоўным Траецкім ды парках тваіх.
Мне так моцна цябе не хапае
У гэтай дзіўнай і новай краіне чужых.

Ці ты помніш маё шчэ дзяцінства:
Сквэр на ўзгорку ля школы радзімай?
Як увосень кідаліся лісьцем,
А узімку на горцы гублялі гадзіны?

Я ўсё помню, бы ўчора было –
І так цёпла на сэрцы адразу.
Ты – дзяцінства і шчасьце маё,
Шэраг мой перамог ды паразаў.





**БАБКЕВІЧ Станіслаў** нарадзіўся 15 сакавіка 1960 году ў Будславе – мястэчку на Мядзельшчыне, адным з каталіцкіх цэнтраў Беларусі, вядомым беларускай гімназіяй – адной зь першых заснаваных у Беларусі. Там у 1977 годзе Станіслаў скончыў школу. З траўня 1978 году па травень 1980 году служыў у савецкім войску.

Потым працаваў у Будславе, Вялейцы, пазьней у Маладэчне сьлесарам, брыгадзірам у калгасе, токарам, зьменным майстрам, майстрам вытворчага навучаньня. У Маладэчне завочна скончыў палітэхнікум.

З 1985 году жыве ў Ліепаі (Латвія). Да 1992 году працаваў у Ліепайскай базе "Акіянрыбфлёт". Некаторы час працаваў у бізнэсовых структурах. Затым – самастойна на сваёй фірме ў галіне прамысловага прыбярэжнага лову. Зараз ходзіць у мора, у вольны час бярэ ўдзел у працы ліепайскай суполкі беларусаў "Мара".

Магчыма, у расстаньні ўсё адчуваецца больш востра і шчыра, на адлегласьці ўсё бачыцца больш пільна, таму ў Станіслава ўзьнікла патрэба занатоўваць свае пачуцьці і думкі, а таксама дзяліцца ўражаньнямі з чытачамі. Так пакрысе пачалі нараджацца невялікія апавяданьні, эсэ, гумарэскі на роднай мове. Першымі чытачамі Станіслава сталі ліепайчане. Менавіта ў "Пралесцы", беларускай старонцы ліепайскай гарадзкой газэты "Курзэмэс Вардс", упершыню былі надрукаваныя творы Станіслава Бабкевіча. Ягоныя творы друкаваліся ў выпусках альманаху "Беларус" за 2007 і 2008 гады.

# Лючына

– Сьцёпка! Ты ў мяне давыпендрываесься! Я табе колькі казаў аддаць гайкі на лючыне танка льяльных вод?! Яшчэ на пераходзе ў Біскаі, а сёньня ўжо Зундам прайшлі! Што? За тыдзень не знайшоў часу, каб дваццаць чатыры гайкі аддаць! Папомні мяне – усіх сьпішу ў рэзэрву, а цябе пакіну вахты стаяць! І будзеш стаяць, пакуль не здадзім танк пад рэгістар!

Людвіг расьпякаў свайго падначаленага. Так, нязлосна, за чаем і струганінай у сваёй каюце. За дзесяць месяцаў рэйсу яны пасьпелі пасябраваць – беларус кацельны машыніст Сьцяпан Паўловіч з-пад Шаркаўшчыны і латгалец старшы мэханік Людвіг Вазовіч з Рэзэкнэ, былой Рэжыцы. У пачатку рэйсу высьветлілі, хто ёсьць хто – землякі! Праз рэчку! І, не зважаючы на "табэль аб рангах", "дзед" час ад часу запрашаў Сьцяпана да сябе. Вольны час бавілі за размовамі аб усім і рэзаліся ў нарды.

– Францавіч! Ды не хвалюйся ты так! Зраблю ўсё! На наступны дзень як прыйдзем, можаш замаўляць інспэкцыю. Адказваю!

– Ды як не хваляваецца, калі гэтую лючыну невядома наогул, з пабудовы ці аддаваў хто, а ты да яе нават не падыходзіў. А мне гэты танк рэгістру трэба здаць! Будзеш сядзець на судне разам са мною! Пакуль ня здам!

– А што! І пасяджу! Тым больш што ёсьць, аб чым пагутарыць. За рэйс аб усім не пасьпелі...

– Даскачаесься ты ў мяне! Напішу я табе характарыстыку – будуць табе і РПК (рамонтна-падменная каманда. – ***Заўвага рэд.***) і "сваім ходам"!

– Ды, Францавіч, каб мне ўсё жыцьцё па другой візе хадзіць, зраблю ўсё ў лепшым выглядзе!

– Глядзі ў мяне! Увесь рэйс мы з табой душа ў душу, дык пад канец га*ном не запячатай!

– Не запячатаю, Францавіч! Наадварот – расьпячатаю!

– Хопіць, Сьцёпа, трындзець! Ідзі спаць ужо! Ды на вахту не прасьпі! Яшчэ па разе адстаім, а там, калі на рэйдзе не пратрымаюць, то і заход на наступнай. Мы ўжо на травэрзе Барнхольму.

– Дабранач, Францавіч! – пажадаў той і накіраваўся ў сваю каюту, якая знаходзілася на палубу ніжэй, у так званым "нэгрыцянскім квартале".

Каюта кацельных машыністаў знаходзілася па мідэлю, якраз насупраць уваходу ў кацельнае аддзяленьне. Пастаяўшы ля дзьвярэй і падумаўшы, прысаромлены і з адчуваньнем сваёй віны, Паўловіч спусьціўся ўніз і праз сваё працоўнае месца накіраваўся ў машыннае аддзяленьне. "Блін! Насамрэч прызабыў пра гэтую лючыну, трэба хоць паглядзець, што і як. Хоць саляркай пазамочваць, а на вахце паспрабую аддаць", – меркаваў сабе ён.

У машынным аддзяленьні напаткаў Ігара. Той па штатным раскладзе працаваў у рыбцэху, і ягонае зьяўленьне ў машыне, тым больш сярод ночы і на пераходзе, было неардынарнай зьявай. "Цікава, што ён тут шукае?" – задаў сабе пытаньне Сьцёпка, а ўголас запытаў:

– Прывітаньне! Вахціш ці што?

– Угу! А ты гэта куды?

– Ды трэба тут адно месца паглядзець!

– А што пасярод ночы?

– Ды тут перад прыходам..., – сказаў і прыкусіў язык.

Гэта не засталося незаўважаным Ігарам. Застаны ня там, дзе павінен быць, няпрошаны госьць рабіў выгляд, што як бы мімаходам тут, і сьпяшаўся на выхад. Сьцёпка бачыў, як "з вачыма на патыліцы" той падымаўся па трапе. Больш ён ні слова да яго не прамовіў, але ў галаве забегалі чорцікі: пачакай, ты мне саслужыш службу!

Прайшоў праз машыну, паднырнуў пад клінкетныя дзьверы і патрапіў у памяшканьне валалініі. Лючына знаходзілася ў нязручным месцы, з паёлаў не праглядалася, а трэба было падняцца на прыступку і праціснуцца паміж пераборкай і трубаправодамі. Гайкі закісьлі настолькі, што ўяўлялі са шпількамі адзіны ком іржы. Нязручна нават было закласьці ключ, тым больш з трубой-надстаўкай – узмацоўкай. Вылез зноў у машыну. Набраў у бляшанку салияркі, узяў са стэнду нож, выбраў штосьці са старызны... Прыгнуўся было, каб зноў патрапіць у тунэль валалініі, ды бакавым зрокам заўважыў, як мільганула за

дызэль-генэратарам постаць Ігара. “Усё ў парадку! Цяпер засталося цябе толькі перараканаць!”

Сьцёпа нарэзаў анучыну на шматкі, намачыў іх саляркай і напрылепліваў-навязаў на гайкі. “Хай зызнуць! А то каб “працаўнічкі” разам з гайкамі шпількі незнарок не пазрывалі. Ну і Ігарок каб арыенцір меў”. З тым і палез наверх.

“На сёньня ў машыне досыць, прадоўжым у каюце”, – задаволены сабой і справай, Сьцяпан мыўся і разважаў.

Калі Ігар праходзіў па калідоры і праз прыадчыненыя на штармоўку дзьверы заглянуў у каюту, то ўбачыў Сьцёпу, які перабіраў нешта ў рундуках.

– Шукаеш што?

– Так, пакетаў пару трэба знайсьці!

– А гэтыя вось побач?

– Не! Гэтыя дзіравыя.

Сьцёпа завіхаўся, а Ігару станавілася ўсё цікавей.

– Да прыходу рыхтуесься?

– Трэба падрыхтаваць тое-сёе! Дарэчы, ізаленты нідзе ня бачыў?

– Ня памятаю! А скоч з упакоўкі не падыйдзе?

– Давай! Якраз будзе! А то ў мяне ўся скончылася за рэйс, а безь яе ніяк не абыйсьціся.

Пасьля абеду курылі на прамысловай палубе. Сьцёпа размаўляў з хлопцамі з добычы аб заходзе ў Буэнас-Айрэс. Размову гэтую падтрымоўваў з патаемнай надзеяй. І – вось яно! На палубу выйшаў Галубок. Так усе тут звалі яго. Мо таму, што прозьвішча ягонае было Голубеў, а мо таму, што заўжды быў прылізаны і любіў хваліцца любоўнымі посьпехамі і прыгодамі са сваімі былымі супрацоўніцамі. Ігар абвёў позіркам усіх і, як бы незнарок, накіраваўся да сьліпа. Якраз туды, дзе і вялі гаворку.

– А я яшчэ як у мінулы раз лётаў у РПК, прыгледзеў тую краму. Выбар агромністы: і балончыкі, і арбалеты, і паляўнічае, і наразное... – распавядаў таварыш, які заходзіў туды як у музэй.

Галубок, скасіўшы вока, праходзіў побач.

– А мне больш “Барэта” спадабалася! – ненарокам узгадаў Сьцяпан.

– Ды што ты! Гэта ж жаночы!

– Ну! Затое схаваць лёгка! – падхапілі маракі.

– Ды і патроны купіць у нас няцяжка, – уставіў Сьцёпка.

Ігар падышоў да сьліпу, цвыркнуў праз зубы ў бок вады і павярнуўся назад.

– У нас яна, напэўна, будзе цаны тры ці чатыры ад аргентынскай.

– Пару “Зенітаў” здаў, “Барэту” ўзяў – і добрыя грошы падымеш! – чуў ён прыглушаныя рэплікі, калі зноў праходзіў побач.

Паразмаўлялі яшчэ. Хлопцы прыпалілі зноў па адной, а Сьцёпу было досыць.

З Ігарам яны пазнаёміліся год пяць таму. Разам пачыналі – вучыліся на курсах кацельных машыністаў. На першы момант іх зьблізіла тое, што былі яны абодва зь Беларусі. Сьцёпка разьвёўся з жонкаю. Ім стала цесна ў адным адразу памалеўшым горадзе. І ён паехаў зьдзяйсьняць сваю даўнюю юнацкую мару. А Ігар быў зь Менску. Працаваў там інкасатарам. Пра працу сваю гава-

рыў, як пра нешта лёгкае з мноствам прыгодаў, якія меў сярод жанчын празь яе. На пытаньне, чаму тады пакінуў такое месца, адказваў:

– А! Пахаджу колькі захачу і зноў вярнуся.

– А што, месца застанецца не занятым?

– Для мяне заўсёды будзе!

Прыгадваў Паўловіч, як адвучыліся яны з тыдзеь які, і Ігар "заляцеў" – трапіў у выцьвярэзьнік. Пры гэтым забралі яго з рэстарацыі, дзе ён п'яным дамагаўся прыхільнасьці афіцыянткі. За такія прыгоды тады найменш закрывалі візу на год, а маглі і наогул выключыць з плаўсаставу. А ў той раз было так. Сабралі іх групу. У клясу ўвайшоў сакратар партарганізацыі разам зь "віноўнікам урачыстасьці" Голубевым.

– Таварышы! – пачаў прамову сакратар, – у нашым калектыве здарылася няшчасьце. Малады спэцыяліст не разьмеркаваў свае сілы і трапіў у непрыемнае становішча. Трэба адзначыць, што па месцы ранейшай працы таварыш Голубеў мае толькі станоўчую характарыстыку, зьяўляецца кандыдатам у сябры КПСС. На партыйным сходзе камуністы ўжо абмеркавалі пытаньне, і прапануем вашаму калектыву ўзяць таварыша на парукі і вынесьці яму папярэджаньне без занясеньня ў асабістую справу. Хто "за"?

Цікава, хто б мог быць не "за"?

Так з Голубева і скацілася ўсё як з гусака вада. А Сьцёпка ўжо тады сказаў сабе: "Ага!" Кумекаў тое-сёе яшчэ з войску!

Пасьля курсаў лёс сутыкаў іх раз які на "бічы" – у доме міжрэйсавага адпачынку рыбака ды раз ці два ў рэзэрве. І вось празь пяць год выпала ім быць разам у адным рэйсе.

Як толькі атрымаў пасьведчаньне, Ігар пайшоў у мора адразу па першай візе. Кацельным машыністам у яго не пайшло, і наступныя рэйсы ён хадзіў у палубнай камандзе матросам-рыбаапрацоўшчыкам.

А Сьцёпка спачатку зрабіў пару кароткіх рэйсаў па другой візе. І па першай візе, што давала магчымасьць працаваць на суднах, якія заходзілі ў замежныя парты, пайшоў толькі праз год з гакам, "зарабіўшы" характарыстыку-рэкамэндацыю.

Сьцяпан прыгадваў, як той жа сакратар партыйнай арганізацыі дапытваў яго на візавай камісіі:

– Якая па ліку прайшла партыйная канфэрэнцыя ў апошні раз? Ну, пытаньне зусім лёгкае!

Што было казаць Сьцяпану? Каб пра апошні зьезд запытаўся, а то – канфэрэнцыя! Ён адмоўчваўся і адчуваў, што гарыць.

– І што, таварыш Сьцяпан Пятровіч Паўловіч, з такімі ведамі вы спадзеяцеся прадстаўляць нашую краіну за мяжой?

І ўжо больш зьвяртаючыся да сябраў камісіі:

– Ды і ў справе адзначана, што таварыш Паўловіч разьвёўся напярэдадні падачы дакумэнтаў на працу ў мора, дзяцей ня мае...

Гэта быў прысуд – адзінокіх і бязьдзетных за мяжу адпускалі вельмі і вельмі неахвотна.

Усё!

Тут устаў, абапіраючыся на ляску, сівы чалавек:

– Таварыш Кучарэнка! Ды ён ужо зноў пасьпеў ажаніцца, і ў яго на мінулым тыдні нарадзілася дачка. Давайце павіншуем маладога бацьку і прагаласуем. Хто “за”? І першым падняў руку.

Гэта выручыў начальнік аддзелу кадраў Віталь Іванавіч Кудранкоў. Дзякуй, зямляк!

Сьцяпан, як прыйшоў у базу, адразу патрапіў на яго – здаваў дакумэнты.

– Ну, куды мне цябе накіраваць? – разважаў уголас начальнік АК. – Якніяк адукацыю маеш. “Тэхнік-тэхноляг мукамольна-крупяной вытворчасьці” – уголас прачытаў ён.

– Вось! Якраз мукамолам і пойдзе. Іх і не хапае, – умяшалася сакратарка.

– Ды не, гэта не зусім тое!

І зьвярнуўся ўжо да Сьцёпы:

– Ну дык куды мне накіраваць цябе, зямеля?

Такі зварот падбадзёрыў хлопца, і ён шчыра адказаў:

– Віталь Іванавіч! Я мора ўпершыню ўбачыў учора, пахадзіў па беразе. А дагэтуль караблі бачыў толькі на малюнках. Як параіце – так і зраблю!

– Ну караблі – гэта ў вайскоўцаў. У нас – судны. Значыць так! Трэба табе ісьці павучыцца. Што там у нас ёсьць? Так: курсы матросаў... Ну гэта заўжды пасьпееш! Курсы мукамолаў – гэта табе непатрэбна. Курсы павароў – гэта цэлых паўгода, не! Курсы боцманаў – дык ты яшчэ і не матрос...

Нэафіт рыбнай прамысловасьці слухаў і чакаў прысуду.

– Курсы матарыстаў – толькі празь месяц, курсы кацельных машыністаў... О! Самае тое! Давай я цябе і запішу! Заняткі пачынаюцца з панядзелка. А пакуль вось вазьмі накіраваньне і ідзі ў табэльную. Там табе выпішуць пропуск. Зможаш схадзіць праз прахадную паглядзець на судны.

З таго часу ўсталяваўся нейкі кантакт і добрыя адносіны са сталым чалавекам, які пахадзіў па далёкіх прамысловых раёнах ад практыканта-рулявога да капітана-дырэктара. І вось па здароўі сьпісаны на бераг... Можа, у гэтым юнаку ён убачыў сябе колішняга, калі прыехаў з Рэчыцы трыццаць з гакам год таму такім жа.

Гэта быў адзін зь першых рэйсаў бязь першых памочнікаў. Такая вось таўталогія! У базе казалі: пробны. Пэўна, яшчэ хто спадзяваўся. Ва ўсялякім разе не хацеў пагаджацца. А каб не выпускаць з-пад кантролю сытуацыю, каманда была ўзмоцненая “надзейнымі адказнымі таварышамі”.

За пяць год кацельны машыніст Паўловіч навучыўся вылучаць гэтых людзей з агульнай масы. Яны ва ўсе часы былі ва ўсіх камандах. Магчыма, і ня ведалі адзін аднаго, але справу сваю рабілі. Тут ужо заслуга іх куратараў.

Бачыў ён ня скрозь усіх, канешне, але па паводзінах, па супастаўленьні фактаў ён прыкмячаў, каго трэба асьцерагацца. Тыя вось двое з рэйсу ў рэйс толькі разам. І жывуць заўжды ў адной каюце. І адны! А было – прыпуталі. І нічога! А таго лавілі на кантрабандзе, а візу не закрылі... Той за п’янку пападаў колькі... А ходзіць! Ці вось як той даўнейшы выпадак зь Ігарам. Ды і цяпер ён пасьля кожнага прылёту застаецца ў Маскве на дзень-другі “праведаць родзічаў”. І на самалёт да Ліепаі такім заўсёды ёсьць білеты: засталіся, а глядзіш, праз пару дзён ужо сноўдаюцца па базе.

Сьцёпа падрамаў які час, ціхенька падняўся, пераступіў комінгс і – на калідор. Выйшаў на прампалубу, выкурыў цыгарэту і спусьціўся ў машыну. Нырнуў у тунэль валалініі. Пагрукаў трошкі, але ціхенька, патаптаўся па паёлах. Ключом на 36 паспрабаваў гайкі. Тыя паддавацца не хацелі, але ж некалькі скрануць зь месца ўсё-такі ўдалося. “Добра! Ну што ж, значыцца, магчыма! Парадак!”

Астатнія ён абстукаў малатком, мэталічнай шчоткай старанна пачысьціў ад іржы. Калі ня ўдасца, то і самому будзе лягчэй, і выгляд патрэбны маюць. Ключом яшчэ шкрабануў пару разоў, каб на гайках і лючыне засталіся сьвежыя бліскучыя сьляды. А потым ўсё старанна замазаў салідолам і прыцерушыў розным сьмецьцем. “Ну, лавіся, рыбка, вялікая і маленькая!”

Калі вяртаўся назад па калідоры, то наперадзе ціха грукнулі дзьверы. Якраз там, дзе Ігарава каюта.

У Аргентыне некаторыя катэгорыі зброі прадавалі амаль усім і без асаблівага ўліку. Здаўшы прыпасены тавар перакупшчыку з эмігранцкага асяродзьдзя, можна было спадзявацца, што той за камісійныя набудзе патрэбнае для жадаючых. Жадаючыя знаходзіліся. І тых вылічвалі, вынюхвалі “надзейныя людзі”. Перад прыходам іх дзейнасьць станавілася найбольш актыўнай, і яны гублялі асьцярожнасьць: з “выяўленымі” яны, часьцей за ўсё, больш ніколі не сустракаліся – ні ў моры ні ў жыцьці. Тым закрывалі візы, і яны вярталіся дадому – пераважная бальшыня былі іншагароднымі. А сэксоты за сабой адчувалі сілу і ня надта баяліся засьвяціцца: кожны рэйс – новая каманда. Калі і будзе ў наступным рэйсе некалькі чалавек з папярэдняга, то свае думкі хай прытрымаюць пры сабе, калі ня хочуць быць сьпісанымі. Усё ж такі здаралася, бывала, усялякае пасьля заходаў. Як бы па п’янцы... Але цяпер Галубок, відаць, баяўся больш ня гэтага, а неатрыманьня патрэбнага выніку. Вось што хвалявала яго найбольш! Пэўна гэта быў ягоны “акорд”.

Калі ашвартаваліся, як заўсёды выставілі ля трапу каравул з двух памежнікаў – жаўнераў тэрміновай службы. Яны будуць стаяць, пакуль не адкрыюць мяжу.

Матрос-рулявы Голубеў, якога выклікалі стаяць на рулі пры заходзе, крыху затрымаўся на мосьціку.

Экіпаж разагналі па сваіх каютах. Шманалі ўсіх па чарзе. Адзін нарад – каюты і кубрыкі з правага борту, другі – зь левага, а трэці – службовыя памяшканьні, у тым ліку і машыннае аддзяленьне. Празь некалькі гадзін па гучнай сувязі выклікалі ў машыну стармэха. А яшчэ праз гадзіну раздалі пашпарты і памежны рэжым зьнялі.

Сьцёпа праз ілюмінатар ужо пасьпеў выглядзець у натоўпе сустракаючых, якіх вось толькі прапусьцілі праз прахадную, сваіх, закінуў сумку на плячо і пабег хутчэй на пірс да родных. Цяпер ён забыўся ўжо пра ўсё.

Назаўтра, як папярэдне дамовіліся, а дванаццатай гадзіне кацельны машыніст Сьцяпан Паўловіч быў на борце судна.

– Зайдзі да мяне! – паклікаў дзед.

Як толькі Сьцёпка зачыніў за сабою дзьверы, Францавіч усклікнуў:

– Ну ты, хлопец, і артыст! А ў мяне ўсе блохі падохлі.

– Чаго гэта?
– Ну не валяй ваньку!
– А чаго цябе, Францавіч, у машыну выклікалі?
– Ды панятым! На выемку!
Сьцяпан ня вытрымаў тут, зарагатаў:
– Ну і як? Вынулі?
Цяпер не стрымаўся ўжо і Людвіг:
– Ды ўнутар нават салдаціка загналі, увесь бруд працадзілі. Каб пару гадоў назад, было б табе за тваё штукарства! Знайшлі б як адыграцца! А так, пэўна, я табе павінен казаць дзякуй – лючыну, як і загадваў, падрыхтаваў. Патрэніраваў ты, аднак, службовых!
– Дык яны ж за гэта грошы атрымоўваюць! А дзякаваць трэба ня мне.
– Ну а хто ж “герой”?
– Ды ёсьць тут птушка адна...

Пасьля рэйсу Ігар звольніўся з базы і вярнуўся ў Менск. Ці атрымалася ўладкавацца яму на ранейшае месца – невядома.



# Бацькава хата
## (уступ да ненапісанага)

### 1

Зь сівых вякоў да сёньняшняй пары
Не зруйнавана ў сэрцах люду
Між балатоў і лесу, болю, стогнаў, бруду
Жыве у селяніна кожнага двары
Даўніны памяць аб самотным лёсе
І купай мшалай тоіцца у часу плёсе.

Жыве сялянскі двор ад веку ў век,
Мінаюць зімы-леты безупыннай стужкай
А ён сваёй радзімы застаецца служкай –
Нікуды не сыйшоў і нікуды ня зьбег.
Там на дварышчах вырастаюць дзеці,
А састарэлыя сваёй чакаюць сьмерці.

Шумяць далёка, вабяць зьзяньнем гарады
І забіраюць ўзросшых раптам галапупак,
Як восень забірае з гнёздаў птушак.
Зьлятаюць на дзясяткі год, і часта назаўжды.
Вось і бывае так у век нясконцы –
Сьвятло згасае незваротна у ваконцы.

Праз шэраг ўлад, гаспадароў і войнаў жах
Ды ўсё жыве, трывае двор сялянскі –
Ля вёскі крыж, а звычай помніць і паганскі,
Хоць саламяны, хоць пад шыферам той дах.
Яднае хаты звычай незабыўны дзедаў,
Што ні здарыся, на вяку чаго ні зьведай.

Патрэбы ладзяць, Богу моляцца у часе сьвят,
А грымне, дык Пяруна раптам памінаюць,
Купальлем кветку-папараць шукаюць,
І хрысьцяць рот, каб не пад'есьці чарцянят
На тых вясковых панадворках
І ў хлеў ідуць ў фуфайках ды апорках.

## 2

Намаляваў я росчыркам пяра такі абрыс
Каб удыхнуў чытач таго паветра
І крок маленькі, хоць з паўмэтра
Зрабіў да тых дзяцей і іх мурзатых пыс,
Што там гуляюць надвячоркам.
Пра аднаго і пойдзе тут далейшая гаворка.

Апавядаць, чытач шаноўны, я хачу табе
Пра шлях гаротны і шчасьлівы чалавечы,
Як нарадзіўся, рос, пазнаў і збавіўся галечы,
І працаваў да жаўлакоў на лбе,
Жыцьцё пражыў і нешта зразумеў, нарэшце,
Антось – герой лірычны па далейшым тэксьце.

Цяпер Антоська наш, лічы, яшчэ малы,
Дванаццаць споўнілась яму вось толькі,
Пакуль ніводнай ён ня станчыў полькі,
А вабяць вуды, кнігі, самапалы, равары...
Вось толькі што прыйшлі каровы з поля,
Адбыў калейку і гуляе – лета, воля!

Мы нетаропкі погляд накіруем так,
Каб паглядзець на асяродзьдзе тое, –
Што добрага было, а што было благое,
Каб адчуваўся часу водар, пах і смак,
Якія звычаі былі, чаму вучылі ў школе,
Што спавядалі у райкоме, цэрквах і касьцёле.

## 3

Тут, пэўна, варта мне нарэшце і казаць
Пра дзеяў час і пра здарэньня месца...

70-я, пачатак. Над саветам сельскім ўецца
БССРу сьцяг. І прадаўжаюць будаваць
Камуністычнае, прывабнае, узорнейшае заўтра,
І пераконваюць, што толькі тут ёсьць праўда.

Але зусім, зусім ня кожны стане слухаць іх!
У школе чутна пра адно, а дома – пра другое,
Бо для бацькоў, то зман, няпраўда і брыдкое,
Бо знаюць пра жыцьцё ня толькі ад чужых,
Бо іх старонка Беларусь і лепшае пазнала,
А хто пануе над усім – чарговая навала.

Эх, край мой родны – Беларусь Заходняя!
Тут нехрысьць правіць з 39-га году,
Таму мясцовы люд і знае асалоду –
Зямельку абрабляць, калі яна свая.
Не скарчавалі тут мужыцкую пароду,
А ім ня вытравіць з душы сваю прыроду.

На атрубах і лядах зноў цьвітуць сады,
Брыдзе да іх мужык, мо за каровай ззаду,
Бо дзесь баліць і на душы ня мае зладу,
Хоць расьпіханы ўжо бульдозерам вуглы.
Няўцешным болем памяць сэрца апякае
І думкі аб мінулым і сучасным навявае...

І плачуць ля разбураных падмуркаў старыкі,
Як прыгадаюць ад Саветаў іх свабоду-ласку,
Пра раўнапраўе для народа, камунізму казку.
Бальшавікоў клянуць, сьціскаюць моўчкі кулакі,
У Бога просяць аб якой палёгкі долі,
І моляць за дзяцей, каб пажылі на волі.

## 4

Чытач сучасны можа і ня ўцяміць ўраз,
Што дзейсьнілась ў краіне іх бацькоў,
Што азначае “прачытаць паміж радкоў”
У тым, што падаецца для “народных мас”.
Але, напэўна, чуў пра “занавес жалезны”,
Што КДБ сачыў, каб быў “для Родзіны палезны”.

Бацькі хавалі праўду ад малых сваіх дзяцей.
А самі гаварылі толькі ўночы, ўпотай
Праз асьцярогу, з жалем і вялікаю гаротай
Пра лад і быт, вярталіся да тых падзей –
Каб толькі сын на вуснах ў школу не прынёс,
Каб пільны хто “куды патрэбна” не данёс.

70-я. Антосева юнацтва, лепшыя гады...
Дзяцінства адпускае са сваіх абдымкаў,
І пачынаеш думаць пра матыў учынкаў, –
Што на паверхні, што пад тоўшчаю вады.
А што ў бацькоў на сэрцах набалела –
Ужо бліжэй і, ненарокам, у душы асела.

Так пазнаеш сябе, прыроду рэчаў і людзей,
Штрых непрыкметны – сэнс таемны разумееш
І крок за крокам розумам сталееш,
Уласны погляд маеш да мінулага падзей.
І гэта першая разора на цалінным полі:
Супастаўляеш з тым, што выкладаюць ў школе...





**БАРАВЫ Лявон** нарадзіўся ў 1928 годзе ў Беларусі. У Амэрыцы жыве з 1950 году.

* * *

Я не паэт.
Я здольнасьцяў ня маю,

Але скажу вам мой сакрэт:
Я закаханы маем.

Люблю я раньнюю вясну,
Водар першых кветак,
На траве халодную расу.
Люблю вясну лепш за лета.

Вясна душу маю весяліць,
Разганяе думак тлуматню.
Я пішу, што ў сэрцы набалела,
Хоць я ня ёсьць паэт.

* * *

## Паводле "На ростанях" Якуба Коласа

Лабановіч паважна
Пазіраў на Ядвісю
І нізка, як можна,
Ён ёй пакланіўся.

Ядвіся ў адказ
Яго прывітала,
“Прыемна вас бачыць”, –
Яна вясёла сказала.
“Калі ласка, заходзьце”, –
Папрасіла Ядвіся,
І пры гэтай нагодзе Негрусь* прабудзіўся.

---------
* Негрусь – мянушка сабакі.

## Не чакай
## (танга)

Не чакай, не чакай ты мяне,
Я назад да цябе не вярнуся.
Я жыву у чужой старане,
Удалі ад маёй Беларусі.

Тваю постаць я бачу у сьне.
Твае вусны я моцна цалую,
Нават чую твой радасны сьмех
І тваю касу залатую.

Не магу я забыцца той час,
Маладыя гады і каханьне.
Той агонь у душы не пагас,
Мяне кліча да новага раньня.

Не чакай, не чакай ты мяне,
Я назад да цябе не вярнуся.
Я жыву у чужой старане,
Удалі ад маёй Беларусі.

* * *

Люблю я песьні Салаўя:
Яго завуць Алесем.
Чытаю часта я
Зборнік яго песень.

“На крыльлях вольнага Пэгаса”*
Ён ляціць у неба сіняву.
І пакуль зоркі не пагаснуць,
Я буду кланяцца яму.

---------
* Зборнік вершаў А. Салаўя “На крыльлях вольнага Пэгаса”

* * *

Гляджу ўдаль, закрыўшы вочы,
Плывуць думак начныя караблі.
З-за хмараў месяц пільна сочыць,
Як адбываецца марскі прыліў.

Заснуць зусім ня маю сілы,
Хоць цела просіць адпачынку.
Зірнуў месяц у вакно нясьмела
Ды схаваўся ў хмарную скрынку.

*01/12/2008*

## Сон

Я толькі закрываю вочы
І бачу стан жаночы,
Прыстойную фігуру,
І погляд вачэй панурых.
Яна ступае вольным крокам.
Відаць, ня йдзе далёка,
І нібы мерае адлегласьць,
Глядзіць наперад сьмела.
Я хачу за ёю крочыць
І раптам адкрываю вочы –
Праспаў палову ночы,
І зьнік той стан дзявочы.

*06/12/2008*

* * *

Калі надыйдзе час нязнаны –
Майго жыцьця апошні крок –
Час загоіць мае ўсе раны
І застыне ў сэрцы кроў.

Я адыйду спакойна ў вечнасьць,
У душы я веру панясу –
Жыцьця пагаснуць сьвечкі,
І я гатоў на Божы суд.

Я панясу Радзімы вобраз
У той нязнаны Божы сьвет.

Буду сьніць у начы марознай
Пра сіні васільковы цьвет.

*Ліпень 2008*

## Сьцяг

Наш сьцяг бел-чырвона-белы –
Народу нашага маяк.
Ён кліча нас: “Наперад сьмела!”
(Паўзе з усходу вораг, як зьмяя.)

Трымайма моцна гэты сьцяг!
Ня дайма ворагу спаганіць.
Не пашкадуем мы жыцьця,
З намі вершнікі Пагоні!

Надыйдзе час – я веру –
Народу новы шлях жыцьця,
І залунае ў паветры
Наш бел-чырвона-белы сьцяг.

*2008*

## Гітара

Іграй, гітара, песьню –
Весялі маю душу –
Пра дзяўчыну тую,
Што я ў памяці нашу.

Быў час, і мы кахалі,
І наш сьвет быў нібы рай.
Жыцьцё плыло, як хвалі,
Іграй, гітара, йграй!

Мы йшлі у сьвет нязнаны,
Пакідалі родны край.
Плылі вакол туманы,
Іграй, гітара, йграй!

У жыцьці ёсьць шмат дарог,
Ты адну зь іх выбірай.
Прасі Бога, каб памог,
Іграй, гітара, йграй!

І так наш шлях жыцьцёвы
Хаваецца за хмарай,
Мы да ўсяго гатовы,
Іграй, гітара, йграй!

## Муза

Ты прыйшла да мяне нечакана,
Разбудзіла песьню ў душы.
Расьцьвітала кветка румянак,
Ты шаптала мне: “Пішы”.

Пішы пра жыцьцё, пра каханьне,
Пра лёс нашай роднай зямлі,
Пра тых, хто за кратамі сёньня,
Што хочуць, каб вольна жылі.

Пра герояў, што сьпяць пад курганам,
Скажы, што мы не забылі іх.
Мы ў сэрцах нясём іхныя раны,
Успамінаем, падняўшы келіх.

* * *

Я  вельмі ганаруся,
Што беларусам я завуся.
І перад Богам паклянуся,
Што я ніколі не зракуся.

Я размаўляю роднай мовай,
Люблю свой край я цэлым сэрцам.
Я бараніць яго гатовы,
За яго магу памерці.

Хоць жыву я на чужыне,
Але я чуюся, як дома.
Гэты край прыняў мяне як сына,
Тут жыве свабода, як вядома.

Мой родны люд жыве ў няволі,
Нат зракаецца свайго імя.
Душа мая цярпіць ад болю,
За лепшы быт малюся я.

Прашу я Божай дапамогі,
Каб разбудзіць народ і сілу даць.
Званіць у звон трывогу,
Каб край свой родны ратаваць.

*10/12/2008*

## Першы сьнег

Першы сьнег,
Дзіцячы сьмех.
Дзед Мароз,
Чырвоны нос.
Зіма прыйшла.
У канцы сяла
На лузе лёд,
Гуляе карагод.
Дзеці, нібы пчолы,
Гуляюць пасьля школы.
Вечар надыходзіць,
Сонца заходзіць.
Гоман заціхае,
Новы сьнег падае.

*15/12/2008*

## Новы год

Каляндар гартае месяц сьнежань,
Стары год адыходзіць у тыл.
Зямля пакрыта сьнегам сьвежым,
Ад цяжару гнуцца кусты.

Новы год прыйдзе неўзабаве.
Хочацца верыць, што ён будзе новы.
Мо на сьвеце мір запануе,
Мы сустрэць яго з чаркай гатовы.

Мы ўздымаем чаркі высока,
Засьпяваем яму “сто год”,
І за родны край наш далёкі,
І за пакутны беларускі народ.

*16/12/2008*

* * *

Я час ад часу ў думках азірнуся
Ды праверу пражыты мой час:
Ці я ў штодзённай завірусе
Асягнуў штось вартае на паказ.

Нам Бог даў розум і душу.
Сказаў, каб час не марнавалі,
Ігнараваць заганны ўплыў і шум,
І праўда будзе з намі.

Калі наш тэрмін тут прыйдзе да канца,
І мы станем перад сьвятымі Пятром і Паўлам,
Яны будуць у нас пытацца:
Ці час пражылі мы дасканала.

*20/12/2008*

* * *

Я сьніў, што прошлым летам
У Менску на пляцы
Сыйшліся ўсе паэты,
Пісанага слова тварцы.

Прыйшлі Купала і Якуб Колас,
Багдановіч, Танк, Масей Сяднёў.
Усё чыталі творы ўголас,
Я чуў Сяднёва “Ачышчэньне агнём”.

Гучаў Купалаў “Прарок”,
Коласа “Новая зямля”,
І раптам нібы незнарок
Мой будзільнік зазваніў,
І я прачнуўся.

*21/12/2008*

## У памяць М. П.

У самай глушы Палесься
(Лясы, дзе ты вокам ні кінь)
Там Міхась нарадзіўся
У вёсцы, што завуць Сэрнікі.

Народ там быў вельмі набожны,
З лазы яны лапці плялі,
Жылі не зусім заможна,
Мелі малыя даходы зь зямлі.

Адно, што іх вельмі лучыла:
Тое самае прозьвішча ўсе мелі.
Іх песьні па лесе гучалі,
Ды пець яны добра умелі.

*03/01/2009*






***Карціна Ўладзімера Блюдніка "Аўтапартрэт".***

**БЛЮДНІК Уладзімер** — мастак, літаратар. Нарадзіўся 1 верасьня 1975 году ў вёсцы Пятрэвічы ў Беларусі. У 1998 годзе скончыў аддзяленьне графікі Акадэміі Мастацтваў у Познані і з таго часу жыве ў Польшчы. Займаецца жывапісам, графікай і малюнкам. Працы Ўладзімера Блюдніка захоўваюцца ў Беларусі, Польшчы, Канадзе, ЗША, Нямеччыне, Гішпаніі, Галяндыі і Вэнэсуэле.

Сёлета ягоны зборнік „Вяртаньне" выходзіць у выдавецтве „Белы Крумкач", Познань.

* * *

Я прабудзіўся ўчора
Іншым чалавекам
Прасаваў у цішы каўняры
Шакалад паламаў на кавалкі

Кінуў піць з крану
Смаркаўся толькі ў насатку
Цапстрыкі вытрас з кішэняў
І жывым адпусьціў прусянятка

Куцьцёй палуднаваў і сьнедаў
Жаваў незадуменны
Сам сабе сказаў
Ніхто мне не патрэбны

Не апазьніўся на трамвай
Быў ветлівы і ўважлівы
Шмат маўчаў
І ў ложак лягаў неапрануты

А пасьля добра спаў
І жахі ня мучылі
Ды ня тое, каб стаміўся
Проста так... надакучыла

* * *

Лесам лесам уздоўж вёскі
Прабіраўся п'яны ўзвод
Ці гарэлкі не хапіла
Ці пагнаў іх туды чорт

Ці то дзеўкі разьбягліся
Па акрузе хто куды
Ці п'яныя пабіліся
Ці вяртаюцца з вайны

Папрыціхла ўся старонка
Села сонца пры сяле
Быццам бы зусім нічога
Не зьмянілася але

Не туды ляцяць вароны
Не туды глядзяць жанкі
Не туды сабакі брэшуць
Не туды гараць агні

А ў ляску што каля вёскі
Разбрыдаўся п'яны ўзвод
Што вам трэба – самагонкі?
А каб на вас усіх воўк!



# Белы дзень

Зіма была лютая. Усю ваколіцу засыпала сухім, рыпучым ад марозу белым сьнегам. Па начох у трубах, навяваючы нуду і не даючы заснуць, выў вецер. Затое ўдзень душу радавала сонца, якое залаціста-белым сьвятлом залівала ўсю вёску.

Да таго ж радавала ня толькі сонца. У калгасе ўжо на працягу тыдня асаблівай работы не было, тэхніка стаяла, і таму Ціхан Шумок нетаропка цягнуўся дахаты, разьлічваючы, што палуднаваць будзе смажанай бульбай, а калі пашанцуе, то, можа, і чарку перакуліць.

Не. Гэта ня тое каб Ціхан піў, проста так, па чарачцы, перад абедам, гэта ў яго лічылася нормай. Сто грам – і ўсё, болей толькі на сьвяты, якія пры жаданьні заўсёды прыходзілі і не давалі чалавеку занудзіцца насьмерць.

Ярка сьвяціла сонца. Зьлёгку замружыўшы сьлязьлівыя вочы, Ціхан перасмыкнуў магутнымі плячыма ў новай куфайцы. Куфайка была традыцыйна пралетарскага чорнага колеру і чамусьці пахла яшчэ крамай, не пасьпеўшы на-

цягнуць паху газы, паліва, тытунёвага дыму і таннай каўбасы – неадменных спадарожнікаў жыцця калгаснага мэханіка. Усё гэта, у прынцыпе, таксама, па-свойму, па-простаму, цешыла.

– Дзень добры, – ветліва падняўшы пакамечаную шапку-вушанку, якая ўжо не адное ў сваім жыцьці бачыла, Ціхан павітаўся з маладой вучыцелькай, якая хутка перабірала стройнымі ножкамі ў танных, скурападобных боціках, сьпяшалася, мяркуючы па мятым у руцэ пакеце, у краму.

Настаўніца была выглядная – маладая, белавалосая, з пругкімі грудзямі, з падцягнутымі клубамі і прыгожымі, нябачанае ў гэтых краёх даўжыні, нагамі.

Жыла адная, на залёты мясцовых хахаляў не адказвала і адно кляла ў душы лёс, які кінуў яе на гэтае бязьлюдзьдзе, і чырвоным алоўкам пазначала ў календары кожны дзень, які заставаўся да сканчэньня двухгадовай працы па разьмеркаваньні.

Правёўшы вучыцельку зрокам ажно да канца вуліцы, Ціхан у марах яшчэ раз палашчыў мазолістай рукою дзявоцкае прамежжа і памяньціў сакавітыя, маладзенькія грудкі. З задавальненьнем пацёр схаваныя ў рукавіцах рукі, быццам адчуваючы на далонях трапяткое цяпло маладзіцы...

Ціхан любіў дарогу дадому, асабліва алею, пасаджаную даўным-даўно нейкім мясцовым дзіваком. Толку ад яе не было ніякага, але вока цешыла. Бярозкі вымахалі здаровыя, гонкія. Ціхан з гаспадарскім абазнаньнем у вачах пералічыў дрэвы на кубамэтры дабротных бярозавых дошак, уздыхнуў і пабрыў далей – шкада такую прыгажосьць псаваць.

Ціхан яшчэ раз азірнуўся, з надзеяй, што шпаркая вучыцелька ўжо вяртаецца, але відаць, бядулька моцна затырчэла разам зь вясковымі бабамі ў чарзе ці то па сыр, ці па каўбасу, ці яшчэ па які неабходны тавар.

“Мая мо таксама паперлася?” – чамусьці трывожна мільганула ў Ціханавай галаве. “Калі паперлася, то скулу табе, а ня смажанай бульбы...”

Нечаканы пераварот справы зьлёгку засмуціў і азадачыў мужыка. Дзела патыхала скандалам і сапсаваным да вечару настроем. Але ў душы ўсё яшчэ іскрылася надзея, што ў хаце яго чакае гарачая, перапоўненая па краі патэльня зь ягонай улюбёнай і карыснай ежай.

“Агуркоў выцягну са склепу, квашанай капусткі”, – летуценіў Ціхан, ужо адчуваючы паміж зубамі хрумст марынаванай гародніны. Чаго-чаго, а пад’есьці Ціхан, у прынцыпе, як і кожны нармальны мужык, любіў. Еў усё і многа. Часам не адыходзіўся ад стала, паглынаючы бульбу з салам і смажанымі яйкамі, рукамі запускаючы ў рот цэлыя ахапкі квашанай капусты. Выціраў рукавом сок, які цёк па барадзе, лоўка чапляў відэльцам самы здаровы агурок і адпраўляў яго ўсьлед за капустай, а пасьля перакульваў літры са два гарбаты з батонам і пад назойлівае шчабятаньне жонкі адпраўляўся паляжаць на канапе. Тэлевізар сапсаваўся вось ужо як два месяцы таму, а газэтаў Ціхан не чытаў. Таму, гладзіўшы набіты ўсім усялякім трыбух, гаспадар аддаваўся лянівым папалудзённым думкам...

– Мужык, аганьку ня маеш? – чыйсьці голас вырваў Ціхана з ідылічнага мроіва і вярнуў назад, на зямлю, у керзавыя боты, на сьнег, на паўдарозе дадому.

Ціхан з гонарам чыркнуў незнаёмцу імпартнай аднаразавай запальнічкай, якую калісь у шапіку прыдбала ягоная жонка. Сам таксама закурыў і абкінуў чужога цікавым паглядам. Мужык быў не мясцовы. У прынцыпе, дзядзька як

дзядзька, ну, апрача таго, што ватоўка, нагавіцы і нават валёнкі былі чыста, як сьнег, белыя.

"Доктар, мусіць", – падумаў Ціхан.

– Не-а, ня доктар, – азваўся мужык і, выпусьціўшы ў неба струмок густога, белага, у перамешку з парай, дыму, цягнучы нагамі, пабрыў далей. За ягонай сьпінай шапацелі такія ж, як валёнкі, беласьнежныя крылы з залатым адлівам.

"Дзіўны мужык", – зноўку падумаў Ціхан, але зьдзіўляцца ня стаў, хаця, у прынцыпе, было б трэба. Ня кожнага дня сустракаеш прыдуркаў у белых ватовіках ды яшчэ і з крыламі.

"Крылы навошта начапіў? Пэўна, мастак".

Слухаючы пад ботамі рыпеньне сьнегу, Ціхан раптам уявіў сабе, як было б, калі б сьнег быў чырвоны. Ціхан бачыў – чырвоны ад краю да краю сьнег, аранжавае неба, жоўтае сонца і доўгія чырвона-бардовыя цені на зямлі і... белы мужык?

"Не, усё-такі дзіўны быў мужык, нетутэйшы..."

*З кнігі "Вяртаньне", якая выйшла ў 2008 годзе. Выдавецтва "Белы Крумкач", Познань.*





**ВАРАБЕЙ Ірына** — празаік, журналістка, майстрыха-дызайнэр, фатограф. Сябра Саюзу беларускіх пісьменьнікаў з 2008 году, сябра Канадыйскай асацыяцыі вышывальніц з 2005 году.

Нарадзілася ў 1959 годзе ў Менску. Ад 1999 году жыве ў Таронта (Канада).

Піша па-беларуску й па-ангельску, перакладае. Публікуецца ў "Дзеяслове", "Нашай Ніве", "Беларускім слове" (Канада), "Беларусе" (ЗША).

У 2005 годзе ў сэрыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" выдадзена ейная кніга "Там, дзе сэрца маё". У 2008 годзе ў ейным перакладзе з ангельскай — раман К. Акулы "Заўтра ёсьць учора".

У 2008 годзе была пераможцаю штогадовага фотаконкурсу нацыянальнага часапіса "Canadian Geographic" (Канада).

З 2009 году ў якасьці майстрыхі-дызайнэра супрацоўнічае пад пэрсанальным брэндам "Spirit of Belarus" з часапісам "A Needle Pulling Thread" (Канада).

Пэрсанальная старонка ў інтэрнэце: *www.iv.belaruscanada.com*

Нехта
вельмі каханы мне
ўвойдзе туды,
дзе тайна мая.
Тайне гэтай вякі ад вякоў...
Можа, хіба
несьмяротна і я...

* * *

тут думак маіх непапраўны раман
пачуцьцяў бязглуздая праўда

* * *

— Ня плюй на зямлю, гэта — грэх.
— А я на яе шчэ смаркаюсь.
Цярплівая яна, даруе ўсё нам.

– А часам і – не.
Бываюць жа на ёй землятрусы й тарнады...
– То мо правіна не яе.
Ёсьць іншыя багі
дый шлюць на яе, запляваную, беды.
– І іх не вінаваць – хіба і мы таксама
Не дацкоўваем тых, хто быў раз пагарджаны.
Ня плюй на зямлю,
насі свой грэх сам.

* * *

***з С. Я.***

Жыў-быў на сьвеце адзін чалавек...
Тады зьявіўся другі.
Зрабіліcь яны блізьняты-браты,
І іхныя “я” цяпер – “мы”.

Раптоўнасцяў няма –
на ўсё закон ёсьць Божы.

Іспыт для “мы” –
калі няма
ні “ты”,
ні “я”.

Ні трэцяга кагось,
на кім бы спагнаць
сваю злосьць.

* * *

каханьне са згоды, але на згубу.

* * *

Я ім дарыла сваё каханьне,
Як рэч, спажывалі яго яны...
Мае думкі, пачуцьці,
Даверу імгненьні,
Іхнай патрэбы ня зьведалі вы.
Думкі складаліся ў шчырыя словы,
Словы імкнуліся ў вольны прасьцяг.
Склала я словы даверліва ў творы.
Вам падарыла спавяданьня працяг...

Вы спажылі іх,
як сыр на сьняданак.

Каханьне і творчасьць –
Самотнасьці шлях.

* * *

зьбірай разуменьня сабе не на зямлі, а ў нябёсах.

* * *

Была Самотнасьць мне некалі Крыўдай.
І была мне Болем тады.
А сталася Лёсам маім па жыцьці.
І зь ім прымірыла, зрабілася Сябрам...
Сёньня... зьнялася да Гонару сёньня.
І ...залунала мне Шчасьцем!

* * *

Прабач мне Вечнасьць...
няма калі спыніцца, запісаць.

Усё некуды бягу, бягу...

Да доктара сягоньня,
а заўтра да сябрыны.
То грошы зарабіць,
а то патраціць іх.
То білы аплаціць,
то іх здабыць.
Сьпіна ўзмокла, тлумна ў галаве...

А думкі ўсё бягуць, бягуць...
з жыцьцём зямным
апоруч.

* * *

тут думкі мне ня йдуць,
ня тоўпяцца знадворку.

пэрыяды змаганьня чаргуюцца зь бядой.
бяда завецца “дэпрэсьняк”.

* * *

Жыцьцё прайшло.
Чарговае маё жыцьцё
у гэтым сьвеце.
Чарговы мой урок.
Чаму тут навучылася я?
Ці не забыла штось?..
Жыцьцё прайшло.
Прайшоў урок.
Наперадзе расстаньня сьвята,
асеньні праменад –
рудзець, ляцець, ...сатлець.

# ПЕРАКЛАДЫ

***з Паўліны Джонсан***
*(з ангельскай)*

## Марнатраўе

Сэрца маё забылася Бога дзеля каханьня з табой.
А ты забыўся мяне дзеля каханьня другога.
Праз пакаяньне па колкім іржышчы
Вяртаюсь да Бога назад.

І толькі таму, што Бог забывае былое
І, забываючы, мяне не пытае, каб знаць,
Ягоныя рукі пакінула дзеля каго я,
Урэшце да Бога іду я назад.

* * *

*(аўтарскі пераклад з ангельскай)*

Аднойчы я ўбычыла адну састарэлую пару...
У той час я жыла пад уражаньнем знакамітага літаратурнага твору – **"Найвышэйшая песьня Салямона"**, выдадзеная прыгожай асобнай кнігай на беларускай, расейскай і ангельскай мовах, была знойдзена мной у бібліятэцы, дзе я працавала ў той час. Гэта сталася адкрыцьцём для мяне – ніколі раней не чытала яе ўважліва і, спакусіўшыся параўнаньнем вершаў, была захопленая імі самімі.

Прыгожыя, цудоўныя вершы! Трохі па-юначы наіўныя,
але ж пры тым мілыя й шчырыя.
Адылі, нешта зьлёгку раздражняла ў іх. Хаця я й не задумвалася – што.
Але, што ж з таго, калі вершы ўсё адно запаўняюць усе твае думкі й пачуцьці...
А потым я ўбачыла тую пару.
Ён быў з кіем, у чорных акулярах. А яна кіравала ягонымі крокамі. Ён трымаў яе за руку ды быў такі ўважлівы да яе, што здавалася — гэта ён вядзе яе, а не яна яго...
Я глядзела на іх... а радкі **“Песьні...”** круціліся ў маёй галаве...
і тады я зразумела, *што* раздражняла мяне ў іх.
Адна фраза нарадзілася ў маёй галаве,
і пазьней яна стала першым радком
*маёй* песьні...

## Новая песьня песьняў “Салямона”

Я б кахала цябе, нават калі б была сьляпой.
Мне не патрэбныя вочы, каб бачыць,
якая далікатная й шчырая
твая душа ёсьць.
Я б пачула голас сэрца твайго,
нават калі б была глухой.
На любой мове я зразумею,
які сьветлы й добры твой розум.
Я б магла быць нямой – ты разумееш мяне,
нават калі я маўчу.
Такія блізкія нашыя душы.
Я б знайшла цябе,
нават калі б і жыў ты
у іншых сусьветах.
І як гэта я апынулася там,
дзе жывеш ты?
Гэта ўсьмешка зорак? – ці непазьбежнасьць?
Так зьвязаны нашыя душы. Чаму?..
Што нам ў нашых целах? Калі яны ўсяго – матэрыя.
Мы адораны імі ў гэтым сьвеце,
адно каб магчы
праявіць пяшчоту.
Ведаю, аднойчы я растану зьнічкай у тваіх руках...
І там, у іншых сусьветах, дзе няма прасторы й часу,
дзе няма зямных умоўнасьцяў і путаў, –
мы сустрэнемся ізноў.
Дзе нашы думкі, зьлітыя ў вадно,
загучаць суладна і свабодна...
І я гляджу ў твае вочы, як у браму вечнасьці...

**Томас Кінг** (Thomas King), нарадзіўся ў 1943 годзе – празаік, прадстаўнік сучаснае канадыйскае індзейскае літаратуры. Зьяўляецца нашчадкам культуры племені Чырокі. Цяперашнім часам жыве ў Канадзе, працуе ва ўнівэрсытэце г. Ґуэлфа, дзе выкладае індзейскую літаратуру ды прыгожае пісьменства. Піша тэксты для індзейскага радыё, у прыватнасьці для радыёперадачы “The Dead Dog Cafe Comedy Hour”, у якой і сам бярэ ўдзел. Ягоны літаратурны здабытак ствараюць раманы “Мэдысын-Рывэр” (“Medicine River”), “Зялёная трава, шпаркая вада” (“Green Grass, Running Water”), зборнік апавяданьняў “Вось добрая байка, гэная во” (“One Good Story, That One”) ды дзіцячыя кніжкі “Прыгоды Каёта Каламбуся” (“A Coyote Columbus Story”), “Каёт сьпявае на Поўню” (“Coyote Sings to the Moon”).

***Томас Кінг***

З кнігі *“Вось добрая байка, гэная во”*

# Гэная во, пра Каёта, што крочыў на захад

Вось гэтая пра Каёта. Што крочыў сабе на захад. У госьці да сваякоў. Гэта ён так кажа. Вы мусіце пабачыць гэнага. Круцель такі. Хітрыкаў поўная галава. Не, не, не, не, кажа той. Я толькі ў госьці.

Іду да Крумкача.

Ото ж, кажу я. Гэны яшчэ той махляр.

Каёт заварочвае да маёй хаты. Віхляе хвастом. Вырабляе ім радасныя гукі. Усаджваецца на прызьбе. Азіраецца. З усьмешачкай гэнай. З зубамі гэнымі. Ды засоўвае сваю пысу ў маю гарбату. Маю цудоўную гарбату. Вынь пысу з маёй гарбаты, кажу я.

Іду наведаць сваіх сяброў, кажа ён. Расказаць ім гісторыі. Паправіць сьвет. Наладзіць яго.

Ото ж, як страшна, Каёт зноў будзе правіць сьвет.

Пасядзі тут, кажу. Пад’еш чаго. Цяжкая справа гэная – сьвет наладжваць. А можа, у цябе ёсьць песьня? Можа, добрая байка?

А як жа, кажа Каёт. Ды страляе вушамі гэны. Ды аблізвае сабе вусы.

Я падсоўваю ногі пад лаву. Мушу схаваць пальцы. Часам гэты круцель пакідае на лаўцы сваю скуру, быццам сядзіць сам. Скура Каёта. А Каёта – няма. Рыскае крадком недзе побач. Цап за пальцы. Будзеш скакаць тады.

Чытаў я гэныя кніжкі, кажа ён.

Дык ты пэўна ж разумны Каёт, кажу я.

Анягож, кажа ён.

Дык можа, у цябе ёсьць добрая гісторыя для мяне, кажу я.

Чытаў я гэную гісторыю, кажа Каёт. Ды наравіць зноў упхнуць свой нос у маю гарбату. Яна ўся пра тое, хто ж знайшоў нас, індзейцаў.

Го, кажу я. Гэныя старыя мне падабаюцца. Гэныя – найлепшыя. Ты мне раскажы сваю гісторыю, кажу я. І, можа, да нас тут завітае якісь абаранак. А можа, і тушонка з ласяціны забрыдзе на тваю гісторыю.

Добра, кажа ён ды запявае песьню сваёй гісторыі.

Сьнег на зямлі, а зьмеі сьпяць.
Сьнег на зямлі, а ў мяне моцны голас.
Сьнег на зямлі, а зьмеі сьпяць.
Сьнег на зямлі, а ў мяне моцны голас.

Вось гэтак ён сьпявае. І хвастом гэтак віхляе. З усьмешачкай гэнай. Сядзіць тут.

Можа, расказаць табе гэную, пра Эрыка Шчасьліўца ды Вікінгаў, што гулялі ў гакей для старых заўзятараў ды знайшлі нас, індзейцаў, у Ньюфаўндлэндзе, кажа ён.

А можа, расказаць табе гэную, пра Хрыстафора Карцьера, што шукаў чаго-небудзь добрага паесьці. А знайшоў нас, індзейцаў, у рэстаране, у Манрэалі.

А можа, расказаць табе гэную, пра Джэка Калюмба, што падняўся па той рацэ, а індзейцы ўжо чакалі яго там. Мы ўсе там махалі ды крычалі: мы тут, мы тут.

Гэтыя гісторыі ведаюць усе, кажу я. Гісторыі ад белых. Нейкія дзіцячыя казкі ў цябе ў роце.

Не, не, не, не, кажа Каёт. Я прачытаў гэныя ў той старой кніжцы.

Гэй, кажу я. Ты ўжо падладжваесься да маіх пальцаў. Усе ведаюць, хто знайшоў нас, індзейцаў. Эрык Шчасьлівец ды гэны Хрыстафор Карцьер, ды гэны Джэк Калюмб прыйшлі пазьней. Гэныя ж згубіліся. Валацугаліся ўсюдых. Плавалі туды-сюды. Заблыталіся. Ой, ой, ой, ой, плачуць гэныя, мы згубіліся, мы згубіліся! Дык мы мусілі знайсьці іх. Дапамагчы ім. Накарміць. Паказаць тут усё.

Але, кажу я. Вялікая памылка была гэная.

Ты такая разумная, бабуля, кажа Каёт ды апускае вочы долу. Быццам сьпіць. Дык можа, ты ведаеш, хто адкрыў індзейцаў?

А то ж, кажу я. Усе ведаюць. Гэта быў Каёт. Гэта ён.

Ой, дзядуля, кажа гэны Каёт. Раскажы мне гэтую гісторыю. Я люблю гэныя, пра гэнага падступніка. Я, здаецца, ня ведаю такой гісторыі, кажа ён.

Дзіва што, кажу я. Слухай уважліва.

Каёт трымаў шлях на захад. Вось як я заўсёды пачынаю гэтую гісторыю. А на сьвеце яшчэ нічога не было. Адно Каёт. Мог нават бачыць усю дарогу наперад. Ніякіх табе гор тады. Ніякіх рэк тады. Ніякіх лясоў тады. Чыста роўнядзь. І тады ён пачаў вырабляць рэчы. Пачаў наладжваць сьвет.

Як цікава, кажа Каёт. І вымае сваю пысу з маёй гарбаты.

Так, кажу я. Самы пачатак. Каёту шмат чаго трэба было зрабіць.

Скажы, бабуля, кажа Каёт. А што той разумнік зрабіў найперш?

Ну, кажу я. Можа, ён зрабіў вось тое дрэва, што ля ракі. Можа, ён зрабіў таго быка. Можа, ён зрабіў тую гару. Можа, ён зрабіў тыя аблокі.

Можа, ён зрабіў тую прыгожую вясёлку, кажа Каёт.

Не, кажу я. Тую ён не рабіў. Тую зрабіла Норка.

Можа, ён зрабіў тую прыгожую поўню, кажа Каёт.

Не, кажу я. І тую ён не рабіў. Тую потым знайшла ў сажалцы Выдра.

Можа, ён зрабіў акіяны з той блакітнай вадой, кажа Каёт.

Не, кажу я. Акіяны ўжо былі. Нічога з гэтага ён не рабіў. Першае, што зрабіў Каёт, кажу я Каёту, была – памылка.

Ажно во, выпрастаўся Каёт. Вылупіў вочы гэныя. Хвост гэны замёр. І гэны зглынуў сваю ўсьмешачку.

Ды вельмі вялікая, кажу я. Каёт ішоў на захад, разважаючы, што б яму зрабіць. Гэны намагаўся думаць аб усім адразу. І таму ён не заўважыў тую яму. Таму ён уваліўся ў тую яму. Тады і ўсе тыя думкі зваліліся разам. Гэныя пазьбіваліся адна аб адну. І гэныя павысыпаліся з Каётавых вушэй. У тую яму. Ах, заплакаў той Каёт. Я праваліўся ў яму. Я, напэўна, зрабіў памылку.

А то.

Дык вось тая яма. І вось той Каёт у яме. І вось тая вялікая памылка ў той яме з Каётам. Го, кажа тая памылка. Ты, напэўна, Каёт.

Тая памылка вельмі вялікая, а яма малая. Мала месца. Не хачу нават казаць табе, як яна выглядае, тая памылка. Першая памылка ў сьвеце. Даволі страшная. Так-так, не магу нават глядзець. Мушу заплюшчыць вочы. Табе таксама лепей заплюшчыць вочы, кажу я Каёту.

Добра, я заплюшчу, кажа ён ды закрывае вочы лапамі. Аж мяне ён не надурыць. Я ж бачу, што ён маніць.

Не падглядвай, кажу я.

Добра, кажа ён. Ня буду.

Дык вось, той Каёт думае пра яму. А думае ён пра тое, як яму выбрацца з тае ямы. І думае, як жа яму запхнуць тую памылку назад у галаву.

Чуеш, ты там, кажа тая памылка. Што ты сабе думаеш?

Я прыдумваю песьню, кажа Каёт. Я прыдумваю такую песьню, каб зрабіць гэтую яму паболей.

Цалкам слушна, кажа тая памылка. Дай-ка я паслухаю ўсю песьню.

Але гэна зусім ня тое, што Каёт засьпяваў. Ён засьпяваў такую песьню, каб зрабіць памылку паменей. Але памылка ўчуяла гэна. І гэная памылка хваць! Каёта за нос. І гэная ўхапіла за пысу так, што той ня можа сьпяваць. І гэная скоча ўверх-уніз па Каёце, аж пакуль той зрабіўся пляскатым. Тады той выскоквае з тае ямы. Гойсае кругом, ня ведае, як даць рады.

Але ж, Каёт чуецца даволі кепска. Усё ягонае цудоўнае футра зьлямчана ды пабіта на дзіркі. І так яму цяжка думаецца, дык ён прыдумвае гаючую песьню. І ён спрабуе прасьпяваць гаючую песьню, але ж пысы ў яго няма, гэная недзе валяецца. Тады ён думае яшчэ мацней ды спрабуе прасьпяваць носам. Але з носу гукаў не атрымалася, адно пацякло зашмат. Ён спрабуе прасьпяваць тую песьню вушамі, але тады вушы нічога ня чуюць.

Тады гэны дурань думае яшчэ мацней ды вырашае прасьпяваць сваім азадкам. Бзззд! Бзззд! Гэта тое, што той азадак вымаўляе, і воміг зьяўляецца нейкі душок. Бзззд.

Халера, думае Каёт. Нешта сьмярдзіць.

Гэны Каёт кладзецца плазам ды спрабуе, спрабуе. Даволі хутка, мо праз два дні, мо праз год, ён навучае той азадак сьпяваць. Тую песьню. Тую гаючую песьню. І вось той азадак сьпявае тую песьню. І Каёту робіцца лепей. І Каёт ужо ня чуецца такім пляскатым. Бзззд! Бзззд! Усё яшчэ сьмярдзіць, але Каёту добра.

Гэны аглядае тую яму. Знаходзіць сваю пысу. Прыладжвае яе на месца. Тады ён кажа свайму азадку. Гэй, хопіць ужо сьпяваць. Годзе тут сьмярдзець ужо. Але, паглядзі ты, гэнаму азадку спадабалася сьпяваць, дык гэны азадак сьпявае сабе ды сьпявае.

Ану, спыніся, кажа Каёт. Ты ж затхнеш цэлы сьвет. Але ён не спыняецца. Тады Каёт выскоквае з тае ямы ды імчыць праз прэрыі. Але той азадак – за ім. Бзззд. Бзззд. Каёт ускоквае ў возера, але азадак ня топіцца. Ён і там сьпявае сабе.

Гэй, хто там сьпявае, кажа нехта.

Ага, і хто там гэтак сьмярдзіць, кажа другі голас.

Ну, пэўна, што Каёт, кажа трэці голас.

Так, кажа чацьвёрты голас. Няйнакш гэта Каёт.

А гэты Каёт сядзіць у мяне на лаўцы, з пысай у маёй гарбаце ды кажа, а я ведаю, я ведаю, чые яны, тыя галасы. Гэта ўсё хітрыкі той памылкі. Яшчэ ж нічога не выраблена.

Не, кажу я. Тая памылка занятая іншай справай.

Тады тыя галасы – гэта духі, кажа Каёт.

Не, кажу я. Тыя галасы належаць тым качкам.

Каёт выпростваецца на маёй лаўцы. Гэй, кажа ён, а качкі адкуль узяліся?

Супакойся, кажу я. Усё будзе добра з гэнай гісторыяй. Зь ёй усё ў парадку. Гэтая гісторыя ведае, куды ідзе. Сядай. Не вылазь са скуры.

Дык вось.

Каёт азіраецца ды бачыць гэных чатырох качак. На тым возеры. Го, кажа ён. Качкі, вы адкуль узяліся? Я ж яшчэ не зрабіў вас.

Але, кажуць гэныя качкі. Мы тут чакалі-чакалі, але ж ты не прыйшоў. А мы стаміліся чакаць. Дык мы зрабіліся самі.

Я быў у яме, кажа Каёт.

Бзззд. Бзззд.

А што гэта за гукі, кажуць гэныя качкі. А што гэта засьмярдзела тут?

Ай, не пераймайцеся, кажа Каёт. Можа, вы тут бачылі нешта, міма праходзіла. Можа, вы дапаможаце мне знайсьці гэнае нештачка, што я згубіў. Можа вы дапаможаце мне вярнуць гэнае.

Качкі гэныя паплылі вакол, ды размаўляюць міжсобку. Яно такое страшнае было на выгляд? Так, кажа Каёт, страх якое. У яго такое брыдкае футра? Так, кажа Каёт, думаю, яно такое й было. І ад яго было столькі шуму? Пытаюцца яго качкі гэныя. Так, гоману ад яго было, кажа Каёт. І яно сьмярдзела, качкам гэным трэ ведаць. Так, кажа Каёт. Ой, вы, качкі, пэўна, бачылі гэнае маё нешта.

Так, кажуць гэныя качкі. Яно вунь рыхтык за табой.

Тады Каёт заварочваецца, а там нічога няма.

Яно-такі за табой, кажуць качкі.

Каёт заварочваецца і зноў нічога ня бачыць.

Бзззд! Бзззд!

Халера, кажуць тыя качкі. Што за зык! Што за тхон! Гэтак яны кажуць. Што гэна за вырадак у футры!

Ат, не пераймайцеся, кажа той Каёт ізноў. Гэта ня тое, што я шукаю. Я шукаю нешта іншае.

Можа, ты шукаеш індзейцаў, кажуць гэныя качкі.

Гэх, гэны Каёт вельмі зьдзіўлены, бо індзейцаў ён таксама яшчэ не зрабіў. От жа, кажа гэны, цэльнае свавольства кругом. Будзе гэнаму сьвету гамон.

Анягож.

Гэтак Каёт гамоніць з качкамі, і даволі хутка пачуўся гоман. І даволі хутка, бачаць, нешта ідзе. І качкі гэныя кажуць, вой, вой, вой, вой. Яны гэтак кажуць, нібыта бачаць бяду. Але гэта не бяда. Тое, што прыйшло, выявілася ракой.

Здароў, кажа рака. Добры дзянёк. Можа, хочаш скупацца? Але Каёту купацца ня хочацца, аж ён глядзіць на раку, глядзіць на яе. Нешта тут ня тое, кажа ён. А дзе ж камяні? Дзе ж парогі? Куды ты падзела вадаспады? І чаго ты так выпрасталася?

Дык Каёт мае рацыю. Рака гэная, яна табе і гожанькая, і гладзенькая, і выпрастаная, без усялякіх табе там выкрутасаў ды падкіндэсаў. І цячэ на два бакі, ня так, як рэкі цяпер.

Непарадак, кажа Каёт, трэ паправіць. І давай папраўляць. Насыпае ў раку камянёў ды напраўляе гэнак, каб цякла ў адзін бок. Грувазьдзіць парачку вадаспадаў ды стромаў, дзе вада пабегла шпарчэй.

Ну вось, Каёт справіўся, спрацаваўся, і гэныя качкі стаміліся ўжо сачыць, што ён там вырабляе. Таму Каёт садзіцца. Таму заплюшчвае вочы. Ды ўтыкае нос сабе ў хвост.

А тут качкі гэныя як заравуць, прачніся, прачніся! Глядзі, нешта вялізнае шыбуе сюды! І нездарма.

А гэна – гара прысунулася сюды ды пасьвіствае сабе. Радасная такая гара. Пуцатая такая, гожая. А на гары поўна там вінаграду ды ўсялякага такога паесьці. Яблыкі, персікі, вішні.

Нуякмаецеся, кажа гара, ветлівая гэная. Як хораша сёньня сьвішчацца.

Каёт глядзіць на тую гару і гэны качае галавой. Ну не, кажа ён, гэная гара цалкам няправільная. Чаго гэта ты такая гожая, такая круглая? Дзе гэныя скалістыя вяршыні? Дзе ўсе гэныя ўрвішчы? А сьнег куды падзеўся? Людцы мае, гэную таксама трэ напраўляць! І давай напраўляць.

Дзядуля, дзядуля, кажа гэны Каёт, што сядзіць на маёй лаве, з пысай у маёй гарбаце. Навошта гэны Каёт правіць усе гэныя добрыя рэчы?

О, які хітры, пытаецца ён мяне. Я глянуў у гэныя вочы. Схапіў за гэнае вуха. Ды хваць! за нос. Э, пусьці мой нос, гэны Каёт кажа.

Добра, кажу я. І Каёт застаўся ў сваёй скуры. Ты, пэўна ж, ведаеш, навошта Каёт зьмяніў тую шчасьлівую раку. Навошта зьмяніў тую гару, што соўгалася сабе, пасьвістваючы.

Не, кажа гэны Каёт ды азіраецца па маёй хаце, ды аблізваецца, робячы гэныя, дзіцячыя такія гукі.

А можа, гэта проста таму, што ён нядобры такі, кажу я.

Ой, не, кажа Каёт. Ён такі мілы, такі ўважны.

А можа, таму, што ён ня надта разумны.

Ой, не, кажа Каёт. Той Каёт вельмі мудры.

А можа, ён проста зрабіў памылку.

Ой, не, кажа Каёт. Ён жа быў ужо зрабіў адну.

Ото ж, кажу я. Ну тады, Каёт, пэўна, робіць усё слушна. Пэўна, ён напраўляе сьвет, каб ён быў правільны.

Так, кажа Каёт. Пэўна што. Ну, і што гэны геній зрабіў далей?

Усе ведаюць, што Каёт зрабіў далей, кажу я. Малыя дзеткі ведаюць, што Каёт зрабіў далей.

Ну, не, кажа Каёт. Я ніколі ня чуў гэтай гісторыі. Ты такі цудоўны казальнік. Якую гожую гісторыю пра Каёта ты мне расказаў.

Халера, за гэным трэ сачыць увесь час. Ды хаваць свае пальцы, што на нагах.

Дык вось, кажу я. Каёт думае пра тую раку. Ды думае пра тую гару. І думае ён, пэўна, нехта тут дуркуе. Таму ён азіраецца вакол. Ды ідзе шукаць таго, хто робіць усю гэную дурніцу са сьветам.

Ён ідзе на поўнач – там нікога. Ідзе на поўдзень – і там нікога. Ідзе на ўсход – і там таксама нікога няма. Ідзе на захад – а там цэлая гара шын ад сьнегаходаў.

А там – нейкія целявізары. Там – нейкія пыласосы. Нейкая купа пасьцельных прасьцінаў. Нейкі вільготнік паветра. І там – на партатыўнай газавай барбікюшніцы сядзіць сабе тая вялізная памылка ды чытае нейкую кнігу. Каталёг унівэрмагу.

Задроў, кажа тая вялікая памылка. Ня хочаш сабе гідраўлічны дамкрат?

Не, кажа гэны Каёт. На халеру ён мне. Але ён так і не сказаў той памылцы, што ён насамрэч хоча, бо пабаяўся зноў пазбавіцца сваёй пысы. Але як толькі ён узгадаў пра тое, як быў пляскаты ды ўвесь пабіты на дзірці, дык азадак гэны прачнуўся адразу ды засьпяваў. Бзззд. Бзззд.

А што там за шум, кажа тая вялікая памылка.

Я тут індзейцаў шукаю, кажа Каёт хуценька так. Ты ня бачыла каго?

А што тут засьмярдзела так?

Ой, не пераймайцеся так, кажа Каёт. А індзейцаў тут не было?

На во печ для грэнак, кажа тая памылка.

Ды на халеру мне усё гэта, кажа Каёт. Кінь выраблять гэна усё! Ты ж заладуеш увесь сьвет.

Хочаш кампутар з каляровым маніторам? Тая памылка нават ня высунула носу з той кніжкі, і гэныя рэчы ўсё грувазьдзяцца цэлымі горамі вакол Каёта.

Кінь, кінь ты гэта! крычыць Каёт. І яму ў лапы плюх! гольфны вазок. І на галаву пасыпаліся гольфныя мячыкі. Дай сюды гэную кнігу, пакуль увесь сьвет не перакуліўся!

То ж карысныя рэчы, кажа тая памылка. Вельмі патрэбныя дзеля ўпрыгожаньня сьвету. Індзейцам яны цалкам спатрэбяцца.

Дзе тыя індзейцы? – кажа Каёт.

І тая памылка бачыць, сапраўды, няма іх. Давай мо лепей зробім індзейцаў, кажа тая памылка. Тады гэная глядзіць у каталёг, але там няма ніякіх індзейцаў. І Каёт ня дасьць рады, як іх рабіць. Ён ужо рабіў чатыры рэчы.

Я ўжо зрабіў чатыры рэчы, кажа ён. І мне цяпер патрэбна дапамога.

Мы можам дапамагчы, кажуць нейкія галасы. А гэта – тыя качкі, прыплылі сюды. Мы можам дапамагчы табе зрабіць індзейцаў, кажа белая качка. Так, мы можам гэтае, кажа зялёная качка. Мы ўжо думалі пра гэта, кажа сіняя качка. І ў нас ёсьць адна задумка, кажа чырвоная качка.

Га, гэны Каёт ня ведае, што й рабіць. Таму ён кажа качкам, давайце ўжо рабіце што-небудзь, бо гэная гісторыя ўжо так зацягнулася, такая доўгая, што ўсе ўжо хочуць дахаты.

Ты шчэ ня сьпіш? – кажу я Каёту. Яшчэ тут?

Так, так, бабуля, кажа Каёт. Ну, і што тыя разумніцы-качкі зрабілі?

Я кажу Каёту, што тыя качкі зьнесьлі яйкі. Ну, качкі, бач, робяць гэтак. Белая качка зьнесла яйка, а яно сіняе. Чырвоная качка зьнесла яйка, а яно зялёнае. Сіняя качка зьнесла яйка, і яно чырвонае. Зялёная качка зьнесла адно, і яно белае.

Давайце, кажуць качкі гэныя, цяпер засьпяваем. Затанчым. І яны пайшлі ў скокі. Каёт, тая вялікая памылка, качкі – усе скачуць вакол яек. Скачуць яны, скачуць, сьпяваюць, сьпяваюць – канца гэтаму няма. Каёт ужо й есьці захацеў, згаладаўся, бач.

Гэй, кажа ён, я ведаю гэны танец. Вы ж мусіце заплюшчыць вочы, пакуль танчыце, бо нічога не атрымаецца. Закрывайце крэпка вочы. Добра, кажуць

качкі, можам і закрыць. І яны заплюшчваюць, гэныя, вочы. І тая вялікая памылка заплюшчвае таксама.

А Каёт не заплюшчвае. І як усе пачалі зноў скакаць, Каёт прытанцоўвае да белай качкі, ды цап! яе за белую шыйку.

Як ён яе схапіў, яна як заляпае крыламі! Тады тая вялікая памылка чуе гэны гоман ды расплюшчвае вочы. Гэй, ты, кажа тая вялікая памылка, гэтак не танцуюць!

Далібог, твая праўда, кажа Каёт ды адпускае качку. Гэта я нешта зь іншым танцам паблытаў.

І яны зноў пачалі танцаваць. А Каёт жа есьці хоча. Дык ён хапае сінюю качку – за крылы. Але тут галодны Каётавы страўнік як завурчыць, і тая вялікая памылка расплюшчвае вочы ды бачыць сінюю качку ў Каётавых зубах. Гэй, кажа тая вялікая памылка, зноў ты наблытаў!

Твая праўда, кажа Каёт, выплёўвае качку ды гладзіць тую па шыйцы. Добра, што ты тут побач на дапамогу мне з гэнымі танцамі.

Зноў усе пачалі танцаваць, і на гэты раз Каёт вобміг хапае зялёную качку ды запіхвае хуценька ў глотку так, што ў яго з пысы адныя каччыны жоўценькія лапкі боўтаюцца. Дык гэныя лапкі лыпаюць Каёту па вачах, аж ён нічога ня бачыць, дзе ён туляецца, ды ўбухваецца проста ў тую вялікую памылку, а тая вялікая памылка заварочваецца паглядзець, што гэта такое тут робіцца.

Го, кажа тая вялікая памылка, ты ж ні ў халеру ня бачыш, куды прэсься, з гэнымі лапамі на мордзе. Дай сюды, і яна выцягвае тую зялёную качку з Каётавай глоткі. Ну, ты зусім пашкодзісься, гэтак танцуючы.

Ты – сапраўдны сябар, гэтак апякуесься мною, кажа Каёт.

І качкі гэныя зноў пайшлі ў скокі. І Каёт зь імі. А тут чырвоная качка і кажа, давайце лепей танцаваць з адным вокам адкрытым, гэтак зможам паспрыяць Каёту з нашым танцам. Паскакалі яны яшчэ крыху, паскакалі, а тут гэныя яйкі пачынаюць варушыцца, і гэныя яйкі трэскаюцца. І калі добра прыгледзецца, можна пабачыць нештачка ў іх там унутры.

А я ведаю, я ведаю, скача Каёт на лаве, аж гарбата мая плюхае. З гэных яек выйдуць індзейцы. Я ўзгадаў гэтую гісторыю. У гэных яйках сядзяць індзейцы, якіх шукае Каёт.

Не, кажу я. Ну ты, Каёт, чыста ёлуп. З качыных яек могуць вылупіцца адно качаняты. Сядзі, ня ёрзай, кажу я. А то павалісься ды паб'есься. Гарбату маю разальеш. Зваліся зараз на маю гісторыю ды паплюшчыш яе.

А дзе індзейцы? – кажа Каёт. Ты абяцаў гісторыю пра Каёта, што знайшоў індзейцаў. Хіба яны ня ў яйках разам з качанятамі гэнымі?

Не, кажу я. Нічога ў гэных яйках няма, акрамя качанят. Чакай, зараз будуць індзейцы. Не вылузвайся са скуры.

Дык вось.

Калі качкі гэныя пабачылі, што павылазіла з тых яек, яны кажуць, ай-я-ай, нешта мы ня тое зрабілі. Трэба ўсё па новай. І яны пачалі ўсё спачатку. Скачуць у гэным, у танцы. Сьпяваюць гэную, песьню. Яйкі расколваюцца, і адтуль выходзяць яшчэ качаняты. Сем разоў яны пачынаюць нанова, і кожнага разу атрымліваюцца качаняты.

Далібог, кажуць гэныя чатыры качкі. У нас ужо качанят гэных болей, чым трэба. Здаецца, мы самі мусім зрабіцца індзейцамі. Сказалі – зрабілі. Перш

чым Каёт ці тая вялікая памылка змаглі нешта наблытаць, тыя качкі ўзялі ды абярнуліся індзейцамі, два мужчыны, дзьве жанкі. Ды гожыя такія індзейцы. Нічога ад качак у іх не засталося.

Але гэныя, чатыры качкі-індзейцы, нешта засмучоныя. Паглядзелі адно на аднаго ды заплакалі. Якая агіда, кажуць яны. Гэная брыдкая скура. Нейкія косткі голыя тырчаць. Валасы чорныя, паскудныя. Дзе нашыя гладзенькія, мякенькія пёркі? Дзе прыгожанькія лапкі? Куды падзеліся такія цудоўныя крылы? Усё Каёт гэны вінаваты, заблытаў нам танцы. І гэныя чатыры качкі-індзейцы наваліліся на Каёта ды затапталі яго нагамі, аж пакуль ён зноў не зрабіўся пляскатым. А тады сыйшлі прэч. І тая вялікая памылка сыйшла.

А гэны Каёт, ён пачаў прыдумваць гаючую песьню.

Бзззд. Бзззд.

Ну, вось і ўсё, кажу я. Тут і казцы канец.

Дык а што сталася з Каётам? – кажа Каёт. Такі герой – і застаўся пляскатым.

Ну, часам байкі бываюць плоскімі, кажу я. Гэтак здараеца, калі нехта маніцца правіць гэты сьвет. Гэты сьвет цалкам добры сам па сабе. Лепей яго не чапаць. Ня блытай яго – не заблытаесься.

Я, бадай, пайду, кажа Каёт. Раскажу Крумкачу тваю цудоўную гісторыю. І мы наладзім гэты сьвет, будзь пэўны. Мы ведаем цяпер. І ведаем як.

Тады Каёт дапівае маю гарбату і гэны ідзе сваёй дарогай. А я больш не магу размаўляць, бо мушу назіраць неба. Мушу пільнавацца рэчаў, што пасыплюцца зь неба ды нагрувазьдзяцца ў горы на гэтай зямлі.

Калі гэны Каёт бадзяецца тут ды шукае, што б яму направіць, ніхто ў гэтым сьвеце не засьцярожаны.





**ВОРАНАЎ Віталь** нарадзіўся 18 сакавіка 1983 году ў Менску. Сьвядомую частку дзяцінства правёў у дварах Беразьвечча, якія межавалі з турмой суровага рэжыму і вайсковымі казармамі, непадалёк ад колішняга глыбоцкага лягеру сьмерці. Там упершыню пазнаёміўся з п’яніцамі, прапаршчыкамі, вар’ятамі, салдатамі і іншымі празаічнымі пэрсанажамі. Вершаў ня піша.

*Foto: Przemyslaw Jasinski*

# Цытрынавая кіслата

„Ні ліманад у келіхах замест шампанскага, ні пазычаная ў мамінай шафы белая сукенка, ні пэўная імправізаванасьць абраду ня здраджвалі таго, што ёй адзінаццаць”. – дапісаўшы гэты сказ, ён адклаў асадку ўбок. Не зважаючы на час, ён працягваў пісаць толькі ёю. На гэты сказ прыйшлося чакаць цэлыя чатыры гады, але аб гэтым ён зусім не шкадаваў.

Чатыры гады назад ён зладзіў публічнае разьвітаньне. Былі прысутныя ўсе да аднаго ягоныя выдаўцы, карэктары, крытыкі, сябры па пяры, ну і, вядома, чытацкі натоўп. У галоўнай залі вялізарнай бібліятэкі сьвяціла моцнае штучнае сьвятло, якое ўвесь час бянтэжыла яго і зьбівала ход думак. Ягоным адзіным патрабаваньнем да арганізатараў было тое, каб не было задаваньня ніякіх пытаньняў. Ён плянаваў прачытаць па ўрыўку ад самага апошняга да самага першага свайго апавяданьня. Калі чытаў перадапошні тэкст, яму раптоўна і гвалтоўна сьціснула сэрца, і, не зважаючы на супраціўленьне, яму мусілі аказаць мэдычную дапамогу. Хаця спатканьне было спыненае, самыя верныя сябры яшчэ доўгі час не жадалі разыходзіцца і пайшлі дадому толькі пасьля таго, як з вуснаў прысутнага міністра культуры даведаліся, што пісьменьнік у руках добрых спэцыялістаў. У больніцы мінуў увесь тыдзень, падчас якога яму рабілі, мабыць, усе абсьледаваньні, якія ведала сучасная мэдыцына. Ён аднекваўся, але асабісты лекар настойваў, таму давялося пагадзіцца. Праз пару дзён ён папрасіў свайго агента, каб той пашырыў сярод зацікаўленых заяву пра тое, што ён ужо больш ня будзе пісаць, даваць інтэрвію і публічна вы-

ступаць. Гэта ён меўся сказаць напрыканцы разьвітальнага чытаньня. Цяпер ён быў нават задаволены тым, што аўтарскі драматызм удалося падмяніць больш жыццёвым. Яго выпісалі, так і не знайшоўшы прычыны раптоўнага недамаганьня. Відаць, забыўшыся, што ён кінуў курыць ужо некалькі ладных гадоў назад, лекар параіў зрабіць гэта неадкладна. Сеўшы ў таксі, ён тут жа папрасіў у таксіста цыгарэту і зь неапісаным задавальненьнем выкурыў яе ў прыадчыненае вакенца. На парозе сваёй сядзібы ён доўга шукаў адпаведны ключ. Усярэдзіне было ціха і ўтульна. Ля вакна стаяў вялізарны дубовы стол. Першае, што зрабіў, ён прынёс і паставіў на гэты стол аграмадную кававарку і дробную, цяпер ужо ізноў ня толькі для гасьцей, попельніцу.

Гэтыя чатыры гады мінулі, як тры кавы, дзьве цыгарэты і адна дрымота. Адзінае, што ён пасьпеў за гэты час – не пісаць, не даваць інтэрвію і не паказвацца на людзі. Усё астатняе было як і раней. У ранішняй пошце прыйшоў ліст ад маладога літаратара, які даслаў яму на ацэнку свой першы вялікі тэкст. Сьпярша яго перасмыкнула ад недаўменьня, чаму агент прапусьціў гэта праз сваё сіта разам зь віншавальным лістом з канцылярыі і гадавым падсумаваньнем продажу, але пазьней ён выйшаў у сад, лёг у гамак і стаў чытаць. Опус называўся „Двайное бачаньне” і быў пра маладога пісьменьніка, які не пасьпявае дапісаць сваю кнігу з-за сьмяротнай хваробы, а апошні сказ абрываўся на паўслове. Божа мой, падумаў ён, няўжо кожнаму трэба пачынаць заўжды з таго самага месца. Прачытанае зусім не спадабалася, але ён тут жа напісаў аўтару адказ: „Тэкст неблагі. Старайцеся ня думаць пра сьмерць і пажадана пра яе наогул не пішыце”. Пасьля гэтага ён зайшоў у дом, каб зрабіць сабе кавы, але ў гэты момант пачуўся тэлефон.

– Добры дзень, я тэлефаную з часапісу... – сказаў малады дзявочы голас.

– Адкуль у вас мой нумар? – замест павітаньня сказаў ён.

– Ваш агент... казаў спаслацца на яго, – сказала яна зь вялікім пачуцьцём віны ў голасе і з поўным прадчуваньнем паразы.

– Зь ім усё ў парадку? – нечакана для самога сябе спытаўся ён.

– Так, натуральна, усё добра, – адказала дзяўчына, нясьмела ўсьміхнуўшыся ў слухаўку. – Дазвольце ад імя нашай рэдакцыі павіншаваць вас...

– Дзякуй, – абарваў дзяўчыну пісьменьнік.

– З гэтай нагоды, – яшчэ больш нясьмела працягвала яна, – маё кіраўніцтва загадала мне ўзяць у вас інтэрвію.

– А мне, наколькі я разумею, яны загадалі яго даць, – бяз злосьці ў голасе быццам бы пажартаваў ён.

– Прабачце, я мела на ўвазе, папрасілі мяне... значыцца вас... даць інтэрвію з нагоды вашага юбілею.

Пачуўшы апошняе слова, ён сказаў: – А вы чулі пра маю афіцыйную заяву некалькі гадоў назад?

– Не, ня чула, – вінавата сказала дзяўчына.

– Тады прыяжджайце, – зусім нечакага для суразмоўцы сказаў ён.

– Я прыеду, – закончыла яна і паклала слухаўку.

Ён пасунуў убок попельніцу, адкрыў нататнік і напісаў: „Яе веку ня можна было пазнаць нават па голасе”.

Праз пару гадзінаў пад дом пад'ехала аўто. На стале ў садзе ўжо стаялі два кубкі кавы, так, быццам ён дакладна ведаў, калі яна прыедзе. Ён разумеў, што нетактоўна ня даць ёй выбару, але хаця яна піла каву дагэтуль толькі раніцай, ніякай нетактоўнасьці ўсё адно ў гэтым не заўважыла. Відавочнае хваляваньне прысутнічала толькі на яе шчоках. Яны паружавелі, і гэта яму вельмі спадабалася. Сёньня мала хто ўжо ўмее саромецца, падумаў ён і прапанаваў прысесьці. Калі дзяўчына прысела, ён заўважыў, якія ў яе акуратныя каленькі.

– Вы жывяце адзін? — спытала яна, адначасова ўключыўшы і паклаўшы на стол дыктафон.

– Выключце, калі ласка, – сказаў ён і падсунуў ёй цукерніцу.

– А як жа?.. – зьдзівілася яна і неадкладна выканала ягоную просьбу.

– Я абяцаў больш ніколі не даваць інтэрвію, і гэта адно з абяцаньняў, якія мне ўсё яшчэ ўдаецца стрымаць.

– Але ж...

– Я паклікаў вас сюды не для гэтага, – перабіў ён і зрабіў ласкавы выгляд, каб кампэнсаваць за сказанае. – Разумееце... – тут ён зрабіў паўзу. – Сёньня... – спыніўся яшчэ раз. – Я не хацеў быць сам.

– Я разумею, – зрабіўшы ўцямны выгляд, сказала дзяўчына. – Усяго найлепшага, – дадала, цалкам незадаволеная сваімі апошнімі словамі.

– Вы ведаеце, – пачаў ён, — адносна нядаўна зразумеў, што наша жыцьцё — гэта адны толькі сьвяты, нагоды, дні... а паміж імі быццам бы нічога. Разумееце? І калі раней я быў перакананы, што паміж усімі гэтымі нагодамі ёсьць бясконцае чаканьне, то цяпер усьведамляю, што і яго няма. Разумееце?

Адзінае, што разумела дзяўчына, — гэта тое, што ёй трэба цяпер маўчаць, і яна маўчала, час ад часу адпіваючы са свайго кубка ўжо састылую каву.

– Самае дзіўнае ня тое, што я ўцяміў гэта толькі цяпер, а тое, што нават калі б чатыры гады назад я не адмовіўся ад творчасьці, і напісаў пра гэта ў сваёй чарговай кнізе, то і так не знайшлося б ніводнага чалавека, які зразумеў бы гэта іншым чынам, як толькі апынуўшыся ў маім часе і ў маім месцы. А калі так, тады навошта раней я адмаўляўся ад усяго іншага, апрача пісаньня. Разумееце? – спытаўся ён і правёў рукою вакол саду.

У садзе расьлі выключна невялічкія дрэўцы. Яны былі пасаджаныя не ў рады і безь ніякай рэгулярнасьці. Толькі цяпер дзяўчына заўважыла вялікую перавагу цытрусавых дрэўцаў.

– Дарэчы, уяўляеце? Ужо некалькі гадоў я п'ю каву з цытрынай, – сказала яна, – цяпер на зьмену цалкам зьбянтэжанаму пісьменьніку. – Людзі п'юць чай з малаком, ядуць мяса з сочывам, а чаму б мне ня піць каву з цытрынай, падумала аднойчы скаштаваўшы кавы з цытрынавым сокам. Вы ніколі не каштавалі кавы з цытрынай? – спыталася яна.

Ён завагаўся, што адказаць, але, трохі падумаўшы, сказаў: – Цытрыны, на жаль, у мяне ўжо няма. Сёлета быў кепскі ўраджай. Вось пазалетась увесь сад проста тапіўся ў жаўцізьне. Пачуўшы гэта, яна ажно скрывілася ад уяўнай кісьлі. У яго ізноў, як тады ў залі, дрыгнула сэрца, але тут жа адпусьціла і супакоілася. Трымаючыся за сэрца, ён засьмяяўся так шчыра, як не сьмяяўся з даўняга часу. Яна кінула жмурыцца і засьмяялася разам зь ім. Штосьці было ў гэтай сытуацыі вельмі забаўнага.

Яны прагаварылі ў садзе да зьмярканьня. У канцы ён папрасіў наведваць яго часьцей і без нагоды.

– А што ж з інтэрвію? – спытала яна на адыходзе.

– Інтэрвію... – задумаўся ён, – інтэрвію напішыце самі, напішыце з таго, пра што мы з вамі тут гаварылі... або не. Лепш напішыце з галавы, як вы сабе гэта ўсё ўяўлялі, калі сюды ехалі. Я дам вам аўтарызацыю, як толькі атрымаю ад вас тэкст. Нават не. Я даю аўтарызацыю адразу, што б вы там ні напісалі.

– Дзякуй, – сказала яна і зноў паружавела на шчоках.

Правёўшы дзяўчыну да брамы, ён жвава, не зважаючы на боль у суставах, падбег да свайго стала, выцягнуў схаваны за кававаркай нататнік і напісаў: „Замест пачастунку ў маладажонаў была цытрынавая кіслата, салодкі смак якой запомніўся яму на ўсё доўгае жыцьцё...”

*2009*

# Гусіная дарога

*to Lynch*

Калі выйшаў з душу, то ўжо дакладна разумеў, што адмыць зь сябе ейны пах немагчыма. Яго прыйдзецца выветраць, але гэта можа расьцягнуцца на некалькі дзён. Усьведамленьне ўвагнала яму ў сьпіну цёплае лязо. Калі адняло, ён паглядзеў на сваё адлюстраваньне, якое ў першы момант спалохала яго сваёй адчужанасьцю. Прыгледзеўшыся, ён усё ж пазнаў сябе самога, пачаў папраўляць вусы і тут жа адчуў, што на валасах гэты пах трымаецца найбольш упарта. Не вагаючыся ані хвіліны, ён узяў пэндзаль, прысутнасьць якога яго вельмі зьдзівіла, намыліў вусы і пачаў галіцца ейным станком для ног. І памазок, і станок мелі той самы інтэнсіўны пах, што і ягоныя вусы. Праз момант увесь рукамыйнік быў усланы кароткімі чорнымі валасамі, а на тым месцы, дзе яны расьлі, цяпер сьвяцілася белая, ад кантрасту з загарэлым тварам, скура. Бяз вусаў ён выглядаў, мякка кажучы, дзіўна, хаця ёй больш падабалася бяз вусаў. Ён узяў ручнік і выцерся, але адразу пра гэта пашкадаваў, паколькі той быў прасякнуты ёю мацней за ўсё навокал. Ён яшчэ раз намыліў рукі і твар і абмыў іх сьпярша гарачай, пасьля летняй, а ў канцы халоднай вадою, потым падыйшоў да сьцяны і панюхаў кафлю – пахла нэўтральна. Калі выйшаў з прыбіральні, яна ўжо спала, укрытая тоўстай коўдрай. Ён пашкадаваў, што была менавіта зіма, але ўсьцешыўся тым, няма патрэбы разьвітвацца. Ён ступаў акуратна, пры гэтым, як злодзей, стараўся да нічога не дакранацца. Пра свае адбіткі пальцаў ён не клапаціўся, ішло пра гэты вар’яцкі па сваёй моцы пах. Тут прыгадалася гісторыя пра парфумара, і гэта прымусіла яго сур’ёзна задумацца. Усё ж ён палічыў, што справа ня ў ім, а ў ёй, хаця верыць гэтаму ну ніяк не хацелася. Пачуцьці перамагалі розум з кожным крокам. Ён памятаў, што калі рэзка націснуць на клямку, то скрыгату ня будзе. На прыступках нікога не было, і гэта не магло ня цешыць. Хаця ля пад’езду была пустая паркоўка, ён ставіў аўто за дзьве вуліцы ад гэтага месца. Нават ходнікі былі ўсланыя сьнегам, і крочыць трэба было вельмі асьцярожна. Ля самай машыны ён усё ж пасьлізнуўся і бразнуўся патыліцаю аб утрамбаваны сьнег. Забалела, але ў вачах памутнела і зблажыла не ад гэтага, а ад думкі, што ён мог сабе тут нешта зламаць. Прамовіўшы першыя словы малітвы, ён з пэўным шкадаваньнем зра-

зумеў, што ня памятае ейны працяг. На двары стаяў мароз, таму неба было чыстае і чорнае як ніколі. Падняўшыся, ён адшукаў і запаліў запальнічку, але дзьверы ў аўто адчыніліся і бяз гэтага. На лічыльніку было на дзесяць кілямэтраў меней, чым на прыдарожных знаках. Дазволіць сабе на затрыманьне ў гэты час было б глупствам, але выклікаць падазрэньне празьмерна заніжанай хуткасьцю было таксама нявартa. На добра знаёмым павароце яго нечакана занесла ўбок, і сэрца ажно падскочыла да горла. За рулём ён быў напружаны заўжды, а гэтым разам усё адчувалася з падвоенай, калі не патроенай сілай. На ягонае шчасьце, па абочыне ніхто не ішоў, ніхто ня ехаў. Відаць, усе даўно ўжо былі дома. Гэтая думка дадала да ягонага стану яшчэ адну жменю неспакою. Ён паднёс да носу правае запясьце і пераканаўся, што яна ўсё яшчэ на ім. Тут ён пастанавіў спыніцца, бо ехаць далей у такім стане было небясьпечней, чым спыніцца. Ён зьехаў на першую ўбачаную запраўку. Гэта была адна з такіх заправак, дзе ў гэты час дзяжурыць чалавек, які звыклы прабуджацца ад працы паліўнай помпы. У баку было дастаткова бэнзіну, але ён пастанавіў даліць, каб не выклікаць лішніх падазрэньняў. У малым вакенцы было бачна толькі руку працаўніка запраўкі, якая заграбла ягоную плату. Яшчэ ён прыгадаў пра мятныя цыгарэты, адразу захваляваўшыся, што тут іх можа ня быць. Рука ізноў бязгучна паказалася ў вакенцы з пачкам мятных. На іхны відок павольна выдыхнуў увесь цяжкі зьмест лёгкіх і пад цяжарам уражаньняў забыўся пакласьці ў вакенца грошы. Наўзьдзіў рука ня стала нічога казаць, нават калі ён націснуў на газ і закурыў першую цыгарэту. Нават калі б штосьці было сказана, вокны ўсё адно былі зачыненыя, а прыгадаць самому было ўжо запозна, бо на яго напаў рэзкі кашаль. Калі закурваў другую цыгарэту, ён стаў прыгадваць, ці забаронена правам курыць за рулём. Пасьля ён падумаў яшчэ пра тэлефон, шыбы, пярэднія фары і зноў пра цыгарэты. Цяпер прыгадаўся пах мятнай гарбаты, які ён ведаў, здавалася, з папярэдняга жыцьця. Ён адчыніў бардачок, намацаў там і ўсьцягнуў на палец пярсьцёнак. Калі рабіў гэта, то ані на сэкунду не спускаў вока з дарогі. У гэтым месцы яна не была пасыпаная сольлю. Ён ізноў засумаваў па леце і піве. У вуснах быў гаркава-салодкі прысмак. Цяпер ужо цяжка было сказаць, што пераважала. Пах на ягоных запясьцях перайшоў таксама на скураны руль. Дарогі заставалася менш, чым было ўжо ззаду, а можа быць, роўна столькі сама. Не адпускала ўражаньне, што гэта добра знаёмы яму адрэзак, аднак сказаць гэта з упэўненасьцю ён наўрад ці наважыўся б. Ён уключыў радыё і тут жа яго выключыў. Яму не спадабаўся гук, а ня песьня ці тым больш голас. Хацелася як найхутчэй выйсьці з гэтага салёну, але ён прадчуваў, яшчэ мусіць ранавата. Да раніцы была яшчэ ўся ноч. Цяпер дарогу асьвятляў толькі вузкі матузок сьвятла. Прыгадалася некалькі розных кадраў пра дарогі. Ён падумаў пра тэхагляд і зноў моцна занепакоіўся. На руцэ ў вакенцы была наколка, і гэта перашкодзіла яму прыгадаць, што ён не заплаціў. У гэты момант пачуўся моцны ўдар. Здаецца, гук данёсься з правага боку бампэра. Яму стала вельмі непрыемна. Праехаўшы яшчэ трохі, ён пабачыў знак перасьцярогі перад дзікімі жывёламі. У галаве мільганула думка – позна. Аднак у гэтым не было ані шкадаваньня, ані чорнага гумару. Хутчэй, гэта была звыклая канстатацыя факту ці фактаў. Ён яшчэ раз панюхаў запясьце. Цяпер, відаць, на карысьць мяты, яе ўжо было менш. Прыйшла думка, каб вярнуцца і паглядзець, што гэта было. Ён закурыў трэцюю цыгарэту, а рэшту выкінуў у прыадчыненае вакно. Дакурыўшы, ён высыпаў таксама попельніцу. Проста ён

ніколі не курыў. Пад’ехаўшы да месца, кінуў позірк на задняе сядзеньне і апошні раз панюхаў руль. Суцяшала, што пахнуў ён мятаю. Калі б была такая магчымасьць, ён перасадзіў бы гэтую скуру на свае запясьці. Апошнія мэтры ён пракаціўся на выключаным рухавіку. У вокнах было бясьсьледна цёмна. Па прыступках ён ступаў, стаіўшы дыханьне. У пад’езьдзе ізноў панавала пустэча. Ён добра ведаў кватэру нават у поцемках. Вочы праз пару хвілінаў адаптаваліся. Зайшоўшы ў спачывальню, пабачыў добра знаёмы сылюэт. У пакоі абсалютна нічым ня пахла. Ён прыгадаў, што не зайшоў у прыбіральню, але пастанавіў стрымацца да раніцы. У параўнаньні з усім астатнім гэта здавалася яму драбязой. Амаль бязгучна зьняў сваю вопратку, далікатна прыўзьняў коўдру і ўсунуўся пад яе, быццам кот. Цяпер ужо ў апошні раз ён выдыхнуў зь лёгкіх усё, што ў іх было. Пульс і дыханьне памалу вярталіся да нормы. Гэтым разам ён прыгадаў апошнія словы забытай малітвы і ўжо больш-менш супакоены нясьмела выцягнуўся на ложку. Перад вачыма яшчэ стаяла кепска асьветленая дарога. Ягоныя пальцы наткнуліся на струпянелае цела. Замест таго, каб спакойна заснуць, закалаціўшыся ў халоднай ліхаманцы, ён закрычаў мятным крыкам.

*2009*

## Карціна “Вяртаньне”

*Уладзю Блюдніку*

Майстэрня мастака месьцілася на чацьвёртым паверсе. Угору вялі драўляныя спарахнелыя сходы, паверх якіх пяліся парэнчы, памаляваныя ў цёмна-карычневы колер. Кожны раз, калі мастак бачыў гэтыя парэнчы, яму рабілася млосна, і ён прысьпешваў, каб як найхутчэй апынуцца за дзьвярыма сваёй майстэрні.

У памяшканьні было толькі адно вакно, якое выглядала на панадворак камяніцы. Звонку пагрозьліва пазіралі брудныя сьцены будынкаў. Яны надавалі сьвятлу, якое падала ў пакой, своеасаблівае адценьне. Гэтае адценьне можна было заўважыць на ўсіх карцінах, якімі быў завалены цэлы доўгі калідор майстэрні.

Сьцены пакояў былі размаляваныя зьверху данізу. Яны мала чым нагадвалі пячорныя малюнкі дагістарычнага чалавека ці фрэскі старажытнасьці. Гэта хутчэй былі чарнавыя накіды. Відаць, што ў момант, калі трэба было зрабіць нейкія замалёўкі, пад рукою не было ўжо чыстых аркушаў паперы. Калі б ня гэтыя сьцены, шмат якія вобразы маглі б страціцца назаўсёды, так як і ўся кватэра майстэрні магла б страціцца ў шэрасьці суседзкіх камяніцаў, калі б ня гэтыя сьцены...

Майстэрня займала плошчу цэлае кватэры, але ўявіць, што хтосьці па-за палотнамі, фарбамі і старымі рамамі мог бы ў ёй жыць, было немагчыма. Два пакоі кватэры былі малыя і больш падобныя да прахадных, якія, аднак, нікуды не вялі. У канцы аднаго пакоя быў умывальнік, ручкі і кран якога былі суцэльна запэцканыя алеем і распушчальнікам. Усюды стаяў выразны пах фарбы, да якога мастак прызвычаіўся і якога ўжо зусім не адчуваў. Магчыма, з часам ён проста стаў ад яго залежны. Бывалі дні, калі мастак заходзіў у майстэрню,

стаяў нейкі час, гледзячы ў вакно, пераступаў з кута ў кут, а потым проста выходзіў. Здаралася, што ён не маляваў дзень, другі, нават месяц ці два, але падыхаць паветрам майстэрні ён заходзіў штодня.

І сёньня малюваць яму не хацелася як ніколі. Ён проста хацеў пастаяць ля вакна з пустым кубкам пасьля даўно ўжо выпітай кавы, утапіцца ў цені забытага панадворка, прыгадаць тую вясну, успамін якой спараджаў у ім гэты вобраз, гэты неад'емны вобраз ніцасьці. Пра тую вясну гаварыла спарахнелая рама вакна, якая рыпела пры кожным подзьмуху скразьняка, нагадвала тоўстая нага падрамніка, якая выставала з падлогі, бы тыя дрэвы, павытырканыя з сумётаў яшчэ не расталага сьнегу, нашэптвала белае палатно, што нібы цяжарныя хмары захуталі небасхіл у дзень ягонага вяртаньня. Бадай, так вяртаюцца з выраю, бадай, такой парой, падумаў ён. Толькі цяпер, брыдучы па гэтым бездарожжы, ён пачынаў разумець, навошта людзі пракладаюць пуцявіны і трымаюцца іх, чаго б гэта ім ні каштавала. Убіваючы стомлены позірк у небакрай, мастак намагаўся накрэсьліць хоць нейкую праяву жыцьця свайго небакраю, але вільготныя вочы зьлівалі далягляд у адну застылую палітру... Хлусьня, што птушкі вяртаюцца вясною. Птушкі ніколі не вяртаюцца, падумаў ён, бо іхныя гнёзды там, дзе яны, ці вырай гэта, ці пекла. Вяртаюцца толькі людзі. Вяртаньне – чалавечая пакута.

Перад мастаком расьцягнулася доўгая і простая, як пэндзаль, сьцяжына. Ён быў на паўшляху да невядомага, якое заўжды клікала яго да сябе, а пасьля праганяла яго з парогу прэч. Наколькі абсурдна – вяртацца немаведама да чаго і навошта, – прамільгнула ў галаве. Каб знайсьці спакой ці суцяшэньне? Але ж пакуль гэта адно пякучы боль і нічога болей. Сапраўдны боль сьціснуў цяжкія лёгкія, і гэта прымусіла яго спыніцца. Як жа ўрэшце навучыцца адрозьніваць жыцьцё ад імітацыі, а ўспамін ад цяпершчыны? Чаму так цяжка прыняць простыя і выключныя катэгорыі падзелу на дабро і зло, любоў і нянавісьць. Няўжо перашкаджае сьвядомасьць таго, што ў чорным ёсьць белае, а ў белым, нават у белым сьнезе, ёсьць чорнае адценьне зімы? Ён адчуў, як страх працінае яго ад галавы па самыя пяты, як тады, той вясною...

У гэты пакой наважвалася заходзіць толькі бабуля. Яна рабіла гэта так спакойна, быццам наразала цёплы хлеб; зайшоўшы ўсярэдзіну, абавязкова зачыняла за сабою дзьверы. Ягонай адвагі ставала хіба на тое, каб зазірнуць у пакой, калі дзьверы прыадчыняліся і зачыняліся. З нутра даносіўся пах саломы і попелу. З пакоя чуваць было адно бабуліны крокі, якія былі надзвычай акуратнымі. Пасьля даносіўся гук сыпанага на падлогу зерня, які перабівала ўхвальнае квактаньне квактухі. Бабуля сыпала зерне моўчкі. Пасьля выходзіла і шчыльна зачыняла за сабою дзьверы. Ён чуў, як квактуха памалу і асьцярожна злазіць з гнязда і пачынае дзюбаць зерне.

Ішоў трэці тыдзень, як квактуха выседжвала яйкі. З кожным днём яму ўсё мацней карцела пабачыць зблізу і дакрануцца да гэтых яек. Ён ведаў, што зь іх маюць павылупліваццa малыя піскліючкі, але ніяк ня мог зразумець, як гэтыя жоўтыя цёплыя мячыкі вылускваюцца са шкарлупы. Вядома, зайсьці ў пакой было б самагубствам. Насуперак бабулінай перасьцярозе ён спрабаваў аднойчы прыадчыніць дзьверы. Убачыўшы яго, квактуха распусьціла свае крылы, а ейнае пер'е натапырылася. Яна мігам ускочыла з гнязда і пабегла ў бок чужаніцы. Ён ледзь пасьпеў зачыніць дзьверы. Здавалася, яшчэ момант, і курыца павыдзёўбвала б ягоныя вялікія, як яблык, ад страху вочы. Аднак упартая

цікаўнасьць з часам узяла верх над боязьзю перад кВактухай, і малы ўсё ж наважыўся пераступіць парог. Дзеля гэтага ён задумаў накінуць на сябе дзедаву куфайку, якая прыкрывала яго з галавы да пятаў. Ён зашпіліў куфайку на ўсе гузікі і, не ўстаўляючы рукі ў рукавы, нацягнуў на сябе. Гэта было бясьпечнае сховішча. І ўсё ж, не зважаючы на надзейную аслону, сэрца калацілася як ніколі. Ён хуценька адчыніў дзьверы і зайшоў у пакой. Курыца насьцярожана прыўзьнялася. Ён бачыў яе праз вузенькі прамежак на дзірцы для гузіка, адзін з якіх пакінуў незашпіленым. Калі малы зрабіў пару крокаў у бок да гнязда, курыца ўзьняла нечуваны лямант, але кідацца, як папярэдне, на яго ня стала. Відаць, перапалоханая ўбачаным, квактуха ня ведала нават, як сябе з такім дзівам паводзіць. Падбадзёраны сваёй перамогай, ён пайшоў у наступ. Курыца квактала штосілы, але бабуля, якая магла б ёй дапамагчы, была ў гэты час занятая ў полі. Сагнаўшы квактуху з гнязда, хлопчык стаў над ім так, каб цалкам засланіцца ад небясьпечнай дзюбы і кіпцюроў. Прысеўшы, каб узяць у руку яйка, ён, аднак, паступіўся і на сваё няшчасьце закрануў нагой некалькі цёплых яек. Перапалоханы, пабачыў, што стаптаў, і тут жа кінуўся на ўцёкі. Не пасьпеў ён, аднак, дабегчы да дзьвярэй, калі пачуў грукат. Грукаліся звонку, тры разы запар.

Ён анямеў і застыў. Усё было настолькі нечакана, тым больш што грукату не было ў гэтым успаміне. Тады ён быў проста выбег з пакоя, хутка павесіў куфайку на цьвік і пабег у сваю схованку, што была ў садзе, за расьцьвілай яблыняй. Ці то мінулае стала раптам занадта рэальным, ці то цяпершчына нахабна ўварвалася ў даўні ўжо час, цяпер вырашаць было позна. Хтосьці стаяў там, за ягонымі дзьвярыма. Урэшце ён скрануўся зь месца і падыйшоў, каб адчыніць. На парозе стаяў незнаёмец. Мастаку падумалася, што гэта мусіць быць адзін з кліентаў, якія прыходзяць аднолькава нечакана і нязвана. Таму, не задаўшы ніякіх нязручных пытаньняў, ён упусьціў госьця ў майстэрню. Той моўчкі зайшоў і разгледзеўся па пакоі. Здавалася, ён ведае, што дзе знаходзіцца, бо ўпэўнена наблізіўся да складу карцінаў, пасьля хутка перакруціўся на назе і накіраваўся да мальбэрту. Ён ступаў роўным крокам і спыніўся, калі амаль ушчыльную наблізіўся да палотнішча. Пачаў пільна ўзірацца, здавалася, у фактуру, а не ў карціну, якая была перад ягонымі вачыма. Працягвалася гэта ненатуральна доўга.

– Яна яшчэ незакончаная, – урэшце знайшоў адпаведныя словы мастак.

Аднак госьць ніяк не адрэагаваў. У дзьвярах ён ня надта каб пасьпеў разгледзець ягоны твар, а цяпер ён стаяў да яго плячыма.

– Мне трэба яшчэ дамаляваць неба.

Як і папярэдне, госьць адказаў цішынёй. Гэта насьцярожыла мастака, і ён пастанавіў падыйсьці і разгледзець твар незнаёмца, аднак, не пасьпеўшы рушыць з месца, ён пачуў госьцеў голас:

– Патлумачце мне, што азначае гэтая карціна.

– Што? – зьдзівіўся мастак гэтаму недарэчнаму пытаньню. – Што патлумачыць? – жаданьне ўбачыць госьцеў твар сталася яшчэ мацнейшым, але ступіць далей чамусьці не наважваўся. – Вы жартуеце?

– Я заплачу, – сказаў госьць і выняў з кішэні залатое яйка.

Яно так моцна ўразіла мастака, што на нейкі момант ён перастаў дыхаць, і любое сказанае слова ня мела б у гэты момант ніякага сэнсу. Мастак стаяў, утаропіўшы позірк у залатое яйка, якое ляжала на бездрыготкай далоні незна-

ёмага. Гэта працягвалася больш, чым магла б працягвацца натуральная цішыня ў падобнай размове.

— Хто вы? — урэшце прамовіў ураджаны да касьцей мастак.

— Патлумачце мне, што азначае гэтая карціна, — настойліва паўтарыў сваё ні то прашэньне, ні то пагрозу дзіўны госьць.

— Я, я... не магу вам патлумачыць, — выціснуў мастак. — Я... я сам дакладна ня ведаю, — дадаў і ажно ўвесь перакруціўся ад агіды да сказанага.

Ізноў запала цяжкая і непрыемная цішыня. Незнаёмец рэзка паклаў залатое яйка назад у кішэню, адвярнуўся ад карціны, прайшоў каля мастака, затрымаўся на нейкі момант, пасьля чаго выйшаў з пакоя і зьнік у дзьвярным праходзе. Мастак, усё яшчэ заварожаны, зразумеў, што так і не пабачыў ягонага твару. Ён выбег на лесьвічную клетку, але незнаёмца там ужо не было.

Мастак вярнуўся ў майстэрню і падбег да вакна, але ня змог нічога пабачыць — на двары была ўжо цемра. Ясна было адно — ягоны шлях вядзе толькі назад. Ён вярнуўся да дзьвярэй, зачыніў іх і накіраваўся ў бок незакончанай карціны. Аднак за пару мэтраў ад палатна ягоны твар працяў крывы боль. Ён імпульсіўна прыпадняў ступак, зь якога сачылася чырвоная фарба. Толькі цяпер ён зразумеў, кім напраўду быў гэты дзіўны госьць.

*2007 — 2009*

## Жыцьцё ня сон
### (урывак зь недапісанага раману)

Я бачыў яе ледзь ня кожны дзень, па некалькі разоў, паміж навінамі пра хлеб і пра сонца. Яна чакана зьяўлялася на тэлеэкране і заводзіла гаворку, якая кожны раз датычыла іншага пытаньня, але нязьменна была пра адно і тое ж. Здавалася, яна можа падоўгу разважаць пра ўсё на сьвеце з сур’ёзным выглядам і без адзінай запінкі. Гэта была галава Прэзыдэнта. Хто б калі мог падумаць, што нашыя дарогі перасякуцца, што гэтая галава, у гэты раз прычэпленая да цела, будзе знаходзіцца насупраць мяне. Я разумеў — гэта ніколі ня здарыцца, але дакладна ведаў, што калі б усё ж нейкім дзіўным чынам давялося стаць з Прэзыдэнтам твар у твар, я назваў бы яго скацінай і сказаў бы, што ў прынцыпе ён не заслугоўвае называцца скацінай, бо скаціна — гэта бязьвінная істота, і што ён проста падла, якая зьнішчыла ўсё, што я любіў, а гэтым і мяне самога, і што дараваньня яму не чакаць, што будзе вечна смажыцца за гэта ў пекле. Я нават завучыў гэтую формулу на памяць, каб у выпадку цудоўнай сустрэчы не схамянуцца, выгарнуць усё проста ў вочы і не міргнуць. Цяпер нейкім незразумелым мне прадвызначэньнем, ён стаяў зусім побач; працягнуўшыся рукою, можна было дакрануцца да жывога Прэзыдэнта. Я доўгі час ня мог паверыць, але гэта была рэальнасьць. “Ты скаціна і ў прынцыпе не заслугоўваеш звацца нават скацінай, бо скаціна — гэта бязьвінная істота, ты проста падла, якая зьнішчыла ўсё, што я любіў, а гэтым і мяне самога, і дараваньня табе не чакаць, ты будзеш вечна смажыцца за гэта ў пекле”, — паўтарыў у думках, каб, крый Бог, не памыліцца. Я разгледзеўся наўкол у пошуку Прэзыдэнцкіх ахоўнікаў, але, на маё чарговае зьдзіўленьне, іх нідзе не было. Прэзыдэнт быў бязь сьвіты. Маё сэрца закалацілася яшчэ мацней. Прыйшла думка, што снайпэры мусілі засесьці на дахах навакольных будынкаў, але, пры-

хавана падняўшы зрок угору, я ізноў не прыкмеціў іхнай прысутнасьці. Кроў ува мне пачынала закіпаць ад хваляваньня, як у чалавека, які стаіць на краі жыцьця. – Ты, – сказаў я так ціха, што сам нават ня быў упэўнены, ці вымавіў гэта ўголас, шэптам, кратаючы вуснамі, ці моўчкі. Толькі цяпер я заўважыў, што апрача мяне вакол Прэзыдэнта зьбіраюцца розныя людзі. Але як можна было абмінуць іх увагай, – падумаў я. Дык вось яны, замаскаваныя ахоўнікі гэтай скаціны... то бок падлы, вось яны. Але, прыгледзеўшыся да іх бліжэй, я ўмомант зразумеў, што гэта не былі ахоўнікі. Гэта былі простыя, такія ж, як я, людзі, якія пэўна былі зьдзіўленыя гэтай нечаканай нагодзе ня менш за мяне. Прэзыдэнцкая ўвага, здавалася, была зьвернутая на ўсіх, апрача мяне. Мяне ж ён ігнараваў, як ігнаруе кожнага, нават самага пільнага гледача, галава ў тэлевізары. Мной перамена кіравала ўражаньне аддаленасьці і набліжанасьці. Відаць, я ўсё яшчэ ня мог даць веры свайму неймавернаму шчасьцю. Колькі разоў я марыў выкрыкнуць: – Свалата! Плюнуць яму ў твар і тут жа забіць яго, выдзерці вочы, загрызьці, разарваць на шматкі, доўга перабіраць у руках яго гарачыя вантробы, насалоджвацца цёмным колерам крыві і ў канцы скарміць ягонае цела пацукам, а галаву... Але Прэзыдэнт, здавалася, зусім не прыкмячае мяне сярод тых, хто сабраўся. Не здагадваючыся пра маю нянавісьць, пра маю крывавую задуму, ён вёў спакойную гутарку з народам. Каго павучаў, каму нешта раіў, каму загадваў, а каго сароміў. Ён рабіў гэта, як сапраўдны мастак, заварожваючы кожным сваім словам, кожнай усьмешкай і кожным нязмушаным жэстам. Слухаць яго ўжывую і са скрынкі – гэта былі дзьве розныя рэчы. Тут ён нават мне самому здаўся на хвіліну абаяльным і дабрадушным чалавекам. Зразумеўшы гэта, я аж сьцепануўся ад агіды і пастанавіў, што маё пасланьне трэба зрабіць неадкладна. Я ня меў права паддавацца зараз на ягоную ілжывую дабрату. Але ж усё-такі ня можа быць, каб Прэзыдэнт выходзіў да людзей без сваіх, злых як сабакі, ахоўнікаў. Можа, лепш не рызыкаваць, плюнуць яму ў твар, крыкнуць „падла" і кінуцца на ўцёкі. А што калі ахоўнікі ўсё-такі тут і пабягуць наўздагон, а што калі разьюшаны народ сам зловіць мяне і пачне рваць на часткі, і падобныя таму думкі завіравалі ў маёй галаве. Не, ня варта ахвяраваць сваім жыцьцём для гэтай падлы, проста ня варта. Хто ведае, якім будзе пакараньне за пасяганьне на Прэзыдэнта. Ці кінуць мяне ў турму, ці проста расстраляюць без суду і сьведкаў, ці сашлюць у якую-небудзь глухамань, ці адрэжуць язык. Ці калі нічога ня зробяць, а проста пакінуць жыць далей – гэта ж самае горшае, што яны маглі б зрабіць. Ды можа, усё ж забіць яго на месцы, адарваць галаву, каб... як у тэлевізары. Але ён такі дужы, што можна і ня ўходацца. Калі б нават удалося яе адарваць, то невядома, ці дараваў бы гэта наступны Прэзыдэнт. Маглі б падумаць, што той, хто раз падняў руку на Прэзыдэнта, не завагаецца зрабіць гэта яшчэ раз. І дзе гарантыя, ці не прышылі б яе назад нашыя, на ўсё здольныя, дактары. Разважаючы пра ўсё гэта, я працягваў глядзець, як Прэзыдэнт гутарыць зь людзьмі, па-простаму, як зь сябрамі, ці... больш як са сваімі дзецьмі, клапатліва, як... Бацька. "Цьфу, стакгольмская зараза, адыйдзі", – сказаў я ў думках і яшчэ раз ад пачатку да канца перабраў сваю замову. Людзі, якія сабраліся вакол, былі задаволеныя і ўсьміхаліся. Напэўна, у іхных вачах нават я сам быў цяпер задаволены. Але ж мне ён быў проста агідны і ненавісны, аднак чамусьці я па-цялячы стаяў там разам з усімі астатнімі і ўжо доўгі час ня мог адарваць ад яго сваіх вачэй. "А можа, ён сапраўды па-бацькоўску любіць усіх нас", – падумалася мне. Можа,

большасьць не памыляецца, калі абагаўляе і ўзвышае яго, калі ставіць яму помнікі ды называе ягоным імём вуліцы вёсак і гарадоў. Не, гэтага ня можа быць. Проста большасьць... падлы. Але ж што рабіць з гэтымі падламі, якія распаношыліся наўкол, як немач. Іх таксама добра было б забіць, але як? – пытаўся я сам сябе. Прэзыдэнт працягваў жартаваць, рукацца і перакідвацца прыемнымі рэплікамі з прысутнымі. Назіраючы за гэтым, памалу я пачынаў траціць рэшткі свайго колішняга куражу. "Ты скаціна" гучала надта грубавата, нават у дачыненьні да такой скаціны, як Прэзыдэнт. "Вы скаціна", здавалася, гучыць больш культурна і цывілізавана. Гэта лепш характарызавала мяне самога. "Вы скаціна і ў прынцыпе..." – у прынцыпе "скаціна" можна было цалкам абмінуць. "Вы ў прынцыпе не заслугоўваеце называцца... Прэзыдэнтам", – прамовіў у думках новаскладзеную фразу і тут жа спыніўся. Як гэта Прэзыдэнт не заслугоўвае называцца Прэзыдэнтам? Мяне ж ніхто не зразумее, апрача... мяне самога. Гэта ж як карове забараніць быць каровай, – падумаў я. Змагаючыся з гэтымі супярэчлівымі думкамі і эмоцыямі, я раптам убачыў Яе. Яна стаяла разам з усімі і, утаропіўшы свае глыбокія вочы ў Прэзыдэнта, назірала за кожным ягоным рухам. „Ах ты лярва", – было першае, што прыйшло мне на думку. І ты таксама, ты таксама, нават ты? Гэта было цьвіком у маю труну. Я ня мог паверыць таму, што сузіраў. Як такое магло здарыцца? Яшчэ на момант у галаве прамільгнула "Ты скаціна..." Аднак я ўжо правальваўся, і гэта была ўсяго думка самагубцы, які, топячыся ў вадзе, цягне за сабою на дно ці нешта самае дарагое, ці штосьці самае ненавіснае, а бывае, і адно, і другое разам. Я зразумеў, што ўжо нічога не скажу, і што нічога больш ня здарыцца. І чым мацней я гэта ўсьведамляў, тым больш я аддаляўся ад Яе, ад Прэзыдэнта, ад людзей. Быццам бы хваляй мяне адносіла прэч з майго дзівакаватага сну. На мяжы, калі ты ўжо ня сьпіш, але яшчэ не прабудзіўся, я паспрабаваў быў апошні і першы раз выкрычаць свой праклён, аднак было ўжо запозна. "Гэта толькі сон, гэта толькі сон", – працягвала паўтараць маё спатнелае, яшчэ несвабоднае цела ўжо свабоднай галаве...

***Эрнэст Гемінгуэй***

# Вельмі кароткае апавяданьне

Аднаго сьпякотнага вечару ў Падуі яго вынесьлі на дах. Адтуль можна было агледзець увесь горад. Перад вачыма лёталі ластаўкі. Хутка пачало цямнець, і ўключыліся ліхтары. Астатнія, забраўшы з сабою бутэлькі, спусьціліся долу. Пазьней іхныя галасы пачалі даносіцца да яго і Луз з гаўбца ніжэй. Луз села на ложак. Яна была бадзёрай і сьвежай, не зважаючы на сьпякотны вечар.

Луз брала начныя зьмены на працягу трох месяцаў. Яны з радасьцю гэта дазвалялі. Калі яго апэрыравалі, каля апэрацыйнага стала ўвіхалася акурат яна; а яны ўзгадвалі жарт пра ката-клізму. Калі ўводзілі наркоз, ён намагаўся захаваць празрыстасьць розуму, каб пад узьдзеяньнем не навярзьці чаго дурнога. Калі палепшаў і ўжо мог хадзіць на мыліцах, то разносіў градусьнікі, каб Луз магла трохі даўжэй адпачыць. Было ўсяго некалькі пацыентаў, і яны на гэ-

та пагаджаліся. Усе любілі Луз. Ён сноўдаўся па калідорах, а ў вачах стаяла карцінка – Луз у ягоным ложку.

Перад ягоным вяртаньнем на фронт яны зайшлі памаліцца ў “дуомо”. Там было змрочна, ціха, вакол сядзелі незнаёмыя ім людзі. Яны хацелі пабрацца шлюбам, але на запаведзі не ставала часу, тым больш у іх не было пасьведчаньняў пра хрост. Яны і так ужо лічылі сябе сужэнствам, але жадалі, каб пра гэта даведаўся увесь сьвет, а таксама каб не згубіць таго, што паміж імі было.

Луз напісала шмат лістоў, якіх ён, аднак, не атрымаў ажно да падпісаньня міру. У казарму прыйшла зьвязка з пятнаццацьцю канвэртамі. Ён перабраў іх па датах і тут жа прачытаў. Усе былі пра шпіталь, пра моцнае каханьне, аб тым, як безь яго цяжка, ды як па начох яе сэрца разрываецца ад суму.

Пасьля перамір’я яны пастанавілі, што ён павінен вярнуцца дадому і знайсьці сабе нейкую працу, каб зарабіць на шлюб. Луз адмаўлялася ехаць зь ім, пакуль у яго ня будзе нейкага занятку, і пакуль ня зможа прыехаць па яе ў Нью-Ёрк. Было зразумела, што ён ня будзе выпіваць, і што ня мае ніякага жаданьня пабачыць у Штатах ні сваіх сяброў, ні кога іншага. Толькі знайсьці працу і пажаніцца. У цягніку з Падуі ў Мілан яны сварыліся з-за нежаданьня неадкладна і разам вярнуцца дадому. Пры разьвітаньні, на вакзале ў Мілане, яны пацалаваліся, так і не памірыўшыся.

Ён вярнуўся ў Амэрыку на караблі з Генуі. Луз паехала ў Пардэнонэ для адкрыцьця бальніцы. Там было сумна і мокра, а яшчэ па мястэчку быў раскіданы вайсковы батальён. Калі ў гарадок са сваёй хлюпай і слотай прыйшла зіма, Луз палюбілася з маёрам таго ж батальёну. Дагэтуль яна ніколі не сутыкалася з італьянцамі. Пазьней напісала ў Штаты, што ўсё, што было раней, – усяго дзіцячае каханьне. Ёй было прыкра, і яна ведала, што ён наўрад ці зразумее, але ўсё ж разьлічвала, што празь нейкі час ён зможа прабачыць і нават будзе ёй удзячны, а яшчэ пра тое, што, цалкам неспадзявана, мае намер выйсьці замуж вясною. Яна нязьменна яго кахала, але толькі цяпер зразумела, што ўсё гэта – усяго дзіцячае каханьне. Яна зычыла яму вялікай кар’еры і выказвала сваю поўную падтрымку. Яна ўпэўненая, што так будзе найлепей.

Маёр не ажаніўся зь ёю ані вясною, ані якой іншай парою. Луз ніколі не атрымала адказу на свой ліст, дасланы ў Чыкага. Хутка пасьля гэтага ён падчапіў вурзпель ад прадавачкі з унівэрмагу, хаця проста праяжджаў на таксі праз парк Лінкальна.





**ДАВЫДЗЕНКА Зьміцер** нарадзіўся ў горадзе Менску 21 студзеня 1978 году ў сям'і выкладчыкаў. Вершамі захапляўся зь дзяцінства, але пісаць іх пачаў толькі ў 17 гадоў.

У 1995 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт на юрыдычны факультэт. Скарыстаўся магчымасьцю ажыцьцявіць сваю мару — вывучаць міжнароднае права й міжнародныя зносіны ў ВНУ з адпаведнымі сталымі традыцыямі — паступіў у Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных зносін (МГИМО) на міжнародна-прававы факультэт. Пасьля закончыў там асьпірантуру па спэцыяльнасьці “міжнароднае прыватнае права”.

Зараз жыве ў Маскве й працуе ў недзяржаўным Інстытуце міжнароднага прыватнага й параўнаўчага права і Калегіі адвакатаў.

## Міле

Любая красуня,
Цуда-чараўніца,
Да цябе цягнуся,
Мару прытуліцца.

Крохкенькі пялёстак,
Тонкая сьцяблінка,
Бачыш, як трапеча
На вятры галінка?

Гэтак неспакойна
Б'ецца-мітусіцца
Сэрца, бо табою
Змушана так біцца.

У пяшчоты промнях
Зіхаціць ды зьзяе,
Цеплынёю поўнае,
Бо цябе кахае.

Ясна уяўляю
Я тваю усьмешку,
Як з табой гуляем
Мы па росных сьцежках,

Як вясновым раньнем
Квеценьню садовай
І агнём каханьня
Кружыць нам галовы,

Як вадой азёрнай
Летні жар астудзім,
Сьпевы ночкай зорнай
Доўга слухаць будзем,

Як блукаем разам
У зімовым лесе,
Як губляем розум
Ад любімых песень.

Да вачэй глыбокіх
І вішнёвых вуснаў
Я з краёў далёкіх
Да цябе імкнуся.

*Чэрвень 2009 г.*

## Міла ў цягніку

Людмілка на працу імкнецца,
У поўны ўваходзіць цягнік.
Аж бачыць – штурхаецца моцна ды пхнецца
Вялізны пузаты мужык.

З усьмешкай агіднай, крывою
Бязьлітасна сплюшчвае ўсіх,
І клеткі грудныя ўсёй тушай сваёю
Бяздушна сьціскае той псіх.

На дзетак, кабет не зважае
Агідны, сьмярдзючы кабан.
Ім косьці балюча ды моцна сьціскае
І прэцца, як быццам бы пан.

Ды так на нагу ён наступіць,
Што аж пацямнее ўваччу.
А месца на лаўцы ў жыцьці не саступіць,
Бо "ўлом" зварухнуцца карчу.

Пляваць ён хацеў на слабейшых,
Галоўным – ягоны камфорт.
Таго, хто лагодны, прыстойны ды меншы
Ён выкіне проста “за борт”.

Людмілка нахабства ня любіць
І моцна яго штурхане!
Па заду цяжкім парасонам адлупіць,
Лакцём пуза не абміне.

Па дупе яго калашмаціць,
Манэрам навучыць як сьлед,
Узгадае дарэчы ягоную маці
Ды выб’е дурноту ушчэнт!

Людмілку народ паважае
Ды жвава разыйдзецца ўбок.
Збаіцца страшэнна яе гастарбайтэр,
Ціхенька заб’ецца ў куток.

Урок мужыкам: паважайце,
Шануйце па-рыцарску дам.
Іначай, даруйце ды перапрашайце,
Расплочвацца прыйдзецца вам.

*Жнівень 2008 г.*





**ДАНІЛЮК Барыс** нарадзіўся 5-га красавіка 1923 году ў Старых Дзяваткавічах Слонімскага павету. Цягам амаль 70 гадоў няспыны працаўнік на грамадзкай і праваслаўнай царкоўнай ніве. Рэдактар сьпярша парафіяльнага бюлетэню ў Брукліне, а пасьля агульнацаркоўнага часапісу БАПЦ “Царкоўны Пасланец” ды ўрэшце ізноў — парафіяльнага бюлетэню “Навіны з Роднае Сьвятыні” (1979-2007), у якіх друкаваліся ягоныя зьвесты з царкоўных падзеяў, артыкулы, прысьвечаныя царкоўным справам, ды вершаваныя пераклады больш як дзясятку псальмаў, а таксама часткі вершаваных перакладаў біблійных паэмаў: (Салямонавая) “Звышпесьня” й “Ярэмавае галашэньне”.

У 2000 годзе частка ягоных вершаваных перакладаў і твораў была выдадзеная ім самым невялікай кніжыцай “Душыныя пасьпевы”, а ў 2006 і 2009 гадох два дзясяткі пакладзеных на музыку да сьпеву гэтых твораў выйшлі таксама невялікім і вялікім зборнікам пад тым самым назовам.

Цяпер жыве на пэнсіі ў Самэрсэце, што ў штаце Нью-Джэрзі, ЗША; піша ўспаміны й зьбірае “Здымкавы летапіс жыцьця й дзейнасьці беларускае эміграцыі ў ЗША й іншых заходніх краінах”, а ў рэдкі вольны час займаецца перакладамі іншамоўнае паэзіі або складаньнем собскіх вершаваных твораў.

---

На ўзор верша **Lucie Merille** ***“C’est le soir d’un beau jour”***

## Гады зьлятуць

Гады зьлятуць, бы ў небе ключ птушыны
І з выраю мы ў родны вернем кут,
Збадзяўшы вёсны ў закутках чужыны
Ў сваё гняздо асядзем пад зіму.

Шляхі жыцьця і блудныя сьцяжыны
На твары зьвяжа ў сетку час-павук,
Завеюць ў косах белыя сьняжыны
Мінулых дзён памылку не адну.

Тады жыцьця, быць можа, каляіны
Ўдвайгу нас зноў, як некалі, зьвядуць,
І расказаць із ростані ўспаміны
З табой на лаве сядзем мы ў садку.

Дзе ў маладосьці ўверныя часіны,
Як шчасьце лятуцелі асягнуць
Й за ім ўвасоб у дальнія краіны
Пайшлі з душой стужэлай, каб вярнуць.

Ды зь лет дарма прапалых прынясьлі мы
Адно па недайдзёных мэтах сум –
Здавала шчасьце быць бо ў далячыні,
А ў родным ўсьцяж яно было кутку.

*Паводле ангельскага перакладу з арабскае мовы аднайменнага вершу Тага Муггамад Алі*

## Помста

Я неаднойч спакусна мрою
У паядынку з тым сустрэцца,
Мяне зрабіў што сіратою
Ды жыць ня даў пад роднай стрэхай
Й з Айчыны выгнаў на чужыну
Заб'е мяне – я ўрэшт спачыну,
Заб'ю яго – за крыўды помшчу!

Калі ж я неяк мо дазнаю,
Як з ворагам мне здарыць стрэцца,
Матулька, што яго чакае
Й айцец кладзе руку на сэрца,
Як спозьніць сын хоць на часіну –
Тады забіць я не магчыму,
На тое будзе хоць нагода.

Яго таксама не заб'ю я,
Як ўведаць можа давядзецца,
Што сёстры й брат па ім сумуюць
І спадзяюць усьцяж сустрэцца,
Ці, можа, жонка прывітаць чакае,
Ды бацька дзеткі выглядаюць,
Спадзеючыся на гасьцінцы.

Або, як ён, быць можа, мае,
Сяброў і прыятняў надзейных,
Суседаў, ўшчыр што паважаюць,
Супольцаў зь вязьніц ці лячэўні,
Калегаў, што не забываюць
Ды праз яго хоць зрэдзь пытаюць
І праз сябе парою весьцяць.

А будзе як аб тым на яве,
Што ён усьцяж жыве адзінцам,
Бы з дрэва ўпаўшы вецьсухая,
Сам, ні бацькоў, каб прытуліцца,
Ні сёстраў й брацьцяў ён ня мае
Й дзяцей ды жончынай патолі,
Я не дадам яму больш болю
Ў ягонай горкай адзіноце.

Ні жаху, як жыцьцё ўцякае,
Ні ляку, скон як падкрадзецца,
Бо здоваль ўрэшт мне будзе тая,
Што, як здарыцца зь ім сустрэцца,
Яго мінаючы маўкліва,
Ў ягоны бок вачмі ня кіну
Й мая у гэтым будзе помста.

## Тугі крыніца

Уздоўж па вулачак таку
Зярняты сьнегу вецер вее,
Нью-Ёрк, змарыўшыся, заснуў
За дзень, бы ўпрэлы малацельнік.

Праз вокны ў цемру я гляджу,
Аж неба ўсходні край зьвіднее –
За морам мне мой родны кут
Відны ў кунежных летуценьнях.

Відзён у згадах, як было,
Абраз наймілага мне места,
І ўся ваколіца ўвакол
З маёй сяброўкай-рэчкай.

О, места любасьці маёй,
Тугі нязсохная крыніца –
Ўвесь час я думкамі з табой,
Твае красы няўздоль забыцца.

На Ражаную йду гару,
Скуль вулкі чыста ўсе відныя –
Дамкі аселыя ў зямлю
Ды вежы даўнасных сьвятыняў.

Па тых я вулках бы хаджу,
Як ў час малодняе даўніны
Й што за нейкім рогам судашу,
Здаецца постаць любае дзяўчыны.

Ды зь ёй узноў ўдвайгу пайдзем
У нашы скрытныя мяйсьціны
Й салодка будзем лятуцець
Праз прыйсьці шчасныя сьцяжыны.

Ды тыя сьцежкі йнакш пайшлі,
Як зь ёй тады мы варажылі –
У даль ад роднае зямлі,
У глыб заморскае чужыны.

І хоць у крыўду Бог ня даў,
Як жыць дайшло між несваімі,
Мае тугі ён не суняў
Навек па згубленай Радзіме.

Й таму я ўявамі сачу
Парой, аж неба край зьвіднее
Й відзён на ўсходзе, бы ўваччу,
Мне любы Слонім ў летуценьнях.



## Пра дзеда й бабку ды курачку Рабку

Пацікуйце, калі ласка,
Недаўгая гэта казка,
Калі збаяць па парадку
Недалёк канец пачатку.

А пачаць нам дужа проста:
Каля рэчкі, каля моста,
Ад сяла ганы, бяз мала,
Хатка курная стаяла.

Дзед із бабкай жыў у хатцы –
Бог самым судзіў застацца:
Ў маскалі забралі сына
Ды ў вайне прапаў хлапчына.

Што цару зямлі ўсьцяж мала,
Гажуна-хлапца ня стала,
Каб адну йшчэ ўзяць краіну,
Ён ў чужой зямлі загінуў.

Сьледам гэтай горкай страты
Ня йшла радасьць блізка хаты,
Згінуў бо спадзеў й падпора
Засталося па скон гора.

Век старыя бедавалі,
На хлеб чорны прыраблялі:
Дзед кашы плёў, ладзіў лапці,
Бабка брала кудзель прасьці.

Бо малое ў іх багацьце:
Вось, гародзец быў пры хаце –
Шмат вясной бывала ўходу,
А на восень – мерка плоду.

І жывёла ў іх адная
Была курачка рабая,
Па прыгменьні пахаджала,
Корму ўсё сабе шукала.

Дзед із бабкай пілнавалі,
Куркі з вока не спускалі –
Не схапіў каб ястраб шпаркі
Той жывое гаспадаркі.

Часу так зыйшло ці мала,
Ўлегцы курачка гуляла,
У пяску сабе граблася
Ані крыху не няслася.

Вось старыя й разважалі,
Рады той бядзе шукалі
Ды адказ быў недалёка –
Вінна тут ліхое вока.

Клопат гэтакі ня новы,
Ды на ўрокі ёсьць замовы,
Калі ўпамяць хто іх знае,
Вельмі борзда памагае.

Бабка курку абкурыла,
Ўсе замовы згаварыла,
Поклад ў кошыку паклала,
“Згінь нялюдзкая навала!”

Ды рабенькай курцы мала
Тое ўсё штось памагала,
Пахаджала па гародзе,
Хоць заплач ты гэта й годзе.

Ажно бабцы раз ўлучыла:
Клубок нітак з рук пусьціла,
Скрозь праз хату ён каціўся,
Аж пад печай апыніўся.

Бабка ўжо як даставала,
Качаргой нат выграбала,
Не дастаць ніяк, хоць што ты,
А шкада ж свае работы.

Адна рада на прычыну:
Засьвяціць дайшло лучыну
Ды хоць як ламалі плечы
Ракам сунуцца ў падпечча.

Там клубок ураз адкрыўся,
(Быў у ямку ён ўваліўся),
Вось табе й з драбніцы справа ...
Ды якая йшчэ тут зьява?

Бабка вочам не ўвярае,
Рукавом іх працірае:
Ці ж папраўдзе у куточку
Ляжаць яйкі у грудочку?!

“Ах, ты курачка рабая,
Вось штукарка ты якая,
Гэта ж як я бедавала,
А ты яйкі тут хавала!”

Бабцы зараз на від гэты
Перасталі балець плечы,
Ўвадварот уміг адпоўзла
Пашукаць пасуд зьмястоўны.

Паўкапы яёк, найменш як,
Скласьці ўсе ў ім так бясьпечна,
Каб, крый Божа, й выпадкова
Не разьбіць нат ніаднога.

Ў хаце ж, ў той час, як знарочна,
Не было гаршкоў парожных,
Кром адной глінянай місы,
Што стаяла на паліцы.

Бабка за яе ўзялася
І ўпадпеч зноў падалася
А там яйкі з асьцярогай
Ў місу склала цэлым стогам.

Ды з тым выпаўзшы багацьцем,
Яйкі ў місе занясла ўсе
Ўзноў на тую ў кут паліцу,
Скуль схапіла ўперад місу.

А з уцехі небывалай
Неўзнарок ня ўпілнавала,
Што з гарбом тых яек міска
На паліцы стала хістка.

Тутка й дзед ўвайшоў у хату
Й веры даць ня мог, што ўбачыў,
Ўсыць смакотнага наедку,
Што й Вялікднем бываў рэдка.

Але больш як паўглядаўся,
Зараз захаці набраўся:
У жыцьці хоць раз пад’есьці
Ўволю йз скваркамі яечні.

Ды спакус той дзедаў шпарка
Асадзіла зусім бабка –
Моў, ня стаць ім на ласункі,
Як трэ грошы на справункі.

Дзед пярэчыць устрымаўся,
Бо з патрэбай й ён згаджаўся,
Ды, ўсё ж, з крыўдаю па страце,
На вячэру стаў чакаці.

На вячэру ж ў іх нязводна,
Што і ўчора, было штодня:
Бульба зварана ў адзеньні
І капусты шчопці зь семям,

Ды запітак той ежы пышнай
Быў расол з цыбулі крышкай,
А як чулася йшчэ пуста,
Елі хлеба па паўлусты.

Па вячэры ж часу мала
Да цямна ўжо заставала,
Дык, каб не паліць лучыну,
Рыхтаваліся к спачыну.

Й змоўшы пяцяры, як ўмелі,
Ў свае клаліся пасьцелі:
Палягчыць каб боль у плечах,
Слаўся дзед, дзе ўпёк на печы.

Бабка ж, што раней ўставала,
На палку сабе лож клала,
Ўстаючы каб за цямна йшчэ,
Ня дай Божа ня упасьці..

Так палёгшы, без упыну
Падаліся ў сноў краіну,
Дзе ня трэ ўбівацца працай,
А мага й зраскашавацца...

Вось і дзеду ў сьне здалося,
Што збыць яйкі удалося
Не за хоць якую цэну,
А за грошай цэлу жменю.

А з той жмені сабе частку
Для свайго ён ўзяў выдатку
Ды прайшоўшы сюды-туды
Накупляў кручкоў да вуды.

Бо рыбак ён быў заўзяты,
Не бываў хоць злоў багаты,
Ў рэчцы бо, што блізка хаты,
Рыба ўжо амаль зьвялася.

Але дзед яшчэ ўсё верыў,
Што ўтаіўшыся пад бераг
Шчупакоў ў мутной глыбоці
Йшчэ нямала засталося.

А спаймаць каб з таго стада
Аднаго хоць, трэ прылада,
Не сваймі згнута рукамі,
Але куплена у краме.

Й як кручок з жыўцом ў цеч кінуў,
Шчупак ўзяўся, бы падсьвінак,
Аж дзед начыста змарыўся,
Покуль з рэчкі яго выцяг.

А адсопшы, у шынк падыбаў,
Бо быў пэвен, што за рыбу
Ў час пад шабас, без размовы,
Дасьць карчмар жмень залатовак.

І за пару зь іх якую
Сябрукоў ён пачастуе
Ды глыне за свой грош чарку
Зь ніч'е ласкі, ці падарку.

А ўсьлед грош як застанецца,
Бабцы ўсю аддасьць ён рэшту,
Каб няхай ня выйшла крыўдна,
Што заробак ўвесь прапіў ён.

Бабцы ж ў той час ў сьне здалося,
Што ўзяла за яйкі грошай,
Колькі ў іх шчэ не бывала,
А на закупы ўшчодр стала.

Голак, гузікаў ды нітак
Й гаплікоў яшчэ да сьвітак,
А й дзьве пары стальных шпіцаў
Зьвязваць назім рукавіцы.

Ўсяго бабка накупляла
Й ўпроць спакусы не ўстаяла
Ды сабе тавар на блюзку
Йшчэ купіла з ў кветкі хусткай.

Вось так шчасна яны й спалі,
Мышы ж ў хаце ўскрозь гулялі,
Ды ня то, каб для забавы,
А знайсьці каб крыху стравы.

А яе у бабы й дзеда
Не было нідзе нат сьледу,
Яёк толькі поўна міса
Ўсё стаяла на паліцы.

Мышы сыць ўраз асачылі
Й зьесьці як яе, хітрылі,
Бо грызлы ўва ўсіх іх дробны
Ды ўкусіць яйко нягодны.

Але ўхітр, як трэ, знайшоўся:
Мышы ўсіхным іх натоўпам
Місу збоку абчапілі
І з паліцы ўдол звалілі.

Вобзем ўпаўшы, трэсла міса,
Яйкі лужай разьлілься,
А з той лужы мышы сьпешна
Налізаліся яечні.

Той ўвесь чыста грукат моцны
Разбудзіў так бабку зо сну,
Што лучыну запаліла
Ды на ўсю моц загаласіла.

Бо адразу відна стала,
Што багацьце ўсё прапала
Й як датуль ў бядзе жылося,
Надалей так засталося.

Тут і дзед ўніз зьлез зь печы
І як мог, так бабку цешыў,
Хоць і сам ня быў уверны,
Што кон ў лепшы бок паверне.

Бо ўжо ведаў, што ніколі
Шчупака ня зловіць болей.
І ў карчму, каб чарку выпіць,
Ўжо ня будзе як зайсьціся.

Вось я й казку ўсю вам збаяў,
А зь яе навука тая,
Што ўсьцяж трэба сьцерагчыся,
Каб ня ўшкодзілі й нам мышы.

Шчасьце бо, як тая курка,
Не назносіць яёк хутка,
А ў жыцьці так можа стацца,
Што ня ўдасьць іх дачакацца.





**ЖВАЛІКОЎСКІ Юры** нарадзіўся ў 1951 годзе ў прыгожым маляўнічым горадзе Пружаны ў вялікай і вельмі дружнай сям'і Лаўрыся Жвалікоўскага. Старэйшы брат і сёстры далі яму імя. Зь першых дзён маці Зіна далучыла яго да музыкі сваімі калыханкамі. Прайшоў час, і ён сам пачаў пісаць музыку. Ёсьць песьні на словы Карызны, Харкова, Ясеніна, Гамолкі. Вось ужо больш як паўстагодзьдзя музыка крочыць разам з гэтым чалавекам. Ён таксама захапляецца музэямі, тэатрамі, падарожжамі; яшчэ ўлюблёны ў лес: грыбы, ягады, фотапаляваньне... тэлеперадачы пра рыбалку.

З 2004 году стаў прафэсійным падарожнікам: душа пазнаёмілася з словам "свабода", а вочы ўбачылі, якая прыгожая нашая плянэта. З гэтага часу пачаў актыўна пісаць вершы.

*Не рубайце галіну, на якой мы ўсе сядзім.*

## Блакітны Шарык

Не дзяліце і ня рвіце папалам блакітны шарык,
Мы усе тут толькі госьці.
Давайце будзем будаваць ўсе разам прыгожы шчасьця мосьцік.
Хапае месца для гасьцей,
І кожны хоча быць ў гасьцях даўжэй.
Хай будзе на плянэце нашай бясконца сьвята,
Хай моладзь зажыве ў стагодзьдзі гэтым мірна,
Па-сяброўску і багата.

*Лос-Анджэлас, Каліфорнія*
*8 сакавіка 2009 г.*

## Моцныя Крылы

Жнівень. Пчолы ўжо набралі для людзей
І для сваіх маленькіх дзетак мёд.
У паветры над палямі чуцен клёкат – гэта птушаняты з маткай,
З таткам робяць першы у сваім жыцьці палёт.

Калі крылы набіраюць сілы –
Птушаня спрабуе даць сардэчным марам ўзьлёт.
Клічуць птушак дальнія краіны, а радзімае гняздо,
што вісіць на "зломанай галіне", адпускае птушак самастойны шлях шукаць.
Гэта шчасьце – што акрэплі крылы, што для мар хапае сілы,
І Зямля-Матуля дазваляе сваім дзяцям па усёй плянэце вандраваць.
Сонечны гадзіньнік цікае... хвілінка за хвілінкай час губляе...
І ніхто для нас згублёны час не паўтарае!
Вецер што ёсьць моцы дзьме. Тым, хто ў палёце, вецер часам і дапамагае!
Кожны з нас, як тыя птушкі, мусіць зьдзейсьніць свае мары,
Нават калі бачыць ў небе хмары,
Усё роўна, ён павінен раз у жыцьці, як птушкі, "крыламі" сваімі памахаць і сказаць:
"Вялікі дзякуй небу, што дае магчымасьць бачыць сёньня сонца
І сяброў у розных гарадох плянэты сустракаць".

## Тадэвуш Касьцюшка

За Незалежнасьць і Свабоду
Ў Новым Сьвеце,
Каб было шчасьце на Плянэце,
Тадэвуш – слаўны прадзед наш –
Крывёй сваёй і для цябе, і для мяне
Свабоду здабываў.

Тым, хто дастойны яго славы,
Магчымасьць даўісьці
З паднятай галавой,
На роднай мове размаўляць
Паміж сабой.

Быць роўнымі сярод
Такіх жа роўных –
Пра гэта марыў ён,
Касьцюшка – наш герой.

Пра гэта трэба помніць вечна,
Мой браце, нам з табой.

## Беларуская Каралева

Павага да Вялікіх і Малых людзей
І хараство тваіх вачэй,
Твой позірк шчыры, добры, мілы твар –
Пра ўсё гэта павінен прасьпяваць таленавіты наш Пясьняр.
Вялікай сьціпласьці тваёй

І розуму ў тваіх вачах
Павінен гімн на цэлы Божы сьвет гучаць!
Ты – сьветлая надзея Беларусі...
Я суайчыньнік твой і гэтым ганаруся!

І укладаю, як магу, я словы сьпеву
Пра Беларускую пра нашу Каралеву!

## В. К. (Вялікая Клапатніца)

*Віялеце Кавалёвай*

Сьціпласьць, цеплыня вачэй...
Ня ведаю, што можа быць
У жыцьці жанчыны даражэй.
І гэта сьціпласьць схаваць хацела
Ад чужога вока
Вялікі чалавечы дар,
Якім ня кожнага так шчодра
Адарыў нябесны Уладар.

Душэўнай цеплыні хапае,
Каб вялікую сям'ю людзей сагрэць.
Утульна зь Віялетай
У вечары за шклянкай чаю,
Ці за бульбай
З пахучай скваркай сала пасядзець.

І кожнаму, калі патрэбна,
Яна аддасьць кавалачак душы сваёй,
І, не шкадуючы агню,
Нас абагрэе шчырай цеплынёй.

А тое, што зрабіла і што робіць
Віялета для роднай Беларусі
У некалькіх слупках не надрукуеш.
Ды я і не бяруся,
Але ж скажу хоць два-тры словы
Пра зьберажэньне роднай мовы.

Як быццам карамыслы зь вёдрамі вады,
Яна хавае ад атруты і бяды
Крыніцы родных песень,
якімі ўпрыгожвалі сваё жыцьцё
Ліцьвінскія дзяды,
Яна даносіць да нашчадкаў
Праз доўгія, няпростыя гады.

Вялікі дзякуй!
Гэты мінімум я не лянуюся
Ў думках Віялеце пасылаць.
А пры сустрэчы жанчыне гэтай
Буду доўга рукі цалаваць.

*11 Лютага 2009*

***P.S.*** *Здаецца, што каля самага сэрца Віялета беражэ жменьку цудоўнага насеньня, каб праз гады з гэтай жменькі вырасла вялікае поле прыгажосьці і хараства на радасьць людзям.*

## Аб’едкі

Не кладзі свае аб’едкі абы-дзе.
Пакладзі на край дарогі.
Глянь, малое птушаня да нас ідзе!

Нешта птушкі там стракочуць –
Можа, птушкі есьці хочуць?
Бачыш, даспадобы з грэчкі каша!
Будзе птушкам дапамога наша...

## Дзіва

*“Ты нясі мяне нясі, конь незацугляны”*

Хто бачыў, як імчаць
Па полі дваццаць, можа, дваццаць пяць
(Хто іх лічыў) аленяў маладых;
Такіх прыгожых, спрытных,
Мускулістых, трошачкі худых.

Ляцяць прыгажуны, як тыя стрэлы,
Што пусьціла напружаная цеціва
Ў паветра пагуляць.
Ляцяць так лёгка, калі ня бачыш іх,
То анічога не чуваць.

Я сёньня раніцой убачыў
Гэта Божае тварэньне.
Такая асалода на душы,
Такое чыстае і сьветлае задавальненьне!

Павольна еду ды гляджу,
А позірк мой ня хоча
Гэта дзіва пакідаць.
Прайшла хвілінка – не ўтрымаўся
І пачаў пра гэты выпадак пісаць.

*Ваёмінг, 2008*





**ЗАЙКА Віталь** нарадзіўся ў 1961 годзе ў Лагойску. Скончыў фізфак Белдзяржунівэрсытэту. Браў удзел у працы нефармальнага Беларускага навукова-гуманітарнага таварыства ў канцы 1980-х гг. Дэлегат Устаноўчага зьезду БНФ 1989 году. У 1991 — 1995 гг. працаваў у Навуковым цэнтры імя Скарыны, займаўся беларуска-гэбрайскімі культурнымі сувязямі і праблемамі нацыянальнай ідэнтыфікацыі. З канца 1990-х гадоў — у ЗША, бярэ ўдзел у дзейнасьці беларускай грамады Амэрыкі. Аўтар шэрагу публікацыяў навуковага характару і культуралягічных артыкулаў.

# Кося

Першым гаспадаром Косі быў стары дзед Гавароўскі ў засьценку Імжэвічы каля Клічава. Ён быў высокі й худы, зь сівымі вусамі, заўсёднай трохдзённай шчэцьцю, якая калола Косеву храпу. Дзед па сваёй звычцы абдымаў яму галаву і прыціскаўся барадой, доўга гледзячы ў Косевы вясёлкавыя, бы з бэнзынавай плеўкай, вочы. Кося бадаўся зь дзедам, і дзед жартам паддаваўся. Штораніцы была ў іх свая цырымонія пачатку новага дня.

Кося нарадзіўся буланым жарабком, колеру дубленага карой кажуха, зь цёмным рэмнем па сьпіне, чорнымі грывай і хвастом. Песьціў яго Гавароўскі першыя гады, але і пасьцябаў добра ў свой час, запрагаючы ў воз, вучачы хадзіць у плузе, не крывіць баразну. Потым старога Гавароўскага з усёй сям'ёй выслалі ў Котлас, а Косю перадалі ў сельсавет, дзе ён вазіў упаўнаважанага Каптура, чарнявага бабыля, які наглядаў за стварэньнем калгасаў на абшары трох навакольных сельсаветаў.

Раз, панёсшы сані на голас адной жвавай кабылкі каля вёскі Ўсакіна, Кося выгвернуў у сьнег Каптура і акруговага інспэктара Наркамзему з Бабруйску. “Чаму конь ня легчаны?” — атрасаючыся ад сьнегу, спытаў інспэктар. “Меліся забіраць яго ў кавалерыю, у Самарскую дывізію. Вот мучаюсь зь ім, таварыш

начальствуюшчы”. Інспэктар, вусаты вясёлы таўсьцюк, абыйшоў Косю наўкола. Пляснуў па шорсткім крыжні, тузануў за цуглі: “Жарабок хоць куды, на ўсе сто. А тая Самарская будзе – мэхдывізія, сам чуў на апошняй нарадзе. Коней перадаюць нам, у Наркамзем. Дык ты вось што: гані яго ў Бацэвічы, у арцель. Цыган там ёсьць, спэц па гэтай часьці”.

Косю перасталі цікавіць кабылы. Потым Каптур згарэў аднае ночы разам з сельсавецкай хатай, а Косю завялі ў Клічаў, у малочную арцель, якая стала неўзабаве маслазаводам. Там і вазіў Кося флягі да самай вайны.

Конюхаў у нарыхтоўчай арцелі зьмянілася за тыя некалькі год ажно пад дзясятак. Перадапошняга, п’яніцу і злодзея Дзежку, забралі на фінскую вайну. Так, у 1939 годзе конюхам і возчыкам Косі стаў Бронька Садоўскі. Кося і Бронька, вясёлы высокі хлопец з заўсёды ўсьмешлівымі вачыма, адразу пасябравалі. Бронька справіў Косю новы хамут і аброць. Кося ад’еўся, загаіў нацёртыя плечы. Мутнавокі лысы Дзежка прапіваў Косева сена, мяняў авёс на трасянку. Хамут прадаў, падмяніў нейкай старой ламачынай са сьметніку. Бронька ж даваў Косю ўсё самае лепшае, часам прыносіў з хаты буракоў, хлеба або кавалак цукру. Выбіў у райкамгасе новы хамут.

Паўгады раней Бронькавага бацьку, цесьляра з арцелі “Чырвоны Прафінтэрн”, арыштавалі за “нацдэмаўшчыну” і шпіянаж на карысьць Польшчы. Язэп Садоўскі любіў чытаць вершы, яшчэ ад часоў, як сусед ягоны даваў паглядзець газэту “Совецкая Беларусь”. Ён і сам складаў вершы, адзін зь якіх ужо прынялі былі ў магілёўскую абласную газэту, але так ніколі не надрукавалі. Аднойчы Ціт Семяненя, вартаўнік хаты-чытальні, паведаміў Язэпу, што ў іх выкінулі ладны стос кніжак. Імі ўсё роўна будуць паліць у печы, дык каб зайшоў узяў сабе што цікавае. Язэп адклаў сабе дзясятак кнігаў вершаў – Александровіча, Лявоннага, Звонака, Шукайлу, пару тамоў са збору Купалы.

Потым аказалася, што выкінутыя кнігі – палітычна варожая літаратура. Бацьку, Семяненю і качагара Ментуза, які абклеіў выкінутымі газэтамі сьцены ў хаце, арыштавалі. У Бабруйску ім, разам з настаўнікам Эпштэйнам, у якога знайшлі камплект часапісу “Узвышша”, зьляпілі справу аб злачыннай групе. У раённай газэце выйшаў артыкул “Нацдэмаўская вылазка фашыстаў у раёне”, пра нацдэмаўскіх польскіх шпіёнаў у Клічаве, што хацелі адарваць Беларусь ад СССР. Броньку і старэйшага брата Фэліка пачалі дражніць фашыстамі ў школе. Сёстрам таксама перапала мянушак. Маці езьдзіла ў Бабруйск, адзін раз дазволілі перадаць харчы і адзёжу. Бацьку прысудзілі дзесяць год, безь перапіскі.

Маці звольнілі з працы санітаркі ў амбулаторыі, “фашысты ня маюць права лячыць савецкіх людзей”. Яна ўладкавалася на пякарню. Цяжкая праца, мяхі з мукой па 60 кіляў. Муку трэба прасеяць, замясіць у вялізных дзежах цеста. Увечары маці валілася з ног, але ўвесь час казала: “Нічога, вернецца бацька – усё наладзіцца”. Фэлік тым часам уладкаваўся працаваць цесьляром у МТС.

Сёстры Нэля і Франя часта прыходзілі дахаты ў сьлязах – школьныя актывісты абражалі, плявалі, рвалі сшыткі. Большую, Франю, спрабавалі мацаць па дарозе, засоўваць рукі пад спадніцу: “З ворагамі народу можам рабіць усё!” Фэлік хацеў падпільнаваць актывістаў, пастрашыць сякерай, але Бронька меў свой плян. Запрог Косю і – на вуліцу, дзе школа, як скончыліся заняткі. Пад’ехаў ззаду да гыгыкаючай купы “актывістаў”, што йшлі за сёстрамі й не-

калькімі суседзкімі дзяўчатамі. Узьняўшы пугу, спрытна і з усяе сілы пачаў сьцябаць хлапцоў, тыя кінуліся наўцёкі. Пасьля гэтага больш зьдзекаў зь сясьцёр не было. Баяліся, што могуць быць наступствы, бо сярод "пасьвенчаных" Бронькам падшыванцаў быў Крыцкі, сын старшыні райсавету, ды абыйшлося.

У жніўні 1939-га сталі хадзіць чуткі, што як Сталін паразумеўся з Гітлерам, дык хутка ўсіх "фашыстаў" павыпускаюць з турмаў. Фэлік з маці езьдзілі ў райаддзел НКВД, але там нічога не даведаліся пра бацьку. Дзяжурны праз вакенца сказаў, што калі будуць якія навіны, дык ім паведамяць. Празь некалькі месяцаў сталі даходзіць глухія чуткі, што у "Западняй", як называлі далучаную да СССР Заходнюю Беларусь, арыштоўваюць буржуяў і фашыстаў, а таксама польскіх асаднікаў. Шафёр зь міліцыі Коля Крыцкі, брацішак старшыні раённага савету, неяк на гулянцы расказаў "пад мухай" прысутным мужчынам, што камандзіроўка ў "Западнюю", адкуль ён прывёз сабе некалькі адрэзаў шэвіёту, кілім і загатоўкі на боты, была насамрэч не чырвонаармейцаў вазіць. Коля з двума вартавымі перавозіў арыштаваных з Радашкавіч і Ракава ў Менскую турму. Спадзяваньні на бацькава вяртаньне зьніклі гэтак жа хутка, як і зьявіліся.

Бронька ў кампаніі стаў сустракацца зь Мірай Эпштэйн, дачкой арыштаванага настаўніка Эпштэйна, што жыла на суседняй вуліцы. Каталіся на лодцы ля старога млына, хадзілі глядзець кінафільмы, бывалі на танцах у клюбе. Міра, вясёлая, гонкая, з правільнымі рысамі твару ў атачэньні чорных бліскучых косаў, з чорнымі выразнымі вачыма, была марай усіх хлопцаў зь іхняе ваколіцы. Бронька ганарыўся, што Міра ходзіць зь ім.

Іх яднала нешта яшчэ – у яго і яе арыштаваныя бацькі, абодвум крычэлі "фашыст", над абодвума вісела нейкая цёмная хмара. Аднойчы, калі Бронька завёз Міру на возе з Косем далёка за Клічаў, яны ўпершыню пацалаваліся. Па дарозе назад Міра расказала, што яе выклікалі ў акруговы аддзел НКВД у Бабруйск, прапаноўвалі паведамляць пра настроі працаўнікоў МТС, дзе Міра працавала табэльшчыцай. Сяржант з трыма трохкутнікамі на малінавых пятліцах казаў: "Вы ня верыце таварышу Сталіну, бальшавіцкай партыі, ворганам НКВД, што стаяць на абароне заваёваў сацыялізму?" "Ну як я магу ня верыць таварышу Сталіну?" "Сумняваецеся, ставіце пад пытаньне". "Не, не!" "Вы толькі што сказалі: Як я магу... Пытаньне? Пытаньне!!! Запытальнік у канцы! Вы ставіце пад пытаньне!" – і бразнуў з усёй сілы кулаком аб стол. Потым спакойна сказаў: "Мы губляем час. Калі не пагаджаецеся – матка ваша пойдзе ўсьлед за бацькам". Міра пагадзілася. І цяпер вось плакала, прыціснуўшыся да Бронькавага пляча. Яе сьлёзы і яе давер нейк патаемна радавалі. Але ў Броньki ў горле стаяў камяк. Хто ведае – заўтра могуць прыйсьці і па Бронькаву матку, і па Фэліка, і па яго самога.

І вось вайна, пра якую чыталі ў газэтах і бачылі ў кінахроніцы, прыйшла ў Беларусь, дацягнулася пад Клічаў. Аб'явілі мабілізацыю 1905 – 1918 гадоў нараджэньня. Потым па радыё перадалі, што добраахвотнікі непрызыванага ўзросту могуць запісвацца ў зьнішчальныя баталёны супраць дывэрсантаў і парашутыстаў. Фэлік і Бронька пайшлі запісвацца добраахвотнікамі. Запіс вёў старшыня райсавету Крыцкі. Убачыўшы братоў Садоўскіх, каржакаваты, з кудзярамі сьветлых валасоў, Крыцкі падняўся з-за стала: "Вам што трэба? Зброю, страляць у нас? Фашыстаў не запісваем!" На ганку райсавету Фэлік

сплюнуў, запаліў папяросу. “Во як. Кіпучая-магучая. Родзіна-уродзіна. Не, Бронька, гэта ня нашая вайна”. Праз тыдзень, на пачатку ліпеня, у Клічаў увайшлі немцы.

Першымі з боку Асіповіч прастракаталі матацыклісты, тады праехала некалькі плютонаў раварыстаў. Потым пацягнуліся вялікія накрытыя фуры, запрэжаныя коньмі, часам коні замест фуры цягнулі гармату. Затым калёнай пайшлі пыльныя, зь цёмнымі плямамі поту пад пахамі і на сьпінах, пешыя немцы.

Мянтузіха, жонка забранага качагара, выйшла на вуліцу зь вядром вады і конаўкай, стала бліжэй дарогі. Асобныя жаўнеры спыняліся, хутка каўталі ваду, беглі далей у строй, паляпаўшы Мянтузіху па сьпіне. Саскочыў з каня афіцэр, паўзіраўшыся ў конаўку, таксама выпіў, стаў нешта гаварыць. Да Мянтузіхі патроху сталі падыходзіць свае, клічаўскія. Афіцэр-немец пачаставаў мужчынаў цыгарэтамі, пстрыкаў фэцкай запальнічкай, падносячы агонь. Фэлік таксама падыйшоў, пачаставаўся цыгарэтай, хоць казаў пасьля Броньку, што тытунь у немца слабаваты.

Мянтузіха пыталася ў стаяўшых: “Коней яны добрых маюць, а дзе ж іхныя танкі, машыны?” – “Нашто тут танкі? Нашых лапцюжнікаў і роварамі перадавяць. Райкамаўскія і міліцыя разам з НКВД уцякалі так, што толькі пыл курэў,” – азваўся нехта побач. Фэлік сказаў, што танкі, пэўна, пайшлі наўпрост, ад Бабруйску на Магілёў. З боку Магілёву некалькі дзён моцна грымела кананада.

Пасьля нямецкіх франтавых адзінак у Клічаве стала жандармэрыя – крыклівыя дзядзькі, пераважна стараватыя немцы. У расклееных улётках гаварылася, што ўлада пераходзіць да палявога камэнданта, і што за непадпарадкаваньне яму, за пашкоджаньне камунікацый, шкодніцтва – расстрэл.

Бронька надалей працаваў на маслазаводзе, вазіў бідоны з малаком, але працы стала меней. Аплата была натурай, некалькі літраў малака штодзень. Часта яны з Косем заяжджалі куды ў поле або на пералесак ля Ольсы. Бронька пускаў Косю пасьвіцца, а сам рэзаў венікі-дзеркачы, лупіў лыка, плёў хадакі і кошыкі на продаж. МТС перастала існаваць, і Фэлік зарабляў на жыцьцё, робячы людзям сталярку і цясьлярскія працы, хадзіў зь пілой-нажоўкай і фуганкам па навакольных вёсках. Маці засталася працаваць на пякарні, дзеўкі дома перашывалі вопратку людзям.

У мястэчку сталі арганізоўваць нямецкую адміністрацыю, стварылі паліцыю. Адчыніліся царква і касьцёл. Маці хадзіла ў касьцёл, маліла, каб вярнуўся бацька, бо ў верасьні ў Клічаў вярнуўся Мянтуз, што праходзіў з бацькам па адной справе. Яго прывезьлі зь лягеру ў Карэліі, дзе пілаваў лес, на перасуд у Бабруйскую турму. Калі турму эвакуявалі, яму ўдалося ўцячы з-пад Спас-Дзяменску ў Калускай вобласьці. Празь некалькі месяцаў ён дабраўся дахаты. Пра бацьку Мянтуз нічога ня чуў.

Вярнулася і Міра, што ў чэрвені паехала ў Менск, паступаць у пэдінстытут. Яны сустрэліся на вуліцы: Бронька спыніў Косю, Міра падыйшла да воза. Яна распавяла, што ў Менску ўтварылася гета, гэбраяў рабуюць і забіваюць сярод белага дня. Голад. Бронька слухаў і адчуваў, як нейкая нябачная, але амаль адчувальная фізычна сьцяна паўстае паміж імі. Завіруха першых месяцаў вайны неяк цалкам адсунула Мірын вобраз некуды на пэрыфэрыю Бронькавых думак. Вось цяпер Міра, што была так дарагая, – перад ім, а яму няма чаго сказаць ёй. Трэба суцешыць, абняць, распытаць пра ўсё-ўсё, што было зь

ёй гэтыя месяцы. Але Бронька бачыць сябе нібы збоку – ён стаіць перад Мірай, ногі наліліся сьвінцом, ён ня можа паварушыць языком, рукой. Ён маўчыць. Што гэта, страх? Здаецца, не. Дый з-за чаго? Тут, у Клічаве, усё спакойна, нікога не забіваюць. Абыякавасьць? Таксама не. Ён столькі думаў пра яе, і цяпер не хацеў бы адпускаць яе ад сябе. Што ж тады?

Быццам нейкая рука сьцягнула покрыва з Бронькавых вачэй. Цяпер ён бачыць – яны розныя, аны абсалютна адрозныя ва ўсім. І галоўнае – ім ня быць разам. Нехта недзе, у палітычных праклямацыях, на масавых кангрэсах, невядомы і незнаёмы, халодны і абыякавы, вырашыў гэта. Бронька і Міра – з розных плянэтаў. Яны стаяць побач, але іх падзяляюць тысячы, мільёны сьветлавых гадоў. Яны не даляцяць адзін да аднаго, ніколі не сустрэнуцца.

Міра заплакала, павярнулася, пайшла прэч. Тая ж нячыстая сіла трымала Броньку, яшчэ цяжэй наліла язык, ногі, рукі, галаву, душу – сьвінцом, ртуцьцю. Кося заржаў. Дыханьне стала спыняцца, Бронька сагнуўся, прысеў на дарогу, у пыл каля Косевых капытоў. “Бо пылам ты ёсьць, і ў пыл вернесься”, – стрэліла як чырвоным у галаве чутае некалі ад бацькі.

Кося цяпер кватараваў пры Броньку, яны з Фэлікам прыбудавалі трысьцен да хлява зь бярвеньня, што было завезена перад самай вайной для рамонту нарыхтоўчай канторы. Людзі паціху расьцягвалі яго ў першыя ваенныя месяцы.

Неяк на пачатку кастрычніка Бронька выехаў адвезьці пустыя флягі на малочны пункт у адну зь вёсак і вяртаўся назад у мястэчка. Грэла невысокае сонейка, залацілася лісьце ў празрыстым, звонкім паветры.

Бронька спыніў воз, кінуў сена Косю, прайшоўся між дрэваў. Уцягнуў на поўныя грудзі восеньскі густы водар. Потым узяў з воза посьцілку, стаў зьбіраць каліну, што гронкамі-каралямі зіхацела на кустах уздоўж лесу. Недзе недалёка пачуліся крыкі, плач, енкі. Бронька пабег паглядзець, пралез праз кусты. Раптам грымнуў залп зь вінтовак, затахкалі асобныя стрэлы. Праз гальлё відаць нешта жоўтае, рудое – гэта вывернутая зямля, побач – як купы рызманоў. Яны варушацца, а паўзь іх ходзяць немцы жандары і нейкія нябачаныя яшчэ вайскоўцы, у чорным.

У Броньки зрабіліся слабкія калені. Стрэлы затахкалі часьцей, нехта бег у Бронькаў бок, паваліўся на зямлю. Падобны на Мірынага брата, Яшку! Бронька кінуўся на зямлю, папоўз, азіраючыся, паміж гальля і дрэваў, назад да возу. Ззаду – нікога не відаць. Бронька ўскочыў на воз, з усяе сілы перацягнуў пугай Косю, першы раз за ўсе часы. Воз загрымеў і панёсься наперад. Недзе ззаду бахнуў стрэл, але далёка. Не дагоняць. Заехаўшы ў мястэчка, Бронька ля хаты спыніў Косю, зваліўся з возу. На нагах, якія падгіналіся, зацягнуўся на ганак. Маці завіхалася ля печы, глянула, завыла, абхапіла рукамі твар: “Божа! Бронічак! Штоооо?!” Бронька глянуў на сябе – кашуля і нагавіцы былі крывава-чырвоныя ад расьціснутых гронкаў каліны. “Там. Там на Паплавах... Яшку забілі”.

Гэбраям загадалі прыйсьці на рэгістрацыю ва ўправу, дзе быў райсавет. Пасьля 60 мужчынаў і хлопцаў некуды вывезьлі. Праз пару дзён стала вядома – іх расстралялі на Паплавах разам зь некалькімі дзясяткамі гэбраяў з навакольных вёсак Гончы, Доўгага і Патокі.

Блізілася зіма. Маці сумавала па бацьку, не магла забыцца таго дня, як па яго прыйшлі. Кляла кніжкі, да якіх бацька заўсёды меў ахвоту і празь якія

трапіў у бяду. “Кніжкі гэтыя, грамата! Нахалеру яно ўсё? Расьпісацца – і добра. А так дзе ж ён, бацька наш, праз сваю грамату?” Фэлік толькі пакруціў галавой: “Ну, зноў вы, мама”. Бронька спрабаваў спрачацца, казаць, што тут, пэўна, справа ня ў кніжках, бо бацька казаў, што мы – беларусы, і ня можам выракацца сваёй мовы, сваіх паэтаў. Маці заплакала: “Ну а што як забіваюць за тых паэтаў, якое зь іх шчасьце? І з кніжак іхных? Пагубілі яны бацьку... Божачка, Божа! Вунь Сакольчык, настаўнік. Як адчуў, што зь беларускай мовай трапіш пад манастыр, дык і кінуў тую мову выкладаць. Перайшоў на геаграфію, ці як там. І жывы вось, пры дзецях і жонцы!”

Маці выцірала хусткай сьлёзы, Франя з Нэляй за сталом таксама сталі хлюпаць насамі, зарумзалі. Фэлік гыркнуў: “Ну хопіць, кіньце!” Выйшаў, бразнуўшы дзьвярыма, па дарозе кінуўшы напаўголасу Броньку: “Хадзем пагаворым”. Выйшлі ў гарод. Фэлік ціха сказаў: “Сёньня каля Гончы сустрэў Колю Крыцкага. Пытаўся ў мяне, ці думаю сыходзіць у лес – біцца зь немцамі. “Зьбіраўся зь імі біцца, ды брацішак твой ня даў, – кажу. – А мне яны цяпер не замінаюць”. Ён паглядзеў так і гаворыць: “А ты падумай. Мяркуеш, ня бачылі, як ты немцаў сустракаў?” Так што, Бронька, калі што якое – я або ў лесе, або... Сам разумееш. Глядзі маму і дзевак”.

Адсьвяткавалі Каляды, мінуў Новы год. Бронька на санях паехаў па малако ў Тачышча, адну зь вёсак аж за Гончай. Абмяняў там пашытыя сёстрамі навалачкі на паўфунту сала, зацягнуў на сані бідоны з малаком, паехаў назад.

Блізу Гончы на дарогу выйшлі двое са стрэльбамі. Адзін зь іх пранізьліва засьвістаў. Кося захроп, сані спыніліся. “Кто такой? Откуда и куда?” З-за хвояў пад парай коней вынесьліся другія сані, пад’ехалі пад самага Косю. “О, меншы Садоўшчык. А мы акурат з старэйшым пагутарылі. Па душах”. З саней-розвальняў вылез сам Крыцкі, былы райсаветчык. Шапка-кубанка, сьветлыя кудзярцы над ілбом, пад імі – зрэнкі вачэй, калючыя, бы цьвікі. “Што, шчанюк, малачко немцам возіш?” Ля саней зь цікавасьцю ўзіраўся сын Крыцкага, якога Бронька пачаставаў некалі пугай. Старэйшы Крыцкі замахнуўся, спрабаваў даць Броньку кулаком у твар, але той пасьпеў ухіліцца. “Круцісься, падла?!” Крыцкі рвануў з драўлянай кабуры маўзер, такі Бронька бачыў у фільмах пра грамадзянскую вайну. Расейскамоўны ў раманаўскім кажушку схапіў Крыцкага за руку: “Стоп, спокойно. Один бидон в сани, остальные уничтожить. Парня отпустим, молод ещё”. Расеец падняў з прытаптанага сьнегу закручаны ў анучку кавалак сала, што выпаў з-пад Бронькавай паддзёўкі. “Сало? Это конфискуем. Взамен дарим жизнь. А вообще ждем тебя в лесу!” Расеец засьмяяўся, махнуў рукой. Некалькі чалавек закінулі ў свае сані поўную флягу, рэшту флягаў вылілі на дарогу. Адзін зь іх сьцягнуў з пляча аўтамат, секануў на пустых флягах. “Хай фрыцы палюбуюцца”. Тады ўсе паўскоквалі ў сані, якія пад пранізьлівы сьвіст паімчаліся да лесу.

Бронька прыехаў дадому, як цямнела. Ужо здалёк адчуў ён бяду. Каля іхнай хаты чарнеў натоўп людзей. Свае, суседзі, яны моўчкі глядзелі на Броньку. Нейкая баба ў натоўпе загаласіла, мужчына гучна прыкрыкнуў: “Сьціхні!” Бронька саскочыў з саней, бягом прабег праз натоўп, які расступіўся.

У хаце было цемнавата, капціла газавая лямпа. Пасярод на стале ляжаў Фэлік, абмыты, з мокрымі прычасанымі валасамі, у белых доўгіх споднiках і сіняй штруксавай куртачцы на замочку з прыкручаным значкам Асаавіяхіму. Голыя Фэлькавы стопы здаваліся ненатуральна вялікімі. У галавах, абхапіўшы

рукамі горла, сядзела маці. Твар яе быў як кавалак сырога мяса, з падранай пазногцямі скурай. Франя з чырвоным заплаканым тварам стаяла на другі бок ад стала, Нэля сядзела ў нагах. Навокал, перашэптваючыся, хадзілі суседзі, выносілі тазы з вадой, начоўкі. У кутку цёмнай кучай ляжала адзеньне Фэліка. “А. Мой. Жа. Ты. Сынок. А. Фэлічак. Ты. Мой. А. Што. Гэта...” Маці ківалася ўбакі, замест словаў – сьвіст і хрып сарванага голасу.

Бронька падыйшоў да маці, прытуліў. Яна не заўважала, што робіцца вакол. “Мама, Бронік прыйшоў”. Франя прыціснулася да Броньки, недарэчна загаварыла: “Мама дужа пераживае, што Фэлькі няма. І мы з Нэляй дужа-дужа пераживаем”. Бронька стаў каля цела брата, і на яго пачаў навальвацца ступар, як тады, пры сустрэчы зь Міраій. Ён чуў абрыўкі размоваў суседзяў: “Прывезьлі, кажуць: Садоўская, забірай! І не баяцца ж во”. “Ага, храбрыя. А казалі, што ён прасіў, каб дастрэлілі, а яны: “Памучайся, фашыстоўскі халуй”. А ён жа нідзе ніякага, толькі працаваў за прадукты, сталярку рабіў”. “Ох, цяжкія часы. Сёньня ён, а заўтра любы з нас. Ці праз тых, ці праз гэтых”.

За вакном заржаў Кося. Конь з раніцы ня кормлены. Ступар адпусьціў Броньку. Цяпер ён, Бронька, – гаспадар, адказны за маці й сёстраў. Цяпер усё на ім. “Людзі добрыя, дзякуй вам. Прыходзьце заўтра. А зараз мы разьвітваемся з братам”. Людзі пачалі выходзіць з хаты, нехта сказаў: “Трымайцеся, дай Бог вам моцы. Такое гора”. Бронька выйшаў у хлеў, узяў бярэмя сена, кінуў на сьнег перад Косем. Той ня еў, коратка іржаў. Потым паклаў галаву на плячо Броньки, і Бронька абхапіў шыю каня. Сьлёзы цяклі па Бронькавым твары. Конь падняў галаву. Скасавурыў вялікае вока, асьцярожна лізнуў Броньку ў твар.

Назаўтра Бронька прыйшоў з ломам і сякерай на могілкі, расклаў вогнішча і за некалькі гадзінаў выкапаў дол у замерзлай зямлі. Ксёндз быў у ад’езьдзе, малітвы над труной прачытаў арганісты. Потым падыходзілі разьвітвацца. Бронік усьлед за маці прынік да халоднага ілба. Гучна сказаў: “Буду помсьціць за цябе, браце”.

Яшчэ празь дзень Бронік зайшоў параіцца да Ментуза – куды пайсьці, каб змагацца з бальшавіцкімі бандытамі. “Найлепей было б, хлопча, зарганізаваць сваю хеўру ды разьлічыцца з камунай. Ды хто з табой пойдзе? Кожны спадзяецца пераседзець на печы, пакуль яго не даткнецца. Так што – або паліцыя, або баталён СС. Я чуў, яны бяруць добраахвотнікаў. Але ці варта рабіць гэта ўсё? Загінеш і сьледу ня будзе. Або прыйдуць уначы ды перадушаць усіх тваіх. Падумай добра. Ды й немцы добрая скула: за тое – расстрэл, за гэта – расстрэл. За мяшок сечкі вешаюць. Што тым немцам улезе ў галаву, тое будзеш рабіць. Можа, пілаваць дровы, а можа, жыдоў страляць. Ня вечныя тыя немцы, турнулі іх пад Масквой”.

– Дзядзька Мянтуз, я сказаў пра ўсё маці – яна ў плач. Кажа: “Заб’юць цябе, можа, як пераседзіш”. Але так ці гэтак – забяруць ці адны, ці другія. Пераседжваць я не хачу. Я брату абяцаў. Што будзе, хай тое будзе”.

Бронька паступіў на службу ў Клічаўскую паліцыю. Узялі ездавым, разам з Косем. Маслазавод пасьля сэрыі дывэрсіяў перастаў працаваць, і Бронік забраў Косю з сабой у паліцыю. Броньку далі вінтоўку-трохлінейку, шынэль і чорную ўніформу з жыдкаватага сукна, з шэрымі адваротамі й каўнерам. Сена, авёс і бручку для коней давалі навакольныя саўгасы, што зрабіліся дзяржаўнымі нямецкімі гаспадаркамі, “віртшафтамі”.

Перш было адносна спакойна, асноўная задача Броньні – вазіць у Бабруйск начальніка паліцыі і часам немца-“віртшафтсьляйтара”. Бывала, выжджалі таксама ахоўваць рабочых, якія рамантавалі дарогу або мост, або ставілі слупы тэлефоннай сувязі замест сьпілаваных партызанамі. Потым паліцыю перавялі на казарменнае становішча, разьмясьцілі ў будынку школы. У Бронькавым плютоне – амаль усе свае, знаёмыя і суседзі: Лыскавец, Хітрук, Мароз, Гушчынскі. Камандзір – Апанас Іваноў са старавераў.

Аднойчы ўвечары Лыскавец узьбіўся на ложак і, закінуўшы ногі, ад няма чаго рабіць, стаў чытаць уголас газэту: “Наступ у Лібіі. Войскі Ромэля 7 лютага штурмам узялі Бэнгазі, выйшлі да Газалі. Змаганьне ў Афрыцы паказала англаамэрыканскім плютакратам, што Вяліканямеччына мае перавагу ня толькі ў дусе і цьвічэньні войска, але таксама ў тактыцы і тэхніцы”.

Ад стала, дзе ён падшываў на мундыр каўнерык, адазваўся Апанас Іваноў: “Тэхніку немец мае добрую. Гэта праўда”. Да размовы далучыўся Гушчынскі: “А што тэхніка? Глянь, як арганізавана ў іх. Нашы і цяпер некаторыя апраўляцца ў гарод ходзяць. А немцы яшчэ і не пад’ехалі – а ім ужо прыбіральні збудаваныя. Чыста і без смуроду”. Хітрук павярнуўся да Гушчынскага, сказаў, набычыўшыся: “А што тыя немцы, такое г*ўно як усе. І красьці – крадзе другі, і на фронт ня рвецца, каб толькі якая зачэпка”. Бронька скончыў чысьціць вінтоўку, задумліва сказаў: “Цікава глянуць, як у іх усё там, у Нямеччыне”. Мароз адазваўся: “Культура там! Дзядзька мой у Прусах быў у тую вайну, у палоне. Дык казаў, што нам яшчэ да іх сто гадоў наймецей”. Хітрук запярэчыў: “Каб не вайна, мы іх ужо абагналі б. Трэцяя пяцігодка мела такі плян”.

Іваноў падняўся, рэзка выгукнуў: “Каб тут прапаганды не было. Прытрымай язык. Або трапіш пад плян СД”. Бронька падыйшоў да пірамíды, паставіў вінтоўку. “Пайду сена коням падкінуць”. У калідоры днявальны сказаў Броньку, што да яго прыйшла матка. Некалькі дзён, як Бронька ня бачыў маці, а цяпер нібы разам заўважыў у ёй усе зьмены за апошні час – зрабілася нібы меншай, ніжэйшай, і твар зморшчылі гора і драпіны.

“Як жа ты тут, Бронічак? Ці добра яно тут? Давай пройдземся з табой”. Па дарозе маці сказала ціха Броньку, што прыходзіла Эпштэйніха, казала, што заўтра іх будуць некуды вывозіць, можа, на сьмерць. Прасіла, каб як дапамаглі Міры. “Яны дружылі, а мне цяпер нічога ня трэба, толькі каб дачка жыла”. Зайшлі ў канюшню, перарobленую з гаража, дзе стаялі Кося ды астатнія пяць коней. Вартавы, Вялічка, хадзіў на другім канцы двара.

“Мама, вы ведаеце, што цяпер бывае за гэта. Трэба падумаць”. “Ведаю, Бронічак. Таму пытаюся”. Бронька падыйшоў да Косі, пяшчотна пачасаў пальцамі пад шыяй. Маці сказала: “Фэліка згубілі мы... Дык можа адну душу наўзамен...” Кося выцягнуў шыю, падняў галаву. “Бронік, я ўжо думала. Міра можа пераседзець першы час у нас у падполе. З вашых, з паліцыі, ніхто не палезе. Але там сьценка й брус заваліліся, трэба тэрмінова направіць”. Бронька пацерабіў Косю грыву, той страсянуў ад задавальненьня галавой. “Эх, хай будзе, як будзе. Прыйду сёньня начаваць дахаты, разьбярэмся”.

Бронік замэльдаваў Іванову, што захварэла сястра, і трэба дапамагчы маці. Плютановы засьмяяўся: “Сястра? Ці чортавага бацькі дачка? І што за хвароба, можа, перадок зачасаўся?” “Можа, у яго чэляс закасаўся!” – зарагаталі вартавыя паліцаі пры дзьвярах. “Маўчаць!” – Іваноў глянуў на Броньку, пацёр бараду. “Можаш ісьці, да апэлю ў раніцы. Зброю пакінь тут”.

Дома маці ўжо зацягнула посьцілкамі вокны, перанесла пад печ слоікі з агуркамі і закручанае ў цырату лепшае з адзеньня, што перахоўвала ў падполе. Міра ў гэты час сядзела ў хляве, у збудаваным для Косі трысьцене. Падпол — па грудзі глыбінёй, вузенькія сходы-лесьвіца. Бронька выграб зямлю, што прасыпалася праз дошкі, пашырыў на дзьве пядзі, каб можна выпрастаць ногі, памяняў падгнілы слупок. "Зрабіў? Пайду прывяду яе". Неўзабаве зьявілася Міра. Каменны твар, застылыя рысы пад цёмнай хусткай. За тыя месяцы, што ня бачыліся, Міра моцна зьмянілася. "Як ты?" "Як бачыш". Міра трымала два невялікія скруткі. Франя прынесла ў падпол сена, Нэля паклала посьцілку, прынесла коўдру і падушку. "Ну, вось, можна класьціся. Першая гадзіна ўжо".

Толькі над Мірай апусьцілі вечка і зьверху расьцягнулі палавік, як у вакно нехта пастукаў. "А хто ж гэта?" "Свои. Давай открывай, без глупостей". Маці прашаптала: "Голас незнаёмы! Бронька — давай уніз!" Маці ссунула палавік, падняла вечка, Бронька скокнуў уніз, гукнуў Міры: "Ціха". Дзеўкі ўкінулі зьверху шынэль і рэмень, вечка зачынілася. Бронька намацаў руку Міры, падумаў: "Дурная сытуацыя. Калі свае, паліцыя — як знойдуць, дык і ўсё ясна, хаваем жыдоў. Калі партызаны — таксама дабра не чакай..." Зьверху чуваць цяжкія крокі, некалькі чалавек, прыглушаныя галасы. Праз шчыліны прабіваецца слабюткае сьвятло. Побач чуваць Мірына дыханьне. "Усё будзе добра", — шэпча Бронька. Пачулася, як паваліўся зэдлік ці крэсла, шум адсунутай шафы. Потым усё сьціхла. Яшчэ праз хвілін дзесяць вечка прыпаднялася, маці сказала: "Былі гэтыя, зь лесу. Шукалі цябе, Бронька. Сказала, што ты на службе. Але баюся — вернуцца. Табе лепш пераседзець тут". Дзеўкі перадалі ўніз паесьці і яшчэ адну коўдру і падушку.

Бронька і Міра ляжалі побач, заціснутыя між сьценаў і лесьвіцы. "Я думала, ты зусім забыў мяне. Ня верыла, што згодзісься ўзяць". "Не забыў. Але ўсё... Прабач, што я тады так. Маўчаў". "Спужаўся, разумею". "Ды не. Штосьці іншае. Як хто на плечы ўсьсеў. А я ўжо нічога не баюся. Што ад тых, што ад гэтых". "Давай памаўчым". Міра паклала Бронькаву руку сабе на грудзі, прытулілася шчакой да Бронькавага твару. Пах яе валасоў, яе дыханьня змусіў Броньку забыцца пра ўсё — пра вайну, пра сьмерць брата, пра тое, што ён — загнаны воўк. Пра тое, што будзе зь ім, з маці і сёстрамі, зь Мірай. Бронька перабіраў валасы Міры — густыя, жорсткія. Амаль як Косева грыва.

Раніцай Броньку зь некалькімі іншымі паліцаямі паслалі ў Бабруйск па амуніцыю. За тыя пару дзён, што яны знаходзіліся ў дарозе, а потым у Бабруйску, стала вядома — партызаны выбілі штурмам немцаў і паліцыю, захапілі Клічаў. Некалькі тыдняў ішлі баі. Немцы бамбілі мястэчка з самалётаў. Начамі было далёка відаць зарыва ў небе. Рэшты Клічаўскага гарнізону аб'ядналі з паліцэйскімі зь Нясяты і Патокі, далучылі да адзінкі СС. Некалькі тыдняў Бронька з Івановым і Лыскаўцом у складзе новастворанай роты перастрэльваліся з партызанамі ў ваколіцах Клічава, перадысьлякоўваючыся зь месца на месца. Потым яны адступілі далей, за чыгунку. Клічаў зноў сталі моцна бамбіць, абстрэльваць зь мінамётаў. У гэты час іхняя рота патрулявала чыгуначнае палатно, бывалі дробныя сутычкі пры навакольных вёсках, якія падзяліліся на "партызанскія" і "паліцэйскія". Пад пачатак лета немцы адвялі войскі ад Клічава на перафармаваньне, рыхтавалі наступ.

Аднаго дня, у ліпені, калі прачэсвалі паласу ўздоўж чыгункі на Асіповічы, Бронька натрапіў на сям'ю Крэзы, суседа па вуліцы, празь некалькі хат ад іх.

Сам Крэза з жонкай, двое дзяцей, карова – уцекачы зь мястэчка. “Куды вы?” “Бронік, мы да сваякоў у Бацэвічы. Вы ўжо прапусьціце”. “Як там мае?” “Ой, бяда. Бяда, Бронік... Як бамбілі, дык трапілі бомбай у вашу хату”. “Жывыя хто?” “Ой гора, гора... Як друз разгрэблі праз пару дзён – усе ў шматы. У красавіку было. Не пазнаць нікога, чатыры чалавекі. Пахавалі за царквой, у адной яме”.

Бронік сеў на зямлю. Крэзы, азіраючыся, пайшлі далей. “Адзін на цэлым сьвеце застаўся. На што і на якое... Адзін, Божа. Адзін з Косем. Як жа гэта я... Мама... Франя... Нэля... Міра”. Лыскавец сеў побач, адкруціў біклажку, падаў Броньку: “Пацягні бімбару, лягчэй будзе”.

Далейшы цяг падзеяў – цяжкі пачварны калейдаскоп. Жыцьцё, здавалася, страціла сэнс. Ездавы Бранілаў Садоўскі з канём Косем браў удзел у супрацьпартызанскіх апэрацыях пад Смалявічамі і Лагойскам. Месяцы выцягнуліся ў адзін вогненна-крывавы ланцуг.

Аднойчы заначавалі ў вёсцы на ўскрайку вялікага поля. Вартавыя, усе трое з Клічаўскага гарнізону, яшчэ па ранейшай змове падпусьцілі пад раніцу партызанаў, тыя раззброілі плютон. Толькі з адной хаты Бронька адстрэльваўся разам з Лыскаўцом. Броньку выбухам гранаты перабіла руку. Лыскавец быў забіты трапным снайпэрскім стрэлам, куля прайшла між вачэй.

– Вылазьце, адваяваліся! Выходзьце, бо падсмажым! Вашы ўсе здаліся!

Нясьцерпны боль у перабітай руцэ. Бронька, хістаючыся, выйшаў з хаты. Пераляканыя гаспадары, двое старых, што хаваліся ад страляніны за печчу, выйшлі сьледам: “Не страляйце, мы з гэтай хаты!” Да хаты паўкругам падыходзілі партызаны – у кепках і нямецкіх шапках з брылькамі. Адзін чарнявы ў кубанцы, падобны на каўказца, трымае за аброць Косю. Пачулася доўгае ржаньне – Кося пазнаў у скрываўленай, скурчанай ад болю постаці свайго гаспадара.

– Вось ён, гад. Другі ўжо гатовы. Што зь ім робім?

– Шкада патронаў на паліцэйскую шваль. Трох нашых забілі, падлы. Камісара паранілі.

– Ану, хлопцы, вядзі паліцая ў поле. Хай паліцэйскі каняга выканае партызанскі прысуд. Служыў конь паліцаям, а цяпер хай паслужыць Савецкай уладзе.

– А як мы яго?

– А як у старыя часы са здраднікамі рабілі – прывязаць да конскага хваста і пусьціць галопам у чыстае поле. Потым толькі кавалкі зьбірай.

– Пастромкі карацей падцягні, падавай сюды!

– Пад хвост падводзь! Нахлёстам пятлю зрабі на два канцы.

Броньку падвялі да Косі, пацягнулі за рукі. Боль праняў усё цела, Бронька застагнаў: “Што робіце, гады?” Кося павярнуў галаву назад, коратка заржаў.

– Зараз вылечым цябе, халуй нямецкі... Зацягвай!

Выйшлі на поле за хаты, чарнявы крыкнуў: “Пускай! Н-но, пшол!” – з усяе сілы перацягнуў Косю пугай па сьпіне. Кося здрыгануўся, але застаўся стаяць.

– Н-но, здыхота фашыстоўская! Н-но! Но, пайшоў! – Да Косі падскочыў яшчы адзін партызан, сталі сьцябаць удвух з чарнявым. Кося ржаў, уздрыгваючы. Трос галавой, перабіраў нагамі. Але не скранаўся зь месца. Бронька самлеў, паваліўся на калені.

– Вазьміце хто таўсьцейшага дубца! Хутчэй!

З-за хаты выскачыў конны: “Немцы! Адыходзім!” Партызаны кінуліся ўрассыпную ўбок лесу.

Чарнявы закрычэў: “Стой! Канчай іх, абодвух!”

Пачуліся два стрэлы.

Косю прымроілася сьпякотнае лета, нарэзаныя чырвоныя хрумсткія буракі. Кося есьць і ня можа спыніцца. Буракоў робіцца ўсё болей і болей, яны лезуць у нос, у вочы. Не даюць дыхаць. А гаспадар усё сыпле іх і сыпле.

У шырокім полі паміраў Кося.





**КАВАЛЕЎСКІ Віктар** нарадзіўся 11.01.1956 году ў раённым пасёлку Радашкавічы, Маладэчанскага раёну Менскай вобласьці. У 1973 скончыў менскую сярэднюю школу № 72, а пасьля — Краснаярскае вайсковае радыётэхнічнае вучылішча. Служыў камандзірам тэхнічных аддзелаў ў Кыргыстане і Казахстане. У 1981 годзе аддаў у палітаддзел партыйны білет. Пасьля звальненьня з арміі працаваў інжынэрам, тэхнікам, фатографам. Скончыў у 1989 курсы дакумэнтальнага кіно.

З 1992 году жыве разам зь сям'ёй у Аўстраліі. Выбраны на пасаду сакратара Беларускага Аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі ў 1997 годзе, а праз два гады — на пасаду старшыні аб'яднаньня. У 1999 годзе разам з айцом Міхаілам (Бурносам) арганізаваў Беларускае Гістарычнае Згуртаваньне ў Аўстраліі. Аўтар кніг: "Беларусы ў Адэляйдзе", "Янка Ролсана і яго творы", "Беларуская эміграцыя ў Паўднёвай Аўстраліі", "А хто там ідзе?". Аднавіў друк часапіса "Новае Жыцьцё" з 2003 году.

# Чаму Ляксандра прозьвішча зьмяніў?

*Праўдзівая байка*

З тых нешматлікіх беларускіх імігрантаў, якія прыяжджаюць на сталае жыцьцё ў Аўстралію, можна вылучыць яшчэ меншую групку дзівакоў, якія жадаюць пачаць гэтае самае новае жыцьцё ў новай для іх краіне зусім па-новаму. Праз гэта ідуць на вельмі вострыя крокі. Вядома, зьмяніцца хочацца ўсім. Шмат хто нават на якісьці час кідае курыць. Іншыя ж беларусы завуць сябе то палякамі, то расейцамі. Залежыць ад таго, зь якога боку вецер дзьме. Пры размове з расейцамі ўспамінаюць пра Алу Пугачову і пасьля трэцяй сьпяваюць "міліон алых роз". Іншыя ж, седзячы ў хаце прапольскай беларускай радні пасьляваеннай іміграцыйнай хвалі, раптоўна хочуць звацца панамі і "тэж мувіць по-польску".

Другія ж, у чаргу да якіх валюся і я, дык мяняюць сваё прозьвішча. Схілілі да гэтага нэрвовага кроку мяне некалькі абставінаў, да якіх даплёў свае апошнія круцялькі і мой сябра Антось. Ён дык тутака даўно перастаў звацца Антосем і перафарбаваўся ў Тоні. Бо так больш фанабэрыста гучыць, бачыш. Дый лэдзі смакуюць гэтае імя лепш. Я дык неяк не хацеў нічога мяняць. Імя

маю някепскае – Аляксандар Праздуб. Мой бацька дык вельмі ганарыцца другой часткай прозьвішча, а менавіта – дубам. Крэпкія мы людзі – даволі часта за чацьвёртай шклянкай гарэлкі пачынаў ён гаманіць.

На Бацькаўшчыне прозьвішча ішло без аніякай бяды, аднак у Аўстраліі пачаў мець клопаты. Бачыш, озі гэтыя (як яны самыя сябе завуць) ня могуць па-нашаму вымаўляць літару “т”, маюць праблему з “ц”, а пра “ч” і мяккае “л” зь іншымі літарамі нават казаць няма чаго. Літару “р” трэба вылучыць асобна. Аўстралы, ці озі тыя, толькі нешта там хуценька перакоцяць у сваім роце і ўсё. Мне дык гэты рокат нават і ня чутны. Я колькі разоў прыслухоўваўся да гэтата “р”. У янкі дык чую добра. Яны як скажуць “сістэр”, дык гэтае “р” у канцы чуваць вельмі добра. Озі дык не такія. Неяк сорамна глынуць гэтае “р” і справе канец. Стой і думай, ці было яно там ці не.

Маё прозьвішча дык цягнуць наступна – Пра-з-даб. А калі і Пра-с-тап. Як каму хочацца. Я ўжо і так тлумачыў і гэтак – ня йдзе. Ня слухаюць. Гоняць пасвойму. А мне вельмі горка ад гэтага. Бо няма дуба ў канцы. На нашай мове ёсьць. А на іхняй – няма. І што ты зробіш?

А тут новахрышчаны Тоні-Антось пячэ бліны на маёй галаве – мяняй прозьвішча і ўсё! Усё роўна дуб зьнік. Я кажу яму, што з гэтым прозьвішчам праз войска прайшоў. Мяне ўсе ведаюць у вёсцы (да слова, я зь вёскі Забубоўка Гмыцкага раёну Шменскай вобласьці). Ды і ў Аўстраліі нашыя землякі ведаюць мяне як Праздуба. Толькі што тыя озі шпрэхаюць, не зважаючы, і дуб губляюць адразу. Але хрэн ім з падліўкай, хай гамоняць. Але Тоні-Антось на гэтую маю абыякавасьць падкідае выпадак у войску. Кажа, што не ўпершыню я праблемы маю.

А што ў войску? Прызвалі, як і ўсіх. Кінулі зь Беларусі аж у Сыбір. Яны тады ў гэтых саўковых ваенкаматах такія справы надта любілі круціць. Казалі – каб служба мёдам ня пахла. Але і халадзіна ў іх там ля Краснаярску. У хлапцоў нашых і гэтае самае месца мерзла. Па-культурнаму я ня ведаю як сказаць. Бо калі рэзну па-нашаму, то... Пачакайце я вам па-ангельску скажу, бо могуць праз прэсу не пусьціць, калі па-нашаму. А па-іхняму прасклізьне, ды й не дарма жыву тут шосты год. Навучыўся сяму-таму. А гучыць месца гэтае мужчынскае ў іх цікава-перакручана, але слухапрыемна. Пэніз завецца. Так у адкрытую і гавораць, нічога не саромеючыся. Я дык толькі потым зразумеў, чаму такую назву нам, мужыкам, прыклёпалі. “Пэн”, як вы разумееце, гэта аловак для пісаньня. А “ніз” ён у любой мове нізам будзе. Дык дацямкалі? Аловак, які недзе там унізе прыкручаны да мужыка. Такія справы.... Але я трохі ўбок ад’ехаў. Прабачце. Пад нуль падстрыглі, бачыш, праверылі пэніз гэты даволі цікавыя кабеты з мэдкамісіі саўкова-вайсковай і – цягнікам у Сыбір. Адстукаў я амаль два гады і ў адзін дзень падыходзіць да мяне наш ротны, капітан Будзіла. Працягвае цыгарэтку так ветліва, што ў мяне аж на галаве валасы дыбам пайшлі і пытаецца, ці не жадаю я радзіме паслужыць і далей у якасьці прафэсійнага вайскоўца, бо вайскоўцаў усе вельмі любяць, асабліва жанчыны. Толькі я адкрыў рот, каб сказаць “не” ды паведаміць, што мяне маці з бацькам чакаюць у Забубоўцы, і што мне сябра Антось ужо дзяўчыну знайшоў ды напісаў мне, што занадта яна чэсная, і што ён за ёй увесь час глядзіць, на што я да яго раз адпісаў, каб ён занадта дзіця зь ёй не наглядзеў... Ну дык адкрыў свой рот, а ротны, не чакаючы на мой адказ, рубіць далей. Кажа, каб я яму свае прыватныя справы вышэй за дзяржаўныя не падымаў, айчына патрабуе ад мяне

вялікіх высілкаў і адказнасьці, дый ён сам ужо даў паручыцельства, бо я ёсьць добры яфрэйтар, і бачыцца яму, буду яшчэ лепшым камандзірам у нашай бліскучай супрацьпаветранай брыгадзе. Дый ненадоўга гэта. Як кантракт скончыцца, то магу ехаць у сваю Забубоўку назад і жыць вольным цывільным жыцьцём.

А што? – замігцела ў маёй галаве. Пад скрыпучымі рамянямі зь пісталетам на баку. Зайздросна будзе Антосю. Адпацеў я, як той маладыя, шэсьць месяцаў – і назад у сваю вайсковую частку ўжо пад скрыпучай партупеяй, пад пагонамі прапаршчыка. Антось дык склаў верш адразу – атрымаў ты партупею, дык тупееш і тупееш... Замест пахвалы абразу дурную ў сваім лісьце прыслаў. Сам ён дурны, раз піша  такое. А я стаў прафэсійным вайскоўцам. Так яму і адпісаў.

Мой прызыў ужо дамоў паехаў, а я сустракаў маладых з-пад Масквы. І што ты думаеш? Усе да аднаго граматныя, а адзін дык больш за ўсіх. Зварочваецца да мяне аднойчы і кажа: “Тавар”. А потым маўчыць. Я толькі пытаюся ў яго, пра які такі тавар ідзе размова, як ён давіць зь сябе: “Ыш”.  Значыцца, разам будзе “таварыш”. Толькі я хацеў накруціць яму рэмень на два нарады, як ён далей цісьне: “Прапар”. Ах, такую тваю, думаю, не табе мяне прапарам зваць, сапля маладая, як ён тут дабаўляе: “Шчык”. Прапаршчык, значыцца. Ну, маскаль аблезлы, мяне аж захаланула. Даў я яму лом у рукі і паслаў за казарму лісьце зграбаць. А як паўгадзіны міне, правяраю. Намахаўся ён ломам тым і заціх на час. Але неўзабаве з новай выдумкай падкаціў. Падыходзіць якраз, калі шмат народу кругом было, і кажа: “Таварыш прапаршчык Празьдзюк, дазвольце зьвярнуцца”. У мяне быццам кроў уся зь цела ў галаву шыбанула. Я на вайскоўцаў глянуў. Усе маўчаць. Дык і я маўчу. Праглынуўшы абразу, усё ж змог сябе скантраляваць. Нездарма дуб у прозьвішчы нашым. Маскаль гэты з нарадаў не вылазіў. Але мяне гэты лыч крывы на ўвесь вайсковы гарадок аславіў. Было не адмыцца. Нават да Антося гэтая гісторыя дакацілася.

Ну дык пасьля звальненьня з вайсковай службы вырашылі мы з Антосем рвануць у цёплую краіну Аўстралію. І што ты думаеш? Так падгадалі нечакана, што праскочылі. Якраз калі капіталісты гэтыя не чакалі на развал эсэсэсэра. Не пасьпелі дзьверы зачыніць, бачыш. А потым і сем’і сьцягнулі. Працаваў я ў дарожнай брыгадзе, кідаў асфальт, мясіў бэтон і рабіў усё іншае патрэбнае ў гэтай справе. Бачыш, пасьля таго як войска пройдзеш, усяго можаш патроху рабіць. Войска – гэта справа вялікая. Прыгналі ў адзін дзень у наш муніцыпалітэт новенькую падмяталку дарожную, пяцітонку. Стаіць і зіхаціць фарамі і новымі мяцёлкамі жалезнымі. Аж у мяне дыханьне захапіла. Мне дык ужо абрыдла на гэтым цэмэнце. Я да боса. Пытаюся, хто ж яе атрымае. Ён і кажа, што будуць прыймаць рэзюме на разгляд ды тэсты-праверкі рабіць. Хто пройдзе ўсё гэтае, той яе і атрымае. Да тэстаў, бачыш, я ў войску прывык. Напісаў у рэзюме тым, што Аўстралія найпершая па біясынтэзу і сваёй цеплынёй мяне аж да сэрца праймае, і што такія пяцітонкі я гадоў дзесяць таму назад у войску ганяў, таму вывучаць іх мне патрэбы няма. Што ж да гідраўлікі, то з гэтым алеем я ніколі клопатаў ня меў. І што ж ты думаеш? Прайшоў я праз гэтыя тэсты найлепш за іншых озі-канкурэнтаў. Потым падыйшоў да мяне адзін зь іх ды й кажа: “You’ve got a beautifull job mate”. Што гучыць як  “ю’в гот а бью-ты-фул джоб мэйт”. На што я да яго спакойна так (як калісьці да маскаля таго) адказваю, што біць я нічога ня б’ю, а ты мяне фулам ня кліч, майт табе назад, такую тваю...

Але ж і любяць озі гэтыя прычэпкі рабіць. Зь ім жа я ў бутэльку не палез. Ветліва да яго так казаў. Але чагосьці ён заняўся і зноў да мяне: "Speak English, mate". Я дык назад лупцую: "Слухай, майт, вот ду ю вонт?" Ён дык адразу раззлаваўся і пачаў нешта крычаць пра факты. І такі факт і сякі факт. А мне гэтыя ягоныя факты былі да аднаго месца. Бо калі ён праз тэсты не прайшоў, то зараз павінен маўчаць, бо праца мне ў рукі адыйшла, а свае факты хай сабе ў кішэню пакладзе. Так я яму і сказаў: "Пакінь свае факты пры сабе, майт тваю такую, сярпо недаточанае, факт і ты..." На тым і разыйшліся. Ён мяне зараз бокам абыходзіць. Круціць мызу да долу, бачыш.

А прозьвішча я зьмяніў. Паслухаўся Тоні-Антося, сябру свайго. Каб карацей гучала. І каб гэтыя озі лягчэй вымаўляць маглі. Мне Тоні-Антось нават прапанаваў назвацца Бондам. Кажа, чым ня гук – Алекс Бонд. Крэпка і выразна. Я з гэтым пагадзіўся, але ж гэта не па-нашаму. Няма нашага подыху. Ну вось... Заплаціў я грошы за зьмену і нарэшце атрымаў новае прозьвішча. Але ж і заняло часу, бачыш...

Маці мая, праўда, не пагадзілася. Бацька доўга злаваўся таксама. Бо згубіў я тую частку "дуб". Я бацьку казаў па тэлефоне, што ня могуць яны вымавіць "дуб" той. На паперы ён ёсьць, а ў жыцьці няма. Ніяк ён ня мог зразумець такое. Але што яны на той вёсцы разумеюць? Тут усё па-эўрапейску, па-аўстралійску. Трэба каб гучала лёгка і ёмка.

Ну дык такія справы. Прабачце, трэба ціснуць на кнопку пяцітонкі маёй вакуумнай, уключаць кандыцыянэр паветра і кантраляваць машыну гэтую. Зьмятаць лісьце па дарогах. Тут, бачыш, усё наадварот. У нашую весну дрэвы лісьце скідаюць, а ўвосень пускаюць новыя. Што зробіш, ходзім дагары нагамі па гэтай Аўстраліі. Што да ног. Магу цікавую гісторыю распавесьці. Але, прабачце, бос неяк коса глянуў, можа, іншым разам.

Усім прывітаньне.

Жыве Беларусь!

І як нашыя мясцовыя беларусы на сьвяткаваньнях дадаюць – хай жыве і пасецца.

Новасьпечаны аўстраліец беларускага паходжаньня містэр Алекс Пэрд.

# ПЕРАКЛАДЫ

**A. B. Facey**
***Evaporated milk***

## Выпаранае малако

Мяне адправілі на працу амаль у дзевяць гадоў. Мяне тады даглядаў дзядзька, які вырашыў мой лёс, накіраваўшы мяне парабкам да старой лэдзі, сыноў якой тады не было дома. Лэдзі была практычна сьляпой.

Старая мела некалькі кароў. Я павінен быў два разы на дзень прыганяць іх, ставіць на адпаведнае месца, дапамагаць ёй даіць і пасьля выганяць на выпас. Кожная зь сямі кароў давала да двух галёнаў малака.

Малако старая разьлівала ў шырокія глыбокія талеркі і потым ставіла іх у кладоўку на паліцы. Паліцы абцягваліся з бакоў парусінай, верх якой утыкала ў налітае вадой карыта. Вада павольна цякла ўніз, і малако ў кладоўцы ня грэлася і таму ня кісла. Пасьля 10-12 гадзін старая лэдзі здымала зьверху сьмятанку і рабіла зь яе масла.

Старая была даволі жорсткай і не дазваляла нікому піць сьвежага малака, праўда, адгоннага можна было піць колькі хочаш. Да гэтага малака даваўся кавалак хлеба і вельмі рэдка на гэты хлеб мазаўся джэм.

У адну з гарачых начэй я дадумаўся, як дабрацца да таго малака безь яе ведама. Ля хлява было шмат саломы. Там я выбраў некалькі доўгіх саломін, недзе цаляў па восем даўжынёю. Потым цьвіком асьцярожна прарабіў дзюрачку ў парусіне і, павольна спусьціўшы туды саломінку, даволі насмактаўся сьвежага і халоднага малака. Так я рабіў кожную ноч. Але толькі калі лэдзі крэпка спала. Дзюрку добра зарабляў назад, каб нічога не было бачна. Кожную раніцу старая дзівілася, бо адна з талерак мела дзесь на паўцалі менш малака за іншыя.

Так цягнулася тыднямі. Старая казала ўсім аб гэтай дзіўнай зьяве. Потым яна вырашыла, што адна з кароў горшая за іншых, і таму на такой гарачцы яе малако хутка выпараецца.

John A. McKenzie
*Life with Mildred*

# Жыцьцё зь Мільдрэд

Аднойчы, падчас другіх школьных вакацыяў, невядомая мне, але родная цётка, прайшоўшы пыльную мілю ад фармэрскага дому дзеда з бабкай, зайшла ў нашую малую, абабітую бляхай хатку на ўзвышшы. Прыйшла яна для размовы з татам. Я ўбачыў нешта не зусім прыемнае ў тым, як яна абхапіла яго сваімі рукамі і, прыціснуўшыся на даволі доўгі час, застыла. Я выпучыўся на гэтую, як тады мне здалося, даволі чыста і прыгожа апранутую жанчыну, якая так розьнілася ад маёй маці, вечна занятай і зь вечна вялікім жыватом. Зараз мне вядома, што так на сьвет зьяўляюцца дзеці.

Хутка я знайшоў прычыну прыезду маёй цёткі. Маці паклікала мяне да сябе і запыталася, ці не хачу я жыць зь цёткай Мільдрэд. “Не”, – ня думаючы, адказаў я, але незалежна ад гэтага адказу мяне павялі ў новы шлях. Я доўгі час адчуваў злосьць на сваіх бацькоў за гэта.

Цётка Мільдрэд працавала недзе далёка настаўніцай у малой, адзінай у мястэчку зь лесапільняй школе. А загадаў забраць мяне зь сям’і мой дзед, які не хацеў, каб мая цётка жыла адна. Зрабіў ён гэта па добра ведамых яму пры-

чынах. І ён жа адвёз нас на калёсах з пружынай на чыгуначную станцыю Дардадзін, каб там дачакацца цягніка на Банбары.

На цягніку я ехаў упершыню. Шмат ня памятаю, за выключэньнем аднаго вялікага павароту, калі напоўнены вуглем пар так шыбануў мне ў нос, што аж дых заняло. Добра былі бачныя шэрыя вагоны, ля якіх мільгацелі дрэвы, якія цягнуліся зялёнай паласой аж да неба.

У Банбары мы чакалі недзе з гадзіну, мо дзьве, каб нас падчапіў цягнік на Доннібрук. Я памятаю, як сядзеў на зялёнай траве і аб'ядаў курыную ножку, гледзячы зачараванымі вачыма на блакітнае мора зь вялізарнымі караблямі, якія ўтыкалі неба сваімі мачтамі і бліскучымі бакамі над дошкамі насьцілу. Усё зіхацела чырвона-белай фарбай, трапяталі сьцягі, да мяне даляталі подыхі салёнага паветра і крыкі чаек. З гэтага моманту я закахаўся ў мора.

Так, ва ўзросьце васьмі гадоў, у 1924 годзе, я пераехаў на жыцьцё у аўстралійскае мястэчка Арджыль, дзе жыло каля дванаццаці сямействаў. Там я і пражыў два з паловаю гады. Пражыў упершыню ў рэальным грамадзтве. Жыцьцё там усяму задавала лесапільня і навакольныя сады. Пахла там сьвежапілаваным дрэвам, ды час ад часу да гэтага дадаваўся пах падпаленых апілак. Празь мястэчка цягнулася адзіная гарбатая вуліца, на якой стаялі абшытыя дошкамі і пакрытыя бляхай домікі з трыма пакоямі для тых, хто працаваў на лесапільні ці ля лесапільні. Адзінокія мужчыны жылі ў асобным доме. Таксама былі дзьве крамы, у адной зь якіх знаходзілася і мясцовая пошта. На другім ад лесапільні канцы вуліцы стаяла школа з прыбудоўкай і побач дом для настаўніцы. Ля школы быў таксама будынак-клюб, дзе круцілі раз у два тыдні кіно, адбываліся царкоўныя службы падчас прыезду сьвятара, ды меліся рэдкія гулянкі. Школа арганізоўвала раз на год канцэрт і часам нават карнавальны баль. Так круцілася мясцовае жыцьцё, дзе кожны ведаў усё ці амаль усё пра іншых.

На блізкіх ад мястэчка ўзвышшах раскінуліся сады з мураванымі дамамі багацейшых жыхароў, якія бачылі сябе належнымі да іншай клясы. Мэнэджэр лесапільні меў іхні ранг. Мэнэджэра ведалі ўсе даволі добра, бо кожны хлапчук з школы быў закаханы ў ягоную даволі прыгожую, але і даволі пустую старэйшую дачку. Ранг настаўніцы быў недзе пасярэдзіне паміж лесапільняй і фруктовымі садамі.

У мой першы школьны дзень пасьля вакацыяў я ўбачыў, што быў апрануты лепш за іншых. У Банбары цётка вадзіла мяне ў краму, дзе купіла новыя штаны, боцікі, шапку і шкарпэткі. Я адразу пачуў непрыняцьце хлапчукоў і пашкадаваў, што ня меў свае старыя абноскі. Справа была ў тым, што цётка паставіла перад сабою мэту ператварыць мяне з фармэрскага недацёпы ў паслухмянага да Бога хлопчыка з добрымі думкамі. На нейкі час гэтая справа была даручана місіс Моў, якая бязьлітасна ўдоўбвала ў мяне правілы паводзінаў цівілізаванай асобы. Нават сёньня я не пакладу разам нож зь відэльцам пасьля сканчэньня ежы, не прыпамінаючы яе. Місіс Моў была вельмі самастойнай, бо я так і ня ўбачыў містэра Моў. Яна ведала маю цётку з часоў супольнага навучаньня ў горадзе, таму прыехала ў мястэчка толькі часова, каб яе сын Білі змог падвучыцца і меў лепшыя шанцы на прыём у каледж. Білі быў разумным, разбэшчаным, вясёлым і моцным хлопцам. Таму ад часу яго зьяўленьня ніхто мяне больш ня клікаў: “Джоні, сын вучыцелькі”. Калі ж ён ад'ехаў на далейшую вучобу, то я з гонарам цягнуў далей атрыманае становішча, якое вабіла да мя-

не малодшых хлапчукоў і агульна нэўтралізавала старэйшых. Нават дзяўчаты зь лесапільні давалі мне цукеркі, а “яблычныя” прыгажуні даравалі, вядома, яблыкі. А сам я быў закаханы ў блізьнятак падручнага зь лесапільні. Адпаведна названая Роза была пышнавалосай прыгажуняй з ружаватай скурай, а Ева была далікатнай, беднай і прыцягальнай. Я цягнуўся да іх і штодзень неяк выказваў ім свае добрыя адносіны: то дакранаўся да рук, то кідаў ім мяч падчас гульняў. Кожная з блізьнят была гераіняй у маіх рамантычных марах.

У мястэчку хапала цікавых, калі не казаць больш, характараў. Быў хлапец, вядомы толькі тым, што адзіны меў на акругу гоначны ровар. Невядома чаму, можа, праз тое, што яго заўсёды бачылі на гэтым ровары, звалі яго Брытвеным Задам. Праўда, хлапчукі абыходзілі яго бокам, бо мясцовы “тэлеграф” паведаміў, што ён таму доўга адсутнічаў у мястэчку, што знаходзіўся ў турме па справах зусім не дзіцячых.  Таксама добра быў вядомы Шэры Гарэх, невялікі ростам малады дзяцюк, які гойсаў на сваім матацыкле па адзінай вуліцы ўзад і ўперад і выказваў сваю спрытнасьць скачучы праз рэйкі чыгункі. Дзе ён ні зьяўляўся, адразу круцілася гутарка пра матацыклы. Фрэд казаў мне, што літары ягонай мадэлі BSA азначалі “мазоліста-сьцёрты зад”, але нехта адразу перакруціў іншую мадэль AJS у “вясёла-сьцёрты зад”. Усе, аднак, гадзіліся на тым, што найлепшым матацыклам быў нікім яшчэ ня бачаны Гарлей-Дэйвідсан. Хлапчукі паважалі Гарэха, але ён ніяк ня мог дабіцца ад дзяўчат дамовы на правоз па мястэчку, бо маці жорстка гэта ім забаранялі. Жудасны Гарыс быў сынам удавы марака. Жылі яны ля дарожнага маста праз чыгунку. Я сам сябе клікаў яго Бладзі Білам, па вядомай асобе з кнігі “Каралавы востраў”. Яго пашыраны ўнізе жакет і шапка напявалі мне пра беласьнежныя ветразі, якія плылі па блакітным і рамантычным акіяне. Ён піў, курыў і пляваўся, таму добрыя людзі абыходзілі яго бокам, лічачы сябрам д’ябла.

Адну зь дзвюх крамаў трымаў Арчы зь сястрой Гэлен. Дзеці любілі Гэлен за вясёласьць і дапамогу ў выбарах цукерак. Даволі часта яна давала нават больш, чым плацілася. Арчы быў супраць Бога і яго лічылі благім прыкладам. Аднойчы ён зайшоў падчас службы на царкоўны ганак разам са сваім сябрам, прыгожым чортам-кузэнам Данаванам і на працягу ўсёй службы яны даволі гучна шапталіся паміж сабою. Я павярнуўся глянуць, але цётка так крутанула маю галаву назад, што з вачэй сыпанулі сьлёзы, і я пачырванеў ад таго, што на мяне пачалі глядзець суседзі. У гэты момант я нават пачаў адчуваць нейкія сымпатыі да Арчы, але ён хутка ўсё сапсаваў, бо пасьля словаў сьвятара “прабач нас малых грэшных” Арчы з кузэнам гучна пачалі паўтараць гэта і потым рагаталі. На іхныя паводзіны ніхто не зьвяртаў увагі, і яны потым выйшлі.

Сям’я Каталінаў жыла ў невялікай хатцы на самым ускрайку мястэчка. Бацька быў невысокім і моцна скроеным цемнаскурым, зь вельмі густымі валасамі мужчынам. Даволі прыгожым і вясёлым. Ён адказваў на лесапільні за зборку і паленьне апілак. Лішнія апілкі ён ссыпаў у горкі, адкуль кожны жыхар мястэчка мог браць вольна для каміну ці кухні. Ягоныя тры італьянскага паходжаньня дачкі бянтэжылі мяне тым, што, крутануўшыся навакол нашага дому, раптоўна ўставалі перада мною і, нічога ня кажучы, лупіліся ў мяне сваімі цёмнымі вачыма. Зусім наадварот ад блізнят, якія весела гутарылі са мною і сьмяяліся. Каталінаў я пачаў ненавідзець яшчэ і празь іх сабаку, які паляваў на мяне горш за чорнавалосых сясьцёр. Сабака налятаў на мяне і стараўся лізаць проста ў твар. Цікава, што ён бачыў мяне здалёк, нават з узвышшаў, якраз як

сабака Баскервіляў. Але аднойчы я падхапіў добры дрын і пайшоў на гэтага сабаку з крыкам. На маё зьдзіўленьне сабака рвануў назад і з таго часу мяне не чапаў.

Быў таксама такі Фрэд, лесавік-дзікун. Копія бацькі-п'яніцы і багахульніка, рабочага зь лесапільні, які лупіў боем сваю жонку і дзяцей. Фрэд стараўся быць падобным да бацькі і праз гэта быць ягоным фаварытам. У школе ён абражаў іншых, ведаў шмат брудных гісторый і лаянкі. У мяне ён здолеў выйграць усе камяні праз маё няведаньне правілаў і ашуканства. Ён любіў хавацца за дрэвамі ці вугламі будынкаў і раптоўна выскокваў адтуль на мяне, зьбіваючы з ног. Гутарыў ён так, быццам ведаў усё, а я – нічога. Ягоная маці варыла хатняе піва, якое прадавала моладзі, тым падшыванцам, якім не дазвалялі заходзіць у піўную. Пасьля добрай выпіўкі хлопцы ішлі на вуліцу і гулка лаяліся. Але аднойчы да іх завітаў паліцэйскі з Донбрука. Фрэд потым пахваляўся, як ягоны бацька адшыў гэтага паліцэйскага, аднак гатаваньне піва спынілася.

Самым вядомым у мястэчку быў лякаматыў. Ужо зранку быў чутны грукат колаў па рэйках, калі ён поўз, пыхаючы трубой, на горку і далей зьнікаў у лесе, дзе жылі і працавалі брыгады. Пасьля абеду, недзе праз гадзіну пасьля сканчэньня школы, мы чулі працяжныя гукі праходу цягніка на звароце ў васьмі кілямэтрах ад нас. Ішоў цягнік, гружаны бярвеньнямі джара. Маланкова рассыпаліся групкі жанчын, якія сьпяшаліся дамоў ставіць на агонь ваду для мыцьця і гарбаты.

Мне падабалася глядзець, як цягнік поўз да лесапільні, пыхаючы парай, бліскаючы меднымі бакамі. Зь бярвеньняў тугой крывёй капала смала. Гэты жалезны монстар так убіўся ў мяне, што на нейкі час я нават забыўся на мора і ўжо бачыў сябе галоўным кіроўцам, што кіраваў лякаматыў уніз па схіле да мястэчка, каб гераічна вызваліць усё жыхарства ад нейкага ліха. І як потым усе дзівіліся на маё майстэрства і тэхнічныя здольнасьці.

Як толькі я зразумеў, што трэба добра вучыцца, то больш асаблівых праблем зь Мільдрэд ня меў. Акрамя аднаго выпадку. Колькасьць дзяцей павальшала, і ў школе зьявілася новая настаўніца, якую мая цётка звала “маніторам”. Менавіта ў яе групе я і навучаўся. Аднойчы я запытаўся дазволу ўзяць з паліцы кнігу. Яна адказала – не. Я паказаў рукой такое, ад чаго яна пачырванела і прыкусіла губу. На вялікім перапынку цётка затрымала мяне і, адагнаўшы далей дзяцей, узяла дубец і, абвінаваціўшы мяне ў крыўляньні з высунутым языком, заявіла, што я буду прыкладам. Мяне білі па руках упершыню. Кожны ўдар балюча аддаваўся ў галаве. Як так? То ж мая цётка. Я адкінуў руку ўбок. Але цётка так шыкнула на мяне, што я мусіў падпарадкавацца. Трываючы боль, я трымаў абедзьве рукі перад сабой. Я не хацеў глядзець на яе твар, чырвоны і перакрыўлены ад задавальненьня. Я перастаў лічыць удары, якія сыпаліся бясконца. Па сканчэньні мне было загадана сесьці на вэрандзе.

Вестка імгненна распаўсюдзілася, і да школы пацягнуліся дзеці. Зазьвінеў званочак. Я сядзеў, хаваючы далоні, і стрымліваў плач. Нават ня гледзячы ўверх, я ведаў, што кожны мяне бачыць. Пасьля я перасеў пад дрэва. Усё раптоўна зьмянілася і не было ранейшым. Дзяўчаты нешта казалі мне сваімі мяккімі галасамі. Горш я адчуваў сябе перад Розай і Евай. Хаваў ад іх свае вочы, і гэта ім не падабалася. Я сказаў, што буду пісаць ліст да бацькі. Ціхая і вельмі практычная Гэлен, дачка мэнэджэра, нават прапанавала даць мне канвэрт і паштоўку. Але нават кажучы пра гэты ліст, я ведаў, што нічога нікуды не

напішу. Я быў завязаны ланцугом, які мог разьвязаць толькі сам і толькі калі стану старэйшым.

Уноч я прачнуўся ад сьпеваў:

Кліч назад мяне, сябра ты мой,
Каб памарыў ты разам са мной,
Кліч назад, кліч да сэрца свайго,
Каб ня быць мне адзінай-адной,
На сьцяжынцы каханьня старой,
Мы пацешымся, сябра, з табой.

У мэлёдыі адчуваўся плач, і словы рэхам аддаваліся ў маёй галаве. У той час шмат сьпявалі. Сьпявалі аб рэальных людзях, падобных да сьпевакоў..

Пакажы мне дарогу дадому,
Прытаміўся я, трэба паспаць,
Я кілішак кульнуў і адразу пачуў,
Галаве маёй трэ спачываць.

І недзе зь цёмных вуглоў падхапілі:

І дзе ні кідала мяне,
Па моры, па сьцежках, па хмарах,
Прыслухайся, сьпеў мой плыве, як у марах…
Кажы мне дарогу дамоў.

А вось гэты густы голас я ведаў, то пацягнуў далей памочнік зь лесапільні:

Заўсёды буду дуць я пузыры…
Прыгожыя, празрыстыя ў паветры,
Ляцяць яны высока, аж да самай вышыні,
І таюць там, як мары мае, верце.

Сэнтымэнтальная канцоўка вельмі падабалася бабылям. Калі ад моцнага сонца жухла зямля, калі нават праз падэшвы чулася гарачыня пад нагамі, калі вада ў сховішчах білася аб дно:

О-о-о… Калі ж ня будзе больш дажджу,
Ня будзе болей.
Калі ж ня будзе больш дажджу,
Як той стары, надзьмуты жух,
Памыць свой твар і шыю зможа?
Калі ж ня будзе больш дажджу,
Ня будзе болей…

Новыя песьні даходзілі да нас зь вялікіх гарадоў праз сацыяльныя адносіны, але мелі кароткае жыцьцё. Традыцыйныя ж песьні не сьціхалі, асабліва песьні пра боль адзіноты, сум нерэальнага і рамантычнага каханьня да далёкай

і ідэальнай дзяўчыны. Вельмі рэдка можна было пачуць песьню цалкам, але больш кавалкамі: “о-о-о, як мне не хапае цябе, сябра маіх мараў”. Выканаўца мог сьпяваць пра сардэчную маці, якой ён ніколі ня меў. Кранalі мяне і словы з доўгай і вельмі сэнтымэнтальнай “Дабранач, лэдзі” з рамантычнай канцоўкай:

І кружылі, поўныя шчасьця,
Круг за кругам,
Круг за кругам.
Па шырокіх блакітных марах...

Пасьля майго біцьця я чакаў на вакацыі, каб вярнуцца на фарму. Кожны вечар перад сном я думаў аб тых мясьцінах: поле, кусты, сад, хлеў, дом. Далей поясам ішлі дрэвы з магічнымі воблікамі, лёталі вярблюды і кульгаў стары конь. Пажухлая з захаду трава, далёкія скалы, усеяныя зьверху валасатымі дубамі шы-оўк, скакуны-папугаі з крыламі, якія, вальсуючы, наклікаюць дождж.

Але калі нарэшце я вярнуўся, мне загадалі стаяць у Майбелі і толькі два разы я быў на фарме ў Вонга-Вонга. Сустрэўшы братоў Эндзі і Джэры, я адчуў нейкае адчужэньне. Да іх я прыехаў зь іншага сьвету, які яны ня ведалі. Мая маці амаль не гаварыла да мяне, два іншых брата Карл і Эдвін глядзелі на мяне вачыма чужакоў.

У Арджыль мой брат Карл паехаў разам з намі. На працягу доўгіх школьных вакацыяў мы жылі ў доме пры школе і ў наступным годзе да нас далучыліся Эндзі і Джэры. Яны паведамілі мне, што брата Эдвіна забралі да сябе нашы другія дзед і бабка, што тата працуе на фарме, і што маці адвезьлі ў шпіталь ля мора. Нам так ніхто і не сказаў аб прычыне разыходу бацькоў, ці што пазьней здарылася з маці. Мы адчувалі, што ў Мільдрэд лепш не пытацца. Ды я надта аб гэтым і ня думаў, не перажываў. Я ўжо пачаў разумець, што жыцьцё складаецца з добрых і благіх вестак.

Прыезд Эндзі, Джэры і Карла зьмяніў расклад хлапцоўскіх узаемаадносінаў. Мы, браты, сталі самастойнай сілай і маглі даць здачу бандзе Фрэда. Эндзі іх добра адлупіў аднойчы, пакуль яны не працьвярозелі. Мы гулялі разам і толькі пры дзяўчатах не паказвалі добрыя адносіны між сабой.

Жыцьцё ў Мільдрэд зьмянілася. Я яе асьцерагаўся, бо ня меў даверу пасьля біцьця. Яна паставіла новыя ўмовы, што можна і чаго нельга рабіць. Калі прыносіць дровы, калі паліваць і палоць агарод, што чысьціць і мыць, калі зачыняць браму, калі наліваць у лямпы газу, месьці двор і гэтак далей. Мільдрэд верыла, што ў беспрацоўныя рукі хутка ўбіваецца сатана. Я да гэтага быў яшчэ і пасыльным.

Місіс Д-П мела найвялікшы сад у акрузе. У час збору садавіны яе людзі кіравалі вазы ля школы. Адзін яе чалавек заўсёды махаў нам капелюшом і кідаў яблыкі з апельсінамі ці грушы. Місіс Д-П лічыла сябе чыстай англасаксонкай і паводзілася арыстакраткай. Але ў Аўстраліі гэта неяк не праходзіла. Асабліва зь Мільдрэд, якая не магла бачыць яе высокія манэры, бо выйшла з простай сям’і імігрантаў-піянэраў, якія змагаліся за жыцьцё на працягу чатырох пакаленьняў. Таму Мільдрэд лічыла сябе роўнай з Д-П. Яна не давала апошняй ніякіх шанцаў на снабізм, асабліва таму, што місіс Д-П прыехала ў Аўстралію пазьней за яе продкаў. Вельмі востра яны сутыкнуліся, абмяркоўваючы правіла арганізацыі нядзельнай школы. Мільдрэд змагла схіліць на свой

бок сьвятара, які прыяжджаў да нас, і перамагла. Мы ведалі вельмі добра, калі гэта адбылося, бо пасьля гэтага выпадку чалавек місіс Д-П перастаў кідаць нам яблыкі, падымаючы толькі капялюш і на нас ня гледзячы.

Аднойчы місіс Д-П сказала Мільдрэд, што нам можна глядзець кіно "Дзесяць запаветаў", якое прывозілі праз тыдзень. Але Мільдрэд бачыла любое графічнае выяўленьне людзей зь Бібліі як злачынства, асабліва калі не было афіцыйнага дазволу на гэта царквы. Паміж імі ўзьнікла спрэчка. Мільдрэд скончыла яе словамі: "Гэтыя хлопцы знаходзяцца пад маім наглядам, і толькі я магу вырашыць, што ім можна глядзець і што не!"

Мы пасьмейваліся з місіс Д-П таму, што з усёй яе арыстакратыяй яна жыла недалёка ад пастаялага двара. Гаспадар двара паліваў сваю гародніну "дабром" з прыбіральні. Гародніну, да слова, ён прадаваў шмат па навакольлі. Усім, за выключэньнем місіс Д-П. Сын гаспадара Дэрык прыносіў вязкі зяляніны і Мільдрэд, якая не адмаўлялася. Калі мы елі памідоры, то маглі беспамылкова па паху сказаць, на чым яны расьлі.

Дэрык быў вясёлым хлапчуком і разам з намі сьмяяўся са свайго бацькі, калі мы сьпявалі: "Дэн, дэн, спадар двара, згубіў гадзіньнік у прыбіральні..." Дэрык быў вельмі разумным і прачытаў усе кніжкі з школьнай бібліятэкі. Мільдрэд казала, што ён павінен атрымаць грашовую дапамогу і стаць вельмі вядомым. Першае ён атрымаў, але больш аб ім ніхто нічога ня чуў.

Вайна паміж місіс Д-П і Мільдрэд не сьціхала, толькі што спынялася час ад часу. Дэрык прыносіў запіскі нам, а я насіў адказы. У суботу я пайшоў да місіс Д-П з заклееным канвэртам. Было даволі горача, і я прыйшоў да іх з чырвоным тварам, бо Мільдрэд апранула мяне "па правілах", каб зь мяне не маглі сьмяяцца. Місіс Д-П пасадзіла мяне ў вялікае крэсла, дзе вельмі цяжка было трымацца проста. Яна прапанавала мне кавун, з чым я ахвотна пагадзіўся. Яна пазваніла ў званочак, і да нас выйшла загарэлая Эмілі, якая скончыла школу два гады таму. Яна выглядала вельмі прыгожа ў белым фартушку і белай наколцы на валасах. Яна паставіла ля мяне талерку з кавуном і паклала лыжку. Чаго я не чакаў, бо думаў выйсьці на двор і грызьці гэты кавун, плюючы семкі на траву. Але што рабіць, прыйшлося акуратна выграбаць костачкі лыжкай. Падчас гэтай працы я пачуў, як місіс Д-П ірвала на малыя кавалкі ліст ад Мільдрэд. Я адразу атрымаў дазвол ісьці, і на ганку Эмілі дала мне ў рукі дзьве абрыкосіны.

Пазьней я дазнаўся, што Эмілі жадала ісьці вучыцца на настаўніцу, але Мільдрэд была супраць. Мы, хлапчукі, лічылі, што з Эмілі можа выйсьці добрая настаўніца, бо яна была такой сяброўскай і добрай. Пазьней я пачуў, што Эмілі аддалі замуж, і яна нарадзіла шмат дзяцей. Для мяне Эмілі падобная на адну гераіню з фільму. Гэта быў адзін зь першых бачаных мною фільмаў, недзе ў самым пачатку жыцьця зь Мільдрэд, калі яна ўзяла мяне з сабою ў Пэрт. Тады мы спыніліся ў гатэлі і потым пайшлі наведаць ведамых Мільдрэд людзей. Пасьля гарбаты бацька сям'і сказаў: "Усім дзецям – у кіно". Старэйшая дачка Маргарэт была за мяне адказная. Мы зайшлі ў цёмную залю і селі на жорсткія лаўкі. У фільме не спыняўся дождж. Падчас размоў словы ўзьнікалі недзе ўнізе на экране. Маргарэт запыталася ў мяне, ці не хачу я, каб яна чытала. "Не, – адказаў я, – я змагу сам". "Тады чытай хутка", – параіла яна мне. Кіно было пра аднаго каўбоя ў шырокімі капелюшы. Ён меў боты са шпорамі і гойсаў на кабыле Молі. Гэтая Молі вызваліла яго з агню, але потым раптоўна паваліла-

ся. Каўбой стаяў і плакаў. Але дзяўчына пацалавала яго, і ён адразу супакоіўся.

У нашым мястэчку кіно круцілі праз тыдзень. Праектар браў энэргію ад матора грузавіка, які тарахцеў увесь час. Адзін раз нам далі каляровыя акуляры, якія трэба было надзець. І тады бачыліся цікавыя рэчы. Напрыклад, проста на нас плыла плаўчыха і зьнікала ў маёй галаве. Ці мужчына з дубальтоўкай падыходзіў усё бліжэй і бліжэй, і нарэшце грымеў стрэл, проста ў лоб. Мы ўсе тады добра перапужаліся. Фрэд-усявед сказаў нам, што гэта было 3-д кіно. Усё так выглядала праўдзіва.

Мільдрэд, аднак, не дазваляла нам глядзець усе фільмы, бо яна лічыла, што шмат фільмаў для нас былі нядобрымі. З чым, вядома, мы не пагаджаліся, бо іншыя дзеці маглі іх глядзець і потым нам пераказвалі і сьмяяліся з нас, што мы такія "малыя". Асабліва мы шкадавалі, што ня бачылі аднаго фільму, дзе дзяўчыну прывязалі да рэек чыгункі і амаль перад самым цягніком яе вызвалілі. Праўда, пазьней я прыйшоў да высновы, што Мільдрэд мела рацыю, бо мы прачыталі больш кніг за іншых, мы добра ведалі Біблію, хоць і мелі розныя адносіны да рэлігіі. Напрыклад, Эндзі знаходзіў, што Біблія вельмі падобная да фільмаў, бо мае як цікавыя часткі, так і жудасныя.

Мільдрэд любіла чытаць. Вечарамі яна зьбірала нас вакол стала і пасьля вячэры пры сьвятле газьніцы чытала розныя кнігі. Чытала ангельскія і аўстралійскія паэмы, нават цэлыя раманы, часткамі. Аднойчы яна купіла на мой дзень народзінаў "Марціна Ратла" і, прачытаўшы ўсім першую частку, дала кнігу мне. Гэтак чытаньне ўвайшло ў нашае жыцьцё, і мы перачыталі ўсе кнігі з школьнай бібліятэкі. Чыталі мы часьцей пра розныя прыгоды ў розных кутках ангельскай імпэрыі, якая ў тыя гады займала амаль палову зямной кулі. Адважныя ангельцы прыносілі цывілізацыю ў розныя куткі зямлі, несьлі яе да людзей, якія былі падобнымі да паўдзяцей-паўдзікуноў. Мы разам з героямі кніг хадзілі па канадзкіх лясах, таптали сьнег Юкана, блукалі ў Індыі, дзёрліся праз джунглі Барнэа, скакалі па прэрыях Афрыкі, цягнуліся пяскамі Сахары. Разам з Кінгстанам, Генры, Стрэнгам і Балатайнам. У мора выходзілі разам з Джэкам Ізі і Пітэрам Сімплам, апускаліся ў марскія глыбіні з Джумел Вэрне, з Пэрсі Вэстэрманам падымаліся ў паветра. У Афрыцы мы палявалі на гарылаў, лавілі зьвяроў на пушніну ў заліве Гадсана, губляліся на лёдзе зь Пітарам Вайлам, шукалі сховішча караля Салямона з Аланам Квартэрмайнам. У далёкім мінулым ваявалі Траянскую вайну, ішлі ў атаку з рыцарамі караля Артура, жылі ў старым Рыме і Грэцыі, вандравалі з Хрысьціянам у пошуках цэлесьцінскага гораду, плылі з Адысеем у Ітаку і былі разам з Дон Кіхотам дэ ля Манча.

Мільдрэд падпісалася на дзіцячую энцыкляпэдыю Артура Лі, і мы пачалі штомесяц атрымоўваць кнігі. Практычна гэта было самаадукаваньне. Адтуль мы пазнавалі пра зямлю і зоркі, пра розных людзей, жывёлаў і расьліны. Там пісалася, як ствараўся наш сьвет, падаваліся апавяданьні і паэмы. Гэтая энцыкляпэдыя захапіла нас на гады.

Чытала Мільдрэд шмат і ў школе. За выключэньнем клясаў для малых, дзе настаўніцай была "манітор". Кожны раз чыталася адна гісторыя, а ў наступны дзень яе трэба было паўтараць, перад тым як чытаўся працяг. Асабліва горача і добра Мільдрэд чытала баляды. Мы плакалі разам зь бедняком з "Мары раба", нам хацелася быць такім ж моцнымі як герой з "Калекі-хлопчыка", які пасьпеў папярэдзіць пра наступ ворага перад сваёй сьмерцю.

Але аўстралійскія баляды нам падабаліся больш. Асабліва дзе Генры Дайл-Дроўва тапіўся ў рэчцы, якая разьлілася, дзеля сваёй каханай. У Данджэнонга адважны Баннэрман аддаў свайго каня, а зь ім і жыцьцё свайму сябру. Слухаючы апавяданьні і паэмы, мы гналі быдла па пыльных аўстралійскіх дарогах, будавалі новае жыцьцё далёка ад гарадоў. Разам зь Білам Оджылві ішлі скокам на шэрых конях і весяліліся зь бялявымі прыгажунямі.

Ад бацькі навінаў не было, але ён на нас не забыўся. У адзін дзень ён сыйшоў зь цягніка, і нас зь ім нарэшце ўбачыў Фрэд са сваёй бандай. Убачыў, што наш бацька ня горшы за іншых, а можа, і лепшы, бо меў вельмі моцны голас. На другі дзень бацька павёз нас да мора. Якраз быў мой дзень народзінаў. Ігнаруючы Мільдрэд, ён падараваў мне сьцізорык, якім я адразу парэзаў палец. Да завязанага пальцу пасьля абеду дадаўся боль у назе. Бацька аднёс мяне да лекара, які знайшоў запаленьне, якое пайшло ад трэснулай скуры на пальцы нагі. У Банбары мы разлучыліся з бацькам, які сеў на цягнік да сваёй фармы, а мы – на цягнік да свайго мястэчка.

Некалькі дзён я ляжаў у ложку. Два разы на дзень Мільдрэд рабіла мне гарачыя кампрэсы проста ў пах. Мне вельмі не падабалася, як яна глядзела на мой дык (слэнгавая назва пэніса. – *Заўвага рэд.*) Як толькі мне палепшала, яна павезла мяне ў Пэрт у дзіцячы шпіталь, дзе сказала, што так трэба, бо мне будзе тады лепш, і я буду мацнейшым. Я запытаўся, ці я яшчэ слабы, але яна не адказала і пабегла назад на цягнік. На трэці дзень сястра напампавала мне ў зад шмат вады, якая хутка палілася назад, пасьля чаго мяне павезьлі ў "тэатар", дзе на твар насунулі маску і загадалі ўдыхаць газ. Празь некалькі хвілін я пачаў лётаць у воблаках і заснуў.

Прачнуўся я ўжо ў палаце. Ля майго твару стаяла глыбокая міска, куды адразу мяне званітавала. Але сястра прыбрала, і мяне павялі ў другі пакой, дзе іншая сястра зьняла зь мяне піжаму, і тут я ўбачыў, што мой дык быў увесь замотаны скрываўленай павязкай. Сястра Роза пачала здымаць гэтую павязку, боль быў невыносны, і яна крычала, як шалёная, каб я больш ня плакаў. Верхнюю скуру зрэзалі чыста, каб я быў мацнейшым. Потым сястра зрабіла новую павязку, гэтым разам спакайней і нават пацалавала мяне ў лоб.

У суботу Мільдрэд прыехала па мяне і павезла назад у Арджыль, дзе рабіла перавязкі сама, сказаўшы, што зараз я буду "добрым і прыгожым".

Пра падзею ведала ўся школа. Дзяўчаты глядзелі на мяне спачувальнымі вачыма, ад чаго я чырванеў. Эндзі вычытаў, што апэрацыя называецца абразаньнем. Ён сказаў, што Мільдрэд хоча нас зрабіць дзецьмі Хрыста, бо ў Бібліі пішацца пра абразаньне самаго Хрыста. Такую ж апэрацыю зрабілі і Карлу, але больш нікому з маіх братоў. Ці яна не хацела больш рабіць з маіх братоў дзяцей Хрыста? Ці можа, мела намерам зрабіць зь мяне і Карла сьвятароў? Але не зь мяне. То даю слова. Я марыў аб марскіх паходах па акіянах, аб прыгодах, падобных да тых, якія адбыліся з Ральфам Роўвам і Пітэрам Вайлам. Мяне ніколі не цягнула да малітваў, цёмнай царквы, сьпеваў і сьмешных, падобных на жаночыя, адзеньняў.





**КАВАЛЁВА Віялета** нарадзілася ў 1962 годзе ў горадзе Асташкаў Калінінскай вобласьці (цяпер Цьвярская губерня) Расеі.

З двух да дзевятнаццаці гадоў жыла ў расейскамоўным Мінску, зь дзевятнаццаці да трыццаці дзевяці — у беларускамоўным Менску. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Працавала ў дзіцячым садку і ў бібліятэцы, у газэтах “Чырвоная зьмена” і “Наша Ніва”, у часапісах “Фрагмэнты” і “Архэ”, у музычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачаньня. Ад 2001 году жыве ў Таронта (Канада). Кіруе фальклёрным гуртом “Яваровы людзі” і выдае (зрэдзьчасу) газэту “Беларускае слова”. У вольны ад грамадзкай дзейнасьці час падпрацоўвае сакратаркай у мэдычным цэнтры. Разам з мужам Вячаславам выхоўвае дзьвюх дачок — Камілу і Дамініку. Друкавалася ў газэтах “Чырвоная зьмена”, “Наша Ніва”, “Беларускі ўнівэрсытэт”, “Савецкае Палесьсе”, “Літаратура і мастацтва”, “Голас Радзімы”, “Беларускае слова”, “Беларус”, у часапісах “Полымя”, “Работніца і сялянка”, “Мастацтва Беларусі”, “Крыніца”, “Нёман”.

# Не страляйце ў рэдактара...

Калі я вучылася ў чацьвёртай клясе, настаўніца расейскай мовы абвясьціла на адным з урокаў, што ў нашай школе ствараецца літаратурны гурток.

— Кто хочет записаться, подойдите ко мне на перемене, — сказала яна такім будзённым голасам, нібы гаворка ішла пра экскурсію на суседні пральна-лазьневы камбінат.

Мяне быццам хто схапіў знутры моцнай рукой і завязаў у тугі вузел. Я хацела ўдыхнуць паветра — і не змагла.

Аднекуль узьнялася гарачая хваля і накрыла мяне з галавой. Пасьпешліва азірнуўшыся па баках (ці не заўважыў хто, як я пачырванела?), я незнарок зачапіла драўляны пэнал, і на падлогу з грукатам пасыпаліся алоўкі і асадкі. З палёгкай я ссунулася пад парту і доўга, значна даўжэй, чым было трэба, поўзала там, раз-пораз абмацваючы твар і спрабуючы здагадацца, ці вярнуўся ён ужо да нармальнага колеру...

На той час я ўжо дакладна ведала, што ў жыцьці хачу быць і буду толькі пісьменьніцай. Аднак я б хутчэй памерла, чым каму ў гэтым прызналася. І калі

дарослыя задавалі мне сакрамэнтальнае пытаньне “кім ты хочаш быць, калі вырасьцеш?”, я навучылася, не зьміргнуўшы вокам, адказваць: “доктарам або хімікам”. Абедзьве гэтыя прафэсіі былі мне бясконца далёкія, таму размаўляць пра іх было лёгка і бясьпечна. Але я ніяк не чакала, што мая патаемная, глыбока сакрэтная мара можа вось так зьнянацку сутыкнуцца з рэчаіснасьцю.

Бязьмежна верачы ў сваё пісьменьніцкае прызначэньне, я, тым ня менш, яшчэ не напісала ніводнага радка – калі не лічыць бясконцых маналёгаў і дыялёгаў, якія няспынна гучалі ў галаве, даводзячы мяне да стомы, а часам палохаючы да жаху. Як быццам я жыла – і адначасова апісвала сваё жыцьцё нейкаму невідочнаму, але вельмі рэальнаму суразмоўцу. Ня ведаю, чаму я дагэтуль нават не спрабавала штосьці занатоўваць на паперы. Напэўна, не магла прыдумаць, дзе я буду хаваць чарнавікі. Мы жылі тады ў бараку, учатырох у чатырнаццацімэтровым пакоі, і пра ніякую “прайвасі” нельга было нават марыць.

Пра літаратурныя гурткі, паэтычныя турніры, рукапісныя альманахі і іншыя фантастычныя атрыбуты нерэальнага школьнага жыцьця я дагэтуль чытала толькі ў дзіцячых кніжках, дзе школьнікі вядуць бясконцыя размовы на высокаінтэлектуальныя тэмы, ужываючы пры гэтым страшэнна разумныя словы, якімі я і мае аднаклясьнікі ніколі не карысталіся. У глыбіні душы я зайздросьціла кніжным дзецям, але ж разумела, што шанцаў трапіць у іхны вытанчаны сьвет у мяне ня больш, чым апынуцца па той бок люстэрка. І раптам – літаратурны гурток у нашай школе?!!

Ня памятаю, як я наважылася падыйсьці да настаўніцы, каб запісацца. Затое памятаю, што ў наступную нядзелю я ледзь ня бегла раніцай у школу, каб не спазьніцца на першае паседжаньне новастворанага літарацкага аб’яднаньня. Бацькі, дарэчы, ня выказалі аніякага зьдзіўленьня, калі я паведаміла ім, чаму так сьпяшаюся ў школу ў адзіны вольны ад яе дзень.

Тут я мушу зрабіць адступленьне і прызнацца, што ў свае дзесяць год я была ўжо закончанай “кнігагалічкай”. Навучыўшыся чытаць у чатыры гады (бацькі не заўважылі, як гэта адбылося), я бавіла над кніжкамі амаль увесь вольны час. Маці потым з замілаваньнем распавядала, што ў 5-6 гадоў мяне можна было браць у любыя госьці бяз рызыкі, што я знуджуся і пачну псаваць адпачынак дарослым. Цьмяна прыгадваюцца мае ўласныя ўспаміны з раньняга дзяцінства: ледзь зірнуўшы на гаспадароў чужой кватэры, я з парогу “сканую” залю, вызначаю месцазнаходжаньне кніжнай шафы, накіроўваюся да яе, выцягваю з палічкі першую-лепшую кнігу... і ўсё, да канца вечару мяне было не відаць і не чуваць. Часам трапляліся дамы, дзе не было дзяцей, а значыць, і дзіцячых кніжак. Тады я чытала ўсё, што траплялася пад руку, – аповесьць пра партызанаў ці раман пра будаўніцтва электрастанцыі, часапіс “Огонёк”, нават адрыўны каляндар, які ў тыя гады шмат у каго вісеў на сьцяне, таму чытаць яго даводзілася, узлазячы на зэдлік і выкручваючы галаву набок.

У адным з раманаў братоў Стругацкіх ёсьць фраза: “Яму не давалі чытаць, і ён памёр з голаду”. Лёс невядомага героя, якога напаткала такая пакутніцкая сьмерць, у дзяцінстве выклікаў мае самыя шчырыя спачуваньні. Вытрываць хоць дзень не чытаючы я не магла фізычна. Аднойчы, каля я вучылася ў клясе другой ці трэцяй, на вясновых канікулах акуліст прапісаў мне новы курс лячэньня (праблемы з зрокам пачаліся таксама рана), калі ў вочы праз цэлы тыдзень залівалі кроплі атрапіну, і, адпаведна, увесь гэты час нельга было чытаць. Ня вельмі верачы, што я добраахвотна датрымаюся кніжнай абстынэнцыі,

бацькі імкнуліся як мага часьцей выпраўляць мяне на вуліцу, дзе, на іх думку, я дыхала сьвежым паветрам і бавілася ў рухомыя гульні. Бацькі не здагадваліся, што ў нашай дрывотні я знайшла дзьве дарэшты разбэрсаныя кніжкі, прызначаныя на растопку і забытыя пад брыкетамі торфу. Былі гэта (і цяпер памятаю, як выглядалі вокладкі) раман пра чэкістаў “Гранит не плавится” Тэвэкеляна і аповесьць “Сержант милиции” Лазуціна. О, мусіць, за ўсё сваё жыцьцё я не перачытвала ніякія іншыя кнігі столькі разоў, як тыя дзьве... У дрывотні было заўсёды цемнавата – адзінае малюсенькае ваконца над дзьвярыма, застаўленае адбітым кавалкам няроўнага шкла, было абцягнута па кутах павуціньнем і амаль не прапускала сьвятла. Не рызыкуючы выносіць мае каштоўныя знаходкі на вуліцу, я бясконца перачытвала іх у паўзмроку, усеўшыся на чурбачку непадалёк ад дзьвярэй і падносячы кніжку ледзь не да носу, каб мае несуразьмерна вялікія ад атрапіну зрэнкі змаглі злавіць рэзкасьць. Чытаючы, трэ было ўвесь час прыслухоўвацца, ці ня йдуць бацькі, і пры першых гуках крокаў маланкава шпурляць кніжкі ў загадзя падрыхтаваную схованку. Пахла дровамі, торфам, кніжным пылам, кіслай капустай з вываркі – і ва ўсім гэтым была такая процьма рамантыкі...

Бессыстэмнае “глытаньне” кніжак прыносіла мне вельмі мала спажытку. Прынамсі, не таго спажытку, на які разьлічвалі аўтары. Па-першае, зь дзяцінства я не магла запомніць ніякіх лічбаў і датаў, і з гадамі гэты “нумэралягічны крэтынізм” толькі прагрэсаваў. Па-другое, любая больш-менш “навуковая”, дакладная інфармацыя вылівалася з маёй галавы з той самай хуткасьцю, зь якой туды паступала. Для прыкладу, была такая папулярная дзіцячая кніжка “Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі” – амаль што аналяг амэрыканскага кіно “Дарагая, я паменшыў дзяцей”. Напісаная яна была, відавочна, з мэтай у захапляльнай форме распавесьці дзецям пра сьвет жамяры ды іншых найдрабнейшых прадстаўнікоў флёры й фаўны. Я гэтую кніжку чытала разоў пяць – і ні на ёту не ўзбагаціла свае веды зь біялёгіі. А перачытвала я яе для таго, каб яшчэ раз перажыць палёт на страказе і паблукаць па травяных джунглях, дзе над вершалінамі зялёных сцвалоў гойдаюцца вялізныя кубкі чырвоных і сініх кветак...

Але час вярнуцца ў тую нядзельную верасьнёўскую раніцу, калі таполі за вакном ужо пачыналі губляць лісьце, а кусты бульбы на градках прышкольнага агароду счарнелі і пасохлі. Я крадком абвяла вачыма пакой, у якім сабраліся будучыя літаратары, – ніводнага чалавека з маёй клясы, што ўжо добра, дзяўчат, вядома ж, больш, чым хлапцоў, усе выглядаюць старэйшымі за мяне. Засаромеўшыся, я апусьціла галаву і зрабіла выгляд, што нешта шукаю ў заплечніку.

Пасьля кароткага ўступнага слова кіраўніца гуртка абʼявіла, што свае ўласныя літаратурныя творы мы пачнем ствараць зараз жа, не марудзячы:

– Выберите хорошо знакомую вам тему и напишите на эту тему стихотворение. Хотя бы восемь строчек.

Гэта было нечакана. Па-першае, марачы пра літарацкую будучыню, я ніколі не ўяўляла сябе паэткаю, а па-другое, вершы ня надта і любіла. Да таго ж, я дакладна ведала з кніжак, што, каб напісаць сапраўдны верш, паэт павінен адчуваць нейкае таямнічае “натхненьне”. Што гэта такое, я ўяўляла цьмяна, але, пакорпаўшыся ў сваіх адчуваньнях, не знайшла там нічога такога надзвычайнага...

Настаўніца адчула, што я вагаюся.

– Писать стихи совсем не так трудно, как кажется. Ты ведь знаешь, чем они отличаются от прозы?

Пытаньне было дурацкае. Натуральна, я ведала, чым адрозьніваюцца вершы ад прозы, і як іх складаць, ведала таксама – бо яшчэ да школы прачытала ўсе кніжкі пра Нязнайку і назаўсёды запомніла парады славутага паэта Цьвеціка (“пішы так, каб быў сэнс і рыфма, вось табе і вершы”). Ну што ж, верш дык верш, спрачацца з настаўнікамі было не ў маіх звычках. Але пра што яго напісаць?

У пошуку тэмаў я яшчэ раз азірнулася на клясны пакой, потым паглядзела ў вакно. Нічога асаблівага не адбывалася – усярэдзіне вучні саплі над сваімі сшыткамі і грызьлі асадкі, з-за вакна даносіліся звычайныя вулічныя гукі менскай ускраіны пачатку сямідзясятых гадоў: шумела вада, якую набіралі з калёнкі ў эмаліраваныя вёдры, брахаў сабака, недзе калолі дровы, на школьным стадыёне галёкалі хлопцы, ганяючы футбольны мяч. На паэзію ўсё гэта відавочна не выдавала. Я перавяла вочы на неба – таксама нічога цікавага: ні аблокаў, падобных на вэрблюдаў, ні колераў, годных увекавечаньня ў літаратуры. Але зь нечага трэба было пачынаць. Таму я рашуча падсунула да сябе аркушык і напісала:

“Осень настала, осень настала...”

Падумала і дадала:

“Небо какое-то скучное стало...”

Настаўніца зірнула на мой аркуш і расплылася ва ўсьмешцы:

– О, хорошо, очень хорошо! Только почему небо “скучное”? Давай напишем “грустное”, это создаст более поэтическое настроение...

Наступныя два радкі даліся мне хутчэй:

“Листики желтые падают с веток –
Мало им солнца, мало им света...”

Настаўніца паглядзела на мяне з зацікаўленасьцю:

– Ты когда-нибудь уже писала стихи?

– Нет, но я их иногда читала...

Ня буду стамляць чытача далейшым цытаваньнем майго першага ў жыцьці верша. Скажу толькі, што сотні праглынутых кніг раптам пачалі прыдавацца мне самым нечаканым чынам. Высьветлілася, што ўсе творы, якія я калі-небудзь чытала, пакінулі ў галаве спадчыну ў выглядзе бязьмежнага радовішча рыфмаў. Гэта аказалася зусім няцяжка – гаворыш слова, і тутака ж узгадваеш дзесяць-пятнаццаць іншых, зь якімі яно рыфмуецца. Што праўда, сярод паслужліва падсоўваных памяцьцю рыфмаў раз-пораз траляліся словы, значэньня якіх я не разумела, але гэта ўжо былі, так бы мовіць, выдаткі вытворчасьці.

Верш атрымаўся роўны і гладкі, але я добра адчувала, што ён нейкі не зусім сапраўдны. Штосьці такое або падобнае я ўжо чытала, і можа, нават ня раз. Таму, здаючы настаўніцы гатовы твор у памеры замоўленых васьмі радкоў, я чакала нейкіх камэнтароў на тэму другаснасьці і загадзя падрыхтавалася памерці ад сораму – ну павінна ж яна ўбачыць, думала я, што гэта ніякая не літаратура? Аднак, да майго зьдзіўленьня, настаўніца нібыта і не заўважыла, што ў маім вершы няма ні каліўца арыгінальнасьці, пахваліла мяне і сказала, што паколькі я так добра выканала заданьне, дык магу ўжо ісьці дадому.

Дадому! Празь нейкія трыццаць хвілін пасьля пачатку дзейнасьці самага сапраўднага літаратурнага гуртка, у якім я напісала свой першы верш? Ну ўжо не, я не зьбіралася так хутка разлучацца зь сьветам сваіх мараў. Аднак жа – калі не ісьці дадому, тады чым заняцца? Пісаць яшчэ адзін верш не хацелася, дый каманды такой не было... Размаўляць з кімсьці – дык усе астатнія літаратары яшчэ засяроджана думалі ці энэргічна крэсьлілі нешта на сваіх аркушах. Дзяўчынка, якая сядзела праз праход ад мяне, раз-пораз падымала твар і напружана варушыла вуснамі, відавочна, шукаючы слова. Я пастаралася выглядаць як мага больш добразычліва і папрасіла яе паказаць мне свой верш.

– Нет, не готово ещё, – сказала яна, імгненна засланіўшы аркуш локцем. Потым, падумаўшы трохі, неахвотна спыталася:

– Ты не знаешь какой-нибудь рифмы на слово “старый”?

– Тротуары, – адказала я, не пасьпеўшы задумацца. – Бульвары. Отары. Две пары. Пеньюары. Авуары.

– Спасибо, хватит, – сказала яна неяк пасьпешліва...

Нашую размову пачуў хлопец гады на два старэйшы за мяне.

– Малявка, а придумай мне рифму к слову “винтовка”.

– Сноровка. Джигитовка. На изготовку. Циновка. Котировка...

І так яно пайшло. Вельмі хутка паседжаньні літаратурнага гуртка сталі маім самым улюбёным баўленьнем часу, я пачынала марыць пра іх з панядзелка. Магчыма, мы займаліся на гэтых паседжаньнях яшчэ чымсьці іншым – ня буду хлусіць, ня памятаю. У памяці засталося толькі вось гэта: як я бягу ў школу нядзельнай раніцай, каб хуценька-хуценька змайстраваць чарговы верш, не адчуваючы пры гэтым аніякіх эмоцыяў, і потым займацца працай для душы – дапамагаць пісаць творы іншым...

Недзе пад канец зімы нашых вершаў назьбіралася ўжо ладная тэчка. Настаўніца сказала, што гэтыя творы цяпер перадрукуе школьная сакратарка, потым да іх зробяць прыгожы пераплёт, і атрымаецца сапраўдная кніга – той самы славуты “рукапісны альманах”, пра які так любілі згадваць дзіцячыя пісьменьнікі.

І вось тут мяне чакала поўная неспадзяванка: кіраўніца гуртка даручыла мне, наймалодшай, адрэдагаваць для альманаху частку чужых вершаў. Яна ўрачыста ўручыла мне новую папку “Дело №” – вельмі прыгожую, абклееную сіняй цісьнёнай паперай, зь белымі завязкамі-тасёмкамі, – і сказала, што я магу ўзяць рукапісы дадому, каб працаваць над імі ў вольны час. Так у 10 гадоў раптоўна пачалася мая рэдактарская кар’ера...

Няма чаго й казаць, што ўрокі ў гэтыя пару тыдняў я рабіла маланкава. Пазакідаўшы падручнікі ды сшыткі ў заплечнік, я даставала з шуфляды запаветную сінюю папку і зь любоўю раскладала яе зьмесьціва на маленькім самаробным пісьмовым стале, засланым газэтай у вечных плямах атраманту.

Выпраўляць чужыя вершы мне спадабалася бязьмежна, значна больш, чым пісаць свае. Вось калі я нарэшце зразумела, што такое сапраўднае натхненьне! Не здагадваючыся пра існаваньне нейкіх там “аўтарскіх правоў”, я абыходзілася з чужымі творамі абсалютна вольна: адразала і надточвала радкі, перапісвала сказы, выкідала цэлыя слупкі і нават пры патрэбе зьмяняла вершаваны памер – скажам, з харэя на дактыль. У выніку такіх радыкальных правак вершы пачыналі гучаць роўна, правільна... і, на вялікі жаль, вельмі банальна. Аднак кіраўніца літаратурнага гуртка па-ранейшаму не зьвяртала на гэта ўвагі,

захапляючыся вайсковай стройнасьцю выпраўленых мной твораў – ну дык і я перастала пераймацца тым, што яны ў мяне атрымліваліся “нежывыя”.

І вось надыйшоў вялікі дзень – наш літаратурны гурток рабіў, як бы цяпер сказалі, прэзэнтацыю для бацькоў. Рукапісны альманах быў, нарэшце, гатовы, ён атрымаўся вялікі і цяжкі, нават большы, чым альбом для фотаздымкаў, таму ўтрымаць яго ў руках мы б не змаглі. Па чарзе кожны аўтар выходзіў да трыбуны, знаходзіў свой верш і зачытваў яго ўголас.

Ахвяраў майго абуховага рэдактарства можна было пазнаць адразу: пабачыўшы ў альманаху “свой” верш, яны спачатку не пазнавалі яго, потым аслупянела лыпалі вачамі, шукаючы падтрымкі то ў настаўнікаў, то ў бацькоў, і доўга не маглі пачаць дэклямацыю, а калі ўсё ж наважваліся раскрыць рот, дык іхныя вусны супраціўляліся і не хацелі вымаўляць дапісаныя мною словы.

Ня ведаю, колькі самабытных паэтычных талентаў загінула дзякуючы мне ў “брацкай магіле” таго рукапіснага альманаху... Але, відаць, багі, што апекуюцца творцамі, вырашылі спыніць гэты гвалт над паэзіяй – на наступны год бацькі раптоўна перавялі мяне ў іншую школу, дзе не было аніякіх літаратурных аб’яднаньняў, а без падахвочваньня з боку настаўнікаў мае ўласныя паэтычныя экспэрымэнты ціха завялі – аж да юнацкіх гадоў, калі не пісаць вершаў стала проста немагчыма...

Аднак цяпер, калі я азіраюся назад і ўзгадваю дзівацкія мэтады працы майго першага літаратурнага аб’яднаньня, мне здаецца, што нашая кіраўнічка ўсё ж мела рацыю, калі прымушала нас пісаць вершы па раскладзе, не зважаючы на прысутнасьць або адсутнасьць адпаведнага “паэтычнага” настрою. Не магу зьлічыць, колькі разоў спатрэбілася мне потым у жыцьці ўменьне штосьці зрыфмаваць на хуткую руку. Асабліва прыдалося яно, калі сьвет навакол перавярнуўся і зрабіўся беларускамоўным. Тады яшчэ не было столькі бардаў і столькі беларускіх гуртоў, таму, калі нам хацелася сьпяваць штосьці па-за фальклёрам, вельмі часта даводзілася самім пісаць або перакладаць песьні і вершы. І нават калі ў выніку нашай саматужнай творчасьці пераклады атрымліваліся недасканалыя, усё адно яны выконвалі сваю функцыю – іх можна было сьпяваць.

Потым стварылася сям’я, нарадзіліся дзеці, і на доўгі час з усёй літаратуры самай важнай для мяне стала дзіцячая. А паколькі нашыя дзеўкі пачалі сьпяваць ці не раней, чым гаварыць, амаль адразу ж паўстала дадатковая праблема пошуку добрых беларускіх песьняў. Калі песьняў не хапала, я ішла сваім звыклым мэтадам – перакладала іх зь іншых моваў.

Потым была эміграцыя ў Канаду. Мясцовай беларускай грамадзе вельмі патрабаваліся і песьні, і вершы, і сцэнары для вечарынаў, але “рэпэртуарны голад” тут адчуваўся яшчэ вастрэй, чым на Бацькаўшчыне. Ізноў-такі, давялося сягаць па старыя запасы і пераствараць іх па-беларуску – часам атрымлівалася лепш, часам горш, але ўсе гэтыя тэксты выкарыстоўваліся і, як маглі, дапамагалі зрабіць жыцьцё канадыйскіх беларусаў цікавейшым і весялейшым.

Калі гэтыя вершаваныя опусы прыдадуцца камусьці яшчэ, я буду вельмі радая. Уласна кажучы, з гэтай мэтай я іх тут і друкую. Дарэчы, хачу папярэдзіць, што вы можаце абыходзіцца з тэкстамі абсалютна вольна – замяняць словы, выкідаць цэлыя слупкі ці сказы, адразаць ці надточваць радкі. Трэба ж мне неяк разьлічыцца за старыя грахі...

# Вершы, песьні, пераклады і насьледаваньні розных гадоў

Скача купальскі агонь – ведзьмаковае прадзіва,
Вочы твае, як заклятыя кветкі, цьвітуць.
Толькі ад іх не ўратуюць замовы і пацеры...
Стой, не працягвай рукі, бо наклічаш бяду.

Слухай, давай мы з табой і ня будзем знаёміцца...
Я не вядзьмарка – ды тут і сьляпому відно:
З мовы ўсяе нам хапіла б адзінага слоўца –
І забаронена толькі адное яно.

Чуеш, сыйдзі! Мы ж яго вымаўляем вачамі...
Полымя ліжа смалу, як сабака далонь.
Крок да цябе, і мы зараз рванемся з адчаю –
Толькі б насустрач! Як добра, што гэта – ў агонь.

Хай бы згарэць там... Дарма спадзяемся, што спалімся,
Лёгкіх ня будзе ні выйсьцяў, ні слоў, ні сустрэч.
Чорная зорка з халоднага неба валіцца,
Гойдае цемра над нашымі лёсамі меч.

## Песенька пра чорнага пудзеля

*Спит старушка на кушетке,*
*Чёрный пудель – на полу.*
*Просыпается старушка,*
*Пудель смотрит на нее.*

*“Вечер, – думает старушка, –*
*Не пора ли погулять?”*
*“Да, – подумал чёрный пудель, –*
*Мне давно гулять пора”...*

***Уладзімер Арлоў.***
*Белыя вершы пра чорнага пудзеля.*

Сьпіць бабулька на канапе,
Чорны пудзель – ля дзьвярэй.
Прачынаецца бабулька,
Пудзель на яе глядзіць.

“Вечар, – думае бабулька, –
Ці ня часісьці гуляць?”
“Так, – падумаў чорны пудзель, –
Час на вуліцу ісьці”.

“Трэба, – думае бабулька, –
Ўзяць і пудзеля з сабой”.
“Так, – падумаў чорны пудзель, –
Я вазьму з сабой яе”.

“Хай, – падумала бабулька, –
Прабяжыцца перад сном”.
“Так, – падумаў чорны пудзель, –
Не зашкодзіць шпацыр ёй!”

“Добра, – думае бабулька, –
Дзе ж я дзела павадок?”
“Так, – падумаў чорны пудзель, –
Нельга ёй без павадка!”

“Вось, – падумала бабулька, –
Ён цяпер не уцячэ”.
“Так, – падумаў чорны пудзель, –
Больш ня згубіцца яна”.

Чорны пудзель і бабулька
Разам выйшлі за парог.
Абсалютна невядома,
Хто каго вядзе гуляць!

*(На гэты верш ёсьць цудоўная песьня для дзіцячага хору, вельмі добра памятаю мэлёдыю, але, на жаль, забылася імя кампазытара.)*

## Песенька пра гумовага вожыка

*По роще калиновой,*
*По роще осиновой*
*На именины к щенку*
*В шляпке малиновой*
*Шёл ёжик резиновый*
*С дырочкой в правом боку...*

***Юна Морыц***

Гаем калінавым,
Гаем асінавым
На юбілей к шчанюку

Ў брылёчку барвовым
Бег вожык гумовы
Зь дзіркай на правым баку.

Меў гэты вожык
Галёшы для ножак
І ад дажджу парасон.
Божай кароўцы-
Чорнай галоўцы
Ветліва кланяўся ён.

“Дзень добры, елкі,
Сярдзітыя дзеўкі!
Ці ж мы ўсе навокал – ваўкі?
Крыўдна нам вельмі,
Заходзячы ў ельнік,
Калоцца аб вашы бакі”.

Неба празрыстае,
Сонца іскрыстае,
Ў госьці к свайму сябруку
Вожык гумовы
Ішоў і насьвістваў
Празь дзірку на правым баку.

“Мілая птушка,
Птушка-пяюшка,
Дзе ж вы згубілі пяро?
Вы не бядуйце,
Яго аддадуць вам –
Знаходка чакае ў бюро”.

Неба празрыстае,
Сонца іскрыстае,
Ў госьці к свайму сябруку
Вожык гумовы
Ішоў і насьвістваў
Празь дзірку на правым баку.

Безьліч дарожак
Прайшоў гэты вожык,
А што падарыў шчанюку?
Пра гэта ён Ганьне
Ўвечары ў ваньне
Насьвістваў празь дзірку ў баку.

*(Музыка Тацяны і Сяргея Нікіціных.)*

## Калі доўга-доўга ехаць...

*Если долго, долго, долго, если долго по тропинке,*
*Если долго по дорожке топать, ехать и бежать,*
*То, пожалуй, то, конечно, то, наверно-верно-верно,*
*То, возможно-можно-можно, можно в Африку прийти.*

***Юлій Кім***

Калі доўга-доўга ехаць
Ва усходнім накірунку
Ў цягніку ці на машыне,
Потым плыць або ляцець,
Дык яно і незаўважна,
Непрыкметна, неспадзеўкі,
Безумоўна і бясспрэчна
Ты прыедзеш ў Беларусь!

А-а, ў Беларусі рэкі вось такой шырыні,
А-а, ў Беларусі горы... ды адкуль там яны?
А-а, пералескі і пагоркі,
А-а, лісы, зайцы і вавёркі,
А-а, і магутныя зубры,
А-а, белавескія зубры.

Кліча, кліча нас рэкляма
На Багамы і ў Панаму,
На курорты ў Варадэра
І ў круіз на Юкатан.
Хто разумны, не марудзіць,
Ён бяжыць у турагенцтва,
Замаўляе там білеты
І ляціць у Беларусь!

А-а, ў Беларусі рэкі вось такой шырыні,
А-а, ў Беларусі людзі вось такой дабрыні!
А-а, Мірскі замак і Каложа,
А-а, берагі Дняпра і Сожа,
А-а, і вядома ж, горад Менск,
А-а, наш любімы горад Менск!

*(Музыка Аляксея Рыбнікава. Песьня з кінафільму "Пра Чырвонага Каптурка".)*

## Навагодняя песьня

Праходзяць дні, зьмяняюцца імгненьні,
Зноў гадзіньнік поўнач б'е,
Згадайма нашы мары-летуценьні –
Ноч дзівосаў настае!

Няхай
Спраўдзяцца вашы мары,
Зьменіцца да лепшага жыцьцё.
Сум міне,
Вецер разьвее хмары
З твараў,
Не бядуй, перамелецца ўсё!
Не сканчаецца цудаў карагод,
Ўсё збываецца ў ноч пад Новы год!

*(Песьня была напісана для навагодняга спэктаклю паводле мультфільму "Брэменскія музыкі". У арыгінальным мультфільме гэтая мэлёдыя Генадзя Гладкова гучыць бяз словаў. Яе можна пачуць у другой частцы "Па сьлядах брэменскіх музыкаў", у сцэне, дзе прынцэса зьбірае на лузе кветкі. Памятаеце: "Трубадур напісаў мэлёдыю, ды такую цудоўную, што проста не было словаў...")*

## Пяць хвілін

*Я вам песенку спою про пять минут,*
*Эту песенку мою пускай поют.*
*Пусть летит она по свету,*
*Я дарю вам песню эту,*
*Эту песенку про пять минут.*
*Пять минут, пять минут,*
*Бой часов раздастся вскоре.*
*Пять минут, пять минут —*
*Помиритесь, те, кто в ссоре!*
***Уладзімер Ліўшыц, Вадзім Карастылёў***

Я вам песеньку сьпяю пра пяць хвілін,
Хай ляціць яна між гораў і далін,
Хай ляціць яна па сьвеце,
Каб дарослыя і дзеці
Падхапіць за мной яе змаглі.

Пяць хвілін, пяць хвілін,
Хутка біць пачнуць куранты.
Пяць хвілін, пяць хвілін —
Ўсё прабач сваім сябрам ты!
Ў пяць хвілін, зразумей,
Калі шчыра разабрацца,
Можна шмат чаго пасьпець,
Трэба толькі пастарацца.
Пяць хвілін, пяць хвілін,
Хутка біць пачнуць куранты,
Ўсё прабач сваім сябрам ты!

На гадзіньніку дванаццаць безь пяці,
Новы год да нас сьпяшаецца прыйсьці.
Ён імчыцца поўным ходам,
Хутка скажам: “З Новым годам!”
Паглядзі – дванаццаць безь пяці!

Новы год не спыніць,
Ён амаль што на парозе.
Пяць хвілін праляціць –
Пасьпяшайся, хто ў дарозе!
Мілы дружа, павер,
Марнаваць хвілін ня варта,
Ўсё скажы, што не пасьпеў,
Не чакаючы да заўтра.
Мілы дружа, павер,
Ўсё скажы, скажы цяпер,
Не чакаючы да заўтра.

Часам нехта вырашае ў пяць хвілін,
Што ня жэніцца ніколі, і амін!
Ды бывае, што хвіліна
Налятае, як лавіна,
І жыцьцё зьмяняе ў міг адзін.

Ў навагоднюю ноч
Пажадаць хачу вам шчасьця.
Вось сядзіць хлапчанё –
Безь пяці хвілін ён майстар.
Безь пяці? Безь пяці.
Але ж пяць хвілін – ня годы.
Веру, здольны ён прайсьці
Празь любыя перашкоды.
Пяць хвілін – то ня годы,
Верым, здольны ён прайсьці
Празь любыя перашкоды.

Гэту песеньку маю пра пяць хвілін
Хай падхопяць і Таронта, і Бэрлін.
Ды пакуль я вам сьпявала,
Ноч чароўная настала,
Новы год пачаў адлік гадзін!

Ў Новы год шлях адкрыт!
З Новым годам, з новым шчасьцем!
Адляцелі ў нябыт
Год стары і ўсе напасьці.
Хай сьпявае народ,

Хай вясёлы сьмех бруіцца,
Бо на тое й Новы год,
Каб сьпяваць і весяліцца.
Ў Новы год шлях адкрыт!
З Новым годам, з новым шчасьцем,
З Новым годам, з новым шчасьцем!

*(Музыка Анатоля Лепіна. Песьня з кінафільму “Карнавальная ноч”.)*

## Песенька пра сьнег

Яго ня любяць дворнікі,
Зусім ня любяць дворнікі,
Яго зграбаюць горбамі,
А сьнег ізноў ідзе.
Ня скардзіцца, ня плачацца,
Пад ботамі камячыцца,
А дол няблізкім бачыцца,
Калі зь нябёс ляцець.

Цякуць дарогі ранамі,
І беліць ён старанна іх,
Ідзе сабе да раніцы
Нясьпешнаю хадой.
Крычу яму са шчырасьцю:
– Ўсё гэта будзе сырасьцю,
Адною толькі сырасьцю
І бруднаю вадой!

Глядзім вачамі сталымі –
Разумнымі ня сталі мы.
А што ў жыцьці трывалае?
Ні сэнсу, ні асноў…
Сьнег замятае дворыкі,
Яго ня любяць дворнікі,
Яго зьнішчаюць дворнікі,
А ён ідзе ізноў.





**КАРАЙЧЭНЦАВА Людміла** нарадзілася й стала жыве ў Маскве. З Браслаўшчыны, дзе на самавызначэньне паўплывала сям'я дзядзькі Кастуся Шыдлоўскага. Працуе ў ЮніКрэдыт Банку. Цікавіцца гісторыяй з пункту гледжаньня побыту й ладу жыцьця. Таксама любіць жаночыя заняткі: вязаньне, упрыгожваньне й выраб адзеньня. Малюе, захапляецца фатаграфіяй. Вельмі любіць падарожжы й мастацтва, асабліва ў Італіі, вывучае італьянскую мову. Дзеля фізычнага й духовага самаўдасканаленьня займаецца ёгай.

## Пра князя й пра нас

У далёкі час
На зямлі Беларускай
Жыў князь.
Ён любіў паляваць,
Як суседзі яго.
Аднойчы гора было:
На нашу Краіну
Вораг прыйшоў.
І гэты князь,
Князь-паляўнічы,
На ворага сьмела пайшоў.
“Жыве Беларусь!” – ён закрычаў,
І кінуўся ў бой.
Але лёс склаўся так,
Што ранен быў князь.
Раптам неба сьцямнела
У князя ў вачах,
І ўпаў ён
З разьбітым чалом.

Сябры-ваяры ратавалі яго,
Чырвоную кроў спынілі яны.

Але вораг на нас наступаў,
Ледзь не пабеглі нашыя палкі
Князь наш устаў, сарваў з чала павязку
І як штандар, ў руцэ яе трымаў.
На белай стужцы лягла чырвоная палоска.
Нашых зямлякоў падняўся дух,
Нашыя палкі прыйшлі ў рух,
І чужынца мы перамаглі.

Зараз я стаю пад моцным дрэвам,
Нада мною сьцяг наш бел-чырвона-белы.
І хочацца крычаць мне
Гучна-гучна,
Каб чулі ўсе,
Што Беларусь жыве!

* * *

Маўчы! Ты лепей слухай цішыню.
А я малюсь.
І, калі ласка, я прашу,
Ні слова пра вайну.
Яна ўжо тут,
Яна кранае нас.
І ты ня ўцячэш,
І я не ўцяку:
Яна пакосіць нас.
І я малюсь,
І ты маліся,
Як пяцьдзясят гадоў назад
Мае бацькі маліліся за нас.

## Божае Нараджэньне

Сьвята прыходзіць да нас,
У вочы нам зазірае,
І на душы ў вас
Цяпло заўжды пакідае.

Сьвечкі мігцяць, шышкі,
Ліхтарыкі зьзяюць добра,
І шакаладныя мішкі
Зьнікаюць у нашых ротах.

Водар паўсюль мандарынаў,
У келіхах поўна віна,
Летніх пара ўспамінаў,
Калі валадарыць зіма.

У гэты ўрачысты час,
У Нараджэньне Божае
Давайце піць за нас,
За Беларусь цудоўную.

* * *

Магчыма, адны беларусы
Ведаюць, дзе знаходзіцца іх Айчына.
А шмат людзей па сусьвеце бегаюць:
Дзеці, дамы, мужчыны.

Усе на сьвеце ведаюць
Лёндан, Парыж і Нью-Ёрк.
І толькі я ўспамінаю адно:
Браслаў, Відзы й дождж.

## Каханыя

Гарыць сьвяча,
Сядзіць адна
І піша ліст
Каханаму.

Дрыжыць рука,
Глядзіць з вакна,
І марыць
Пра каханага.

Напісан ліст,
Канвэрт ня чыст:
З ініцыяламі
Каханага.

Гарыць сьвяча,
Дрыжыць рука:
Трымае ліст
Каханай.





**ЛІЯКУМОВІЧ Цімох** — літаратуразнаўца, перакладчык, доктар філялягічных навук, прафэсар. Пераможца літаратурнага конкурсу беларусаў замежжа "Нашчадкі Скарыны" (намінацыя "Проза"). Нарадзіўся на Палесьсі. Настаўнічаў на Бабруйшчыне. З 1974 году працаваў у Берасьцейскім унівэрсытэце імя А. С. Пушкіна, з 1980 па 1998 год узначальваў катэдру расейскай і замежнай літаратур. Выдаў кніжкі "Потомки Пушкина в Белоруссии", "Янка Купала и русская литература: Многообразие творческих взаимосвязей" і інш. Адзін з аўтараў чатырохтомных "Нарысаў па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных узаемасувязей", вучэбнага дапаможніка "Русская литература ХХ века. 1895 — 1917" і іншых калектыўных прац. У беларускім друку выступае з 1961 году. Ягоныя артыкулы таксама друкаваліся ў навуковых зборніках, часапісах і газэтах Расеі, Украіны, Польшчы, у энцыкляпэдычных даведніках. З 1999 году жыве ў Чыкага, ЗША, дзе працягвае творчую і публіцыстычную дзейнасьць, вядзе старонку "Беларускія зарніцы" ў двухтыднёвіку "Земляки", на якой асьвятляюцца грамадзкія падзеі і праблемы культурнага жыцьця на роднай зямлі. У ЗША выдаў кнігі "Белорусские сполохи", якую склалі ягоныя пераклады твораў выдатных беларускіх празаікаў і паэтаў, а таксама артыкулы пра іх жыцьцё і творчасьць, і "Прописаны в сердце" — усебаковы нарыс аб адметнасьцях сучаснай Беларусі.

# Яе талісман

З таго часу як Алёна Трафімаўна памятае сябе, яна памятае і гэты твор жывапісу — карціну, што заўсёды ўпрыгожвала іх дом.

На першы погляд, палатно здавалася вельмі просьценькім, але чамусьці заўсёды суцішала і супакойвала Алёну Трафімаўну, кранала яе сэрца, нагадвала аб жыцьцёвых радасьцях і нягодах пражытых гадоў, турботах, трывогах і хваляваньнях. Звычайна карціна дапамагала ёй перадыхнуць у штодзённай мітусьні, скінуць зь сябе груз непрыемных уражаньняў, безь якіх не абыходзіцца жаночая доля, глушыла неспакой, дапамагала перавесьці дух у штодзённай мітусьні, выклікала душэўнае супакаеньне, прымушала ўнутрана падцяг-

нуцца, падбадзёрвала і ўздымала самаадчуваньне, паляпшала настрой, надавала новую энергію і паддавала ахвоты да жыцьця.

А на карціне мастак занатаваў прывабны куток ля Бярэзіны. Над самай вадой нахілілася плакучая вярба. Пясчаная сьцяжынка спускалася зь берага да ракі. Над вадою прымасьціліся невялічкія кладкі, куды, мабыць, прыходзілі жанчыны мыць і паласкаць бялізну. На процілеглым жа беразе ўзьнімаўся суцэльнай сьцяной лес. Былі відаць дрэвы розных парод. Яны ўзвышаліся ў сваім прыгожым асеньнім убраньні. Уся гэтая прывабная воку асеньняя прыгажосьць адлюстроўвалася ў рацэ, вада якой здавалася жоўта-зялёнай з рэдкімі блакітнымі нябеснымі водбліскамі, што прабіваліся ў прасьвеце паміж дрэвамі і ажыўлялі рачную паверхню. Пасярод жа ракі замерла невялікая лодка зь дзьвюма постацямі: відаць, дзяўчына і юнак. Але твар юнака немагчыма было разглядзець, бо дэталі не былі выпісаныя выразна. А дзяўчына сядзела абліччам да хлопца, сьпіной да гледача, і толькі яе вялікі шыракаполы чырвоны капялюш кідаўся ў вочы на фоне супакойнай асеньняй ракі яркімі контурамі, якія, здавалася, выклікалі нейкую трывогу ў прыродным замілаваньні.

Карціна спадарожнічала Алёне Трафімаўне ўсё жыцьцё. Палатно ў простай самаробнай рамцы вісела яшчэ над яе калыскай. Дзяўчынка дзіцячымі вачыма ўважліва разглядала прывабны краявід. Па намаляваным на палатне яна, мабыць, упершыню ўяўляла сабе разнастайнасьць навакольнага сьвету, пачынала здагадвацца пра ягонае хараство і прыгажосьць, уяўляць той сусьвет, які чакаў яе прыходу і зьбіраўся прыадчыніць перад ёю усё, што было наканавана лёсам.

Калі Алёнка пачала сама хадзіць, пад карцінай ёй абсталявалі куточак з цацкамі, зь яе любімай лялькай Машай і іншымі немудрагелістымі дзіцячымі забаўкамі перадваенных гадоў.

У час акупацыі Бабруйску нямецкімі захопнікамі карціна ледзь ня зьнікла зь іх дому. Нейкі італьянскі чын паквапіўся на яе і памкнуўся канфіскаваць. Але адзін з пакояў у іх доме аблюбаваў сабе нямецкі афіцэр. Калі італьянскі аматар жывапісу ўбачыў яго, то пасьпешліва рэціраваўся з хаты. Так і правісела карціна на тым жа месцы, у тым жа кутку ўсю ліхаманкавую ваенную пару.

Праўда, летам 1944 году, калі разгарнулася пасьпяховае наступленьне савецкіх войскаў пры ажыцьцяўленьні апэрацыі “Багратыён”, немцы ў мітусьлівым адступленьні з Бабруйску хадзілі па дамах, выганялі зь іх жыхароў і гналі перад сабою. Тады Вера Максімаўна, маці ўжо шасьцігадовай Алёнкі, пасьпела выцягнуць карціну з рамкі, хутка загарнула яе рулончыкам у нейкую старую, што трапілася пад руку, тканіну і забрала з сабою як самую дарагую рэч. І пайшла яна разам з дачкой і пяцігадовым хлопчыкам Ванем, прыхапіла з сабой яшчэ казу, якая ўратоўвала іх сваім малаком ад галоднай сьмерці ўвесь час акупацыі, у бок Менску, куды лаянкай, а то і ўдарамі прыкладаў гналі людзей па пыльнай дарозе ў сьпякотны чэрвеньскі дзень пасьпешлівыя разьлютаваныя немцы. Каля вёскі Сычкава жанчыне разам зь дзецьмі ўдалося маланкаю шугануць у высокую збажыну і зьбегчы ад немцаў, якія ў тыя гадзіны ўжо больш турбаваліся пра сваё ўласнае выратаваньне і ня вельмі пільна сачылі за сваім палоннымі – старымі, жанчынамі і дзецьмі.

Дабраліся да бліжняга лесу. У ім неяк пераначавалі з такімі ж небаракамі, як і самі. А раніцой, калі пачулі грукат па дарозе, асьцярожна выглянулі з-за прыдарожнага хмызьняку і ўбачылі чырваназорныя танкі. З радасьцю кінуліся сустракаць сваіх вызваліцеляў.

Карціна таксама вярнулася на сваё ранейшае месца. Алёна ж у наступную восень пайшла ў школу. І ёй абсталявалі вучнёўскі куток – у тым жа месцы, дзе калісьці стаяла яе калыска. Стол, за якім яна выконвала дамашнія заданьні, таксама аказаўся пад гэтай карцінай. І часам, калі яна стамлялася ад напружанага вучэбнага дня або нэрвавалася над рашэньнем мудрагелістай задачкі, ці трэба было знайсьці неардынарныя думкі для напісаньня сачыненьня, ці даводзілася тэрмінова чытаць па сотні старонак аб'ёмістага талстоўскага раману “Вайна і мір” да наступнага ўроку, яна ў хвіліны стомленасьці адрывала вочы ад сшытка ці кнігі, і позірк яе міжволі накіроўваўся да карціны, якая, здавалася, падбадзёрвала яе, ахвоціла з гонарам закончыць пачатую працу і падмацоўвала сілы, каб рашэньне нават немагчымай, на першы погляд, задачы, аказалася магчымым, каб дапісаць сачыненьне ці дачытаць патрэбныя старонкі кнігі. Карціна, быццам жывая істота, падтрымлівала яе, натхняла – была лепшым сябрам.

Зразумела, калі Алёна падрасла, яна зацікавілася тым, адкуль узялася гэтая карціна ў іх доме. Маці яе, Вера Максімаўна, расказала ёй, што намаляваў чароўны бярэзінскі пэйзаж мастак з Масквы. У 1937 годзе ён прыяжджаў на эцюды, бо быў родам зь нейкай невялічкай вёскі пад Бабруйскам. Ён вельмі любіў беларускую прыроду, дзеля таго і прыехаў, каб увасобіць яе непаўторныя краявіды на палотнах. Жыў ён у тым жа пакойчыку, які ў час акупацыі займаў нямецкі афіцэр.

– Мастак, – расказвала маці Алёнцы, – пражыў у нас усё лета. Калі ад'язджаў, то ў падзяку пакінуў нам адну са сваіх карцінаў, якую намаляваў тут.

– А куды дзеўся той мастак?.. Ён больш не прыяжджаў да нас?

– Не, больш мы яго ня бачылі. Ня ведаю, куды ён дзеўся. Нават больш нічога пра яго ня чула. А хлопец быў ён гарны, высокі, русавалосы, як і ты. Прыгожы. Бывала, як ідзе па вуліцы, дык дзяўчаты на яго азіраюцца. І вельмі кампанейскі быў. Твае бабуля і дзядуля ставіліся да яго як да роднага сына. Дапамагаў ім і ваду ў бочку нанасіць са студні, і агарод паліваць, і вішні з дрэў зьбіраць. Хадзілі разам у лес па грыбы і ягады. Бярэзіну туды і назад пераплываў. Але больш за ўсё любіў маляваць. Часам за сталом ці на адпачынку альбо за працай падгледзіць нешта сьмешнае і хутка алоўкам на паперы накіне нашыя выявы ў шаржаваным выглядзе. Твае бабуля зь дзядулем сьмяяліся, аж заходзіліся ад сьмеху, а я, дурніца, злавалася на тыя жартаўлівыя малюнкі і рвала іх на дробныя кавалкі... А ад'ехаў, як у ваду кануў...

Пры гэтых словах Алёнка заўважыла, як у маці нейкая хмурынка прабегла па твары. Здавалася, што яна штосьці недагаварвала, але ў юнацтве мы ня вельмі паглыбляемся ў перажываньні бацькоў. Да таго ж падчас размовы пастукалася ў акенца суседка-сяброўка і паклікала на танцы ў гарадзкі сад, паведаміўшы пры гэтым, што там сёньня будзе граць духавы аркестар і грэшна прапусьціць магчымасьць патанцаваць пад ягоную музыку.

Школу Алёна закончыла з залатым медалём. Пайшла вучыцца на лекара ў Менскі мэдыцынскі інстытут. Падчас вакацыяў яна прыяжджала ў Бабруйск. Улюбёным месцам у яе па-ранейшаму была канапа, якую набылі бацькі і паставілі пад карцінай. Ёй падабалася ўзьлезьці на яе з нагамі, падабраць іх пад сябе і забыцца пра ўсё на сьвеце за чытаньнем цікавай кнігі ці праглядам сьвежых часапісаў. Час ад часу, калі адрывалася ад чытаньня, задуменна глядзела на карціну, па якой так сумавала ў шумнай сталіцы.

У час вучобы Алёна прыглянулася хлопцу-філёлягу з суседняга пэдагагічнага інстытуту. Ды і ён быў ёй па сэрцы. Перад апошнім курсам яны згулялі студэнцкае вясельле. Хлопца, адзінага з выпуску, пакідалі на працы ў Менску, але маладыя параіліся між сабою і вырашылі, што трэба аддзякаваць Радзіме за веды, за ўсё добрае, што яна зрабіла для іх, і паехалі пачынаць свой працоўны шлях на вёску, як ні адгаворвалі іх родныя, сябры, знаёмыя і нават выкладчыкі, але яны цьвёрда стаялі на сваім.

І апынуліся ў адной зь вёсак на роднай Бабруйшчыне: яна – лекарам у вясковай бальніцы, ён – настаўнікам у сельскай дзесяцігодцы.

Нарадзіліся дзеці. Два хлопчыкі. Але мужа не пакідала цяга да далейшай вучобы. Ён паступіў у завочную асьпірантуру. Алёна Трафімаўна з мужам і дзецьмі часта прыяжджалі зь вёскі да яе бацькоў у Бабруйск, асабліва ў нядзельныя дні. Не гаворачы ўжо пра адпускны час. Прыяжджалі ня толькі пабачыцца з роднымі, але і таму, што не хацелі адрывацца ад культурнага жыцьця. Прыяжджалі, калі горад наведвалі вядомыя артысты, сьпевакі. Не мiналі сустрэч зь пісьменьнікамі, літаратурных вечароў. Наведвалі мастацкія выставы. Стараліся па магчымасьці, нягледзячы на занятасьць працай, сямейнымі справамі, грамадзкімі даручэньнямі, якіх нямала выпадае на долю вясковай інтэлігенцыі, падрыхтоўкай да кандыдацкіх экзамэнаў і напісаньня дысэртацыі, паглядзець новыя спэктаклі, пабываць на канцэртах. У такія прыезды да бацькоў Алёна Трафімаўна ніколі не пакідала па-за ўвагай бярэзінскі пэйзаж, які, быццам магніт, прыцягваў яе да сябе і чамусьці прымушаў мацней біцца сэрца.

Пасьля абароны кандыдацкай дысэртацыі мужа Алёны Трафімаўны запрасілі на працу ў адзін з абласных пэдагагічных інстытутаў. Адпрацавалі маладыя спэцыялісты ў вёсцы нават на год больш, чым належала тым, хто аказаўся ў сельскай мясцовасьці паводле накіраваньня.

Пры пераезьдзе на новае месца жыхарства Алёна Трафімаўна асьмелілася папрасіць у маці карціну, зь якой цяпер лучылася мноства дзіцячых, юнацкіх і дарослага веку ўспамінаў. Яна заўважыла, як маці здрыганулася, пабялела, разгубілася і на хвіліну нават затрымалася з адказам. Пры гэтым Алёна Трафімаўна міжволі ўспомніла, што нешта моцна ўсхвалявала маці, калі яна школьніцай упершыню загаварыла зь ёю пра карціну. Цяпер яна пільна і запытальна ўглядалася ў матулін твар.

– Мамачка, мне здаецца, што ты нешта ўтойваеш ад мяне. Што за тайна хаваецца за гісторыяй гэтай карціны? Чаму ты ня хочаш мне расказаць?..

Вера Максімаўна апамяталася. Абняла, прытуліла дачку да сябе і ціха сказала:

– Прабач, дачушка, але карціну не магу яшчэ табе аддаць. Прабач, дарагая... Прыйдзе час, і ты аб усім даведаесься...

Прайшлі гады. У Алёны Трафімаўны нарадзіўся трэці сын. Як і раней, у час адпачынку яна наведвала бацькоў. У свае прыезды доўга, задуменна стаяла каля карціны, з заміраньнем сэрца ўглядалася ў яе немудрагелістае адлюстраваньне куточка роднай прыроды, нібы набіралася сьвежых сілаў для далейшага жыцьця, да наступнай сустрэчы, хаця і нейкі ціхі сум апаноўваў яе пры гэтым.

Пайшоў з жыцьця бацька.

Алёна Трафімаўна ўгаворвала маці пераехаць жыць да яе. Аб гэтым жа

прасілі бабулю ўнукі. Іх просьбы настойліва падтрымоўваў зяць. Вера Максімаўна дзякавала дзецям, але пераехаць адмаўлялася.

...Аднойчы Алёна Трафімаўна атрымала тэлеграму ад суседкі Веры Максімаўны: “Прыяжджай хутчэй: твая маці цяжка хворая”.

Алёна Трафімаўна не пазнала маці. Яна бачыла яе заўсёды ў руху, з прывабнай усьмешкай на вуснах, з гарэзьлівым агеньчыкам у вачах.

На бальнічным ложку ляжала змарнелая, худая жанчына, з пабляклым тварам і патухлым позіркам.

Вера Максімаўна абрадавалася дачцэ. І пасьля роспытаў пра тое, як даехала, як адчуваюць сябе ўнукі, як вучацца, ці не перагружае сябе працай зяць, узяла дачушкіну руку і нагадала ёй:

– Вось і надыйшоў час расказаць табе ўсю праўду пра карціну, якую цяпер ты ўжо павязеш з сабою. Гэтая карціна намаляваная пэндзлем... твайго бацькі.

– Мама, дык чаму ж вы з бацькам трымалі гэта ў сакрэце? Я і ня ведала, што бацька так добра ўмеў маляваць. Чаму вы гэта ўтойвалі ўвесь час?

– Пачакай, дачушка. Не сьпяшайся... Карціну намаляваў не Трафім Сямёнавіч.

– Ды ты ж толькі што сказала, што яна напісаная бацькам?

– Але... бацькам. Але... Трафім Сямёнавіч ня быў тваім родным бацькам. Ён любіў і выхоўваў цябе як сваю дачку, але нарадзілася ты ад іншага, менавіта ад таго, хто намаляваў тваю любімую карціну...

Алёна Трафімаўна разгублена глядзела на маці, па твары якой каціліся сьлёзы. Яна доўга маўчала, быццам убірала ў сябе нечаканую навіну, якая звалілася на яе як гром зь яснага неба. Пасьля працяглага маўчаньня дрыжачым голасам запытала:

– Чаму ж, мама, ты так доўга ўтойвала ад мяне праўду? Што цябе стрымлівала, каб усё расказаць? Мая ўдзячнасьць Трафіму Сямёнавічу не паменшылася б усё роўна. Ён сапраўды ставіўся да мяне як да роднай дачкі. Я сьвята берагу памяць аб ім.

І пасьля чарговага доўгага маўчаньня запыталася:

– А ці жывы мой сапраўдны бацька?

Маці адмоўна пахітала галавой. І зноў буйныя сьлёзы пакаціліся зь яе вачэй.

– Дык што зь ім здарылася? Што перашкодзіла вам быць разам? Чаму вы рассталіся? Што ж разлучыла вас?..

– Ох, донька, ты ж ведаеш, у які нялёгкі час выпала мне жыць... Дай аддыхацца, дачушка. Не сьпяшайся. Усё раскажу табе па парадку. Як на духу сёньня спавядаюся перад табою... Доўгі час, амаль больш за два дзесяцігодзьдзі, я і сама нічога ня ведала... Але не сумнявайся ў тым, што можаш ганарыцца сваім бацькам. Ён быў шчырым і добрасумленным чалавекам. І валодаў сапраўдным талентам, талентам, як той казаў, дадзеным ад Бога. Я табе расказвала, які́м ён быў прыгожым хлопцам з адкрытай душой. А пасяліўся ён у нашым доме таму, што адсюль рукой падаць да Бярэзіны. Было яму тады 25 гадоў, але ягоныя карціны выстаўляліся на многіх выставах, карысталіся посьпехам. Мне ж тады споўнілася толькі 18 год. Я заканчвала пэдвучэльню. Спадабаўся ён мне вельмі. То было маё першае каханьне. Выявілася, што і ён неабыякавы да мяне. Гаварыў, што такой красуні ва ўсёй Маскве ня знойдзеш.

Адным словам, пачуцьцё было ўзаемным. Я амаль усё лета правяла зь ім на Бярэзіне. На лодцы, што на карціне, гэта мы ўдваіх. Я саромелася і не хацела, каб ён намаляваў мяне на карціне, таму ён і пасадзіў мяне сьпіной да гледача, але ярка выпісаў мой чырвоны капялюш ад сонца: сама ня памятаю, дзе здабыла такі. За яго колер ён дражніў мяне мухаморчыкам, а я за гэта вельмі крыўдзілася. А на карціне, тлумачыў, мой капялюш замест сонейка. Ён прыкрывае мне галаву, каб я заўсёды камфортна сябе адчувала, а ўжо мая ўладкаванасьць і яго будзе саграваць. Казаў, калі ты ня хочаш, каб пазналі цябе на карціне, дык і я свой твар ня буду выстаўляць. Няхай толькі мы з табой будзем ведаць, хто намаляваны на палатне... У канцы жніўня яго раптам выклікалі ў Акадэмію мастацтваў. Быццам для справаздачы аб летніх эцюдах. Ён прыхапіў з сабою карціны, якія намаляваў за час знаходжаньня ў Бабруйску, у паходах па ягоных ваколіцах і паездках па вёсках. Я раіла яму ўзяць з сабою і тую, што ў нас вісіць. Ён адмовіўся: “Не, гэта наша з табою карціна. Няхай яна будзе талісманам нашага шчасьця. Я хутка вярнуся, і мы пажэнімся. Не ўяўляю жыцьця безь цябе, любая!” А ён жа быў адзіным сьвятлом у маім акенцы. Вельмі не хацеў ад’яжджаць. Штосьці яго трывожыла. Абяцаў хутка напісаць ліст, вярнуцца. Карціну ж пакідаю, гаварыў, у залог абавязковага майго вяртаньня.

Вера Максімаўна перавяла дыханьне, аблізала сухія губы і працягвала ціхім голасам:

– Ад’ехаў і як у ваду кануў. Ні слыху, ні дыху! Калі бацькам стала вядома, што я пад грудзьмі нашу ягонае дзіця, настойліва патрабавалі, каб тэрмінова паехала ў Маскву, расказала яму, што чакаю твайго нараджэньня. Бацькі наракалі: на выгляд здаваўся прыстойным хлопцам, а на справе непрыгожа абыйшоўся зь дзяўчынай, якая даверылася яму... А я гордая была. У Маскву не паехала і пісаць яму ня стала. Вырашыла, што сама выхаваю цябе. І вельмі радавалася, калі ты нарадзілася ў мяне ў красавіку трыццаць восьмага.

– Так ты больш ніколі і не сустрэлася з маім бацькам? Ён так і не даведаўся пра маё нараджэньне? А як жа і калі ты дазналася, што яго няма на сьвеце?

– Слухай, дачушка, што далей адбылося. Я на настаўніцкую работу не змагла пайсьці. Узялі мяне сакратаркай у пэдвучэльню, бо добра ведалі мяне як старанную і дысцыплінаваную студэнтку... З табой, трохгадовай, сустрэла вайну. Ды і за Ваню калацілася ўвесь час акупацыі, якога ты лічыла за брацікa і якога Іванам назвалі, каб адвесьці ўсялякія падазрэньні ад гэбрайскага хлопчыка. Калі б немцы даведаліся, што мы прыгрэлі яго, то нам бы з табою сьмерці не мінаваць. Але не магла не абараніць сыночка сваёй лепшай сяброўкі, якую фашысты расстралялі разам з бацькамі. Ванеў жа бацька быў на фронце і выдатна адпомсьціў гітлераўцам за сьмерць родных, бо пасьля вайны вярнуўся паранены і пакалечаны, але ўсе грудзі ў ордэнах і мэдалях. Пражыў жа небарака нядоўга: памёр празь некалькі месяцаў пасьля перамогі... Добра, што суседзі аказаліся сумленнымі людзьмі, а то даўно б мы з табою парылі зямельку. Ваня і цяпер табе за брата застаецца. Выдатны інжынэр на буйным кіеўскім заводзе. Спраўнага хлопца выратавалі мы ад нямецкай кулі і дастойна выхавалі яго...

Пасьля вайны, як толькі пачала працаваць пэдвучэльня, мяне зноў узялі туды на працу сакратаркай. 9 траўня 1945 году я на плошчы Леніна разам з усімі жыхарамі гораду радавалася канцу вайны і раптам адчула, што хтосьці

ўвесь час на мяне паглядае і імкнецца быць побач. Аглядзелася потайкі і прыкмеціла ваеннага, капітана, што зь мяне вачэй ня зводзіў, стараўся апынуцца побач. Пазнаёміліся. Я выйшла за яго замуж. І, ведаеш, мы годна пражылі жыцьцё. І бацькам ён быў табе ды і Ваню такім, як і родны, здараецца, не бывае.

Алёна Трафімаўна слухала зь перахопленым дыханьнем.

– Пра няшчасны лёс твайго роднага бацькі, маёй першай і пранесенай праз усё жыцьцё любові, я даведалася толькі ў 1958 годзе. Ты ж ведаеш, якія падзеі адбываліся ў краіне ў сярэдзіне пяцідзясятых гадоў. Як гром сярод яснага неба, асабліва для нас, правінцыялаў, прагучаў даклад Мікіты Хрушчова на XX зьезьдзе КПСС аб сталінскіх злачынствах. Мы ж так самааддана верылі Сталіну, лічылі яго сваім богам. А тут раптам такое, што ў галаве ня ўкладвалася. Ня бог, а д’ябал. Адкрыліся вочы на многія злачынствы, што адбываліся ў краіне пры “мудрым” кіраўніцтве бацькі ўсіх народаў – гэтага вусатага чорта, мабыць, з самага пекла, у чалавечым выглядзе...

Дык вось дзесьці пад канец 1958 году, напярэдадні навагодняга сьвята, атрымала ліст з Масквы. Пісала незнаёмая жанчына. Добра, што мы адрас не мянялі: жылі ў тым жа доме, што і да вайны, а то ліст мог і ня трапіць у мае рукі. Пісала сястра твайго бацькі. Яна паведаміла, што ў 1937 годзе твой бацька так і не дабраўся да сваёй маскоўскай кватэры. Яго арыштавалі проста на вакзале, як толькі сыйшоў зь цягніка. Абвінавачвалі ў буржуазным нацыяналізме, дакаралі за тое, што не паехаў на эцюды на будоўлі сацыялізму, а ў Беларусь – маляваць “пэйзажыкі”. Калі ж даведаліся, што яго дзед быў палякам, то прыпісалі яму яшчэ і шпіёнства на карысьць буржуазнай Польшчы. Сапраўднай прычынай арышту, відаць, быў жартаўлівы шарж на Сталіна, які ён неяк накінуў на паперы ў час застольля зь сябрамі. Нехта і данёс аб гэтым туды, дзе пільна сачылі за аўтарытэтам правадыра.

Вера Максімаўна памаўчала, потым глынула вады са шклянкі, якую паднесла ёй Алёна Трафімаўна, і працягвала:

– Сястры твайго бацькі, вядомай актрысе, у час сьледзтва празь нейкіх высокапастаўленых знаёмых удалося атрымаць спатканьне з братам. Тады ён і расказаў ёй пра сваё каханьне да мяне, прасіў запомніць мой адрас, паведаміць пра тое, што ён арыштаваны, што абвінавачваецца ў такіх грахах, да якіх ня мае ніякага дачыненьня, і верыць у тое, што савецкая ўлада справядліва разьбярэцца ва ўсім, што хутка яго выпусьцяць, і ён адразу прыедзе па мяне. Ягонай сястры далі зразумець, што з такімі абвінавачаньнямі наўрад ці яго апраўдаюць, наўрад ці выпусьцяць. Тым, хто трапіў у лапы “органаў”, нічога добрага ня сьвеціць, калі нават пакінуць у жывых...

Жанчына прасіла ў мяне прабачэньня за тое, што тады адразу ж не напісала мне. Яна шкадавала мяне, маладзенькую, амаль дзяўчынку, не хацела, каб нейкая пляма ўпала на мяне за сувязь з “ворагам народу”. Баялася, каб і мне ўлада не зламала жыцьцё. Высакародная жанчына!

Пра тваё нараджэньне яна нічога ня ведала. Яна напісала мне адразу, як толькі атрымала паведамленьне аб поўнай рэабілітацыі брата – паведамленьне аб тым, што ніякіх грахоў супраць дзяржавы за ім ня лічыцца. Цудоўным чалавекам была і ягоная сястра: інакш больш за 20 гадоў не захоўвала б у памяці мой адрас. Вядома, і перад братам хацела выканаць свой абавязак. Ды пры сустрэчы такой і аказалася.

– Як? Ты бачылася зь сястрой бацькі? Калі?

– Прабач, дачушка, і ты таксама сустракалася зь ёю... Пачакай, не перабівай. Аддыхаюся трошкі... Дык вось, калі я атрымала ад яе ліст і адчула душэўнасьць гэтай жанчыны, я не магла не паведаміць ёй аб тым, што ў яе брата ёсьць дачка. Як яна абрадавался! І летам 1960 году, калі ты закончыла IV курс, прыехала да нас, каб паглядзець на цябе.

– Нешта не разумею. Я добра памятаю масквічку, якая тады гасьціла ў нас. Нават ганарылася, калі потым бачыла фільмы зь яе ўдзелам. Хвалілася перад сяброўкамі, што гэта мая цётка. Ты ж казала, што гэта далёкая родзічка майго другога бацькі, Трафіма Сямёнавіча.

– Ох, і грэшная я перад табою, дачушка. Мы дамовіліся зь ёю тады, што яшчэ ня час табе знаць усю праўду. Хацелася, каб табе спакойна жылося на сьвеце, ніякія думкі не адрывалі ад вучобы. Уберагалі цябе. Бацькава сястра амаль год і грошы прысылала нам, каб падтрымаць цябе, каб дапамагчы тваймy студэнцкаму жыцьцю. А потым яна памерла. Ці думалася тады, што так здарыцца? Меркавалі ўсе, утраіх, я, яна і твой другі бацька, усё табе расказаць, як скончыш вучобу, як выйдзеш замуж. Яна так марыла пабываць на тваім вясельлі. Не атрымалася... Вось я адна вымушаная выконваць цяжкую місію перад табою. Не крыўдуй на мяне, дачушка!

Цяпер ты ведаеш, чаму наша карціна такая дарагая для мяне... Гэта часьцінка майго каханьня, жывая сьведка, што яно было насамрэч. Гэта і сьветлая, і горкая часьцінка майго жыцьця. Яна прэлюдыя твайго зьяўленьня на сьвет. Гэта адзіны падарунак твайго бацькі, які застаўся ў мяне і які я пры расстаньні з жыцьцём магу перадаць табе на памяць аб нас дваіх з бацькам. Беражы яе! Няхай жа, дачушка, яна стане талісманам твайго шчасьця. Як мяне ахоўвала, так няхай і цябе ахоўвае ад усякіх бед, прыносіць у твой дом адну толькі радасьць...

Алёна Трафімаўна прывезла карціну з Бабруйску і зьмясьціла ў сваёй кватэры на самым ганаровым месцы.

...Але, відаць, Расея, што зьяўлялася асноўнай часткай Савецкага Саюзу, ня можа існаваць без узрушэньняў. Пачалася так званая перабудова, якая перавярнула ўсё ўверх дном, а з дна жыцьця ўзьнялася ўсялякая каламуць і ўсялякі бруд. Верх узялі людзі, якія, апрача ўласнага абагачэньня, нічога не хацелі ведаць і нічога сьвятога для іх не было на сьвеце, хаця многія зь іх маланкава пасьпяшаліся перахрысьціцца з камуністаў у заўзятых вернікаў. Гэтыя людзі цынічна "прыхватызавалі" ў свае кішэні ўсе багацьці вялікай краіны. Апусьцелі крамы. Не было магчымасьці набыць ні адзеньня, ні абутку. Пуставалі паліцы і ў харчовых крамах. А праведзеныя рэформы адабралі ў працоўных людзей апошнія грошы і ператварылі большую частку жыхароў краіны ў жабракоў.

Празь нейкі час у крамах пачалі зьяўляцца прадукты. Паляпшаліся справы і з прамысловымі таварамі. Але набыць іх насельніцтву не было за што. Алёна Трафімаўна з мужам выйшлі на пэнсію. Пэнсійныя выплаты былі мізэрнымі. Муж горка жартаваў: "Зараз хаджу ў краму, як у музэй. Паглядзець, што людзі ядуць". Самому хапала толькі на хлеб, малако і батон.

Абставіны яшчэ больш пагоршыліся, бо дзеці Алёны Трафімаўны адзін за адным гублялі працу. Завод, на якім працаваў старэйшы і добра калісьці зарабляў, бо нешта там рабілі для касьмічных караблёў, увогуле зачыніўся празь не-

каторы час пасьля распаду краіны. Будаўнічая арганізацыя, у якой працаваў сярэдні сын, таксама ў хуткім часе "загадала доўга жыць". Малодшы сын, які працягваў жыць з бацькамі, працаваў настаўнікам, атрымліваў жабрацкую капейчыну. Да таго ж ён ажаніўся, нарадзілася дзіця, якому патрэбны быў мацярынскі клопат, ды і пры жаданьні маладой жанчыне ўладкавацца на працу не было ніякай магчымасьці.

Нейкі час выратоўвала суседняя Польшча. Хлопцы, усе з вышэйшай адукацыяй, вымушаныя былі везьці туды на продаж некалькі бутэлек гарэлкі, атрымаць зь іх продажу прыбытак у некалькі дзясяткаў рублёў, якія дапамагалі неяк пратрымацца. Ды і справа гэтая была няпростая: доўгія чэргі на мяжы ды купля-продаж былі не па іх душы.

І тут сыны Алёны Трафімаўны ўспомнілі пра Ваню, які быў Мішам, якога ў час вайны выратавала іх бабуля, які рос і выхоўваўся разам зь іхняй маці. У знак удзячнасьці ён захаваў за сабою прозьвішча сваіх выратавальнікаў і выхавацеляў. Нацыянальнасьць жа ў пашпарце, калі надыйшоў час яго атрымоўваць, узнавіў сваю сапраўдную, бо замену яе лічыў здрадай сваім бацькам. Таксама вярнуў сваё сапраўднае імя.

Калі ў краіне пачалася катавасія, якая суправаджалася антысэміцкімі выказваньнямі, Міхаіл і зьехаў у ЗША. Часта пісаў лісты, угаворваў жанчыну, якая стала ягонай сястрой у час сьмяротных выпрабаваньняў, даць згоду на пераезд да яго. Неаднаразова адзначаў у лістах, што ад дзяржавы, якая ня ставіцца аднолькава да ўсіх сваіх сыноў, у якой сумленныя людзі па нацыянальнай прыкмеце лічацца другасортнымі, нельга нічога чакаць лепшага, бо ў такой краіне думаюць не пра росквіт сваёй роднай старонкі, не аб тым, як лепей працаваць на яе карысьць, а пра тое, як прынізіць іншых, тых, хто сапраўды не шкадаваў сіл, здароўя і нават жыцьця для яе абароны і росквіту, для росту эканомікі і культуры, якімі ў першую чаргу карысталіся тыя ж зласьліўцы. Ён лічыў, што так могуць рабіць толькі недаразьвітыя, прыдуркаватыя, недапечаныя людзі, ад якіх нічога людзкага дачакацца немагчыма.

Спачатку запрашэньні былога суайчыньніка эміграваць выклікалі ў сям'і дружны сьмех, успрымаліся як першакрасавіцкі жарт.

Але Міхаіл аказаўся настырным. Ён нагадваў Алёне Трафімаўне: "Мы з табой як па дакумэнтах, так і ў жыцьці засталіся братам і сястрой. У адпаведнасьці з законамі Злучаных Штатаў мы маем права на ўзьяднаньне сям'і. Вы як хочаце, а я стаўлю вас на ўлік. Калі надыйдзе чарга, глядзіце самі. Але ж усётакі раю вам пераехаць".

І калі напачатку над ягонымі лістамі, дружна сьмяяліся, бо нават і ў дурным сьне не ўяўлялі, што можна расстацца з родным краем, не ўяўлялі сабе жыцьця па-за ягонымі межамі, то з часам гэты сьмех станавіўся горкім.

Першымі задумаліся над прапановаю новасьпечанага іншаземца, былога суайчыньніка і земляка, дзеці Алёны Трафімаўны. Яны ня бачылі ніякай пэрспэктывы для сябе ў аглядным будучым. Пачалі насядаць на бацькоў, каб яны згадзіліся з прапановай Міхаіла. Ну, а якія ж бацькі хочуць дрэннага сваім дзецям?!

І калі прыйшло паведамленьне з далёкай краіны, што родзічам Міхаіла новая дзяржава дазволіла аб'яднацца, Алёна Трафімаўна з мужам сталі зьбірацца зь вялікай трывогай у сэрцы ў новы для сябе сьвет, каб пасьля ўладкаваньня ў ім выклікаць дзяцей.

Выявілася, што карціну нельга вывозіць за межы Беларусі без дазволу. Алёна Трафімаўна павезла яе на экспэртызу ў Менск. Плакала, даказвала, што гэта сямейная рэліквія, што яна намаляваная мастаком-аматарам, што яна ня мае ніякай дзяржаўнай каштоўнасьці – нічога не дапамагло. Менская ацэншчыца стаяла цьвёрда на сваім: калі хочаце вывезьці карціну, дык трэба заплаціць за яе. Пры гэтым сума называлася такая, што Алёна Трафімаўна толькі за галаву схапілася: “Дзе я вам вазьму такія грошы?” На што ацэншчыца абыякава адрэагавала:

– Гэта ўжо вашая справа!

Вярнулася Алёна Трафімаўна зь Менску засмучаная і ў горкім настроі. Яна лічыла, што ня будзе ёй радасьці на новым месцы жыхарства, калі яна паедзе без карціны – без талісману свайго шчасьця.

Меркавалі пасправабаваць правезьці карціну без дазволу. Можа, мытнікі ня зьвернуць на яе ўвагу! Але Алёна Трафімаўна з мужам не рашыліся на такі крок: могуць прычапіцца, думалася, і ўвогуле ня выпусьцяць з краіны.

Не рашыліся на яе правоз без дазволу праз год і дзеці – таксама не рызыкнулі падстаўляць сябе.

На новым месцы Алёна Трафімаўна ніяк не магла супакоіцца. Яна часта згадвала пра пакінутую карціну, сумавала і маркоцілася безь яе.

Калі празь некалькі гадоў канчаткова абсталяваліся ў чужой краіне, Алёна Трафімаўна запрасіла да сябе ў госьці былую супрацоўніцу, старэйшую сяброўку, зь якой разам доўгі час працавала ў шпіталі. Тая, адчайная галава, былая франтавічка, узялася ўпотай правезьці карціну: “Затрымаюць мытнікі – дык затрымаюць. Падумаеш, пражыла ўсё жыцьцё без Амэрыкі, і нічога ад мяне не адваліцца, калі і не пабачу яе. Дзе нашая не прападала?!”

І нейкім чынам ёй удалося абвесьці пільных мытнікаў вакол пальца. Карціна пераплыла, а дакладней, пераляцела праз акіян.

Нарэшце, Алёна Трафімаўна зноў убачыла сваю карціну. Жанчына была на сёмым небе ад шчасьця. Абдымала, цалавала сваю сяброўку. Са сьлязамі на вачах прызнавалася, што ніхто ў жыцьці не зрабіў ёй такой вялікай паслугі, як мілая госьця з роднай зямлі...

Карціна зь беларускім пэйзажам узвышаецца на самым пачэсным месцы ў сьціплай чыкагскай кватэры Алёны Трафімаўны. Яна нагадвае ёй родную Беларусь, нагадвае пра самых дарагіх людзей. Жанчына бачыць у ёй часьцінку сваёй Радзімы. І цяпер яна паверыла ў тое, што ўсё будзе добра ў яе далейшым жыцьці, бо ня толькі на карціне, але і ва ўласным сэрцы яе прапісаная Радзіма. Чалавек жа, куды б ні закінуў яго лёс, калі ў сэрцы ягоным прапісаная Радзіма, ня можа быць нешчасьлівым.





**МІНКІН Алег** нарадзіўся 31 сакавіка 1952 году ў вёсцы Чарняўка Хоцімскага раёну Магілеўскай вобласьці.

Пасьля заканчэньня Бабруйскай школы-інтэрнату № 1 (1969) паступіў у Маскоўскі энэргетычны інстытут, праз два гады перавёўся ў Маскоўскі інстытут інжынэраў сельскагаспадарчай вытворчасьці (скончыў у 1975 г.). Працаваў майстрам на будаўніцтве электрападстанцыі ў Бурацii (г. Улан-Удэ), інжынэрам-электрыкам на нафтаперапампоўваючых станцыях нафтаправоду “Дружба” (г. Наваполацак), інжынэрам-наладчыкам у сыстэме “Галоўтранснафта” (г. Гомель), інжынэрам тэхнагляду на нафтаправодах поўначы Цюменскай вобласьці (г. Наябрск). Сябра СБП з 1988 году. Жыве ў Вільні.

Пачаў выступаць у друку зь вершамі ў 1980 годзе. (Газэты “Гомельская праўда”, “Літаратура і мастацтва”.) Аўтар зборнікаў паэзіі “Сурма” (1985), “Расколіна”, прозы “Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў” (1994), а таксама дзіцячых кніг. Пераклаў вершы Ц. Норвіда, Б. Лесьмяна, Л. Стафа, П. Грабоўскага.

У 2007 годзе Алег Мінкін атрымаў літаратурную прэмію Таварыства вольных літаратараў “Гліняны Вялес” за кнігу вершаў “Пенаты”. Алег Мінкін цягам васьмі гадоў выдаваў газэту віленскіх беларусаў “Рунь”, якая распаўсюджвалася сярод беларускай дыяспары далёка за межамі Летувы.

# Кукабака

Хоць ён і з выгляду, і з твару  
Падобны чымсь на Канібару,  
А яшчэ больш на Кукабару,  
На Кукабару-выхваляку, –  
Ды самахвальства ані знаку  
Ня знойдзеш ты у Кукабаку.

У чорных бурках ходзяць горцы,  
У белых жупанах – літоўцы,  
А Кукабака – у ватоўцы,  
Бо ў месцы, дзе зімуюць ракі,  
Худыя ракі-небаракі,  
Прайшло жыцьцё у Кукабакі.

Ня бачыў там ён булак з макам
І еў счарсьцьвелы хлеб са смакам,
Аднак на зло ўсім злым сабакам
Ня стаў ні Букам ён, ні Бякам,
А так і выйшаў – Кукабакам,
Вясёлым, добрым Кукабакам.

## Кукабака й бэз

*За агароджаю перад астрогам*
*У ціхім куточку адна*
*Кветка красуе на грунце убогім,*
*Хораша зьзяе яна.*

***Я. Колас***

Пад мурам таго самага мэханічнага цэху,
Дзе Кукабака вырабляў пратэзы,
Штогод у траўні зацьвітаў куст бэзу,
Сарамліва затуляючы счарнелую цэглу.

Такой нязвыклай і такой сірочай
Была сярод шкла, бэтону й зялеза
Лілёвая квецень квітучага бэзу,
Што Кукабака адводзіў вочы.

На тэрыторыі, абнесенай дротам,
Квітучага бэзу лілёвая кіпень
Здавалася Кукабаку дзівосным выкапнем
Нейкай недарэчнай, забытай пяшчоты.

Напэўна ў Кукабакаў задушны закутак
Той, хто ня церпіць ніякага лішку,
Дадаваў штогод пяшчоты крышку,
Каб яшчэ яскравей адцяніць пакуту.

## Кукабака й Сымон-музыка

*– Гісторыя гэта малая,*
*нібы акурак папяроскі...*

***Максім Танк***

Гісторыю гэтую кожны сабака
За костку курыную распавядзе:
Такіх сяброў, як сьмяцяр Кукабака
І Сымон-музыка ня стрэнеш нідзе.

Возіць Кукабака сьмецьце за горад
На старым грузавіку ў зялезнай скрыні,
А Сымон-музыка развучвае творы
Баха, Бэтховена й Паганіні.

Увечары Кукабака здымае ватоўку
І ў новых чаравіках і капелюшы
Ідзе да сябра з пляшкай “Зуброўкі”
Паслухаць што-колечы для душы.

Часьцей за ўсё Кукабака ў Сымона
Просіць сыграць – і відаць нездарма! –
Сюіту Грыга пра край сьцюдзёны,
Дзе цэлы год пануе зіма...

Зьбягаюцца ў купку зоркі дробныя,
Каб паглядзець, як у пройме вакна,
Кукабака й Сымон, такія непадобныя,
За клясыкай бавяць свой час давідна.

## Кукабака й праваабаронца

Ёсьць анамальныя на земскай кулі зоны,
Дзе лёгкія чаўрэюць без азону,
Дык, стуль вярнуўшыся у родныя Расоны,
Вандроўнік Кукабака з парасонам
Шпацыраваў падоўгу ў дождж і град,
Калі ў паветры так азону шмат.

На земляка дзівіліся расонцы...
І запытаў адзін зь іх (акурат
Пасьля таго, як навальніца адгрымела):
– Чым бавісься цяпер, вандроўнік сьмелы?
– Ды вось гляджу на зіхаценьне сонца
У лужыне... А ты што робіш, брат?
– Ня чуў?! Я – знаны праваабаронца
І дэмакрат!

## Кукабака й бочка мёду

Каб сам ня ведаў, дык ня даў бы веры,
Што Кукабаку горне да паперы.
Любіў на ёй ён нешта крэмзаць ноччу,
Блукаючы душой па зааблоччы.

А не, дык сам да зор на крылах мар
Імчаў у неразьведаны абшар,
Зьбіраў радкі там нейкія ў прыпол
І складваў па прылёце ў мех пад стол.

Ураньні па вяртаньні з краю зорак
Выходзіў, стомлены, у сад ці на падворак,
Дзе ўжо ад золку працаўніцы-пчолкі
Гулі сур'ёзна й лёталі суполкай
На собскіх крылцах – не на крылах мар! –
Па кропельцы зьбіраючы нэктар
Зь язьміну, вішні, яблыні і дулі,
І несьлі ўзятак да суседа ў вулей.

Канечне, пчолкам, што зьбіралі мёд
І гадавалі малады выплод,
Паэт-самотнік у душы зайздросьціў...
Але аднойчы Кукабаку ў госьці,
На пасеку ў альтанку, на абед
Ласкава запрасіў пчаляр-сусед.

Пасьля таго, як выпілі па чарцы
І моўчкі раскурылі па цыгарцы,
Сусед сказаў: "Дык мы ж з табой суседзі!
Праз шчыліну ў паркане я разгледзеў:
Штоноч на крылах мар ты ймчыш да зорак
І вершаў назьбіраў там цэлы ворак.
Штось прачытай, бо сам, хоць не пішу,
А маю паэтычную душу".

І Кукабака (як і ўсе паэты)
Агучыў верш "Нясьвіскія партрэты".
Пчаляр усклікнуў: "Зьмест і стыль выдатны!
Прыемна, што сусед мой гэткі здатны!
А то надоечы, майструючы карыта,
Я чуў па радыё якогась Бумбуліта:
Чытаў ён складна й ад душы нібыта,
На роднай мове, гучна так і сьмела,
Аднак, каму й нашто, незразумела.
Ня грэе сэрца ён, і гэтым шкоду
Паэзіі наносіць і народу, –
За верш яго ня дам і кроплі мёду!

А ты інакшы! Ты не выхваляка!
І, хоць пазорам рыхтык Кукабака,
Відаць, ня дарма гойсаеш па зорах –
Пісаць, як пішаш ты, зусім ня сорам!
Прызнацца, слухаў я твой верш і прасьлязіўся...

Што ж, добра, што ў табе не памыліўся.
Ад сэрца чыстага ўручаю ўзнагароду:
Вось гэту бочку залатога мёду!”

Шкада, што аніхто тым адвячоркам
Ня бачыў, як паэт на зайздрасьць зоркам
Сіляў духмяны мёд і разважаў пры гэтым:
“А што? Зусім няблага быць паэтам!”

## Кукабака й Зялезная Баба *

Няма ў паданьні першага абзацу,
Як Кукабака страціў хату й працу...
Кашэль худы ў кішэні ён памацаў
І на прыроду вырашыў падацца –
У зарасьці акацый за палацам.

(Я неяк з Кукабакам гаварыў,
Калі ён бульбу ў казанку варыў.
Ён, покуль чорная трывала паласа,
Каб не забыць, што ў сьвеце ёсьць краса,
Чытаў Хаяма вершы і Сыса.)

Ён не цураўся сваёй новай долі,
Зьбіраў пустыя пляшкі ў навакольлі,
Здаваў і меў хлеб-соль і да хлеб-солі...
Ды неяк раз свае занёс ён драбы
Ва ўзорны агарод Зялезнай Бабы.

Глядзіць: парадак навакол і лад.
Часнок з цыбуляй вызіраюць з град.
Пад лісьцем хрумсткія прылеглі агуркі.
Буяюць боб, і кроп, і буракі.
Цьвіцеюць бульбы роўныя шнуркі.
І цешаць вока гарбузоў бакі.

І Кукабака ўзяў бяз дайпрычыны
З чужой разоры выдраў часначыну
І ўжо хацеў сыходзіць мірна, чынна –
Ды тут пачвара ў постаці жанчыны
Яго чапнула крукам за бачыну.

Шырокі да яго сланечнік-твар,
Наблізіла, што зьзяў, як самавар.
Нягеглая, ды моцна так сваймі
Зялезнымі прыціснула грудзьмі,
Сказаўшы: “Не тамі – лепш абдымі.

Жыву адна я ў ладнай шчэ халупе.
А ты, бач, тужыш па гарачай зупе.
Будзем гарод цяпер капацьма ўкупе.
Калі ж пасьмееш штось казаць насупар,
Стаўку цябе ў сваёй зялезнай ступе!

А што да вершыкаў Сыса й Хаяма –
Чытай... Я ж хоць пачвара, але дама".

* Зялезная Баба – міталягічнае стварэньне, агародны дух.

## Кукабака перад люстрам

Вунь, у люстры, мой адбітак,
Не адбітак – перажытак:
Зжоўклы твар у зморшчках спрэс,
Плех на месцы, дзе быў лес...

Эх, падсела, падгніло,
Пане Дух, тваё жытло,
У якое мімаходзь
Запіхнуў цябе Гасподзь!





**МУРЗЁНАК Пётр**, сын Пятра, родам з Пастаўшчыны. У Канадзе жыве 11 гадоў. Першы невялікі зборнік вершаў “Быліна мая, Беларусь” выйшаў у 2000 годзе ў Атаве. Вершы друкаваліся ў часапісе “Крыніца” (Менск), у газэтах “Беларускае слова” (Таронта), “Беларус” (Нью-Ёрк) і ў альманаху “Беларус 2008”.

# Лыжнік
## *(паэма)*

*Натальлі*

### Частка першая

*The sailboats, the silver water,*
*the crystals on her eyelashes.*
*All the world sudden and shining*
*the moment before God turned you inward.*
*“Book of Longing”*. **Leonard Cohen**

---

*Ветразі, серабрыстае мора,*
*крышталікі солі на яе вейках.*
*Увесь сьвет нечаканы і зіхоткі за момант да таго,*
*калі Бог пакліча вас зазірнуць у сябе.*
*“Кніга жаданьня”*. **Леанард Коэн** (*перакл. з англ.*)

# I

Лыжня бяжыць бясконца,
Паветра “мінус пяць”
Ды ярка сьвеціць сонца –
Прывабна пагуляць.

Аматараў нямнога,
Што выйшлі ў добры час
На сьнежную дарогу
Бялюткіх зімніх трас.

Спачатку бегчы лёгка –
Не ўпершыню ён тут.
Ды толькі стынуць лёгкія,
А сэрца — тук-тук-тук.

І хоць цяпер ня лета
Цячэ па твары пот.
Ды хутка пройдзе гэта –
Праз крокаў васемсот.

Раўней стане дыханьне
Ля стройнае сасны,
Дзе з сэрца заміраньнем
Успомніць час вясны.

І першым успамінам
Узьнікне родны край,
Дзе роджаны ліцьвінам
У добры месяц май.

Падумаць – толькі ўчора
Пад гоман дзетвары
На лыжах гнаў да зорак
З Міколкавай гары.

А потым і падлеткам,
Каб спадабацца ёй,
Бег, што ёсьць сілы боскай,
Пастаўскаю лыжнёй.

Пасьля ў Зялёным лузе,
Пад Менскам, дзе зімой
Ля вогнішча у крузе
Ядналіся сям’ёй.

Адтуль да лыж такая
Прывезена любоў.
У канадыйскім краі
Працягваецца зноў.

## II

Сасновыя галінкі
Гуляюць са сьняжком,
Ссыпаючы іскрынкі
Пад лёгкім вецярком.

На дрэве пакалечаным,
Ўчапіўшыся за сук,
Хваробу дзяцел лечыць.
Дзе ж гэты дзеўся жук?

Сінічкі-невялічкі
Зьляцелі на руку,
Ды хлебам з рукавічкі
Сілкуюцца крыху.

Што гэта за навіны?
Ў палонку, ух, папёр!
З галінкаю асіны
Сярод зімы бабёр.

Застылі воддаль лані
На просецы лясной.
Радзей іх бачыць станем
Зялёнаю вясной ...

## III

Ён часу мае многа,
Каб разважаць з сабой,
Бы з казачнага рога,
Вітае думак рой.

Чаго лятае тут ён?
Што хоча даказаць?
Чым хваліцца ён чутна
Ў свае пяцьдзесят пяць?

Усё было ў мінулым
Любоў ды шмат надзей,
Сям’я, кар’ера, думы,
Жыцьцё яго дзяцей ...

Ўлюбляўся у дзяўчатак
Прыгожых карагод –
Такі спрадвек пачатак
Меў чалавечы род.

Дык ў чым тады адметнасьць
Яго шляхоў-дарог,
Што ўспомніць кожным летам
Ён з радасьцю бы мог?

Так! Мае падарунак!
Ім цешыць ён свой род.
Свой лепшы пацалунак
Сьвяткуе трыццаць год.

Фантазія і сьвята,
Спляліся між сабой,
Не разьдзяліць пачатак
Ніякай варажбой.

Сілкуецца каханьнем
Гарачы подых той,
Яшчэ наканаваньнем –
Быць неразлучна зь ёй.

Ці цяжка гэта? Цяжка,
Усё перамагчы:
Сябе, нягоды, важкую
Сьлязу мужчын ўначы.

Ўзамен жа чуе гонар,
На тым стаіць даўно,
Цяпло, спакой і годнасьць
Ды веру заадно.

## IV

З гары ляціць ён хутка,
Бы ветру той парыў,
Ўгару ж, як брыз той чуткі,
Што ласкаю накрыў.

Ў каханьні ці ня горай –
З гары, яшчэ з гары ...
Калі ж нясьпешна ўгору –
Хіба ты ўжо стары?

Каханьне, як найменей,
Бывае двух сартоў,
І справа не ў найменьнях,
А ў тым, на што гатоў.

Аддацца моцна жарсьцям
Да дна, згарэць навек,
Напоўніць сэрца шчасьцем
І не расплюшчыць век,

Напіцца асалоды –
Было каб аж празь верх;
То больш маці-прыроды
Таемнасьці паверх,

То родны край інстынктаў,
Трагедый, райскіх ніў,
Цікавых лябірынтаў,
Аб тых, што толькі сьніў,

То сплаў у невядомасьць,
У вір жыцьця-ракі.
З табой уся маёмасьць –
Не важны берагі.

Нясуць каханых хвалі
Ў любові акіян,
Пакуль шчэ не прысталі,
Не напаткаў падман.

Мацней сьціскаюць двое
Ласкавых рук вянок –
Яны п’юць трапяткое,
Жыцьцёвае віно.

Стратэгія й бархотнай
Таксама можа быць:
Паважнай і пяшчотнай,
Каханым на карысьць.

Ад розуму тут болей
Каханага жыцьця.
Такую мае долю
Любоў, што ад быцьця.

Не-не, то не прывычка,
Што вымушае жыць.
То хрысьціянаў звычка
Душы сваёй служыць.

І кожная хвіліна
Мацней збліжае іх,
Дзе добрая навіна –
У радасьць для дваіх.

У міры і каханьне
Крапчэй і саладзей.
І гэта не прызнаньне –
Каб ўсё як у людзей.

Дайсьці да ідэалу
Няпроста у душы.
Ствараць яго памалу
Даўно ўжо ён рашыў.

Каб ў сэрцы чуць лагоду,
Ня кланяцца віне,
Трымаць ён мусіў згоду
Паміж “магу” і “не”.

Сказаць баіцца болей:
Каханьне ўсё мацней,
Што выцерпеў праз болі –
Праз век стаў разумней.

Каханьне і ёсьць шчасьце,
І аж блішчыць яно,
Ідзі хоць на прычасьце –
Чысьцей няма яго.

Адшліфавана з часам
І выдадзен статут.
Хацеў бы – выкрутасам
Балюча будзе тут.

Шмыгнуў цень шэры побач,
Бы прашаптаўшы штось...
З лыжні зьбіць хоча рогач?
З гары штурхне авось?

## V

Сумнеў, спакусы, вольнасьць
Каханьню ворагі?
Ці па жыцьці супольна
Ракі два берагі?

Бо зь імі параўнаньне
Для мілых на карысьць.
Бяз гэтага каханьне
Няпоўным мае быць.

Калі баісься страты,
Любоў тады мацней,
Пагроза адной здрады
Нас робіць разумней.

Ды тое разуменьне
Вядзе у нікуды,
Бо рамантызм каханьня
Губляем мы тады.

Нячысьціка спакусы
Ад зайздрасьці ідуць,
Уводзіць нам у вушы,
Дзе “райскія” растуць.

Што недзе там у небе
Прыемней, саладзей,
І болей там патрэбен,
Чым спутніцы сваей.

І вось ужо цень шэры
Душу штодзень шкрабе,
Пашырыць хоча шэраг
Падобных да сябе.

І тут дзьве палавіны
Аднога й тога ж “я”,
Сыйшліся, як лавіны
У бітве сярод дня.

Хто пераможа ў хеўры?
Каму аддаць букет?
Настырны хоць цень шэры –
Мацней ўсё ж белы сьвет.

Каханьне – не пальчаткі,
Ня зьменіш кожны дзень,
Ды вабяць ўсё ж дзяўчаткі ...
Ідзі адсюль прэч, цень.

Гаворка пра каханьне,
Адкінем зразу сэкс,
Віною – выхаваньне,
Ня той гэта кантэкст.

Ды лёгка на паперы,
Прыдумаць, што б хацеў,
Каб ведаў ўсё наперад –
Штораз бы багацеў.

Жыцьцё дасьць варыянты
На густ ўсім мудрацам,
Ня знойдзеш фаліянтаў
З адказам для канца ...

## VI

Жылі, былі, любілі
Як помнілі сябе,
Дзясяткі тры пражылі –
Разьбегліся цяпер.

Маёмасьць, дзеці, ўнукі
Ня зьніклі нікуды,
Малых бяруць на рукі,
Бы не было бяды.

Але у сэрцы трэшчыны,
Ў душы нязгасны боль.
І не былі разбэшчаны,
Цяпер на ранах соль.

Так і жывецца з болем,
Руціна – праца, быт.
Ці шчасьціць каму болей?
Яшчэ адзін іспыт?

* * *

Зьлюбіліся, знайшліся,
І вось – ужо сям’я,
І дзеці завяліся –
Зьявіўся трэці “я”.

Клясычна – трэці ў пару
Ня можа быць ніяк.
Ніхто з траіх ня марыў
Стварыць сямейства так.

Дык што ж тады прычынай
Той буры, што прыйшла?
Мужчыну ці жанчыну
Любоў сьпярша знайшла?

Адно ёсць тут прызнаньне,
Што буру прывяло –
Каханьне б’е каханьне,
Слабейшым, што было.

* * *

Не цалаваў ні разу,
У танцы пакахаў.
Ды не было адказу
І пісьмаў не чакаў.

Ды ела сэрца мара
Праз многія гады,
Што раптам станусь парай,
Авось – “палюбіш ты”.

Як прашаптала толькі
“Ну пацалуй мяне”,
Збылося мараў столькі ...
Так не было і ў сьне.

А далей, што ж там далей:
Пагроза для сям’і,
Ды й самі вы прызналі,
Гісторыяў такіх.

Пра першыя каханьні,
Нязьдзейсьнены іх лёс,
Трагічныя паданьні,
Дылемы усур’ёз.

* * *

Каханьне, што пад Богам,
Усё ж – найдаражэй,
Пачуцьцяў столькі ж – многа,
А шчасьце прыгажэй.

## VII

Тут нечакана вецер
Махнуў крылом у твар,
Прыпомніў, што на сьвеце
Ёсьць рэчы апроч мар.

У краі, дзе свабоды
Ёсьць мераю жыцьця,
Няма пакуль лагоды
Для пэўнага быцьця.

Рашаць жыцьця пытаньні
Пакінуты з сабой,
Нялёгка на зьмярканьні
Знайсьці напрамак свой.

Тут справа не у ведах
І не ў жаданьні жыць,
А ў тым, што шчэ ня зьведаў,
Зь мясцовымі як быць.

Адзіная прырода,
Здаецца, у людзей,
Ды ў кожнага народа
Парадак свой падзей.

Адны, лёгкай выявы,
Пасуюць для душы.
Будзь зь дзіўнымі ласкавы,
Бо можна і зграшыць.

Прыходзіш да высновы
Па-іхняму гуляць.
Ня будзеш ў краі новым
Статут свой ўстанаўляць.

Глыні камок у горле
На тое ты – мужык.
Не апыніся згорбленым
Пад націскам чужым.

Шчасьлівых жа нямнога
Сустрэнеш землякоў,
Што ўдачы, як з рога,
З усіх маюць бакоў.

Балянс маюць якія
Для цела і душы,
Што ў новае стыхіі
Спраўляюць барышы.

А што ж рабіць астатнім
“Ахвярам для дзяцей”,
Пакінуў скарб хто хатні,
Кар’еру і людзей.

Жыві, кажуць, сягоньня,
А заўтра, як дасьць Бог.
Жыцьцё, то не пагоня,
Ня заўтрашні пірог.

Ды ён прымае разам
Сучасны падыход,
Плыве ў лагодзе з часам
Ў працяг апошніх год.

Там будавалі сьветлы,
Адзіны для ўсіх рай,
Зрабіў час сьлед адметны
На цэлы родны край.

“Завтра будет лучше, чем ...”
Сьпяваў ён шчэ ўчора.
“Станет тот ... кто был ничем” –
Для зямлі узорам.

Убілі у галовы
Хутчэйшы з ўсіх імпэт,
Нават у краі новым
Да сёньня меў той сьлед.

Каб сёньня чуцца годным –
Сябе ён прымушаў,
Тут, у краі свабодным,
Свабодная й душа.

І кожнае імгненьне
Ад радаснага дня
Жыве з задавальненьнем.

Бяжыць, бяжыць лыжня ...

## Частка другая

*А няўжо вольны шлях перасечаны?*
*Пілігрымам да прошчы імкнуся,*
*Да сівых курганоў старасьветчыны,*
*Да зямлі, што завуць Беларусяй.*
***“Настальгія”*. Рыгор Крушына**

## VIII

Гадзіны й не заўважыў,
Назад вяртаць пара,
А колькі ўжо узважыў,
Бы поле прарараў.

Дамоў лягчэй дарога,
Бо больш цяпер з гары.
Ды й конік да парога
Бяжыць. Нават стары.

Зьмяніўся зноў ход думак ...
Сюды прыехаўшы,
Шукаў ён паратунак
Параненай душы.

Бо адарваць нялёгка
Пупок з сваёй зямлі.
Яе ж узяць далёка,
Папросту не маглі.

З Эўропы да Амэрыкі
Палёту сем гадзін
І выпраўлены мэтрыкі,
Душы ж не дагадзіў.

Ёй не было спакою
Ў працягу першых год,
Над ціхаю ракою
Меў з ёю шмат прыгод.

Таму, відаць, прычына,
Што частачка яе
Была яшчэ з Айчынай –
Тады й нядоля б'е.

Сказаў, як Юрка, ўдала –
Згубіла спадара,
Па-над вадой блукала,
Пакуль прыйшла пара.

Злучыліся дзьве часткі –
Стаў ў сем разоў мацней,
Каб трапілі у пасткі,
Што б ён рабіў пазьней?

А пастак гэтых многа
Стварыў сам для сябе;
Няпэўнасьць і трывога
Здаліся ў барацьбе.

Зноў шэры цень сваволіў,
Над сьветам быць хацеў.
Каб даў бы яму волю,
Які б цяпер быў сьпеў.

Калі дасі слабіну –
Шарак ўжо тут як тут,
Змагацца як пакінуў –
Зьняможаш ад пакут.

Перацярпеў паразаў
Ад першае вясны.
Перад вачыма й зараз
Ўсплываюць тыя сны.

## IX

Вось гэты сон – ад'езны,
Ён бачыў найчасьцей,
І быў ён не пампезны,
І не было гасьцей.

Да новае краіны
Ад'езд быў з трох мясьцін –
З бацькоўскае хаціны
Ці з менскіх двух хацін.

І часам твары ясна
Радні мог бачыць ён,
І разам чуць выразна
Цяпло апошніх дзён.

Аматарам вандровак
Ніколі не бываў,
Паехаць у сьвет новы
Грунтоўна вырашаў.

Сасьпелі ўжо рашэньні,
Не павярнуць назад.
Балюча рваць карэньні –
Любімым быў жа сад.

Як зборка йшла ў дарогу
То ў кожным сьне адна,
Бязьмерная трывога –
Ці зьдзейсьніцца яна?

То не хапіла грошай,
То не купіў білет,
Цяжкая была ноша,
Не ў той заехаў сьвет.

Злавілі на граніцы,
Спазьніўся ў самалёт,
Ці мала розных сьпіцаў
Тамтэйшых чуеш гнёт.

Ад'езд той сьніўся розным:
Ці быццам назаўжды –
Праз акіян той грозны
Ды ў піянерскі дым;

Ці то з гасьцей вяртаўся,
Да сталага жыцьця,
З радзімай разьвітаўся,
А там – яго працяг.

І тое было прыкра,
Што ён ужо там жыў,
І карані ў тым краі
Надзейна залажыў.

Ды не пушчаюць зноў штось,
Бы вінаваты ў чым,
Прайшло гадоў ўжо восем –
Стаім на месцы ж тым.

То не было б навінай
Было б каб па-за сном,
Але ж начной часінай
Страх панаваў кругом.

Ён нават ў сьне пануе,
Відаць, сядзіць ў касьцях.
Калі ж ўсім пашанцуе
Удзень узьняць свой сьцяг?

# Х

Хадзіў па менскіх працах
У нізцы другой сноў,
Здавалася, намацаў
Дарожку быць там зноў.

Блукаў па калідорах,
Шукаючы свой кут.
Здаецца ж, быў ня вораг,
Ды штось няёмка тут.

Прыветлівыя ж твары
Амаль што ва усіх,
Калісь ён мець там марыў
Паплечнікаў сваіх.

Ня возьме ён да толку,
Што дзеецца зь людзьмі,
Бы ўзьлезьлі ўсе на полку
І пазіраюць ўніз.

Ня вымавяць і слова,
Ня выйдуць на парог,
Відаць па іх, што новых
Дадалася трывог.

І ясна стала раптам
Глядзяць то на яго,
Бы стрэліла штось трапна –
“Ім ёсьць згубіць чаго”.

Размовы з іншаземцам,
Хоць свой ён – беларус,
Каб быў хаця бы немцам –
Менш быў бы ператрус.

Паўсюдна падазронасьць,
Казаць – толькі цішком.
Якая там сьвядомасьць,
Ў свабодзе, што з душком.

То для сваіх калегаў
Ён стаў зусім чужы,
Ў навуцы разам бегаў,
Цяпер – адсюль бяжы.

З другога боку – “здраднік”,
Сыйшоў бо з барыкад;
“Нам доўга мець тут раны,
Ў яго ж там поўна хат”.

І гэта вось балюча
Адчуць папрокі іх,
І позіркі калючыя –
Чужы ён для сваіх.

Ды зразумеюць многія –
Ён ворагам чужы,
Яны тут адзінокія,
А ён жа свой мужык.

## XI

Стаміўся ўжо ён крыху
Ад бегу й думак тых,
Спалучаных у руху
Сярод сьнягоў лясных.

Хоць прынцып “жыць сягоньня”
Не адмяняў ніхто,
Падмурак ўвесь ягоны
Сасьпеў на ніве той.

Як хлебам тым азімым
Жывіцца родны кут,
Ён цешыцца мінулым –
Яго Радзіма тут.

Пакінуць немагчыма
Радзіму назаўжды,
І сэрцам, і вачыма
Айчыны чуе дым.

Ён перавёз з сабою
Радзіменькі куток
З крыніцаю, з ракою
Ды з салаўём лясок.

Радзіма ў яго сэрцы,
Зь ёй пойдзе ў іншы сьвет.
Ня месца паняверцы
Жыцьцё ня спыніш, не!

Пакрыўдзіцца, хто скажа
Што носьбіт мовы ён
Гучыць то, як абраза,
Беларусам праклён.

Ён нарадзіўся з мовай –
Піў смачна з малаком.
Бацькоўскія прамовы
Чуў разам з жаўруком.

Дзе б ні бываў у сьвеце,
Ён зваўся беларус.
Стрэў незалежны вецер
Засьцелены абрус.

Ён задаваў пытаньні
Сабе па многу раз;
Што можна у расстаньні
Для Роднае ствараць?

Ня з кніжак, ведаў добра,
Сучасны дома стан,
Зь мінуласьці меў вобраз,
Што зьведаў край шмат ран,

Якія да сягоньня
Баляць, ды моцна як!
А нашая Пагоня
Усё ляціць ў баях.

Ды шмат і часу трэба,
Каб зразумеў народ,
Што найважней да хлеба
Дадаць яшчэ свабод.

Не пакідаў цень шэры:
"Навошта ўсё табе;
Яны ж зусім бязь веры,
Сканаеш ў барацьбе.

Ня хопіць пакаленьняў,
Тых дачакацца зьмен,
Сьцярпець мільён ганеньняў
Для ўяўных перамен.

Ты нарадзіўся рана.
Ці ж нацыя твая
Ідэнтыфікавана?"

Ды дзе ж падзець сумленьне,
Бо Бацькаўшчына ж ёсьць,
Пакуль што ёсьць натхненьне,
Ты у жыцьця ня госьць.

Калі у думках нават
Радзіму паставаць,
Дык пойдзе ў яе справа
Мацнець і красаваць.

Хоць думкаю пяшчотнай,
Хоць справаю малой,
Наш абавязак – Роднай
Зрабіць унёсак свой.

Штось добрае дасьць кожны
На месцы, дзе жыве –
Край стане наш заможны,
Краіна ажыве.

## XII

Ў мінулае на лыжах
Ён сёньня зазірнуў,
І крокамі насьвежа
Старонкі прагарнуў.

А думак многа розных
Блукала ў галаве,
Ніколі ж не запозна
Аб вечным распавесьць.

Хоць будучае заўтра
Няведама для нас,
Дык вечнае з учора
Жыве па гэты час;

Каханьне, лёс, жанчына,
Душа, сыны, бацькі,
Куточак, край, Айчына,
Свабода быць такім,

Каб адчуваў, што можаш
З усьмешкаю ісьці,
Зрабіць ўсё, што хочаш,
Карысным быць ў жыцьці.

Кароткая прагулка,
Ўсяго ж пару гадзін,
Душу ўзбудзіла гулка
Хоць ён і быў адзін,

Ледзь зачапіла вечнасьць
Ды волі дадала,
На пару з чалавечнасьцю –
З Радзімаю была.

Сюды ён прыйдзе знову,
Каб волю думкам даць,
Ды сілы волі новыя
У парку нагуляць.

Ды што там тыя горкі
Уніз, уверх, яшчэ ...
Пакуль – жыцьцё ня горкае
І на пад'ём цячэ.

Лічыць зноў пачынае
Ад сёньняшняга дня,
Што, дзякуй Богу, мае.

Бяжыць, бяжыць лыжня ...

*29 студзеня – 28 ліпеня 2008 года, Атава*





МУРЗЁНАК Пётр сын Сыльвэстра, нарадзіўся 26 лютага 1930 году ў вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя Пастаўскага раёну Віцебскай вобласьці. Тады было Віленскае ваяводзтва Польшчы. У школу пайшоў з 6 гадоў і да 1939 году скончыў 3 клясы польскай школы. Пасьля вучыўся ў савецкай школе. З 1946 па 1949 год вучыўся ў Пастаўскай пэдвучэльні. 1949 — 1950 навучальны год працаваў настаўнікам матэматыкі Вайшкунскай сямігодкі Пастаўскага раёну. У 1950 годзе пачаў працаваць настаўнікам Васілінскай сямігодкі, адкуль быў узяты ў армію, дзе праслужыў роўна 3 гады. Пасьля арміі зноў працаваў настаўнікам. З 1954 па 1959 год вучыўся завочна ў Мазырскім пэдагагічным істытуце на фізыка-матэматычным факультэце. Выкладаў матэматыку і фізыку ў Дварчанскай базавай (9-гадовай) школе. Вёў фота- і кінагурткі. У 1990 годзе пайшоў на пэнсію. Яшчэ тры гады адпрацаваў выкладчыкам матэматыкі ў Шыркаўскай базавай школе. Мае мэдаль “Вэтэран працы”. Пасьля выхаду на пэнсію захапляўся пчолкамі.

Жанаты. Жонка, Даната Генрыхаўна, таксама настаўніца. Выхавалі двух сыноў, Пятра і Генадзя, у якіх ужо свае сем’і, якія зараз жывуць у Атаве. У 2003 годзе прыехалі да дзяцей.

Друкуецца ў альманаху “Беларус” у трэці раз. У 2008 годзе выйшла з друку кніга ўспамінаў “Над Дзісенкай ракой”.

# Першага верасьня

У гэты дзень дзеці ідуць у школу. Пачатак новага навучальнага году. Гэты дзень асаблівы для тых, хто прысьвяціў школе ўсё сваё жыцьцё – для настаўнікаў. Вось і сёньня дзеці ідуць у школу. А нас там ня будзе. Шчыміць сэрца, баліць душа, чуючы радасныя галасы, вясёлы сьмех, які вяртае нас у школу, у тыя шчасьлівыя часы нашага дзяцінства, маладосьці і працы. Праляцелі гады, зараз мы ўжо на пэнсіі, але гэты дзень вельмі хвалюе нас і цяпер.

Колькі ж першых верасьняў праляцела ў нашым жыцьці, цяжка і зьлічыць. Свайго першага верасьня 1936 году нельга ніколі забыць. Бацькамі былі куплены буквар (абэцадло), арыфмэтыка (арытмэтыка), сшыткі (зэшыты), драўляная ручка з мэталічным наканечнікам для пяра (абсадка), аловак і сьцёрка. Усё

гэта было складзена ў сумку-торбачку, якую мама пашыла са зрэбнага палатна, вытканага на кроснах. Да сумкі быў прышыты пас з таго ж палатна, які перакідваўся праз плячо. Адзеньне: белая кашулька, кароткія сінія штонікі, жоўтыя сандалікі – усё было крамнае і новае. Вяла мяне ў школу мая сястрычка Надзея, якая была старэйшая за мяне на тры гады. А мне было шэсьць з паловай гадоў. У школу ішлі зь сямі, але ж я не хацеў адставаць ад сваіх сяброў (Жэніка, Ванюшы, Росьці), якім ужо было па 7 гадоў. Школа была за адзін кілямэтар ад вёскі на Антаноўскіх хутарах, дзе жылі польскія асаднікі. Школа была польская. Але мы тады і ня думалі іншага – польская ўлада, польская і школа. Лічылі, што так і трэба, што так Бог даў. Беларускую мову лічылі "мужыцкай", непрыстойнай для польскага грамадзтва. Настаўніца, Дрозд Ядвіга, была беларуска. Бацькі яе жылі на хутарах Бірвіта за 7 кілямэтраў ад нашай вёскі. Бацькі былі заможныя сяляне і змаглі даць сваім дочкам адукацыю (у Ядвігі была яшчэ сястра). Памятаю гэты цудоўны сонечны дзень, калі пасьля ўрокаў настаўніца вывела нас на спартыўную пляцоўку (боіско), дзе мы гулялі зь мячом (пілкай). І ў далейшым, як мне запомнілася, першага верасьня было заўсёды сонечна. З палёў да гэтага часу звычайна ўсё зьвезена, за выключэньнем бульбы. А на іржышчы, калі глянеш пад сонца, – сетка з павуціньня. А ў паветры лятае белае павуціньне, якое мы стараліся злавіць і паглядзець, што там ёсьць у белых камячках. І калі-нікалі нам удавалася знайсьці там маленькіх павучкоў, якія падарожнічалі вось такім чынам.

Да першага верасьня 1940 году ў вёсцы была пабудаваная новая школа. Вучыў нас добры настаўнік Асяненка, імя якога ўжо ня памятаю, бо называлі мы тады яго "таварыш настаўнік". Урокі вяліся ўжо на беларускай мове, чаму мы былі вельмі радыя. Але ў 1941годзе яго ўзялі ў армію. Пачалася страшная вайна. Партызаны ў нашых краях пачалі дзейнічаць у верасьні 1941 году. Імі быў забіты настаўнік, якога нам прыслалі замест Асяненкі. Узімку 1942 году згарэла наша новая школа. Першага верасьня 1942 году пры немцах адчынілася беларуская школа ў вёсцы ў хаце Грынькі Нілы. Прыслалі маладую настаўніцу Курдо Ядвігу. Замест партаў былі табурэткі, прынесеныя з дому, а сядзелі на драўляных калодачках. Але ж вучыліся, і мы былі радыя, што зноў вучымся па-беларуску. Але гэта не падабалася партызанскаму кіраўніцтву – і школу зачынілі. Настаўніца паехала дамоў. У верасьні 1943 году нашу сям'ю немцы выгналі з партызанскай зоны. Нас прытулілі добрыя людзі ў Паставах, і я зноў пайшоў вучыцца ў беларускую школу.

У 1944 годзе ў Паставах адчынілі сярэднюю школу (пакуль што было толькі 8 клясаў). На гэты раз школа была адчынена толькі першага кастрычніка. Потым 3 гады пэдвучэльні, і ў 1949 годзе – мы ўжо настаўнікі. Перад пачаткам новага навучальнага году – жнівеньская нарада настаўнікаў усяго раёну, якая доўжылася некалькі дзён. Спачатку працавалі прадметныя сэкцыі, а ў канцы плянарнае паседжаньне. Загадчык райана рабіў даклад аб выніках працы настаўнікаў за мінулы навучальны год, ставіў задачы на наступны. Крытыкаваў настаўнікаў за двоечнікаў, за другагоднікаў і гэтак далей. Потым настаўнікі і работнікі райана зразумелі, што двоек ня трэба ставіць, пакідаць вучня на другі год – таксама. Дапамагалі троечнікам пасьпяхова здаць экзамэны. Потым яны паступалі ў Пастаўскую сельскую прафэсійна-тэхнічную вучэльню, зь якой выходзілі добрымі трактарыстамі, камбайнэрамі, кіроўцамі аўтамабіляў.

Першага верасьня 1949 году – я ўжо настаўнік матэматыкі Вайшкунскай сямігодкі. Пакуль што было толькі шэсьць клясаў. Настаўніку ішоў дваццаты год, а самаму старэйшаму вучню шостай клясы, Цыяну Валянціну, – дзевятнаццаты. На год-два былі маладзейшыя і астатнія. Настаўнік вёў урок і паглядаў на такіх мілых і прыгожых дзяўчатак. Такі быў пасьляваенны набор вучняў у школах. Першы ўрок мой быў фізыка ў шостай клясе па тэме "Ўводзіны".

Потым жыцьцёвыя шляхі зьвялі мяне з прыгожай дзяўчынкай, Мажэйкай Данатай, зь якой мы правучыліся разам у Пастаўскай пэдвучэльні 3 гады. Яна стала маёй жонкай 6 траўня 1950 году. І з таго часу першага верасьня было для нас агульным у Васілінскай, Шкіралёўскай і Дварчанскай школах. У 1957 годзе мы адправілі ў першую клясу шасьцігадовага сына Пятра, а ў 1961 – сына Гену.

Першага верасьня было сьвятам для вучняў, настаўнікаў і бацькоў. А для першаклясьнікаў у гэты дзень быў "першы званок". Аднаму настаўніку даручалася распрацаваць сцэнар для гэтага сьвята. Разам з кляснымі кіраўнікамі рыхтаваліся вершы, песьні, прысьвечаныя першаклясьнікам. Настаўнік будучай першай клясы перад гэтым наведваў бацькоў, рыхтаваў іх і іхных дзетак да школы.

І вось першага верасьня ў школе. Пры ўваходзе вісіць лёзунг "Вітаем вас!" Усе дзеці апрануты ў сьвяточную школьную форму (была яшчэ і штодзённая форма) з букетамі кветак. У вестыбюлі школы выстройваюцца дзеці па клясах. Першаклясьнікі стаяць асобна. Зараз уся ўвага на іх. Да іх з прамовамі зьвяртаюцца дырэктар школы, клясны кіраўнік, хтосьці з бацькоў і вучні. Потым дзеці расказваюць вершы, гучаць песьні. З кароценькімі вершамі выступаюць і першаклясьнікі. Потым уручаюцца ім буквары. Дзеці ўручаюць настаўнікам кветкі. Лепшаму вучню (выдатніку) выпускной клясы даручаецца даць першы званок. Гучыць званок, першаклясьнікі бяруцца за рукі, і іх настаўнік ці настаўніца вядзе ў клясу.

І колькі ж тых верасьняў праляцела? Напэўна, столькі, колькі ў нас атрымалася стажу: у мяне – 44, а ў Данаты – 39. Ды яшчэ пасьля выхаду на пэнсію адпрацаваў у школе тры гады. Гэта амаль паўстагодзьдзя! Вось чаму шчыміць сэрца і баліць душа, калі прыходзіць гэты дзень – Першага верасьня!

# Крынічка

Было лета, час сенакосу. Яшчэ не ўзыйшло сонейка, а дзядуля Тумаш ужо апрануўся і выйшаў на вуліцу. Глянуў на неба: "Ага, ніводнага воблачка. Трэба сьпяшацца на сенажаць, пакуль будзе раса". Бацька зьбіраецца завезьці новыя калёсы акаваць да каваля. Пачынаецца сенакос – трэба, каб усё было гатова. Маці ўжо падаіла кароў, перацадзіла малако ў слоік і апусьціла яго ў студню. Печ ужо паліцца, дзе стаяць два вялікія катлы з бульбай для сьвіней. Хуценька сьпякла яечню, паставіла яе на стол і клікнула мужчын сьнедаць. Склала мужчынам торбы, наліла дзядулю літровую бутэльку халоднай вады са

студні і паставіла ў куце на лаве. Сама пагнала кароў у поле, бо ўжо пастух пратрубіў у доўгую берасьцяную трубу другі раз (першы раз трубіў, каб жанчыны ішлі даіць). Калі вярнулася – ужо мужчын не было. Трэба яшчэ накарміць сьвіней і курэй і зрабіць сьнеданьне малым (дачушцы Надзеі 9 год, а Петрусю толькі 6). "Зраблю сёньня дранікі, іх жа так любяць дзеці", – падумала маці.

А ўжо і сонейка паднялося высока. Надзейка ўстала і пытаецца ў маці, што ёй дапамагчы. Пятрусь яшчэ сьпіць.

– Во пасьнедаем і пойдзем у агарод палоць бульбу, пакуль будзе халадок у цяньку дрэў.

Устае і Петрусёк. Не дае яму паспаць ягоны "певеньчык", і ён хутчэй бяжыць у прыбіральню за хлеў. Памыўшыся і змовіўшы перад абразамі кароценькія пацеры, дзеці селі за стол. А на стале ўжо стаяць дранікі з мачанкай (сьмятана ў смажаным сале). Ой, як будзе смачна! Тым часам маці завойкала:

– А-я-яй! Гэта ж дзед сваю ваду забыў. Прыйдзецца табе, Петрусёк, ваду занесьці дзядулю. Ведаеш, дзе ўрочышча Вялікае, ён там косіць?

– Ведаю, мы там паземкі зьбіралі.

– Ну вось і добра. Сонца вунь як высока паднялося. На вуліцы горача, "ні з куста галавы" – як казаў той цыган. Дзеду хутка захочацца піць.

Маці ў бутэльцы памяняла ваду, бо тая ўжо нагрэлася. Бутэлька была літровая з-пад польскай гарэлкі "Звыклэй выборовэй".

– Цяжка ня будзе? – пытаецца маці.

– Ой, ды ці ж я маленькі! – кажа Пятрусь.

І, пасьнедаўшы, панёс Пятрусь ваду, каб напаіць дзядулю. Але бутэлька падалася не такой ўжо і лёгкай. Ішоў, мяняючы рукі. Выйшаў за вёску. Сонца ўжо высока ў небе. Ніякага подыху ветру, паветра гарачае, добра, што мама напомніла пра капялюшык, які яму нядаўна з саломы сплёў дзядуля. А поле – як акінуць вокам! А ўперадзе, удалечыні, над дарогай нешта трасецца. Гэта пераліваецца гарачае паветра. У небе радасна заліваюцца жаўранкі. А там, дзе палоска кустоў сутыкаецца зь небам, недзе косіць дзядуля. Там Вялікае, куды і трэба пасьпяшацца. "Дзядульку вельмі хочацца піць недзе, як і мне, пасьля смачных драных бліноў ды з мачанкай", – падумаў Пятрусь.

Адыйшоўшыся ад вёскі з паўкілямэтру (а ўсяго трэба было прайсьці каля трох кілямэтраў), падумаў, што бутэлька вялікая, хопіць яшчэ і дзеду ды лягчэй несьці будзе. Галоўнае, што яму хацелася піць, дык дзе ж ты ўтрымаесься. І глыкнуў разы са два. Бутэлька вялікая ды цяжкая, і ў яго пацякло па барадзе і па шыі. "Ой, але ж і вада смачная, як ніколі", – разважаў Пятрусь. Прайшоў яшчэ мэтраў 400. Што ж тыя два глыткі, толькі больш распалілі смагу. "Трэба яшчэ хоць пяць глыточкаў зрабіць", – лічыць жа Пятрусь умеў ужо да 10. Глыкнуў і зноў вада пацякла па барадзе ды і на кашульку. Глянуў на бутэльку – яшчэ большая палова, так што нічога страшнага. А вось і ручай. Гэта яшчэ толькі меншая палова шляху. І крочыць далей. "Але што гэта? Чым больш п'ю, тым больш хочацца. Ну яшчэ разок глыну і больш ні-ні. А то дзядулю мала застанецца", – разважаў сабе Пятрусь. І зноў глыкнуў. А вось ужо і загародка для коней, але коні пахаваліся ў кусты ад аваднёў. А піць зноў так хочацца. Да дзядулі засталося нямнога, нейкі кілямэтар. "Ну, яшчэ глыточак, ну паўглыточка..." І засталося ў хлопчыка вады ўсяго на дне. Глянуў ён на бутэльку і жахнуўся: "Што ж я скажу дзеду? Ён жа піць хоча. А колькі ж вады засталo-

ся? Што ж я нарабіў? Маніць жа нельга. Мама казала, што Божанька будзе сварыцца. Што ж прыдумаць, што сказаць?” ...

Дзядуля, распрануўшыся да белай зрэбнай кашулі і такіх жа штаноў, махае касой.

– Добры дзень, дзядулька! Прынёс табе папіць.

– О-о-о! Добры дзень, унучак, маладзец!

Дзед паклаў касу пад пракос і ідзе да лазовага куста ў цянёк. Ідзе да куста і Пятрусь.

– Ну, дзе ж твая вада?

– Ды в-вось, м-мала засталося, – пачаў заікацца ад хваляваньня Пятрусь. – Бутэлька, няйначай, п-пабітая. Вось якія тут два ш-шрамы зьверху ўніз.

– Так, так! Яна і сапраўды ня цэлая, – прыкінуўся дзед, што згодзен з хітрыкамі ўнука. – А чаму ж у цябе кашулька мокрая сьпераду, дажджу ж, здаецца, не было?

– Дык гэта ж я с-спацеў.

– А чаму ж ты пацеў толькі сьпераду?

І тут унучак зразумеў, што яму ня выкруціцца.

– Д-даруй, дзядулька, я гэта з-зманіў! А ваду я выпіў, бо яна сёньня была такая смачная! – здаўся, нарэшце, унук. – Толькі маме не кажы!

– Маме я тваёй не скажу, хаця яна ў цябе вельмі добрая, біць ня будзе. Гэта мяне трэба біць, што я не сказаў тваёй маме, што вады мне сёньня ня трэба было. На гэтай сенажаці ў нас ёсьць свая крынічка.

– А хто такая крынічка?

– Гэта падземны ручаёк. Пойдзем пакажу.

І павёў дзед унука паказваць крынічку.

– А вось і яна. Чуеш, у гэтай нізінцы штосьці булькае. Гэта падземны ручаёк вырваўся з-пад зямлі на волю і скача ўверх ад радасьці.

Дзед цягне кубак, прыхаваны ў траве, і падстаўляе пад фантанчык, сантымэтраў пяць у вышыню, і працягвае яго ўнуку.

– На, пакаштуй крынічнай вадзіцы.

Пятрусь бярэ кубак у рукі, дакранаецца да вады вуснамі і імгненна адрывае вусны ад кубка. А дзед усьміхаецца толькі “ў вус”.

– Ой, якая яна сьцюдзёная!

– Пі пакрысе, бо можна захварэць.

Зь вялікай асалодай п’е Пятрусь пакрысе крынічную вадзіцу і дзякуе дзядулю за тое, што ён такі добры.

# Дзядуля Тумаш

Гэта быў родны дзядзька маёй мамы. Дзядуля Сымон, старэйшы брат Тумаша, і бабуля Волька ўжо памерлі, а дзядуля Тумаш жыў у нашай сям’і халасьцяком. Ён пражыў доўгае жыцьцё, багатае падзеямі. Ён памятаў яшчэ курную хату (бяз коміна), калі дым выпускалі празь дзьверы, і зь земляной падлогай. Ён жыў у веку, калі да 18 гадоў не дазвалялі хлопцу штаноў насіць, а

хадзілі ў доўгіх зрэбных кашулях ніжэй за калена. Калі ж таму спаўнялася 18 гадоў – шылі штаны і прымалі ў кавалеры. Ён жыў у веку, калі ня ведалі, што такое газавая лямпа, а была лучына, якой асьвятляліся хаты вечарамі, куды зьбіраліся вясковыя  дзяўчаты на папрадухі. А яны сьпявалі народныя беларускія песьні, і ўсім было весела і добра. Ён жыў у веку, калі людзі ня ведалі, што такое боты, а былі лапці зь ліпавай ці лазовай лыкі (кары). Адзеньне было таксама самаробнае, вытканае на кроснах.

У маладосьці дзядуля быў прыгожым, высокім дзецюком з блакітнымі вачыма. Была ў яго прыгожая і працавітая дзяўчына Анюта, і між імі было ўзаемнае каханьне. Але ў 1904 годзе яго забралі ў царскае войска і павезьлі на вайну зь Японіяй. Плыў туды на караблі праз Сынгапур, але пакуль даплылі – вайна скончылася. Потым яшчэ доўга служыў ва Ўладзівастоку. Анюта не дачакалася Тумаша і выйшла замуж у другую вёску. Вярнуўшыся з войска дамоў, Тумаш моцна перажываў па Анюце, і другой такой каханай ён ужо не знайшоў. Такой дзяўчыны, як Анюта, больш не было на сьвеце, бо гэта было яго першае каханьне. Ён проста расчараваўся ў жанчынах і застаўся халасьцяком.

Дзядуля Тумаш быў вельмі добрым. Ён для ўнукаў хацеў зрабіць нешта незвычайнае, а потым толькі ўсьміхаўся, гледзячы на малых. Зрабіў унуку з лучынак пільшчыка дошак, які стаяў на лаве, ківаўся і "пілаваў". Пазаве ўнука і ўнучку ў ток, скажа заплюшчыць вочы і выцягне зь сена сасьпелыя яблыкі з цудоўным водарам і смакам. Калі трэба было ўнукам пасьвіць кароў, ён іх абуваў ня ў лапці, як абувалі іншых дзяцей, а ў хадачкі, зробленыя са старых халяваў, якія былі лягчэйшымі за лапці. Дзядуля часта запрашаў унука на свой ложак паспаць зь ім, куды той ішоў зь вялікай радасьцю і ахвотай.

Дзед многа дзе быў і многа чаго бачыў. Так што ў яго было аб чым расказваць. Расказаў, як у Сынгапуры адзін грамадзянін купіў малпу і плыў разам зь імі на караблі, трымаў яе на раменьчыку. Захацелася яму разам з малпай, паднятай на рукі, паглядзець на мора праз адчынены ілюмінатар. Мора хвалявалася, і што там малпе здалося, што яна праз гэты ілюмінатар выскачыла ў мора. А пра службу ва Ўладзівастоку расказаў нам, як адзін кемлівы жаўнер, які быў днявальным у казарме,  прылёг адпачыць. У гэты час зайшоў нейкі высокі чын са сваім ад'ютантам праверыць службу днявальнага. Днявальнага хтосьці расштурхаў, але пры гэтым шапка яго завалілася за ложак. А як будзеш дакладаць начальству без галаўнога ўбору?

– Чаму не дакладаеце, – крычыць начальнік, – што вы там шукаеце?!

– Ды тут вось такі пацук пабег пад ложак, – сказаў жаўнер і разьвёў рукамі.

– Выведзіце мяне адсюль хутчэй, – сказаў правяраючы.

Правяраючы вельмі баяўся пацукоў, аб чым усе ведалі.

Летам дзядуля Тумаш хадзіў з унукамі спаць на сена, бо адным было страшна ад нейкіх загадкавых гукаў у таку і на дварэ. А як толькі прывозілі першы воз сена, то малым хацелася паскакаць з бэлькі на яго, дапамагалі таптаць.

Дзядуля любіў ня толькі ўнучку і ўнука, але і іх сяброў. Перад Вялікаднем разам з бацькам  рабілі вялізныя казлы пад калыску, куды прыходзілі пакалыхацца ня толькі дзеці, але і моладзь. Ён рабіў моцныя вяроўкі зь пянькі, для чаго кожны год сеяў каноплі, гэтыя цудоўныя боскія стварэньні, дзе былі і жаночыя, і мужчынскія расьлінкі. Мужчынскія называліся пласканямі, якія раней высьпявалі, і нам, малым, падабалася іх вышукваць і вырываць, пакідаючы жаночыя зь зярняткамі, якія яшчэ дасьпявалі.

Дзядуля быў добрым гаспадаром, любіў жывёлу. У хляве зрабіў яшчэ саламяны хлеўчык для авечак, каб ня мерзьлі ў мароз. Аб сабачку Бойчыку клапаціўся толькі ён, хаця Бойчыка вельмі любілі і ўнукі. Са старой сахі зрабіў акучнік для акучваньня бульбы, і ні ў кога не было такіх прыгожых гранак. Лён абіваў ня так як усе – пранікам аб калодку. Да калодкі ён прымайстраваў дзьве доўгія ручкі, снапочкі лёну ўкладваў галоўкі да галовак у некалькі радочкаў на цьвёрдае такавішча, потым хадзіў і стукаў па галоўках калодкай, трымаючы яе за дзьве ручкі. Потым снапочкі варочаў на другі бок і зноў іх абіваў. Вучыў унукаў правільна трымаць граблі, каб не намазоліць рук, і яны ўжо ўмелі падграбаць за дзедам і бацькам, якія сена пласьцілі ў пласты і насілі ці ў капу, ці на воз. Як падрос унук, навучыў яго чыста касіць, каб ззаду не заставалася ніводнай травінкі. А ў каго заставалася ззаду трава, ды яшчэ доўгая, то ў вёсцы казалі, што яе можна да "нечага" прычапіць касцу. Вучыў унука вазіць вялікія вазы зь сенам па разьбітай каляінамі дарозе ў мокрае лета. Хоць дарогу рамантавалі (адбывалі шараварку – вывозілі на дарогу жвір), але гэта не дапамагала. А ўнуку было страшна сядзець на вялікім возе, і ён казаў, што яму шкодна сядзець на сене, бо моташна, хаця сьвежае сена было вельмі пахучае. Але слухаў дзеда і лез на воз. Дзед вучыў яго, каб каня накіроўваў у каляіну, калі яна была глыбокая. Сам дзед ішоў збоку, у патрэбны час падтрымліваючы воз. І ўсё абыходзілася добра. Самымі шчасьлівымі момантамі ў жыцьці ўнука былі тыя, калі дзядуля давяраў яму папасьвіць коніка ў час абедзеннага перапынку насупраць свайго шнурочка зямлі, дзе было многа травы.

Дзядуля дапамагаў маці прыгатаваць дзіцячыя прысмакі з аўса – кісель і талакно (мілту). Падрыхтаваны авёс на талакно малоў у жорнах. Дапамагаў маці зрабіць і бульбянікі. Бульбу тоўк у ступе таўкачом. Маці выцягвала са ступы тоўчаную бульбу на шырокае драўлянае дэнка, пасыпанае мукой, раскачвала цеста пры дапамозе драўлянай качалкі, рэзала атрыманы вялікі блін нажом на часткі, якія потым пякла ў печы. Бульбянікі рабіліся толькі са зваранай у шалупіньні бульбы.

Яшчэ дзед быў і паляўнічым. Узімку паляваў на шашкоў пры дапамозе жывучых і нежывучых пастак, якіх у яго было многа нароблена. Ставіў пасткі вакол будынкаў, дзе хадзілі шашкі. У пасткі клаў кавалачкі падсмажанага з цыбулькай сала. А футрачкі шашкоў зімой былі вельмі прыгожыя і дарагія. Аднойчы яму за шкурачку заплацілі 25 злотых (пуд жыта каштаваў 2 злоты).

Ён быў вельмі набожны чалавек. Увесь накут хаты быў завешаны абразамі сьвятых. Амаль кожную нядзелю хадзіў у царкву. Ад яго ніколі нельга было пачуць дрэннага слова, тым больш мацернага. Калі трэба было крыкнуць на курыцу, якая залезла ў агарод, казаў: "Ах, каб на цябе пранцы". У вёсцы ён быў самы паважаны чалавек.

У сьвяты, адпачываючы, бавіўся папяроскай. Але ніколі ня браў запалак. Па-першае, яны былі дарагія, а па-другое, яму было цікава здабыць агонь, як яго здабывалі нашыя продкі. У яго была падрыхтавана губа, скалка і красіво. Губа – гэта бярозавы нарасьцень, які зразалі і варылі ў кіпені, потым сушылі. Атрымоўвалася нешта падобнае да карычневай ваты. Скалка – гэта скала-каменьчык, падобная да кавалка каменнага вугалю. А красіво (ад слова "выкрасаць" агонь) – невялічкая стальная пласьцінка. На скалку клаў кавалачак губы і пры дапамозе красіва выкрасаў іскру ў губу, якая тут жа і загаралася, ад якой дзядуля і прыпальваў папяросу.

Перажыў ён Японскую, Першую і Другую сусьветныя войны. У Першую сусьветную быў забраны "ў падводы". У Другую сусьветную перажыў дзьве карныя экспэдыцыі, выгнаньне немцамі з роднай вёскі, партызаншчыну, калі ў яго адабралі адзіныя букатавыя боты, якія ён абуваў толькі ў царкву, і новы доўгі кажух. Пасьля вайны дапамагаў бацьку будаваць ток, спалены ў 1943 годзе немцамі. Дапамагаў бацьку рабіць усё, наколькі дазвалялі яго сілы.

Памёр дзядуля вясной 1948 году. Пахавалі на могілках, на высокім беразе Дзісны, на самым сонечным месцы. Няхай табе, дзядулька, заўсёды будзе цёпла, а рэчка пражурчыць аб навінах на нашай Зямельцы.

## Дзядзька Сяргей

Дзядзька Сяргей нарадзіўся на Полаўшчыне ў вёсцы Сямёнавічы Шаркаўшчынскага раёну ў мнагадзетнай сям'і ў 1896 годзе. У яго было пяць братоў і дзьве сястры. Ён быў другім па ліку ў сям'і Ігната і Марыі. Старэйшым за яго быў брат Сыльвэстар, мой бацька. Бацькі былі прагрэсіўных настрояў, хоць і небагатыя, але хацелі даць дзецям адукацыю. У вёсцы была толькі пачатковая школа. Сяргей яшчэ за царскімі часамі скончыў настаўніцкую сэмінарыю ў горадзе Маладэчна.

Калі Заходняя Беларусь па Рыскай дамове адыйшла пад Польшчу, а бальшавікі запрашалі беларускую інтэлігенцыю будаваць новую Беларусь, Сяргей зь сямігадовым братам Цімафеем нелегальна перайшлі польска-савецкую мяжу і пасяліліся ў горадзе Менску. Сяргей уладкаваўся на працу выхавальнікам у дзіцячым доме і вучыўся на юрыдычным факультэце Менскага ўнівэрсытэту. Дапамагаў малодшаму брату Цімафею вучыцца. У Менску яны сфатаграфаваліся і прыслалі на радзіму фатаграфію, на якой быў зроблены запіс: "Дарагому тату, братам і сёстрам на доўгую і добрую памяць аб нас. Сяргей, Цімафей. 3 верасьня 1927 году". На фатаграфіі – два прыгожыя беларускія хлопцы з разумнымі вачыма і выразамі твараў. Сяргей у моднай кашулі, пад гальштукам. Цімафей у тагачаснай кашульцы з касым каўнерыкам – "касаваротцы", з крыху спалоханымі вачыма, мабыць, фатаграфаваўся ўпершыню.

Калі Цімафей скончыў сярэднюю школу, ён паступіў у інстытут геадэзіі ў Маскве. Нягледзячы на тое, што ён пераходзіў граніцу ў сямігадовым узросьце, для карных органаў ён быў "шпіёнам" і яго перасьледавалі ўсё жыцьцё, як якога злачынцу.

Насьця, будучая жонка дзядзькі Сяргея, нарадзілася ў Жмерынцы ва Ўкраіне у 1910 годзе. У 1918 годзе бацькі яе памерлі ад халеры, якая лютавала там у той час. Засталося пяцёра сірот: дзьве дачкі і тры сыны. Насьця была самая старэйшая. Малодшую яе сястрычку забрала цётка, якая жыла ў Харкаве. А Насьцю і яе брацікаў забраў дзядзька, які жыў пад Менскам, у якога было сваіх пяцёра дзяцей. Дзядзька быў добрым гаспадаром, меў трое коней, дзьвюх кароў, зямлю. Калі пачалася агульная калектывізацыя, яго раскулачылі, усё адабралі і павезьлі зь дзецьмі ў Сыбір. А Насьцю з братамі аддалі ў дзіцячы дом, дзе яны жылі і вучыліся.

Калі Насьця выйшла зь дзіцячага ўзросту, скончыла вучобу, яна стала працаваць у гэтым жа дзіцячым доме выхавальніцай. Тут жа выхавальнікам працаваў і Сяргей. Вось тут Сяргей з Насьцяй і сустрэліся, пазнаёміліся і пакахалі адно аднаго. А калі Сяргей скончыў юрфак і пачаў працаваць судзьдзём у адным з раёнаў Менску, тады і пажаніліся. У 1932 годзе ў іх нарадзілася дачушка Рыма.

Маладая сям'я жыла шчасьлівым жыцьцём. Сяргей і Насьця моцна кахалі адно аднаго, цешыліся дачушкай Рымай. Сяргей узімку, прыходзячы з працы, любіў павазіць на санках і дачку, і жонку. Улетку вечарамі хадзілі ў паркі гораду. Але прыйшоў страшны 1936 год. Пачаліся масавыя арышты. Пастукалі і да іх ноччу ў дзьверы работнікі НКВД. Зрабіліператрус. У кватэры нічога крымінальнага не знайшлі, толькі кнігу па мастацкай літаратуры нейкага польскага пісьменьніка. Ага, значыць, Сяргей меў сувязь з палякамі ды граніцу перайшоў нелегальна, няйначай, прыйшоў шпіёніць. І яго арыштавалі. Гэтай кнігі было дастаткова, каб засудзіць яго на 10 год бяз права перапіскі, прыпісаўшы яму палітыку. Пры ператрусе нават не пасаромеліся ўкрасьці тое-сёе, нават завушніцы, якія мама Насьці падарыла на памяць. З той цёмнай ночы пачалася чорная паласа ў жыцьці Насьці і яе дачкі Рымы: Насьця навекі згубіла мужа, а Рыма – тату і сваё дзяцінства.

Насьця з дачкой Рымай пачалі чакаць любімага мужа і бацьку. Ня ведалі, што яго ўжо не было ў жывых – яго расстралялі 22 лістапада 1937 году. Аб гэтым яны даведаліся толькі пасьля вайны. Пасьля акупацыі Саветамі ў 1939 годзе Заходняй Беларусі праз 20 год з Масквы на радзіму прыяжджаў Цімафей праведаць бацьку, сясьцёр і братоў. Ён ведаў ад Насьці, што Сяргей засуджаны на 10 год, аб чым ён тайна паведаміў і сваім родным. Задоўга да вайны зь немцамі, калі Сяргей быў яшчэ жывы, да Насьці прыйшоў загадкавы чалавек з турмы, дзе сядзеў Сяргей. Ён перадаў запіску ад Сяргея, схаваную ў поясе, у якой гаварылася: “Насьценька, забірай Рымачку і выяжджай зь Менску зараз жа, будзе вайна”. У турмах у той час сядзела эліта вучоных і палітыкаў, і яны ўсё ведалі. Толькі цяжка паверыць у тое, што хтосьці мог выйсьці з той турмы жывы. Гэтая загадка для сям'і Сяргея засталася неразгаданай.

Насьця з дачкой Рымай засталіся жыць у Менску. А ўлетку 1941 году паехалі ў адпачынак да Насьцінай сястры ў Харкаў. А калі вярталіся дамоў – пачалася вайна, і іхны поезд да Менску не пусьцілі, таму што Менск немцы бесьперапынна бамбілі, а потым і занялі яго. Прыйшлося выйсьці ў горадзе Барысаве. Тут працаваў Насьцін брат Барыс дырэктарам дзіцячага дому. Адтуль разам з чырвонаармейцамі і дзіцячым домам на конях хацелі перабрацца на ўсход. Калі даехалі да лесу, то ўбачылі нямецкія танкі, пачалася страляніна, і яны зноў вярнуліся ў Барысаў. Насьця з Рымай, прабыўшы ў Барысаве пару дзён, пайшлі пешшу ў Менск (70 км), каб паглядзець, што сталася з домам, з кватэрай, ці ёсьць за што зачапіць рукі. Прыйшлі ў Менск і жахнуліся. Горад быў у развалінах. А на кожным слупе віселі аб'явы бацькоў, якія шукалі сваіх дзяцей. Справа ў тым, што за некалькі дзён перад гэтым, калі яшчэ немцаў не было ў Менску, і была аб'яўленая трывога, бацькоў з працы не адпускалі, а дзяцей грузілі для адпраўкі (эвакуацыі). У той жа час грузілі і зьвяроў са зьвярынцу. Пачаўся налёт нямецкай авіяцыі, пачалі бамбіць. Сьведкі казалі, што жах агарнуў усіх: уцякалі і людзі, і зьвяры з разьбітых клетак. А зараз бацькі шукалі сваіх дзяцей.

Прыйшлі ў сваю кватэру, толькі там ужо нічога іхнага не было, усё было раскрадзена, і кватэра занятая чужымі людзьмі. Насьці з дачкой нічога не заставалася рабіць, як ісьці на радзіму мужа (Полаўшчыну і Казьяншчыну на захадзе Віцебшчыны). Ад Менску гэта 200 кілямэтраў з хвосьцікам. Ішлі пешшу, заходзілі да добразычлівых беларускіх людзей, каб паесьці і пераначаваць. Усюды іх цёпла прымалі і спачувалі ім. Прыйшлі яны ў вёску Чарэмушнікі Падзісенныя ў сям'ю старэйшага брата Сяргея Сыльвэстра і ягонай жонкі Надзі, у якіх было двое дзяцей: дачка 14 год і сын 11 год. Жыў яшчэ ў іх дзядуля Тумаш. За 5 кілямэтраў адгэтуль была вёска Сямёнавічы, дзе жыў бацька Сяргея Ігнат з малодшым сынам Федзем. У гэтых краях з восені 1941 году пачалі дзейнічаць партызаны. Вясной 1942 году ў Казьянскіх лясах быў створаны партызанскі атрад "Спартак". І Федзя пайшоў у партызаны. Аднойчы, наведваючы бацьку, ён напароўся на засаду, яго схапілі і павялі ў Казьяны, дзе быў нямецкі гарнізон. Два браты, Сыльвэстар і Алёшка, і дзьве сястры, Саша і Поля, сабралі такія-сякія сродкі, каб выратаваць (выкупіць) брата, прасілі Казьянскага сьвятара дапамагчы, але гэта нічога не дапамагло – яго расстралялі.

Бацька Ігнат, маючы некалі вялікую сям'ю, застаўся адзін. Вось у гэты час нявестка Насьця з дачкой Рымай і пайшлі жыць да свайго сьвёкра і дзеда. Пражылі яны спакойна ў Сямёнавічах да восені 1943 году. Партызанскі рух шырыўся, Казьянскі гарнізон быў разгромлены і Казьяншчына стала партызанскім краем. У верасьні-кастрычніку 1943 году немцы значнымі сіламі на вялікай тэрыторыі правялі карную апэрацыю супраць партызанаў. Але тыя з акружэньня выйшлі, а пацярпелі мірныя жыхары Казьяншчыны: усё багацьце (жывёла, зерне, бульба) было вывезена немцамі, вёскі спаленыя, насельніцтва з партызанскай зоны выгнана, маладзейшых забралі ў Нямеччыну. 8 кастрычніка 1943 году павезьлі ў Нямеччыну і Насьцю з Рымай, і роднага брата Сяргея Алёшку, які жыў зь сям'ёй таксама ў Сямёнавічах. Ехалі разам, але ў Нямеччыне іх разлучылі.

Насьця працавала на заводзе, а Рыму забраў гаспадар ("баўэр"). Рыма працавала ў гаспадыні: мыла посуд, прыбірала. Немка адзін раз у дзень давала Рыме паесьці, а раніцай і вечарам тая ела разам з усімі ў бараку. А ў бараках рабочым ежу гатавалі ў вялікіх чанах з розных адходаў. Насьця гэтага есьці не магла. Потым усё жыцьцё хварэла. Адзін раз у дзень ім давалі бутэльку ліманаду і бутэрброд, вось гэтым і жыла. Адгукнулася нямецкая кухня і на здароўі Рымы.

Вызвалілі іх амэрыканцы ў канцы чэрвеня 1945 году. Прыехалі ў родны Менск, але іх тут ніхто не чакаў. Ім не дазволілі жыць у Менску за тое, што яны былі ў Нямеччыне. Як "здраднікаў Радзімы" іх не прыпісвалі. Тады яны пасяліліся ў раёне, пажылі некаторы час. А потым паехалі ў горад Львоў, дзе жыла сястра Насьці. Насьця ўладкавалася працаваць бухгалтарам на заводзе, а Рыма вучылася.

Насьця пісала ва ўсе карныя органы Беларусі, каб даведацца пра лёс мужа Сяргея. І адусюль атрымоўвала адмоўныя адказы. Насьця выйшла замуж за ўдаўца з двума дзецьмі. Неўзабаве яны завербаваліся на працу за Котласам у Кіраўскую вобласьць. Там ў 1951 годзе нарадзілася сястра Рымы Эвеліна. Насьця доўга хварэла і памерла ў 1956 годзе, у 45 гадоў. Яна многа перанесла душэўных і фізычных пакут у сваім жыцьці: за мужа, несправядліва асуджана-

га, за лёс дачушкі Рымы, за цяжкі побыт у Нямеччыне, дзе яна канчаткова дабіла сваё здароўе, за несправядлівае абвінавачаньне іх у здрадзе.

Рыму пасьля вучобы ў Львоўскім паліграфічным тэхнікуме накіравалі на працу ў Алма-Ату (Казахстан), дзе яна пазнаёмілася з вайсковым лётчыкам Юрам і выйшла замуж у 1955 годзе. Рыма скончыла таксама гандлёва-эканамічны інстытут, працавала эканамістам. Пасьля дэмабілізацыі Юры яны пераехалі ў Крым у горад Сімфэропаль, працавалі і будавалі свой дом. Выхоўвалі Эвеліну (малодшую сястру) і сына Юру, які нарадзіўся ў 1966 годзе і зараз жыве і працуе ў Кіеве.

Увесь гэты час Рыма хацела ведаць праўду пра бацьку, пісала ў Менскі КДБ. Прыяжджалі да Рымы зь Сімфэропальскага КДБ. Далі прачытаць цэлую пэтыцыю, што бацька рэабілітаваны 15 верасьня 1955 году, але выпіску на рукі не далі, толькі вярнулі яго пасьведчаньне (пашпарт), якое было ў яго адабранае пасьля арышту. А дзе пахаваны – ніхто ня ведае.

Толькі чорны крумкач мог бы аб гэтым паведаміць.

# Юня

Было гэта зімой у адзін з пасьляваенных гадоў, калі яшчэ людзі памяталі жахі вайны, нямецкія карныя блякады на Віцебшчыне, дзе невінаватыя людзі гінулі ад куль ці гарэлі ў агні. Але тыя, хто засталіся жывымі, адбудоўвалі вёскі і гарады, школы, вырошчвалі хлеб.

Сямігадовая школа была пабудаваная ў самай вялікай вёсцы ў Пастаўскім раёне – Васілінах. Пакуль што было толькі шэсьць клясаў. Школа так і называлася – разьвіваючая. Мяне прызначылі клясным кіраўніком шостай клясы. Усе дзеткі для мяне былі аднолькава мілыя, прыгожыя і паслухмяныя. Але калі яны добра вучыліся, для настаўніка яны былі яшчэ прыгажэйшымі і мілейшымі, а тым больш, калі яны былі выдатнікамі. Але ж ня ўсім быць выдатнікамі. Некаторыя з вучняў не маглі справіцца і са школьнай праграмай, але гэта былі адзінкі. Я іх таксама любіў і шкадаваў, што яны нечага ня могуць зрабіць, як астатнія, дапамагаў ім як толькі мог. І якая радасьць была на твары вучня, калі ён сам мог нешта зрабіць без дапамогі іншых. Ён пачынаў верыць у свае сілы і, самае галоўнае, лічыць сябе роўным сярод роўных. Карацей кажучы, я ўсіх іх любіў аднолькава. Ды як жа іх было не любіць – мы ж былі іхнымі другімі бацькамі.

Была ў маёй клясе дзяўчынка Лукашонак Юня. Жыла яна ў роднай цёткі Дзіковіч Анфісы ў нашай вёсцы Чарэмушнікі Падзісенныя. Бацькі Юні згарэлі ў агні ў суседняй вёсцы Баравыя падчас карнай экспэдыцыі немцаў у лістападзе 1942 году. На той час Бог пашкадаваў яе. У тую страшную ноч Юня начавала ў роднага дзядзькі Капітона ў суседняй вёсцы Азерава, куды яе бацькі часам прыводзілі пагуляць са стрыечнымі брацікам і сястрычкай.

Цётка Анфіса з мужыком Міхаілам былі баптыстамі. У іх сям'і было чацьвёра сваіх дзяцей. Дзядзька Міхаіл памёр ад тыфу ўзімку 1942 году. Цётка Анфіса была выключнай жанчынай і маці. Мы, хлапчукі, часта зьбіраліся да іх у хату да свайго сябра Жэніка, яе сярэдняга сына. Мы ніколі ня чулі дрэннага

слова ад яе. Любіла яна сваіх дзетак, паважала і нас. І Юню яна выхавала добрай, сьціплай, ветлівай і заўсёды вясёлай дзяўчынкай. І ў дадатак – Юня была выдатніца. Гэта была прыгожая дзяўчынка з блакітнымі вачыма і беленькімі валоскамі. У яе многа было сябровак. Але яна больш за ўсё любіла Амілю Загорскую, зь якой разам хадзіла ў школу і са школы.

Аміля жыла ў Антанове за два кілямэтры ад Чарэмушнікаў. Бацька яе пры Польшчы быў настаўнікам. Але яго ўжо не было, памёр. Гадавала маці. У сям'і былі яшчэ два старэйшыя браты, Эдзік і Раман, якія прыводзілі Амілю ўзімку раніцай да Юні, калі яшчэ было цёмна, каб тыя ішлі разам у школу. Ісьці трэба было чатыры кілямэтры па бездарожжы. Падвозу ў школу дзетак не было. Вось так і мясілі дзеткі сьнег, часам па неразьеджданай дарозе, а восеньню і вясной – па гразі.

А калі замерзла рэчка Дзісенка, ім падабалася хадзіць са школы дамоў рэчкай. Паміж вёскамі былі два вялізныя ручаі. Зьлева бераг ракі быў спадзісты, парослы кустамі лазы каля самай вады, а справа – высокі і круты, дзе і стаяла нашая вёска. І рэчка тут рабіла паварот улева. Дзяўчынкі ішлі спакойна, пра тое-сёе размаўляючы і не заўважаючы, якая небясьпека іх чакала – іх даганяла ваўчыца.

Калі яны пачулі за сабою нейкі шум і азірнуліся, то і ўбачылі яе з разяўленай ляпай. Яны вельмі спалохаліся і пачалі з крыкам уцякаць. А ўцякаць было няпроста – уверх па крутым касагоры ды па сьнезе. Дзяўчынкі пачалі клікаць каго-небудзь на дапамогу, бо побач была вёска. Ваўчыца дагнала Юню і пачала яе кусаць. Аміля была ўперадзе. Ваўчыца кідалася і за ёй, але зноў вярталася да Юні. Яна ўжо адчула смак і пах яе крыві. І ўсё ж дзяўчынкі выбраліся на вуліцу вёскі.

Крык дзяцей першым пачуў Давідовіч Іван і кінуўся на дапамогу. Ды ў сьпешцы нічога не прыхапіў з сабою. Тут ваўчыца накінулася і на яго і пакусала. Пачуў гэта ўсё і сусед Івана – Дзіковіч Кузьма. Але ён прыхапіў з сабою вілы. І вось ваўчыца, разявіўшы ляпу, спрабавала накінуцца і на Кузьму, але яму ўдалося ўсунуць у ляпу вілы і прыціснуць ваўчыцу галавой да зямлі. Вілы былі слабенькія, але вытрымалі. Злаўчыўшыся, ён імгненна выхапіў вілы зь ляпы і праткнуў імі шыю, прыціскаючы ваўчыцу да зямлі. Тут падасьпелі людзі і забілі ваўчыцу.

Пакусаных Юню і Івана павезьлі на санях за 7 кілямэтраў на мэдпункт, адкуль выклікалі "хуткую дапамогу" з Пастаў, якая даставіла іх у больніцу. Праз пару дзён іх ня стала – ваўчыца была шалёная. Аміля засталася жывая і здаровая, яе ваўчыца ні разу не ўкусіла. А Юні пашчасьціла ўсьцерагчыся ад агню ў 1942 годзе, а тут зь ёю здарылася вось такая трагедыя. Чаму ж ты, лёс, аказаўся такі несправядлівы да гэтай беднай сіроткі?! У Давідовіча Івана засталася жонка з маленькай дачушкай.

Гэты выпадак узрушыў усю ваколіцу. Плакалі родныя, школьнікі, настаўнікі, усе дарослыя. Людзі кажуць, што сьмерць самая справядлівая. Але гэта ў сэнсе, калі людзей дзяліць толькі на дзьве катэгорыі – багатых і бедных. І гэта праўда, бо самы багаты чалавек на сьвеце ні за якія грошы ня зможа адкупіцца ад яе. Але ж людзі дзеляцца ня толькі на багатых і бедных. Калі сьмерць адбірае жыцьцё не ў пару, асабліва ад дзетак – то гэта недаравальна. Дзе ж тут тая справядлівасьць?!

# Наташа

Яна была старэйшай дачкой у сялянскай сям'і Мар'яны і Аляксандра. Былі ў яе яшчэ малодшыя сястра Тоня і брат Лёнька. Бацька памёр без пары ад запаленьня лёгкіх. На Наташу, як падрасла, навалілася куча работ жаночых, каб дапамагчы маме, а таксама мужчынскіх: трэба было касіць, араць і езьдзіць у лес па дровы. Дапамагалі рабіць недзіцячую працу і малодшыя Тоня і Лёнька. І з усім гэтым яны спраўляліся.

Замуж Наташа пакуль што не зьбіралася (ёй тады было 17 год), хоць да яе прыглядаліся многія вясковыя хлопцы. Была яна апроч працавітасьці – яшчэ і прыгожая. Але час ішоў. І закахаўся ў яе прыгожы, высокі, сьветла-русы вясковы хлопец Нікандра. Ён быў старэйшы ў сям'і Восіпа і Галены. У яго былі малодшыя два браты і сястра.

Кахаў ён моцна Наташу, а яна яго. Яны сустракаліся кожны вечар вясной і ўлетку на лавачцы Наташынага ганку. Тут іх можна было бачыць калі-небудзь нават і ў абедзенны час, калі яны прыходзілі з поля папалуднаваць. Яны не маглі жыць адно без аднаго, для іх быў дзень вельмі доўгі, што не маглі дачакацца вечара. І Нікандра прыбягаў хоць на 15 хвілін, каб сустрэцца са сваёй каханай.

І ўсё было б добра, калі б іхнаму каханьню не пашкодзіла страшная, невылечная ў той час хвароба сухоты (тубэркулёз), якой захварэў Нікандра. Спачатку ён не прыдаваў гэтаму ўвагі, ну прастудзіўся, кашаль ды кашаль. А калі зьвярнуўся да дактароў, то даведаўся аб сваім няшчасным лёсе. Ён ведаў, што гэта хвароба невылечная, і ён хутка памрэ. Але трымаўся перад роднымі і перад вяскоўцамі годна, ды па сьвятах, калі вып'е чарку са сваімі сябрамі, заўсёды сьпяваў сумную песьню:

“На сухоты я хварэю,
Хутка, хутка я памру ...”

Даведалася аб гэтым і Наташа. Але яна яго вельмі кахала і казала, што гатова памерці разам зь ім. Адхварэў Нікандра два гады, і яго ня стала. А Наташа не магла перанесьці ягонай сьмерці і пры пахаваньні кідалася ў магілу. Пасьля пахаваньня яна доўга насіла жалобу па ім, не хадзіла на вечарынкі, часта наведвала царкву і яго магілу, каб памаліцца за ягоную душу.

Але ішоў час, які загойваў яе душэўныя раны. Ды і вясковыя хлопцы не пакідалі яе без увагі. Многія зь іх хацелі мець такую жонку. Але яна выбрала Вінцука – лепшага музыку вёскі. Гэта быў прыгожы і вясёлы хлопец і вельмі ўжо добра іграў на сваёй трохрадцы. Ён іграў на вечарынах для вясковай моладзі, яго запрашалі іграць вясельлі ва ўсёй ваколіцы. Згулялі і яны сваё вясельле. Праз пару гадоў у іх нарадзілася дачушка Лёдзя. Яны пабудавалі сабе ў вёсцы хату, бо ў яго былі яшчэ два браты: старэйшы Сямён (ужо жанаты) і малодшы Сяргей, таксама музыка. І, здавалася б, жывіце і радуйцеся, маладыя людзі. Дык не! Кажуць у народзе, што адна бяда ня ходзіць. І зноў прыйшла яна ў сям'ю Наташы: захварэў і Вінцук на сухоты.

Усё гэта адбывалася перад Другой сусьветнай вайной, калі яшчэ ў мэдыцыны не было надзейных сродкаў супраць гэтай страшнай хваробы, і людзі ад яе паміралі.

Перажыла Наташа сьмерць Вінцука, перажыла вайну. Дзяўчынка Лёдзя падрасла і пайшла ў школу. Цяжка было адной абжывацца ў тыя цяжкія паўгалодныя гады. І да яе прыйшоў у прымы ўжо немалады Іван, былы партызан, якому ў час вайны было не да жаніцьбы. У Наташы нарадзілася другая дзяўчынка.

Пастукала бяда ў дзьверы сям'і Наташы і на гэты раз. Памёр яе мужык ад укусу шалёнай ваўчыцы, калі ратаваў дзьвюх вясковых дзяўчынак. Пакусаная дзяўчынка таксама памерла. Засталася Наташа зноў адна са сваімі дзяўчынкамі.

Зімой 1949 – 1950 году ў вёсцы арганізавалі калгас, куды трэба было хадзіць штодня на працу. Ніякіх у той час ясьляў ні садзікаў для дзяцей у калгасах не было. Наташа малую дзяўчынку пакідала дома адну, Лёдзя хадзіла ў школу. І калі дзяўчынцы споўнілася два годзікі, яна ўтапілася ў цэбры з вадой, куды гаспадыні зьлівалі памыі для кароўкі.

Засталася ў яе адна радасьць – дачка Лёдзя, якая дапамагала маме ўсё вытрымаць і ўсё гэта перажыць.

## Плытагоны

Прыйшоў ён у вёску ў прымакі да адной бабулькі, Анці, якая гады два таму назад пахавала свайго мужыка. Звалі яго Зьміцер. А ў яго тры гады назад памерла жонка. Старэйшы сын загінуў у партызанах у 1944 годзе. З сабой ён прывёў дачку Зоську, якая была ветлівая, прыгожая і вельмі жвавая. Ёй было гадоў 14, і яна вельмі хутка раззнаёмілася зь вясковымі дзяўчатамі-равесьніцамі, якія да іх пачалі зьбірацца вечарамі.

Ну, а там дзе дзяўчаты – там і хлопцы-падлеткі. У Анці сваіх дзяцей не было, і ёй спадабалася Зоська. І цётцы Анці, і Зьмітру падабалася, калі да іх зьбіраліся вечарамі аднагодкі Зоські. Зьміцер быў чалавек зь вялікім жыцьцёвым вопытам, і ён вельмі любіў аб чым-небудзь расказваць, бо было аб чым. Асабліва любіў расказваць, як ён са сваімі сябрамі ганяў плыты ў Рыгу. Гаварыў павольна, з задавальненьнем, прыцмокваючы языком. Гэта быў сапраўдны майстар слова. А ў тых, хто яго слухаў, складвалася ўражаньне, што і яны плывуць разам зь ім. І яны сядзелі, затаіўшы дыханьне, і слухалі.

Па рацэ Дзісьне пры Польшчы сплаўлялі ганкі (плыты) аж у Рыгу. Работа была цяжкая і небясьпечная, але ж людзям трэба было жыць. А каб жыць прыстойна – патрэбна была зямля. Вось людзі і хадзілі ў заробкі, каб купіць яе. Другім сродкам набыцьця грошай быў лён. Але ім займаліся ўлетку і восеньню. А ўзімку і раньняй вясной, да сяўбы, трэба было займацца лесам.

Падрыхтоўка да гэтай небясьпечнай работы пачыналася яшчэ ўзімку, у вольны ад сельскагаспадарчых работ час. Людзі нарыхтоўвалі бярвеньні (будаўнічы матэрыял) у Казьянскім лесе, вывозілі іх да крутога берагу Дзісны, складвалі рум (дрывяны склад).

Вясной, пасьля паводкі, калі рака ўваходзіла ў свае берагі, плуцілі (вязалі) плыты пры дапамозе вітак і цьвікоў. Віткі рабілі з маладых парасткаў бя-

розкі пры дапамозе кала, забітага ў зямлю. Вяршалінку парастка закладвалі ў засечку, зробленую ўнізе кала, а да другога яе канца прымацоўвалі кароценькую вяровачку з палачкай, якой і круцілі вітку, ходзячы вакол кала. Парастак трэскаўся і рабіўся мяккім, прыдатным для вязаньня. Папярэдне іх яшчэ вымочвалі ў вадзе.

Бярвеньні кацілі з гары ў раку, дзе іх лавілі баграмі і вязалі ў зьвёны. У кожнае зьвяно ўваходзіла па 20-25 штук, у залежнасьці ад таўшчыні яловых ці сасновых бярвеньняў. Зьвёны зьвязваліся пры дапамозе дроту. Плыт атрымоўваўся зь некалькіх зьвёнаў. Доўгіх плытоў не рабілі, бо імі цяжка было кіраваць на крутых зьвілінах ракі. Сьпераду і ззаду плыта былі прымайстраваныя дрыгалкі-вёслы, вычасаныя з бярвеньняў, даўжынёй мэтраў па пяць кожнае. Пасярэдзіне плыта стаяла саламяная будка для адпачынку людзей і захаваньня кухонных прылад і харчаваньня, а таксама дроў для прыгатаваньня ежы. На кожным плыце было па тры чалавекі.

Для затрыманьня плыта выкарыстоўвалася стальная ліна, прымацаваная да задняй часткі апошняга зьвяна. Другі канец ліны быў злучаны з моцным калом, які выкідвалі на бераг і "аралі" ім, пакуль плыт не спыняўся. Гэта была самая небясьпечная работа. Там патрэбны былі сіла, спрыт і ўменьне. Плыт затрымлівалі на адлогіх берагах ракі перад ноччу, каб плытагоны маглі адпачыць. Ноччу гнаць плыт было небясьпечна. Дзісна была спакойная, а на Дзьвіне сустракаліся віры, а месцамі нават парогі, якія маглі скруціць плыт у абаранак. Таму на чале плыта стаяў вопытны плытагон – лоцман.

Зьмітра бацька адправіў у заробкі, калі было яму 17 гадоў. Плыў ён першы раз з вопытнымі людзьмі, якія ганялі плыты ў Рыгу не ўпершыню. Гэта былі добрыя людзі, і яны яго вучылі. Цяжкая была навука, як і сама работа. Перш трэба было навучыцца хадзіць па мокрых бярвеньнях, якія рухаліся пад нагамі. Трэба было навучыцца правіць пяцімэтровай дрыгалкай: сьпераду, каб ня ўрэзацца ў бераг, а ззаду, каб плыт не зачапіўся за яго. Але самай цяжкай і небясьпечнай работай было затрымаць плыт. Вось Зьмітру і даручылі аднойчы гэта зрабіць. Выбралі больш-менш роўную паляну на беразе ракі. Пры дапамозе дрыгалкі на задняй частцы плыта наблізілі яго да берагу, і Зьміцер выскачыў на бераг з калом і лінай на ім, пачаў "араць". І ўжо, здаецца, кол упёрся ў зямлю, і плыт пачаў спыняцца, Зьмітру захацелася для большай упэўненасьці, што гэта так, узьлегчы ўсім целам на кол, ды яго шыбанула так, што ён апынуўся ў рацэ. Добра, што не папаў на бярвеньні плыта, дзе мог бы добра пакалечыцца. Плыт працягваў рухацца, але павольней, бо ён ужо быў не на сярэдзіне ракі, а на водарасьцях, што расьлі ля берагу. Але Зьміцер не разгубіўся, вылез з вады, дагнаў кол зь лінай і з новай сілай пачаў "араць". Плыт спыніўся. А на твары Зьмітра была пераможная ўсьмешка.

– Гэта тваё першае хрышчэньне! Маліся Богу, што добра ўсё скончылася. А кол трэба трымаць толькі ў руках і ня класьціся на яго, як ты гэта зрабіў, аб чым мы цябе папярэджвалі, – гаварылі яму сябры.

– Ці ж я тады мог успомніць, што вы казалі, калі я вельмі хваляваўся, што не змагу затрымаць плыт.

Узьлезшы на плыт, ён пераапрануўся ў сухое адзеньне, што маці паклала яму на зьменку, мокрае разьвесіў на будцы. Сябры распалілі вогнішча, пачалі гатаваць вячэру, а ў Зьмітра не пападаў зуб на зуб ня так ад холаду, як ад хваляваньня. Больш у яго плаваньні падобных выпадкаў не было.

Але ж на гэтым ягонае першае падарожжа ня скончылася. Плыў, любаваўся беларускімі мясьцінамі, вёскамі, гарадамі, дагэтуль яму невядомымі. Прыплылі да горада Дзісны, які быў пабудаваны пры вусьці ракі Дзісны. Паплылі па шырокай Дзьвіне – мяжы Польшчы з Савецкім Саюзам. І Друя – апошні беларускі гарадок на граніцы Польшчы і Латвіі. Празь некалькі дзён – канечны пункт падарожжа – Рыга.

Здаўшы лес і атрымаўшы грошы за працу, старэйшыя сябры Зьмітра рашылі наведаць рэстаран. Пайшоў зь імі і Зьміцер. Калі яны ўселіся за столік, пачала танцаваць адна "маладзіца", як ён называў яе. І так закружылася ў танцы, што яе сукенка паднялася парасонікам вышэй попы, якая здалася Зьмітру зусім голай. Яму, вясковаму, сарамліваму хлопцу, які нідзе ня быў і нічога яшчэ ня бачыў, зрабілася не па сабе. А танцаўшчыца, відаць, прыглядалася да хлопцаў, якія сядзелі за сталом. І, няйначай, ёй спадабаўся Зьміцер. Вось яна і апусьцілася голай попай яму на калені, чаго Зьміцер аніяк не чакаў. Ад такой нечаканасьці спружыніўся хлопец дзьвюма нагамі, ды так шпурнуў "маладзіцу", што тая далёка адляцела. Сам Зьміцер спалохаўся, ускочыў зь месца і даўся наўцёкі. А пры выхадзе на сходках так спатыкнуўся, што вылецеў на тратуар празь дзьверы, перад якімі, як ён казаў, нейкі дурань паставіў тэлеграфны слуп, у які ён і ўрэзаўся галавой. Застаўся хлопец безь вячэры, бяз шапкі і зь вялікім гузам на лобе.

Пасьля гэтага здарэньня ён у рэстаран больш не вярнуўся, быў вельмі ўсхваляваны і падаўся на чыгуначную станцыю. Празь некаторы час вярнуліся і ягоныя сябры. Было сьмеху. Прынесьлі ягоную шапку і пыталіся, чым яму не спадабалася прыгожая дзяўчына. А ён пытаўся, як яна там.

– Нічога, – адказвалі яму сябры. – Паднялася і зноў пачала танцаваць.

Вось так закончылася першае падарожжа Зьмітра.

# Пранук

Было гэта ў 30-я гады мінулага стагодзьдзя, пры Польшчы. У Сямёнавічах (Шаркоўшчынскі раён) па-суседзтву з маім дзядулем Ігнатам жыў дзед Пранук. Ён жыў адзінокім бабылём, у яго была хата і невялічкі кавалачак зямлі. Але ён жабраваў у суседніх вёсках. Людзі яго ведалі як вялікага казачніка і з задавальненьнем пускалі начаваць, каб ён пабаяў дзецям казак. Часта начаваў у нас. Запомніўся мне адзін выраз зь ягонай казкі-песьні: "Хто ў бары, хто ў лесе – прыйдзі ка мне ў наначкі".

Сам Пранук быў непісьменны, але меў выключную памяць. Ён ва ўсёй ваколіцы ведаў усіх людзей, хто калі нарадзіўся, хто калі памёр, ажаніўся, хрысьціўся.

Хадзіў ён зімой і летам у адным і тым жа адзеньні: зрэбная бялізна (кашуля і штаны) і зьверху ярмяк, пашыты з вытканага на кроснах суконнага палатна. Падпяразваўся поясам, сплеценым зь нітак. На галаве меў шапку са штучнага каракулю, якія тады ўсе мужыкі насілі. На нагах анучы, з павязанымі лап-

цевымі аборамі (тоненькімі вяровачкамі). Вось такое яго было адзеньне круглы год. Насіў вусы і бараду.

Але быў вялікі чысьцёха і дакладны ва ўсім. Пачне мыцца, то кожны валасок перабярэ ў сваёй барадзе. Рабіў усё павольна, але дакладна. У вёсках такая і пагаворка пайшла: "Што ты там так доўга капаесься, як той Пранук?" Памыўшыся, пачынаў маліцца перад абразамі, ня менш гадзіны. Вельмі многа ведаў малітваў як ранішніх, так і вячэрніх. Ведаў усе праваслаўныя і каталіцкія сьвяты і прысьвяткі. Ну а вечарамі забаўляў дзетак казкамі. І так цікава ўмеў расказваць, што дзеткі сядзелі, зачараваныя ягонымі байкамі, і не варушыліся. Каб ён меў адукацыю, ён мог бы стаць вялікім чалавекам.

Аднойчы мы з бацькам ехалі да дзядулі ў госьці. Пакуль мы чакалі парома ў Сямёнавічах празь Дзісенку, нам давялося назіраць, як Пранук прыйшоў памыцца ў рацэ. Падыйшоўшы да вады, пачаў рукой разганяць муць у вадзе, хаця вада ў нашай рацэ была чыстая. Але калі пачаў махаць рукой, то і пясок з дна мог падняцца. Нешта не спадабалася яму тут, пайшоў далей. Але і там штосьці не спадабалася – пайшоў шукаць новае месца. Нарэшце спыніўся ў трэцім месцы, бо зьняў шапку і пайшоў яе ўладкоўваць на чыстую траву. Доўга выглядаў месца і ўсё ж знайшоў яго, дзе і паклаў шапку. Але, падыйшоўшы да вады, зноў зірнуў на шапку і пайшоў папраўляць яе, нешта ж ня так ляжала, як здавалася яму. Паправіўшы шапку, заўважыў на ёй нейкую паўсьцінку і тут жа зьняў яе. І так, прывёўшы ў парадак сваю шапку, пачаў мыцца.

А тут адкуль браліся жэўжыкі-хлапчукі, якія ўбачылі, што Пранук мыецца. Набралі камоў зямлі і бух-бух-бух у тое месца, дзе ён мыўся. Замуцілі ваду. Забірае Пранук сваю шапку і ідзе павольна ў другое месца ўверх па цячэньні, нязлосна сварачыся на сваіх крыўдзіцеляў.

Аднойчы заначаваў ён у нас напярэдадні Вялікадня. У Вялікую суботу ў нас была выпалена лазьня. Калі ўсе памыліся, захацелася і яму схадзіць у лазьню памыцца. Мама ахвяравала яму чыстую бялізну, паслала пасьцель, каб, прыйшоўшы з лазьні, мог адпачываць, і ён пайшоў.

А мы ўсёй сям'ёй пайшлі на Ўсяночную да баптыстаў, якіх у вёсцы было шмат. Адзін наш дзядуля Тумаш пайшоў у царкву ў Андроны за пяць кілямэтраў, каб памаліцца і пасьвенціць пасху. А мы маліліся разам з баптыстамі. Бог быў у нас адзін. Малітоўны дом у іх быў абсталяваны ў вялікім пакоі аднаго вяскоўца. А абсталяваньне тое складалася зь некалькіх сталоў і лавак вакол іх, на якіх сядзелі баптысты з малітоўнікамі ў руках. На сьценах былі разьвешаны лёзунгі "Бог ёсьць любоў" і іншыя, і ніводнага абраза. Біблія і Евангельле ў іх былі тыя ж самыя, як і ў праваслаўных. Прасьвітар казаў казань, потым усе сьпявалі па малітоўніках на расейскай мове, часам станавіліся на калені і шапталі малітву, заплюшчыўшы вочы. Маліліся доўга, і мы дабылі да канца. Ішлі дамоў ужо пад раніцу. Дамоў прыйшлі, а Пранука няма. Думалі, што нядобрае здарылася. Бацька пайшоў шукаць. Падыйшоўшы да лазьні, бацька ўбачыў праз невялікае вакенца, што ліхтар яшчэ гарыць, але ў лазьні ціха. Калі адчыніў дзьверы, то ўбачыў, што Пранук задае храпака на палку. А ён, памыўшыся, прылёг адпачыць і заснуў моцным сном у цёплай лазьні.

Быў у яго невялічкі кавалачак зямлі, на якім ён калі-нікалі штосьці сеяў. На гэты раз у яго было пасеяна жыта. Калі яно высьпела, пачаў ён яго жаць памалу, баючыся, каб ніводнае зярнятка ня высыпалася. Пры Польшчы быў такі

гатунак жыта, што вельмі сыпалася. Калі вазілі з поля, то тарантасы засьцілалі посьцілкамі. Жаў ён паволі і кожны дзень патрошкі.

Вясковыя жанчыны, параіўшыся і рашыўшы, што ён будзе так жаць да зімы, прыйшлі адным ранкам, пакуль Пранук спаў, зжалі, павязалі і паставілі бабкі. Толькі не накрывалі апошнім снапом, які пакінулі каля бабкі, бо жыта было з расой і павінна было высахнуць.

Устаў і Пранук. Але пакуль памыўся ды памаліўся, ды чагосьці пасьнедаў – сонца ўжо паднялося высока. Прыходзіць ён на сваё поле і вачам ня верыць: жыта ўжо пажата. Ну і хадзіў ён сагнуўшыся і лаяў таго, хто гэта зрабіў. Хоць і зерня было таго мала на зямлі, бо жанчыны зжалі яго з расой, калі яно ня так сыпалася.

Пранук мог беспамылкова прадказаць надвор'е на бліжэйшыя суткі і бліжэйшы час, ведаў, калі будзе поўня і калі маладзік, якое будзе наступнае лета і зіма.

Вось такі быў у нашых краях чалавек.

# Міхась

Жылі-былі Міхась з Марыляй у самай вялікай вёсцы Пастаўшчыны – Васіліны. У сям'і нарадзіліся два сыны і дзьве дачкі. Мелі зямлі пры Польшчы. Пры вуліцы быў пасаджаны вялізны, як ні ў кога, сад. У садзе вяліся пчолкі, якіх даглядала гаспадыня. Усюды, як у хаце, так і ў дварышчы, на агародзе, адчувалася гаспадарская рука. У гародчыку каля хаты расьлі прыгожыя кветкі.

Міхась у сваёй маладосьці зьезьдзіў у Злучаныя Штаты Амэрыкі ў заробкі. Вярнуўшыся, купіў зямлі, вывучыўся на вэтэрынарнага фэльчара. Але ён лячыў ня толькі жывёлу. Да яго зьвярталіся і людзі, якім ён дапамагаў. Быў добры да людзей, сьціплы, душэўны чалавек. За лекарскія паслугі ад людзей нічога ня браў, хіба за лякарствы. Старэйшы сын ажаніўся, аддзяліўся ад бацькоў, побач з бацькоўскай сядзібай пабудаваў сваю хату. Старэйшая дачка выйшла замуж у недалёкую вёску. Малодшы сын ажаніўся зь дзяўчынай з суседняй вёскі і жылі ў бацькоўскай хаце. Малодшая дачка, яшчэ незамужняя, таксама жыла разам з бацькамі.

Міхася, як і павялося ўжо ў Заходняй Беларусі, вэтэрынарным доктарам ніхто не называў. Для ўсіх ён быў канавалам, хаця яго ўсе моцна паважалі, бо ён быў вельмі добрым спэцыялістам. Сям'я жыла пры Польшчы, можна сказаць, заможна. Ад Сыбіры пры Саветах выратаваў калгас, куды яны ўступілі вясной 1941 году.

Міхась быў вельмі вялікі жартаўнік. Сваімі расказамі слухачоў даводзіў да сьлёз, але сам ніколі не сьмяяўся, захоўваючы толькі лагодную усьмешку на твары. Ішоў час, гады бралі сваё, пастарэў і Міхась. Але гумар крочыў зь ім побач. Калі зямелька яго пачала прыцягваць да сябе, ён стаў хадзіць прыгнуўшыся, то яго можна было ўбачыць зь дзьвюма цаглінамі за сьпіной, зьвязанымі вяроўкай, якая была перакінута праз шыю. Так яму было быццам лягчэй хадзіць.

У вёсках пры Польшчы павялося так, што боты шылі са свайго матэрыялу. Было ў кожнай гаспадарцы жывёлы, было і скуры, якую ўмелі вырабляць спэцыялісты-татары. А потым навучыліся рабіць гэтую работу і беларусы. Былі ў вёсках і шаўцы, і краўцы, якія з вырабленых аўчынак шылі кажухі, а са скуры – боты. Вось і ў Міхася зьявіліся новыя боты.

Набліжалася восень. Той год выдаўся вельмі ўраджайным на яблыкі. Марыля, ходзячы па садзе каля сваіх пчолак, заўважыла, што хтосьці наведвае начамі іхны сад, бо на некаторых яблынях былі паламаныя сукі. Людзі яны былі не скупыя, дзяліліся чым маглі з суседзямі і зь вяскоўцамі. Але ж навошта ламаць сукі? Вось яна і папрасіла Міхася схадзіць ноччу павартаваць сад, і Міхась згадзіўся.

Задоўга да вячэры ён занёс падушку, прасьціну і коўдру на стажок сена, які быў складзены ў садзе, зрабіў сабе пасьцель. А калі Міхась павячэраў, і ўжо добра сьцямнела, ён абуў новыя боты і пайшоў на стажок. Зьняў новыя боты і схаваў пад падушку. Сам палез пад коўдру і аддаўся мроям, якім спрыялі ціхі вечар і загадкавыя гукі ночы. Доўга ня спалася Міхасю на новым месцы, многа чаго перадумаў, але усё ж сон яго адолеў. І прысьніўся яму прыемны сон, што ён малады і ўдалы, прыйшоў на вечарыну, дзе многа прыгожых дзяўчат, і ўсе яны паказваюць на ягоныя новыя боты, а яму ад гэтага няёмка, і ён прачнуўся. Прыслухаўся – у садзе ціха. Памацаў боты пад падушкай – ёсьць, і ён павярнуўся на другі бок і зноў даў храпака. А пад самую раніцу сон бывае асабліва моцны. Цяпер яго ўжо разбудзіў певень. Расплюшчыў вочы і падумаў: “Ці не пара ўставаць ды брацца за гаспадарку?” Палез пад падушку па боты. Памацаў справа – няма ботаў, памацаў зьлева – зноў няма. У разгубленасьці шыбануў падушку, што паляцела са стажка, – няма ботаў, скінуў далоў прасьціну і коўдру – няма. Пачаў капацца ў сене, усё ня верачы, што здарылася непапраўнае. Потым скуліўся са стажка сам, аббег вакол стажка разы са тры – няма.

– О, Божа, што ж рабіць? – думаў ён. – Як жа я пакажуся Марылі бяз ботаў? Вартаваў яблыкі, а боты з-пад галавы паперлі.

Азіраючыся па баках, ён пайшоў да будынкаў. “Ага, яшчэ ўсе сьпяць, што ж тут прыдумаць?” І ён успомніў, што ў паветачцы пры хляве валяліся яго старыя боты. Знайшоў тыя боты, якія ўжо ссохліся і зморшчыліся, паляжаўшы без карыстаньня, але ж неяк насунуў, хаця і ціснулі.

Выйшла і Марылька на панадворак з кавалкам хлеба, зьняла даёнку з плота і накіравалася ў хлеў. Убачыла Міхася, але нічога падазронага не заўважыла.

– Ну дык ці многа яблынь абкалацілі ў вартавога? – пытаецца Марылька.

– Сьмяесься зь мяне, Марылька. Ты ж добра ведаеш, які я чуткі. Да мяне ні адзін злодзей не асьмеліцца падыйсьці. Я ж за кілямэтар чую ўсе шолахі.

Прайшла восень, надыходзіць зіма. Ужо па-сапраўднаму трэба апранацца і абувацца. І Міхась пачынае “шукаць” свае боты, якіх даўным-даўно ўжо няма ў хаце. Вось Міхась і зьвяртаецца да жонкі:

– Марылька, табе выпадкова не пападаліся на вочы мае новыя боты? Штосьці не магу я іх знайсьці.

Паднялася ўся сям’я на пошукі новых ботаў, якіх ужо ў хаце даўно не было, аб чым Міхась добра ведаў. Пераварушылі ўсю хату, усе куточкі і закутачкі.

– Няйначай, як хто ўкраў з хаты, – кажа Марыля.
– Ды ня з хаты, а са стажка, – удакладніў Міхась.
Вось такі ён быў жартаўнік!

# На паляваньні

Запрасіў мяне аднойчы на паляваньне мой сябра Генадзь. Паляўнічымі мы ніколі не былі і ружжаў ня мелі. Але каб крыху разьвеяцца пасьля шумных школьных будняў, а гэта было ў час невялікіх восеньскіх канікулаў, мы вырашылі сустрэцца з цудоўнай восеньскай прыродай. Я ўзяў школьную малакаліберную вінтоўку, а Генадзь пазычыў у суседа паляўнічае ружжо.

Была першая палова лістапада. Сьвяціла сонейка, аддаючы скупое цяпло, па небе плылі баранчыкі-хмаркі, якія гнаў невялічкі ветрык. І вакол была такая цішыня! Большасьць дрэў ужо скінулі свой залаты ўбор. Даўно адсьпявалі свае песьні салаўі і жаўранкі. Ідзём па ўскрайку алешніку. Справа раскінулася вялізнае поле, пакрытае зялёным дыванам азімай руні. Калі-нікалі чуецца сакатаньне сарокі – гэтай чуткай вартаўніцы лесу, ды стук доктара дрэў – дзятла. Настрой цудоўны. І нікога я не хачу забіваць! Няхай усё жывое цешыцца гэтым прыгожым днём і атрымоўвае асалоду ад жыцьця.

– Але, – кажу я Генадзю, – дарэмна ты мяне ўзяў на паляваньне. Я ж ня буду страляць у зайца, а наадварот, буду рабіць усё, каб ён уцякаў ад нас.

Глядзіць ён на мяне са зьдзіўленьнем і пытаецца: “Чаму гэта?”

І я яму расказаў адзін выпадак з майго дзяцінства, у якіх абставінах я аднойчы сустрэўся з зайчыкам, пасьля чаго пакляўся ніколі ня крыўдзіць гэтых прыгожых, добрых і няшкодных боскіх стварэньняў. Было гэта на маёй радзіме ў дзяцінстве. Павяліся ў мяне трусы зь лёгкай рукі Кішко Мяфодзія, які жыў на першым хутары вёскі Васіліны. Купілі мы ў яго парачку беленькіх, з чырвонымі вочкамі, ангоравых трусікаў, якімі я ня мог нацешыцца. Тады ў модзе былі ангоравыя шапачкі, рукавічкі для дзяўчынак і шалікі для хлопчыкаў. Праз некаторы час мне прынёс яшчэ двух простых самачак добры сусед Грынько Аркадзь. Адна была сівенькая, другая белашыйка. Яны былі ўжо амаль дарослыя. Расьлі мае трусікі, пладзіліся, і ў хуткім часе я меў ужо цэлую трусіную фэрму, якую трэба было накарміць. Улетку хадзіў на поле зьбіраць траву, якую трусы любілі. А любілі яны лісточкі малачаю, дзяцельнік і, канечне ж, канюшынку. Але надыйшла восень, травы пажаўцелі, пасохлі. І я хадзіў на свой шнурок, дзе расла канюшына. Канюшыну ўжо двойчы касілі, і зараз тут расла атава, якую я і пачаў зьбіраць у кошыкі. Напоўніўшы адзін кошык, я пачуў сабачы брэх, які парушыў асеньнюю цішыню. На полі ўжо нічога не было, хіба толькі і заставалася ў гаспадароў атава канюшыны ды дзе-нідзе яшчэ ляжала канюшына ў копах. Калі я падняў галаву, то ўбачыў удалечыні вясковага сабаку Рудзіка, які, няйначай, гнаў зайца. Гэта быў вялікі сабака Дзіковіча Міхаіла, якога не прывязвалі, лічылі “разумным”, а ён дапамагаў пасьвіць кароў, любіў шукаць у зямлі мышэй. Брэх сабакі набліжаўся да мяне. Спачатку гэтаму я не прыдаў увагі, думаў, і ў зайца ж ногі доўгія, уцячэ. Але і ў Рудзіка былі ногі доўгія, і ён

ўжо недалёка ад мяне. Раптам Рудзік штосьці закружыўся на адным месцы, мабыць, згубіў сьлед, пачаў бегаць туды-сюды. Але дзе ж заяц? Вось у гэты час я і ўбачыў зайку. Ён прыбег да мяне шукаць паратунку. Прыціснуўся ў атаўцы да зямлі ад мяне за мэтраў пяць, вушкі прыклаў да тулава. Яго бакі часта падымаліся ад цяжкага дыханьня, замарыўся вельмі, яго заечая губа шырока разьдзімалася. Глядзеў і прасіў вачыма мяне: “Не выдавай!” Я замёр. Рудзік і на самай справе згубіў сьлед, а можа, пабаяўся падбягаць блізка да мяне, не зусім знаёмага яму чалавека, паступова Рудзік аддаляўся ад нас, а потым і зусім яго ня стала чуваць.

Я стаяў і не варушыўся, бо зайчык усё яшчэ хаваўся каля мяне. Калі ўжо сабакі не было чуваць, зайчык падняў вушкі, страсянуў імі, і я зразумеў, што гэта ён падзякаваў мне за дапамогу і паволі пачаў аддаляцца ад мяне. Шчасьлівага табе падарожжа, зайка! Кажуць у народзе, што чалавек – самы страшны зьвер на Зямлі. Але ж во зайчык знайшоў паратунак у чалавека, прыбег да яго па дапамогу. І такая жальба навалілася на мяне, што я заплакаў і падумаў, што ўсім хочацца жыць на нашай цудоўнай плянэце Зямля!

Пасьля майго расказу і Генадзю перахацелася паляваць. Мы сабраліся ісьці дамоў.

– Але ж, – кажа ён, – як мы будзем вяртацца з паляваньня з пустымі рукамі? Давай па дарозе зьвернем да Пятуха Антося.

Пятух Антось быў вядомы паляўнічы на ўсю акругу. Ён паляваў і на зайцоў, і на лісіц, і на шашкоў. Вось да яго мы і зайшлі. А ў яго ляжаць аж тры забітыя зайцы. Дык аднаго мы і купілі.

Прыйшлі ў вёску. Сустрэчныя пачынаюць нас віншаваць з посьпехам. А ў хаце нас ужо чакаюць жонкі. І кожнай хочацца бачыць свайго мужыка спрытнейшым.

– Дык хто ж пацэліў? – пытаюцца.

– А мы адначасова выстралілі, а хто пацэліў – невядома.





*Здымак Анатоля СТАРКОВА.*

**СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук** (сапр. Сокалаў Сяргей) — нарадзіўся 16.10.1957 году ў вёсцы Астроўшчына Полацкага раёну Віцебскай вобласьці ў сям'і служачых. З 1973 г. жыў у Наваполацку. Працаваў сьлесарам на заводзе жалезабетонных вырабаў (1974 — 1976), на Наваполацкім вытворчым аб'яднаньні "Палімір" (1979). Служыў у Савецкай Арміі (1976 — 1978). У 1979 годзе паступіў на беларускае аддзяленьне філялягічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, а пасьля трох курсаў перавёўся на завочнае аддзяленьне (скончыў у 1985). Настаўнічаў у сярэдняй школе № 5 Наваполацку (1982 — 1984, 1985 — 1988), быў навуковым супрацоўнікам філіялу Літаратурнага музэю Якуба Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёну (1984 — 1985), загадваў літаратурнай часткай лялечнай трупы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатру імя Якуба Коласа ў Віцебску (1988 — 1990).

Сябра СП СССР з 1990 году. У друку выступае з 1973 году (наваполацкая газэта "Хімік"). Часта выступае як аўтар і выканаўца сваіх песень.

Зараз жыве ў горадзе Іст-Бранўік, штат Нью-Джэрзі.

# Кут

*Спадарам Рыцарам Ордэну Братоў Міктаратаў*

## I

Мой родны кут — мой кут у нашай хаце?
Пасьля папругі — лепшы выхавацель?
Мой брэнд, або, па-нашаму, таўро,
Дзе зладжана са злом жыло дабро.
Як кропелькі мяне — мае натуры
Мой родны кут — драбок мае культуры.

Сюды мяне за цяжкія правіны
Стаўляла маці, і цяклі хвіліны
У роздуме, ў адкрыцьцях, бо ніколі
Навука не давалася бяз болю.
Завошта быў караны я? — За справы.
Няўрымсьлівы, нявытрыманы, жвавы.

То мераў у бліскучых новых ботах
Бяздонна-непралазнае балота,
Адкуль дадому бег і плакаў босы.
То, кінуўшы спаміж сябрамі лёсы,
Любовяй да ваеншчыны скароны,
У вогнішча закідваў патроны
Або гранаты, часам нават міны
(Іх на абшарах нашае краіны –
Ня зьлічыш. І на ўсіх сваёй наводкай
Адбіткі цеплыні гарачых продкаў).
То вёў сястру па рэчцы першым лёдам,
То йшоў на борць – паласавацца мёдам
І, пчоламі скусаны, зь дзікім крыкам
Імчаў дамоў з падскокам і падбрыкам,
Ды ўсё адно быў зноўку пакараны
Сваім кутом, які залечваў раны.

Затое колькі мной было адкрыта!
Я блізка пазнаёміўся з карбітам,
Які з сябрамі мы на рэчцы рвалі,
Ўздымаючы нябачаныя хвалі.
Або з салетрай, што ірве ня горай,
Ці з магніем, які мы кралі спора
Ў хімгабінэце роднай нашай школы,
Ці з натрыем – грымела ўсё наўкола...
А вогнішчы са скрадзеных пакрышак,
Іх у калгасе быў відочны лішак –
Паўсюль ляжалі на двары машынным,
Даючы сховы скопішчам мышыным.

Вясновы сад! Гарохавае поле!
Вартаўнікам залішні прыступ болю –
Налёт дзятвы... Дзеля прыгодаў кралі,
І зноўку нашы маткі нас каралі...
Мой родны кут – прытулак сьлёз і бедаў –
Адзіны ты заўсёды праўду ведаў.
Табе адному без усякай меры
Не шкадаваў я шчырасьці й даверу.

А побач з цёмных нэтраў кніжных шафаў
Цягнулі шыі, што твае жырафы,
Амос Каменскі – ну ані ня Менскі
Ды Сухамлінскі, што зусім ня Пінскі,
Нязнаны Оўэн, пра каго Віталік,
Прыежджы і таму яшчэ маскалік,
Сказаў: “овин”, але яго паправіў
Наш вундэркінд Алесь, аматар правіл
І жартаўнік з усякіх слоў-масковін:

“Ня так чытаеш. Не “авін”, а “Овэн”.
Па-нашаму – Баран, але ў патрэбе:
Або Маркач, або сузор’е ў небе”.
А далей на паліцы Пэсталоцы,
Скрывеліў твар, нібыта сёрбаў воцат.
“Якаясь Мантэсоры зь нейкім Лохам”
“Ня з Лохам! З Локам!”
“З Блокам?”
“Дзе там з Блокам – з Блохам!”
Ну й на канец – Макаранка, вядома.
І ўсе яны былі ў мяне удома!
І ў роспачы заламывалі рукі.
Нямелі іхных мудрых словаў гукі.
У страшных курчах гінулі мэтоды –
Само жыцьцё зрынала ў бездань стоды!

Затое нашы – тым, чужым, ня пара –
Маглі, як трэба, ляснуць і па твары,
Ды гэта зрэдку, гэта – край магілы...
Быў родны кут, мой кут... Як ты мне мілы...
Мяне туды стаўлялі... Хто? Ці мала:
Пачаў Сіўко, а скончыў сам Купала
Між імі Крапіва, Астрэйка, Колас,
Апошні, праўда, зрэдку высіў голас,
Бо у дзяцінстве быў і сам ня цаца,
І гэткі ж кут у хаце меў таксама,
Дык, карацей, ён быў ня горшы самы,
Хаця й ня скажаш, што сядзеў бяз працы.

Эфэкт ад пэдагогік тых народных
Быў самы лепшы. Працавалі згодна
Аўтарытэт, папруга і, вядома,
Мой кут – пэрыфэрыйны цэнтар дома.

## II

*Бюро ў справах індзейцаў меркавала, што найлепшы спосаб навучаньня для індзейцаў – гэта адвучыць іх быць індзейцамі. Нас каралі за тое, што мы размаўлялі на сваёй мове або сьпявалі свае песьні. Калі мы ня слухаліся, нас ставілі ў кут або наўвыспруж ля сьцяны, а нос і калені зьляплялі плястырам. Некаторыя настаўнікі білі нас лінаркамі па руках. А дзе-якія лінаркі былі абабітыя масяжовымі (латуннымі) цьвікамі. Яны, вядома, маглі апрануць мяне, як белага чалавека, але не маглі зьмяніць таго, што было пад апраткай.*

***Fair John*** */ Lame Deer & Erdoes Richard,*
*Lame Deer: Seeker of Visions*. New York,1972.

Я быў малы, найболей – год дзясяты,
Як мы зьмянілі тую нашу хату
На іншую. Ад’ехалі далёка,
Здавалася, Зямля з другога боку
Інакшай будзе, толькі неўзабаве
На новым месцы, па малой забаве
Я зразумеў, што сьвет паўсюль аднакі.
(Як даўся ты мне, родны кут, у знакі!)
Я ж сам глядзеў, сам пільнаваў і бачыў:
Прытулак маіх роспачаў і плачаў
Ніхто ня браў з сабой, ды вось жа – наце!
Ён тут як тут – стаіць у новай хаце.
Маглі б аддаць каму! Навошта бралі
Яго з сабой у гэтакія далі!
Маглі б згубіць! Забыцца дзе ў дарозе!
Як можна далей пры такой пагрозе
Казаць пра волю, жыць у гэтай волі?
Я быў расчараваны як ніколі
І пакрысе намовіць думаў маму
Заняць чым-небудзь гэты кут таксама –
Паставіць “целік”, шафу ці канапу,
Ды лёс сваю бязьлітасную лапу
Наклаў на прагрэсіўныя папхненьні:
Мой кут ізноў прыймаў мае калені,
Як і раней. А я ізноў сваволіў,
Дзе мог, як мог і чым далей – тым болей.

Жыцьцё ж ішло, імчалася, буяла,
Мой родны кут узводзіў філіялы
У кожнай клясе. І зусім ня веды
Падставамі былі для перасьледу.
За веду, а дакладней, за няведу
Са мной бацькі праводзілі “бяседы”.
І як размова плёну не давала,
Круцілі вушы... почасту бывала.
А вось падчас уроку: раз заўвага,
Яшчэ заўвага і, па трэцяй – блага:
У родны кут, у філію, прылюдна.
О, як жа там цягнуўся час марудна!
І каб сябе хоць крышачку забавіць,
Я вывучыў усе куты на памяць.
Дык вось. Нібыта кут – адэпт прагрэсу,
Ці правадыр прагрэсных інтарэсаў,
Ці і таго, і гэтага адразу,
Але ж зь яго наперад (от зараза)
Ня пойдзеш аніяк. У тым і штука.
І дзе ж тут сэнс? Якая тут навука?

Які прагрэс, калі назад? Дылема
Ці парадокс – для навукоўцаў тэма.
Таму сказаць з дакладнасьцю няможна,
Куды і як з кута падаўся кожны,
І хто куды зайшоў, і як удала.
Такая сьцежка іншым выпадала,
Што іхныя куты – чужыя недзе,
Я ўзяў бы на сябе, бо ўсё ж суседзі
Па партах, па гародах, ці па хатах,
Па вёсках, па набытках і па стратах,
Што мелі мы ў сваіх дзіцячых жыцьцях,
А па кутох – дык нават не кажыце!

Я ўзяў бы на сябе, каб выйсьці йначай
І вывесьці бяз болю, енку, плачу
Не ў крымінальны сьвет і не ў запойны,
Ня ў сьвет, дзе ваяваць чужыя войны
Ім давялося пад пятой прысягі,
А на зусім інакшыя абсягі,
Дзе родны кут... а зрэшты полем-борам
Да тэмы дойдзем, там і пагаворым...

А ў гэтым месцы йшчэ крыху пра школу...
Папросту... з тэмай цяжка разьвітацца,
Бо дзе яшчэ й калі у рымнай працы
Надарыцца згадаць той час вясёлы.
Няхай ня ўвесь, ды добрая нагода
Падаць хоць колькі помных эпізодаў.
А распавесьці ўсё – ня хопіць году,
Дык ужыву згаданую нагоду.

Найперш зазначу, што усе заняткі,
Як ёсьць, без выключэньняў і выняткаў,
Праходзілі у рэчышчы марксызму,
Што значыла – бязьмежжа аптымізму
Наконт жыцьця наступных пакаленьняў,
Ну, так “как завішчаў вілікі Ленін”.
Чаго было вішчэць? Зь якою мэтай?
Турбоціла мяне пытаньне гэта,
Але спытацца не было напіну
Бо адчуваў у папытаньні міну.
Затое як гучэлі візгі тыя,
Даведаўся, праходзячы куты я,
У габінэце, дзе нам выкладалі
Навуку пра бязвоблачныя далі.
Я кут займаў на помным тым уроку,
Калі казалі пра “сьвятых Прарокаў”,

Якія дзеля нас, на ўсе мамэнты,
Наказы напісалі (дакумэнты),
І спаміж іх галоўны і вячысты
Што зваўся “Маніфэстам камуністых”,
Дзе нешта там пра здань, ды не цікава,
А Віцька... Ці чарнілам пэцкаў лаву,
Ці мацюкі пісаў там на забаву,
Але ня слухаў. І настаўнік жвава
Падняў яго з той самай бруднай лавы
Пытаньнем: “Мы пра што цяпер гаворым?!”
“Пра Мініхвост”, – узьняўся Віцька ўгору.
“Пра Мініхвост?! – і твар пайшоў у плямы
У пэдагога, – Пра які?!”
“Той самы,
Што напісалі гэтыя, ну, як іх?...”
Наш Віцька не вучыў навук ніякіх,
Таму, супольна іншых гараў-бедаў,
Ён і прарокаў ні фіга ня ведаў.
“Дык значыць, Мініхвост? А напісалі! –
Настаўнік відавочна быў у шале, –
Ну гэтыя яго!” – і цоп Віцюху
Ў той самы час за шкірку і за вуха
І павалок, паставіў перад клясай:
“Ах, ты ж, паскуднік! Во ж дзе воўча мяса!
Во дзе лайдак!” – і гэтак усхадзіўся,
Што Віцька на выдатніка б згадзіўся
Закончыць год, абы ня слухаць зьвягі,
Але настаўнік бэсьціў без развагі
І Віцьку, і радню яго пайменна,
І Віцькаў род да сёмага калена.
Затым дырэктар, што на крык зьявіўся,
Пачуўшы што – таксама усхадзіўся
І так па заду ляснуў бедалагу,
Што той згубіў апошнюю адвагу
І завішчэў ды ледзь не на калені...
“Напэўна так вішчэў дзядуля Ленін
Адзін за трох... Адзін за ўсіх!” – падумаў
Я, зад у кут хаваючы ад глуму.

Дарэчы, Віцьку не чапалі болей
І нават тройку ставілі са столі.
Дэфэкт маўленьня меў ён ад калыскі...
“Марк-сіські”, – паўтараў заміж “марксысцкі”.

Цяпер у габінэт ангельскай мовы
Я мушу вас завесьці адмыслова,
Бо кут у ім я ведаў досыць слаба.

Сядзеў на ўроках, як на сонцы жаба —
Ніяк ня йшла ў глузды навука тая,
І ведаў інгліш горай ад кута я.
Аднойчы толькі, накаротка, сьпехам
Мяне на ўроках тых прабрала сьмехам,
Калі мы назвы месяцаў вучылі...
За гэны сьмех кутом мяне й лячылі.
А здарылася во што таго разу:
Паклікалі Уладзю да адказу
А ён і выдаў: “Месяцы? Дык, о там
Ёсьць фэбралі і мэбралі і потым
Ёсьць мач яшчэ”, — дадаў ужо нясьмела
Я думаў, кляса грымнуць сьмехам мела.
І памыліўся. Толькі я гігікнуў
Ды на пачатку пакараньня ўнікнуў,
Бо на Уладзю ўся была ўвага:
“Ну што ж, няблага. Так. Зусім няблага,
Тры месяцы... Але чаму так мала?” —
Настаўніца з усьмешкай запытала.
“Ды хто іх разьбярэ, ангельцаў гэтых, —
Настаўніцкай пахвалай падагрэты,
Сказаў Уладзя. — Я і сам дзіўлюся,
То ж мела б як і ў нас, на Беларусі...
Ды, пэўна, тамка меней пораў году...
Пад пальмамі ляжаць узялі моду,
Вось і ня лічаць месяцаў ніколі...”
І тут я даў свайму іржэньню волю...
Стрэў кут мяне, а Уладзю — лёс-адплатнік:
“Ты, пэўна, ў геаграфіі выдатнік, —
Настаўніца сказала. — Толькі мала,
Тры месяцы ўсяго... Сядай... Два балы”.

А што да геаграфіі... Прыдатны
Для ўсіх кутоў, я ведаў на “выдатна”
Навуку тую, дзе ў каардынатах
Кутоў было куды як забагата.
У школе, праўда, звалі іх вугламі,
Яно й ня дзіва, ды ў такім Bedlam(e),
Дзе “азімут” замест “кірунку” мелі,
Дзе на паўзьбежнікі казалі “паралелі”,
Дзе палудзеньнікі былі “мэрыдыяны”,
Я ведаў — у вуглах куты схаваны.
Я іх любіў, я заглыбляўся ў нэтры
Пачатных курсаў розных геамэтрый
Ды крэсьленьняў і нават фізкультуры,
Дзе вугал — гімнастычная фігура.
І ўсё ж, пры тым, не пакідаў сваволіць.

Ты памятаеш? Памятаеш, Воля,
Як мы табе вучыцца заміналі,
І ты ў сваім знаходзіла пэнале
Хрушча ці рабака, смаўжа ці муху,
А мы зь сябрамі даставалі ў вуха,
У сьпіну, па руках, або па карку
Партфелем, кніжкай, дзёньнікам, лінаркай...
Ну як было ня тузаць косаў Любы,
Хоць гэтая магла і даць у зубы,
А як было пад бок ня поркнуць Сьветы –
Здаецца, ёй было прыемна гэта,
Ці, скажам... Не, ніхто ня рушыў Тасі –
Баяліся яе хлапцы ў клясе,
Ды, як бы ні было, а кропку ставіў
Гарант парадку й дысцыплінных правіл –
Настаўнік, пэдагог, што па прыгодзе
Для нас заўжды парожні кут знаходзіў.

Я на канец пакінуў адмыслова
Мой родны кут на ўроках роднай мовы,
Бо тут я даставаў яго за веду:
Падказваў і суседцы і суседу
І не суседзяў прывячаў падказкай
(Яе лічыў грамадзкім абавязкам).
А ў часе, як ня меў каму старацца,
Нат і ня думаў нудзіцца бяз працы.
Я быў сабой, я ў тым ня ведаў меры
Таму, ілбом дасьледуючы дзьверы,
Ляцеў тарпэдай з кляснага пакою,
Настаўніцкай запушчаны рукою.
А кут мінаў... Даруй мне, родны куце,
Мне нашыя расстаньні у пакуце
Былі заўжды, бо ты, сказаць па праўдзе,
Трываласьці ілба майго ня праўдзіў,
Спраўджаў калені, але тое ўдома.
Дарэчы, ледзь ня кожнаму малому
Ці жвіру, ці гароху шчодрай жменяй
Раз-пораз падсыпалі пад калені,
Я думаю таксама й цераз гэта
Сканала эканоміка саветаў,
Бо пачасту хапала дробнай рэчы,
Каб тую эканоміку нявечыць,
А час прыйшоў і дэфіцыт гароху
Перакульгаў на іншае патроху
І пакаціў няўжвіранай дарогай –
А ўсё калені стану кутавога.

Ды вернемся назад, цяпер у клясе
Якраз літаратура пачалася,
А я, ізноў дапушчаны за парту,
Гатовы выдаць плойму новых жартаў...
Аднак на гэты раз мяне спыніла
Адно: "Мой родны кут, як ты мне мілы..."
І я на кут зірнуў... Затым на дзьверы
"Забыць" ... "ня маю сілы", – во халера!
Во ж нехта расчытаў маю натуру
Ды уцягнуў маё ў літаратуру!

Я добра ведаў: далей будуць плачы
У іх спрадвеку Беларус лядачы
На лёс гаротны глуха наракае.
Ну, так заўсёды, доля ў нас такая.
Я ведаў: будуць панскія прыгнёты
Літоўскія і польскія цянёты,
Паўстаньні, што пранесьліся няўдала
Супроць літоўска-польскіх фэадалаў,
Я ведаў, што адзінай сьветлай плямай
Для нас Расейскі мусіць быць напрамак.
Пра тое і гісторыя сьцьвярджала,
Наставіўшы пагрозьлівае джала:
Ні кроку ўбок! Таму й літаратура
За ёю ўсьлед цягнулася панура.

Загнаны ў кут навукаю такою,
Я мацаў сьцены думкай і рукою.
Я марыў неяк вырвацца навонкі,
Дзе арабіны, бэзавыя гронкі,
Дзе патаёмнасьць раскрывае крокі,
Дзе дождж імчыцца зайцам касавокім,
Дзе водар сонца у струменях золку,
Дзе ноч на травы вешае вясёлку...
Я марыў неяк вырвацца, бо мроіў,
Што ё на сьвеце іншыя героі
І іншая зусім літаратура,
Той бок кута, за гэтым школьным мурам.

Але рэал усё на месцы ставіў,
Дзяржаўны лад, як цэнзар, балем правіў.
І людалюбы хлопцы-камуністы,
Прагрэсу барабаншчыкі й гарністы,
Прыходзілі гаротнікаў суцешыць,
А ворагаў паліць, страляць і вешаць
Ды ўсё паводле голасу народа,
Але ж і я – народ... Ня з той пароды?
Ня стой у тым куце – то быў бы слушным?

Што значыла двурушна-маладушным,
Сабе чужым... Затое ў радасьць гэтым
Якія ў кут загналі пісталетам
Не, не мяне, а цэлую краіну...
Ды... Нешта усхадзіўся я... Пакіну
Пакуль што напасьледак гэту тэму,
Юначы кут вяртаецца ў паэму.

## III

*Можа, ты яшчэ сукенку здымеш і пакажаш, дзе табе гланды вырвалі?*
***(Са школьнага жыцьця)***

Ішлі гады. Вось-вось – і паўналецьце,
Калі мы ўсе дзяцінныя ня дзеці
Калі віруе шал якраз дзе трэба,
А ў бацькоў з-пад ног сплывае глеба –
Падмурак, што ўзводзілі старанна,
Ды, што паробіш, позна або рана
Прыходзіць час, і нават атэісты
Да неба рукі ўскідваюць са сьвістам
І падаюць адчайна на калені
Ў маленьні...
Крыжам згодныя ўпасьці
І так ляжаць, абы каб не прапасьці,
Каб Бог памог... А лёс сваё: сьвідруе
Той іхны мур... Натуры шал віруе!
Мой родны кут. Па волі лёсу-збаўцы
Ты раптам апынуўся у адстаўцы,
Ты адслужыў, і з гэтае прычыны
Пакрыўся пылам, брудам, павучынай,
Хоць заставаўся чыстым, як заўсёды.
Мы разам выйшлі з хаты на прыроду,
Навонкі, ў незнань. Новы шлях пачаты
Яму найменьне знанае: дзяўчаты.
Такія ж, як і мы, у сэнсе ў кожнай
Ёсьць родны кут, пакуль яшчэ парожні,
Але гатовы, ці... амаль гатовы
З тваім пустым кутом зьяднацца ў новы...

А ля пад’езду ці на прызьбе дзесьці
У смак гаворку пачыналі весьці
Як ёсьць філязафічныя бабулькі,
Якія й самі калісь мелі гулькі,
Але, вядома, ў іх было іначай:
Ніякіх церазьмернасьцяў юначых,
Усё прыстойна, сьціпла, сарамліва,

І з гэтым пагадзіўся б я, мажліва,
Каб нехта розум скраў, каб я ня ведаў
Шматлікіх сем'яў, што зазналі бедаў,
Ня маючы той – бацькі, гэты – маці,
А іншы і абодвух меў ня знаці
Ды гадаваўся ў дзеда і бабулі...
Дык як? Ці толькі мы зачалі гулі?

Але пакінем. Мо пад старасьць самі
Інакшымі занудзім галасамі
Пакуль жа: кут! Цяпер і дзе заўгодна!
Гумно, пад'езд, кватэра (прынагодна)
Намёт, гаёк, ставок, капешка сена –
Паўсюль быў кут, і працаваў нядрэнна...

Як б'ецца сэрца часта
Ў гэтай Насты,
Ўладальніцы паставы выгінастай...
Ці то маё? Ці нашы з-пад кашуляў
Гатовыя павыскачыць, Гануля,
Але куды і як? І дзе напрамкі,
Калі наўкол ні весьнічак, ні брамкі:
Зьліліся вусны у запале,
Валя,
У шэпце дум... У зорным карнавале
Нічога не чутно,
Адно –
Сусьветы...
Антонаўкі грудзей...
Надзея, Сьвета,
Алеся, Гэля...
Зоркі зіхацелі,
Ня зоркі, а радзімкі й пот на целе,
Ня пот – расінкі, не расінкі – сьлёзы.
Алена, Люба... Як шумелі лозы!
Як вогнішчы Купальскія гарэлі!
Як гушкаліся нашыя арэлі!
Як сьвет ляцеў высока і далёка!
О! Колькі вас, што мелі толькі вокам!
О! Колькі нас, што вокам вы таксама!
І кожны раз быў самы-самы-самы,
Ня гледзячы а як зайшло далёка...
Ўзаемаразуменьне!
Ха!
Паклясца
Магу, што вы падумалі (а трасца!)
Пра іншае "зайшло"... Ды тут залежыць,
Каму які супольны кут належыць.

## СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук

### IV

Мой родны кут ня замак Пана-Яна,
Хаця і ў ім ня ўсё было ціхмяна
Ды сукнязборам не было маленьня,
Бо іншыя былі зацікаўленьні.
Загнаны ў кут жыцьцём, пракудам-лёсам,
У самы вастрачок упёрты носам,
Я мусіў зноў і зноў шляхі знаходзіць,
Каб з годнасьцю стаяць, але... выходзіць
Я нёс ня крыж... Я кут валок на сьпіне,
Страсаючы дарогай шалупіньне,
Трымаў свой шлях хоць просты, ды... завілы,
Дзе почасту сякеры, косы, вілы
Разьвязваць сытуацыі павінны
Ды ў жылах кроў цякла... ня воцат вінны.
Шануеш кроў сваю – шануй чужую,
Таму я часам сам сябе віжую
І часам сам сабе раблю вымовы,
Гарачыя, як вар у дзень зімовы,
Я сам сябе, калі патрэбна, праўлю,
Адно у кут ня ставіў і ня стаўлю.

На тое ёсьць (о, колькі ж іх на сьвеце!)
Дарослыя, што ўсё яшчэ як дзеці,
Амбітныя паскуднікі і хціўцы
Ці проста дурні, ёлупы, зласьліўцы.
Іх узьняло зь няведамай прычыны,
Яны з гужоў сарваліся, зь ляйчыны,
Павыскачылі быццам бы у людзі,
Але людзьмі ня сталі. Жыць у брудзе
(Маральным брудзе) звыклі і шчыруюць:
Наўсьцяж чужымі жыцьцямі кіруюць,
Паводле ўласных подлых вымярэньняў
Усіх у кут піхаюць на калені!

Я ведаў гэткіх прышчыкаў нямала –
Там чалавечнасьць нават не драмала,
Там людзкасьці, прыстойнасьці – ні блізка,
Як тое не ў запале кар'ерысцкім,
А як датычыць хоць крыху кар'еры,
Дык паказнога без усякай меры.
Я іх згадаць гатовы тут пайменна,
І, можа быць, яно было б нядрэнна,
Але, крыху разважыўшы, ня буду,
А раптам каго-небудзь ды забуду,
А раптам каго-небудзь ды услаўлю,

## СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук

У неналежны кут каго пастаўлю
Ці выведу з належнага кута я.
Не, згадваць гэтых – практыка ня тая.
І ўсё ж... Ёсьць канцэнтрат такой істоты:
Звычайна ён, народжаны пад плотам,
Каровак у дзяцінстве пасьвіў дзесьці
Ў палёх між Магілевам і Бярэсьцем,
Але пастух зь яго не атрымаўся,
Хаця ў душы ён гэдак і застаўся
Пасцом ці пасуком ці тым і гэтым,
А можа, пасуном, што ўзяў за мэту
Прабіцца найвышэй як толькі можна
Чаму б і не? – Калі кухарцы кожнай
Казалі, што яна, маўляў, павінна
Наўчыцца кіраваць усёй краінай...

З чаго ж пачаць? Што можа быць да твару?
Пасюк бярэ гармонь або гітару
І валачэцца ў дальнюю дарогу –
Ня йсьці ж у места з пастушковым рогам.
Каму ты трэба там такі рагаты,
Ня будуць ліпнуць да рагоў дзяўчаты.
А так – гітара, ну, або гармоня
(Што, сапраўды? – Я не згадаю сёньня.)
І вось пасец – сьпявака і музыка –
Сьпявае нешта (досыць безьязыка)
Пра галубоў – сымболяў ці эмблемаў
Якіх? Чаго? – Каханьня. Гэткіх тэмаў
Аматар ён. Паверце, не жартую:
Каб пераможна сьпець руляду тую,
Ён вочкі падалеіў, рот падмасьліў
Ды як заекатаў: “Ой, как я шчас-сьліў”.
А “сьліў” ці на газон а ці на пашу?
Не зразумець, бо мова тут ня наша,
Бо акупанты занялі краіну,
Але пасюк, пусьціўшы долу сьліну,
Лізнуць умее тлусты зад прыўладны –
Ён гэтаму навучаны дакладна
На прыкладзе рагатага заводу:
Ня хочаш па гарбе – ня лезь у шкоду,
А хочаш быць пры пузе, то бок з пугай –
Пачні з навукі, так як дошкі – фугай
Уляж у веду – вось і будзе нешта.
Пасюк і сам уцяміў гэта зрэшты
Таму пал**ы**хаў* крыху тамы-туты
Ды, пеючы, падаўся ў інстытуты.

---

* Пал**ы**хаў, л**ы**хаць (лепельск.) – соваць нос туды-сюды, сноўдацца, як памаўза.

Куды дакладна – адказаць няпроста,
Ды, што б там ні было, а ўсё для росту.
І вось на курсе гэтага каросту
Прызначылі адразу на старосту.

Прывыкшы змалку ў поле гнаць чароды,
Ён гэтаксама вёў сябе з народам,
А што ня так, то ён адразу, знана,
Да брыгадзі... прабачце, да дэкана.
І так увішна, гэдак вынікова,
Нібыта дзесьці адшукаў падкову,
Хаця, што ведаць мог ён пра падковы,
Калі абутак той не для каровы?

Вось так, казаў той, жыўшы крутам-мутам,
Пасец не спагадаў чужым пакутам,
На тое, праўда, меў сваіх нямала
І пакрысе дайшоў да крыміналу,
А тут яго і падабралі тыя,
Хто самі ані блізка не сьвятыя.
Ён трапіў у абойму ды ў цянёты,
Дзе неістотна, кім ты, дзе ты, хто ты,
Дзе будзь рахманым ты ці наравістым
Не абыходзіць гэта. КГБістам
Усё адно, абы кіпела праца.
Як там было? – “Знайсьці і не здавацца”,
Іначай сядзеш за грахі-прамашкі.
Там выбару няма, алесі-сашкі.
Дакладней, ёсьць – таксама не здавацца –
Уласнага сумленьня пільнавацца.

Не ўпільнаваўся... Дый ці меў сумленьне,
Гэбісцкае прыняўшы вышкаленьне?
А калі й меў, хаця б якую крыху –
Усё, што меў, перарасло у пыху.
“Хадзіў з ражочкам, сёньня ходзіць з рогам...
Звычайны парвэню – і больш нічога”, –
Сказала мне студэнтка з інтэрната,
Дзе жыў і ён укормлена й мардата.
Звычайны парвэню... але ня толькі
Ён марыў роляй, каб заместа ролькі,
Каб жураўля ў руках, каб не сініцу,
Таму з даносам мусіў не пазьніцца,
А канкурэнтаў сябрукоў-суседзяў
Як найхутчэй абставіць, апярэдзіць.
О, вечны passe-partout, які бяз мыла...
Уяўны parangon з усімі мілы,
Гэбісты assurer табе малойцу
І слой катвіжыць, гачыцца ў праслойцы.

Закалянеў пасюк... Так апантана
Ён зь лейтэнантаў пёр у капітаны,
Што я пасьпеў злавіць адно мамэнты:
Сям-там сьляды на іншых кантынэнтах,
Кільватэры сям-там на водных гладзях
Аддана гад служыў чужой уладзе.
Служыў і захрасаў, бо меў слабінку
На вабную жаночую лажбінку.
Так вар'яцеў, што маскаваўся слаба
І не гарэў, а пагараў на бабах.
Мігцелі люлі і міналі лялі
Ён іх куляў, яны яго кулялі.
Дасьсё захрасу – куфар кампрамату,
Які заўжды зьбіраўся аўтаматам.
Таму пасун чым болей свалачыўся,
Тым болей членам ворганаў лічыўся...

"Пры чым тут кут? – Чытач мяне спытае, –
Што мела да кута кантора тая?"
А мела! Перш у кут, затым "ацэнка":
Псіхушка, лягер, ці наогул сьценка,
Але не для пасца. Ён не гаруе:
Людзямі, як каровамі, кіруе
Ды не ў канторы (вось дзе, браце, штука!)
Прабіўся у начальнікі, падлюка.
Узьбіўся на пасаду (ці узьбілі?)
Надзейна, моцна, як цьвіком прыбілі,
А ён людзей, што пад яго рукою,
Пазбавіў самастойнасьці, спакою,
Пазбавіў права вольна думаць, дзеяць,
Ды ўзяўся лізаблюдства шчодра сеяць,
Ну як жа! Ён – агент (хаця й таёмны),
А перад ім разумны, але цёмны,
Бо не агент, бо не зрабіў кар'еры.
І раптам у такога ёсьць намеры
І думкі, што пасцовы трон вагаюць,
Бо ўладнаму яму не падлягаюць.

Таму – у кут! Усіх! Ці прэч! Ды гэдак,
Каб зацугляць суседаў і суседак,
Якіх ці не зашмат, ці не замнога
Было у вальнадумца адстаўнога.
А "пад шумок" чарговай справаздачай
Падняць сябе вышэй. А як жа йначай!
Жывеш у статку, дарагі народзе,
Дык разумей, што бык там верхаводзіць.

## V

Мой родны кут! Аб'ехаўшы паўсьвету,
Чужым гарачым сонцам не сагрэты,
Ня зьзімнены чужымі маразамі,
Ня скленчаны чужымі абразамі
Застаўся я, бо нёс цябе на сьпіне,
Абачлівей, чым дома, па чужыне.

Ты мне ня сьніўся, я табой ня мроіў,
Ня шыўся у пакутнікаў-герояў,
Ня лез у гурт пакрыўджаных ахвяраў –
Быць скуткам беларусу не да твару,
Ён – разьвіцьцё, працэс без завяршэньня.
Жыцьцё ж – этап для прышлых пакаленьняў,
Якім таксама годнасьць беларусаў –
Ня гук пусты з балясаў ці тарусаў,
Ня мроя, а працэс (я паўтаруся),
Каб зразумеў ты, браце-беларусе.

Але... наперад! Што на сьвеце вечна? –
Мне кут пачаў раптоўна муляць плечы.
Я азірнуўся, сам сабе спыніўся
І зразумеў, што нехта з нас зьмяніўся,
Інакшым стаў, пасьля жыцьця ў суполе,
Нібыта перайшоў ня тое поле,
Нібыта увайшоў ня ў тыя воды,
Нібыта век зусім ня тыя оды,
Пісаў, чытаў, сьпяваў ды іншым радзіў,
Нібыта штось зьмянілася ў раскладзе
Майго жыцьця, ці... штось мяне зьмяніла,
Бо тое, што было: "як ты мне мілы",
Памалу зблякла, стала невыразным,
Ня тое каб аджылым ці паразным,
А нейкім не надзённым, не сучасным
Мой родны кут... Утульна, звыкла, шчасна
Было з табой, але было ў мінулым...
Тваё рабро мне сьпіну паласнула
Ня ўяўна, а фізычна, а рэальна...
Ты мне дыхнуў у плечы арэальна,
Так мог рэлікт, the Last of the Mohicans
Або candicans-rubescens-candicans –
Хто з колераў падаўся у адценьні
І барацьбу зьмяніў на летуценьні.

Што сталася? У думным карагодзе
Сабе я месца доўга не знаходзіў.

А карагод пакрыху, нетаропка
Ператвараў мой родны кут у кропку,
У нешта тое, што ў касьмічным гмуры
Вядомае пад назвай Чорнай Дзюры,
Куфэрку, у якім усё зьнікае,
Скарбонкі, прорвы, бездані, якая
Аднойчы скалане сусьвету нэтры,
Як той карбіт ці магній, ці салетра,
Што мой дзіцячы сьвет паскаланалі,
Ды не сыйшлі... ляжаць у арсэнале.

А кропка-кут тым часам жыў па-хвацку,
Цягнуў усё і з нацку і зьнянацку
Асобаў гарту і асобаў кову,
Пасцоў звычайных з роду пасюковых,
Гады жыцьця, спаміны, краявіды,
Прывіды мрояў, мройныя прывіды,
Цягнуў абрады, гульні, рытуалы,
Будзёншчыну, што роздых гадавала,
Ды роздыхі будзённыя, ды сьвяты,
Якія спустазеліў лёс-араты,
Забыўшыся засеяць сэнсам дзялку...
Цягнуў усё і ўсіх, нібы шкрабалку
Дастаў ад Бога і валок па Краю.
Я бачыў, як надзея дагарае,
Калі у прорву мячыкам футбольным
Абрынуліся згодна і супольна
Сафійка разам з Нацбібліятэкай,
І фіміям, і самакрутка з крэкам,
Няўмелы рым і рым хрэстаматыйны,
Статуты ВКЛ і кампартыйны,
І Курапацкі Крыж, і Звон Хатыні...
Са сьмецьцем памяшаныя сьвятыні.

Я гвалціўся прачнуцца... Сон ганебны...
Ды каб прачнуцца, перш заснуць патрэбна,
А я ня спаў ні ўяўна, ні звычайна,
І сьвет наўкол не вар'яцеў адчайна
З тае падставы, што бяз дай прычыны
Канаў у мне мой Кут... Мой Кут Айчынны.

## VI

*"Цэнтр кантынентальнай Еўропы знаходзіцца ў сярэдзіне трохкутніка, утворанага мястэчкамі Чэрвень-Асіповічы-Клічаў, 2 км на поўдзень ад вёскі Чыжаха на р. Беразіне"*
***Радзім Гарэцкі.*** *1994 г.*

*Калі ўзяць у рукі цыркуль і на геаграфічнай карце свету абвесці кругам Еўропу, то цэнтр яе будзе знаходзіцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь – дзесьці паміж гарадамі Мінск і Гродна. На больш падрабязных картах гэтае месца можна ўдакладніць і нават прачытаць назву таго населенага пункта, куды трапіла ножка цыркуля, – Мір. Кажуць, што знамянальная геаграфічная кропка зафіксавана пад сценамі тутэйшага замка.*

***Калнін В. В.*** *Мірскі замак. Мн.: Беларусь, 2002.*

*Улады Глыбоцкага раёну ўшчыльную заняліся пытаннем прыцягнення турыстаў у геаграфічны цэнтр Еўропы. Нагадаем, што беларускія навукоўцы пры дапамозе камп’ютэрных тэхналогій вылічылі, што гэтае месца знаходзіцца менавіта на Віцебшчыне, на возеры Шо. Ужо распрацаваны турыстычныя маршруты і ствараецца база адпачынку.*

***06.06.2006г. 9:17*** *Навіны Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.*

*Патрапіць у наш цэнтр і пуп Эўропы.*
***Зьміцер Бартосік***

Сьняжынка на далонь... Дыхнуў і маю
Трымаю кроплю, але... што трымаю?
Сьлязу Чагіры ці сьлязу Завеі?
Халодны ліпкі сьнег зрашае веі,
Хаваючы ў сабе дыханьне продкаў,
Сьлязінкі кветак з прысмакам салодкім,
Сьлязінкі траваў садкія, як памяць,
Якая раніць,
па якой крывінкі
У жылах стынуць, быццам журавінкі
Пры лютым Зюзю, пры сьцюдзёным Жаху...
І раптам невядомае: Чыжаха
Аднекуль паўстае, нібы з прахопку,
Наўпрост у зрэнку ці наўпрост у кропку,
Відочна: не цаляючы, трапляе.
Трываю боль – бясхібнасьць захапляе.
Чыжаха – пункт, адзнака, што вякамі
Ляжала ў нас, нібы нарожны камень,
Ды з кропачкі ўзлунала аж да кропы.
Мой Родны Кут – ня Кут, а Цэнтр Эўропы...
Ды, што Эўропы? – Сьвету і Сусьвету!

Каб так казаць – ня трэба быць паэтам,
А нават і заганна, нават шкодна,
Бо гэта частка існасьці народнай,
Схаваная ў маўклівых нашых генах,
Як скарб неацанёны й неацэнны...

Боль адпусьціў... Усё на месцы стала,
Але... Разгробшы пыльныя завалы
Схаваных па кутох, забытых ведаў,
Я пазнаходзіў процьму розных недаў:
Недаказаных, і недасказаных,
Недасьпяваных, недаразьвязаных,
Недакапаных і недаразьвітых,
Ды адначасна моцных, самавітых.
У падвалінах цьвёрда-самаістых
Вячыстых кропак ды... кутоў вячыстых,
Сярод якіх да сёньня у нязнанцы
На адкрыцьцё яшчэ трымаюць шанцы,
Бо на спамін і славу маюць права
Былыя цэнтры ўсіх маіх дзяржаваў.

Там палудзеньнікі нябачна ды магутна
З паўзьбежнікамі лучацца накутна,
Там летуценьні ў яву каласуюць,
Бо сэрцы тэрыторыяў пульсуюць –
Жывуць і жывяць, хто жывіцца прагне,
Хто ненавідзіць век сядзець у багне
Ня Пінскіх або Тураўскіх балотаў,
А ў багне небыцьця, няведы, хто ты,
Чаму ў куце і чым ён выніковы?
(Я сумысьля ня рушу тэму мовы –
Наўрад ці мае гэтую праблему
Хто дачытаў дасюль маю паэму,
Наўмысна не кранаюся сымболяў,
Чаго раней бы не зрабіў ніколі,
Але цяпер... цяпер пытаньні тыя
Для невукаў хіба перыпетыя)...

Вінуцца вербы да вазёрных хваляў,
Вікурацць пыл і дым – вагонь у шале.
Сярод грамоў жаўрук у паднябеснай
Аледзянелы енк зімы увесну.

Цукрысты мёд, распушчаны на хмелю,
Таропкі подых даўкага бружмелю,
Гэй-гэй – адна, адна у нас дарожанька,
Сіпаты голас вольнага вастрожніка.

*******************************
*******************************
*******************************
*******************************
*******************************

******************************
******************************
******************************

******************************
******************************
******************************
******************************
******************************

*(У прапушчаным тэксьце падаюцца йменны Рыцараў Ордэну Братоў Міктаратаў, і таму ён ня можа быць надрукаваным бяз згоды саміх рыцараў.)*

Іх двое розных пад супольным тытулам
І ўрэшце аўтар гэтага артыкулу.

Мы ж сёньня ўсе пры вогнішчы і разам
Кутом і кропкай – тым і тым адразу
Валодаем і маем на даверы
Супольны сьвет ад працы і да веры...
Супольны сьвет, дзе пад варожы грокат
Наш Родны Кут з'іначыўся ў Покут.

*16 ліпеня – 16 кастрычніка 2007 году.*
*У лёхах Гатычнага праезду 166-30.*
*Нью-Ёрк.*





**ТАРАНОВІЧ Аляксандар** нарадзіўся ў Менску, там жа скончыў акадэмію мастацтваў. Друкуецца пад псэўданімам Алесь Эроціч. Да перабудовы быў мастаком-нонканфармістам, арганізатарам кватэрных выставаў. Працаваў мастацтвазнаўцам, старэйшым экспэртам БФК. Арганізатар шматлікіх выставаў мастакоў у Беларусі і за яе межамі, стварыў мастацкую суполку "Галіна", галерэю "6-я лінія", тэатар "Steel orgasm", зь якім гастраляваў па Беларусі і за мяжой.

З 1998 году — сябра БАЖ, як журналіст і мастацтвазнаўца друкаваўся амаль ва ўсіх менскіх газэтах і часапісах, найбольш у "Мастацтве". Як пісьменьнік — у газэце "Двое" (эротыка), "ARCHE", "Всемирная литература".

У 1998 годзе пераехаў у Бэрлін. Працуе мастаком. Сябра трох бэрлінскіх літаратурных клюбаў. Друкуецца ў розных бэрлінскіх часапісах і альманахах. Арганізаваў у 2001 годзе ў Бэрліне выставу "ДахІ", у якой узяў удзел 31 беларускі мастак з розных краінаў Эўропы. У 2005 годзе надрукаваў кнігу "Песьня Эмігранта".

Тэмы: Нямеччына, Бэрлін, немцы, эмігранты, вайна.

Стыль: мэтафарычны рэалізм, наўмыснае выкарыстаньне вялікай колькасьці мэтафар і мэтабал, якія ствараюць своеасаблівую рамантычную аўру апавяданьня.

# Яны

*Да набліжай найблізкага мы заўсёды ідзем праз далеч далёкага*
***Гайдэгер***

Хтосьці сказаў, што мінулае ніколі не належыць толькі аднаму чалавеку.

Яно калектыўнае.

Мы ўсе аб'яднаныя адным поглядам на гісторыю як на асабісты досьвед.

Успамін — гэта таксама частка жыцьця.

Часам я выпрабоўваю покліч прайсьціся па закутках памяці, і калі атрымліваецца, то і падсьвядомасьці, адчуць астральны палёт душы.

У маладосьці рэдка калі прыходзіць жаданьне азірнуцца назад. Але зараз, аглядаючыся на пражытыя гады, стаў задумвацца пра сэнс жыцьця. Парадаксальна, але шматлікае з нядаўняга мінулага ўжо ня памятаецца, а вось эпізоды дзяцінства бачацца да драбнюткіх падрабязнасьцяў. Верагодна, праз памяць

зьдзяйсьняецца арганічная сувязь паміж мінулым і сучаснасьцю ў жыцьці чалавека, дасягаецца цэласнасьць асабістага “я”. Памяць – гэта эстафэтная палачка, яна сама па сабе зьяўляецца прыладай. Некаторыя ўспаміны дзяцінства з гадамі не губляюць водару рэальнасьці. Я перастаў верыць у рэчаіснасьць, у цэльнасьць яе тканіны.

Час, як рытм.

Час памірае і ажывае тады, калі ён жадае.

Некаторыя людзі жывуць у сучаснасьці, некаторыя – у мінулым, некаторыя – у будучыні.

Я жыву ва ўсіх трох вымярэньнях адразу. Часам дастаю пачак пажоўклых фотаздымкаў, тых, што прывёз з сабою ў эміграцыю. Калі доўга ўзірацца ў твары людзей, то можна ўбачыць, як ажываюць вочы пад саламянымі капелюшамі, цяплее цела пад старадаўнімі кофтамі і пінжакамі, усьмешкі закранаюць вусны, чуюцца іх галасы, якія з кожным годам становяцца ўсё цішэй... Вось яшчэ адна расколіна зь мінулага прарасла ў сучаснасьць і цягнецца ў будучыню... яны былі...

Кансервавы нож памяці выкрывае вечнасьць, душа лунае за агністую затоку зямных сноў, з смугі ўспамінаў раптам выплываюць фрагмэнты-выспы, яны ўзьнікаюць заўсёды чамусьці ў зваротным парадку – ад дзелі да агульнага. Выключнасьці лепяцца адна на другую, і зь іх паступова ўтворыцца карціна даўняй мінуўшчыны, любаснай сэрцу мроі, якая адбываецца на іншых берагах... Зь нябыту зьяўляюцца людзі... пакутліва рыючыся ў захламленых кутках памяці. Я адшукваю іх імёны... пагаслае неба з аблокамі... ціхая вулачка... бярвеністыя хаты-тапельцы ў вішнёвых садах, якія зьніклі яшчэ да таго, як ня стала фатографа, які захаваў іх. Сёньня на гэтым месцы паміж безаблічнымі бэтонавымі скрынкамі равуць струмені машын. І гэтае раптоўнае зьнікненьне хаты і вуліцы гораду майго дзяцінства выклікала куды большы шок, чым эміграцыя... але гэта было...

Быў сад з цвыркунамі, няўрымсьлівымі працаўнікамі цёмных алей. Была вялікая хата, дзе жылі чацьвёра сталых і адно дзіця, хата з пужалай зяпай склепу, зь якога заўсёды цягнула холадам, з вабным гарышчам, дзе ў саламянай пацярусе можна было адкапаць старажытныя рэчы. Хата, дзе душа без падказкі пераабувалася ў хатнія тэпцікі, хата, дзе ў вокнах захраснулі зрыўкі сноў. Дзе жнівеньскай цёплай ноччу, ледзь патрэскваючы, гасьлі на небе зоркі і падалі бязгучна за хату.

Калі гэта было? Усё ператварылася ў бягучы радок на маніторы...

Часта чапляюся позіркам за гэтую вуліцу і гэтую хату. Навошта?

Мабыць, каб утрымацца ў хаосе будняў. Бо ў той хаце засталася прастата і наіўнасьць жыцьця, бесшабашнасьць і прыязнасьць родных твараў, у гэтай хаце я выпрабаваў крызыс спазнаньня – пазнаў аб тым, што ня вечны ў гэтым сьвеце...

Я і зараз адчуваю цяпло яе печы, пахі варанай бульбачкі, попелу, зьмяшаныя з людзкім пахам. І гэты пах для мяне лепей, чым водар вытанчанае парфумы. Часам мне здаецца, што я так і не прачнуўся ад дзяцінства.

Там былі жалезныя ложкі з бліскучымі шарамі і горамі вялізных пуховых падушак, дзе яны займаліся сваімі бясхітраснымі ласкамі, былі вялізныя пама-

ранчавыя абажуры з махрамі, былі старажытныя шафы ручной працы, прапахлыя нафталінам, паліцы з кнігамі клясыкаў, вялікі кухонны стол зь цяжкімі самаробнымі табурэткамі вакол, масіўны дзьвярны вушак з штогадовымі засечкамі майго росту… гэта было…

Маўчаньне ночы такое глыбокае, што я чую тэмбар сваіх думак, і тады я сілаю сваёй волі звыкла спыняю плынь часу, сартую гады, падзеі, твары, праглядаю тапаграфію чужых жыцьцяў… Вось яны, тыя, хто былі перад намі… Зараз, у гэты момант, я адчуваю, што яны тут, бачу іх фігуры, захутаныя ў цені, заварожаную міміку твараў, бачу сьвятло, што зыходзіць ад іх. Яны глядзяць праз плячо, што я пішу, зазіраюць у твар…

Я спрабую замарозіць іх выявы ў лядоўцы сваёй падсьвядомасьці, каб падзеі новага жыцьця, якія жывуць па-за кантролем памяці, не разбурылі выявы дзяцінства. Зараз, калі іх душы кранулі зорную глыбіню зямнога дна, калі на адным баку стужкі Мебіуса апынуўся я, а яны на другім, я па-іншаму пазіраю на тыя гады, калі мы жылі разам. Часам мне хочацца набраць нумар тэлефону, які ўжо не існуе, пачуць знаёмы голас… Хочацца пазнаць у каржакаватай мужчынскай фігуры, якая ідзе наперадзе, знаёмыя абрысы, паклікаць…

Часам лаўлю сябе на думцы, што шукаю ім замену ў іншых людзях. Навошта? Мабыць, для таго, каб папрасіць іх даць мне магчымасьць зьявіцца ў сьвет зноўку, пачаць усё з чыстага белага ліста, самому вылучыць сабе імя, характар, мэнтальнасьць. Вярнуцца ў той адрэзак часу, у якім нічога яшчэ не адбылося. Што я шукаю? Мабыць, аднекуль са шпалераў вываліцца старая касэта, і я пачую свой дзіцячы голас, якога ня ведаю, – голас чысьціні і нявіннасьці.

Вярнуцца, далюбіць, даказаць, дарасказаць… дадаць…

Перадаць ім, што нічога не забыў. Бо прыйшлі і сыйшлі з майго жыцьця, як цягнікі… Пачаць пісаць сваю біяграфію па законах яшчэ ня сьцёртых ісьцін, па-іншаму выбіраць сяброў, не рабіць непатрэбных учынкаў, не прамаўляць непатрэбных фраз… папрасіць прабачэньня, зьмяніцца, выправіцца… прабачыць…

Яны былі… былі… былі.

Вось маленькі фотаздымак 1955 году.

Я часта гляджу на яго, нібы спрабую адкрыць нешта новае. Гэта як выявіць у песьні, якая падабаецца, новыя хады вакалу і інструмэнтаў.

Каля сьценаў новапабудаванай хаты, тонучы ў моры квітнеючай бульбы, стаіць гурт худых, скуластых мужыкоў у кепках, зь вялікімі напрацаванымі рукамі. Былыя партызаны, яны усе з аднаго атраду. Сярод іх, як арыстакраты глядзяцца бацька і маці. Немаўля на каленях у маці – гэта я. Бульба ў Беларусі квітнее ў ліпені, значыць, мне два месяцы. Бацька, як звычайна, у белым фрэнчы. Адкуль у яго была гэтая прыхільнасьць да фрэнчаў, зразумець не магу. Быў ён усяго толькі шараговым штрафбату пару месяцаў у канцы вайны. Мабыць, гэта быў нейкі комплекс. Насіў белыя і колеру хакі фрэнчы, такія, як у Сталіна, якога ня лаяў ніколі. Трыццаць сёмы год успамінаў часта, свой ГУЛАГ таксама ўспамінаў, але зь імём Сталіна гэта не злучаў…

Спазмы памяці выціскаюць на паверхню зь віра мінулага новыя фрагмэнты… Шруб ягонага лёсу рыпеў іржавай разьбой, жыцьцё складалася з вострых вуглоў. Хлапчуком ён бачыў цяжкую хаду палкоў Людэндорфа па вуліцах Менску, затым канфэдэраткі Пілсудзкага, ім на зьмену – будзёнаўкі Тухачэўскага. Распавядаў, як у трыццатых яны, штангісты і баксёры з спорттаварыства Асаавіяхіму, аднойчы на танцах адлупцавалі маладых энкавэдыстаў. Пась-

ля чаго, далей ад граху, падаўся на Азоўскае мора, у Таганрог, яшчэ застаў там казакоў у башлыках, з іх характэрным гоманам.

Вярнуўся ў Менск напярэдадні вайны... і тут сустрэў танкі Гудэрыяна. Загрымеў у нямецкі канцлягер, дзе аднойчы цыбаты, рабы мужык, гледзячы яму ў вочы, сказаў: "НЕЧЫ рожа твая мне не падабаецца, парачы. Ці не жыдок ты часам? Вось заўтра скажу каму трэба, глядзіш, пайку мне і павялічаць..." Але заўтра для рабога ўжо не наступіла. Бацька меў склад цела рымскага легіянэра, насіў піяніна на сьпіне, гнуў пятакі пальцамі...

Потым былі жахі акупацыі, зноў прыход расейскага войска, трэцяга расейскага войска ў ягоным жыцьці.

Паранаідальна актыўны капітан Сьмершу на допыце крычаў: "Чаму, застаўшыся на акупаванай тэрыторыі, вы працавалі на ворага?" "Усе павінны былі дзесьці працаваць, інакш – лягер", – адказваў яму бацька.

"Вы павінны былі лепш застрэліцца, чым працаваць на ворагаў Радзімы і Сталіна!"

Бацька нічога не сказаў у адказ, разумеў, бессэнсоўна.

Наперадзе ў яго былі штрафбат і ГУЛАГ.

За яго скажу я.

У імя чаго ён павінен быў абарваць сваё жыцьцё? У імя нейкай тэрыторыі зямлі, названай гучным словам "Радзіма"? У імя грамадзка-палітычнага ладу той краіны, каштоўнасьці якой сёньня абсьмяяныя і пагарджаныя нашчадкамі? Або ў імя кіраўніка гэтага ладу, які дзеля свайго капрызу загадаў узяць Бэрлін менавіта да 1 траўня, заплаціўшы за гэта дзясяткамі тысячаў жыцьцяў?

Дзеля ўсяго гэтага ён павінен быў скончыць жыцьцё, не стварыўшы мяне?..

Тады бацька падаваўся мне шараговым, бясколерным чалавекам, які жыве ў сьвятле чорна-белага кіно, як і ўсе. Сьціпла апранаўся, сьціпла паводзіў сябе, рабіў усё, як трэба. Пісаў віншаваньні на ўсе чырвоныя сьвяты сваякам, хваліў Брэжнева, над якім усе мы сьмяяліся. Але толькі зараз я зразумеў, што яму было з чым параўноўваць, ён жыў у іншай сыстэме каардынатаў, мераў іншымі меркамі, валодаў сыстэмай першасных знакаў быцьця, яе базавымі каштоўнасьцямі, міма якіх мы, сёньняшнія, пралятаем.

Толькі зараз я ўсьведамляю, што ён быў чалавекам бліскучай жыцьцёвай тактыкі, якая дазволіла яму перажыць дзьве вайны, бандытаў, трыццаць сёмы год, два лягеры. Аднойчы, калі мне было пяць-шэсьць гадоў, ён упершыню адлупцаваў мяне дзягаю. Я езьдзіў у вёску да радні, дзе аднагодкі навучылі мяне "вялікаму і магутнаму". Памятаю, неяк увечары, сядзім, глядзім тэлевізар, а я старанна камэнтую, што адбываецца на экране, "трохпавярховымі" выразамі... памятаю, як выцягнуліся твары родных, бацьку, які ідзе зь дзягаю на "зайчыка", які выдаў сябе з трыбухамі....

Маці.

У яе быў ясны і спакойны ў сваёй высакароднай скрусе погляд. Часам я адчуваю знаёмы пах яе парфумы. Так пахла тое далёкае жыцьцё, так пахне тваё мінулае...

Маладосьць майго сына прыходзіцца на супрацьстаяньне "Біблія – Каран". Мая маладосьць прыйшлася на супрацьстаянне "СССР – ЗША". Яе маладосьць – "Сталін – Гітлер".

Мяне заўсёды зьдзіўляла, чаму некаторыя яе фатаграфіі датаваныя 1942 – 1943 гадамі. Гады акупацыі. На іх яна зьнятая з групаю аднагодкаў. Гарэзныя, вясёлыя, прыбраныя, з кветкамі. Чаму гэтыя фатаграфіі зробленыя на нямецкай фотапаперы? Тыя, што зробленыя ў атэлье, гэта зразумела. Але на прыродзе! У каго зь мясцовых жыхароў тады наогул мог быць фотаапарат? І пытаньне ўсіх пытаньняў. Як магла яна, уладальніца такога носу, асмуглай скуры і чорных, павойных валасоў пазьбегнуць гета? Жахлівага менскага гета... Памятаю, як распавядала, што яе, схапіўшы на вуліцы ў падазрэньні на “жыдоўку, якая хаваецца”, людзі з “Hiwi” – “Hilfswilliger” прывялі ў СД, але неўзабаве адпусьцілі. Нешта тут ня тое. І азначала гэта толькі адно. Што ў яе быў усёмагутны апякун. Немец.

Васіль Гросман у сваёй кнізе “Жыцьцё і лёс” піша, што ў Сталінградзе ва ўсіх, ня толькі ў афіцэраў, але і ў простых нямецкіх жаўнераў былі расейскія жанчыны. Вось яна, праўда вайны! У свой час Гімлер спрабаваў наладзіць вытворчасьць сэкс-лялек для жаўнераў на Ўсходнім фронце. З гэтага нічога ня выйшла, і ён вярнуўся да традыцыйнай ідэі бардэляў. Ён быў у шоку, калі на нарадзе вайсковых юрыстаў у траўні 1943 году даведаўся, што амаль кожны камандзір войскаў СС мае сувязь з полькай або зь якой-небудзь іншай жанчынай на Ўсходнім фронце. Але зрабіць з гэтым нічога ня мог. Урэшце рэшт, на сувязь арыйцаў са славянскімі жанчынамі махнулі рукой і думалі толькі аб тым, як забясьпечыць войскі дастатковай колькасьцю супрацьзачаткавых сродкаў.

А вайскоўцаў вэрмахту абслугоўвалі франтавыя бардэлі. У савецкім войску нічога такога не было, і гэта прывяло да таго, што гвалтаваліся ня толькі мільёны немак і полек, уключаючы 70-80-гадовых, але і савецкія жанчыны, вызваленыя з фашысцкіх канцлягераў.

Нядаўна ў Бэрліне сустрэліся дзеці вайскоўцаў вэрмахту зь некалькіх краінаў Эўропы. Дзеці розных народаў стварылі “Бюро дзяцей вайны”. У Даніі налічваюцца тысячы такіх дзяцей, у Нарвэгіі яшчэ больш, у Бэльгіі дзясяткі тысяч, больш за ўсіх ў Галяндыі – пяцьдзясят тысяч. Як ні дзіўна, існуе і лічба дзяцей вэрмахту з акупаванага СССР. Паўтара мільёна. Ні адна з жанчын не магла тады прызнацца, што бацька яе дзіцяці немец. Аборты былі забароненыя. Адзін з маіх сваякоў, які нарадзіўся ў Менску ў 1944 годзе, мае арыйскі профіль і харызматычны нораў. Адкуль гэта пры ягоных кірпатых, ціхіх бацьках?.. Што рухала немцамі – зразумела. Можа быць, гэта мая першая і апошняя жанчына... Часта так яно і было. Але што рухала расейскімі прыгажунямі, камсамолкамі? Кім былі гэтыя чужынцы для сямнаццацігадовай маладзіцы, якая трапіла ў вялікі горад з глухога беларускага хутару? Ні бацькі, ні маці ў жывых ужо не было, сёстры вывелі яе ў “сьвет”. На фатаграфіі тых гадоў яна задорная, паўнагрудая, яркая, як вясновая кветка, якая заяўляе – вось я зьявілася на сьвет, сустракайце мяне. Дайце мне той кавалачак шчасьця, які належыць мне! Я чую, як гулка стукае яе маладое сэрца, сэрца жанчыны, якая верыць, што сустрэне ў гэтым горадзе сваю мару – шчасьлівы лёс, яе абранага. Хто ведае, можа, і ёй пашанцуе, асабліва калі яна сама сябе ў гэтым пераканае...

Чужынцы сталі для яе ўвасабленьнем рэклямных прыгажуноў з плякатаў Асаавіяхіму трыццатых гадоў. Тых бялявых, з блакітнымі вачыма, станістых і жыцьцярадасных атлетаў у прыгожай уніформе, якіх краіна пасылала “штур-

маваць далёка мора”. Немцы былі апярэджаныя гэтымі плякатамі, яны былі чужынцамі зь іншай плянэты, носьбітамі іншай культуры, галантнымі кавалерамі, якія дарылі кветкі і шакаляд. Мясцовыя нязграбныя здыхлякі выглядалі нэандэртальцамі ў параўнаньні зь імі, ды і тых было мала.

Вось песьня тых гадоў: “Маладзіцы, вайна дайшла аж да Ўрала, ах маладзіцы, што, маладосьць прапала?”

Тры гады акупацыі.

Лёсу сясьцёр і брата яна ня ведала. Потым выявілася, што цётка Марыя і цётка Надзя насілі зброю, падзялялі нягоды вайны нароўні з мужчынамі. Забівалі? Магчыма. “З ваўкамі жыць – па-воўчаму выць”. Брат з вайны не вярнуўся. Што думалі яны, маладыя дзяўчаты, на што спадзяваліся? Фронт далёка. Лёс Масквы невядомы. Часта бачылі сьмерць, часам – штодня. А побач... Вось ён мужчына маёй мары, самец моцнага народу, які заваяваў наш народ. Ён абароніць, за ім, як за сьцяной, у яго заўсёды ёсць прадукты, карткі. А раптам пашанцуе, пакахае і павязе да сабе, у вялікую Нямеччыну...

Ці верылі ў ідэалы камунізму, партыі, Радзімы? Ня больш, чым тыя, хто ў перабудову, выкінуўшы партбілеты, гандляваў гэтай самай Радзімай на разьвес.

Ці стане хто-небудзь іх асуджаць?

Не асуджалі і тады. Нават галовы не галілі, як рабілі гэта пасьля вайны ў Польшчы і Францыі.

Аб вайне маці ўспамінала мала.

Вайна перайшла для яе ў тую зьменлівую, напалову выдуманую рэальнасьць, якую кожны стварае сабе сам. Мне, напрыклад, падаецца, што і я быў на фронце, у партызанскім атрадзе, у KZ. Маці інтуітыўна выпрацавала правіла – успамінаць аб вайне гамэапатычна малымі дозамі, часам толькі для таго, каб імгла рэтрасьпектывы адцяняла сёньняшні дзень. Міт аб вайне для яе разбурыўся дзякуючы індывідуальнасьці чалавечага ўспрыманьня. У адрозьненьні ад франтавікоў і партызанаў, вайна страціла для яе арэол міту, зьляцелі штампы. Вайна ператварылася ў тое, чым, па сутнасьці, і зьяўлялася, – у жах. Бясконцыя выклікі сьмерці разам з вар’яцкімі захапленьнямі выратаваньня. Жыцьцё было адно на ўсіх, а сьмерць у кожнага была свая. Правіў прынцып: “Ты памрэш сёньня, а я памру заўтра”. Але кожны жадаў выжыць...

Пасьля вайны яна ажыла. Стала вучыцца, займалася спортам. Уваходзіла ў зборную Беларусі па лыжах. Насіла шыракаполы фетравы капялюш з вэлюмам на палову твару. Па-ранейшаму ёй падабалася фатаграфавацца зь сяброўкамі. Шукала, палявала за сваёй “палавінай”, прызначанай ёй Богам. У яе фотаальбоме засталіся фатаграфіі нейкіх мужчын у пакамечаных двухбортных гарнітурах, глянцаваных афіцэраў... канец саракавых, пачатак пяцідзясятых. Відаць, ня лёс ёй быў...

Але не здавалася, дзесяць гадоў змагалася, пакуль не сустрэла крэпка зьбітага бляндына ў фуфайцы і ботах, але з высакародным тварам арыстакрата. Па бэрыеўскай амністыі ён нядаўна выйшаў зь лагеру... Гэта была яна, тая самая “палавіна”, “і стануць двое як адно цела...”

Дзядзька Лёня.

Дзякуючы яму аповеды аб вайне я стаў слухаць раней, чым казкі.

Твар, як скамечаны папяровы аркуш, маска з губчатым, лілёвым носам.

Погляд, які вяжа, разоры маршчын, зьедліва-жоўтае іржышча драцяных валасоў, мова – саракаградусная настойка мацюкоў. Словы ён рэзаў яркай і траскучай зваркай, яны застывалі, камянелі ў памяці. Памятаю, я любіў у дзяцінстве замест цацак гуляць ягонымі ордэнамі і мэдалямі. У бацькі іх не было.

Яму, кантужанаму, нельга было піць. Але ён часам піў запоямі. Бачу, як ён сядзіць каля печы. Памяць у зімовыя доўгія вечары вярталася да яго перакручаным жгутом трывогі і роспачы.

Ён сядзеў і ўтыкаў у глейкую цемрадзь за акном свае бясконцыя пытаньні.

Зь ягоных апісаньняў нараджалася цалкам іншая праўда аб вайне. Як яна адрозьнівалася ад кніжных і кіношных штампаў! Напаўняючы свае аповеды апантанай ашалеласьцю і каснаязыкай мовай, ён імкнуўся выплакаць, палегчыць неадступны душэўны боль...

...Хлеб рабілі з травы, кары і апілак, самагонку гналі з ласінага гною, ён служыў яшчэ і наркозам, калі адпілоўвалі канечнасьці нажоўкай, бо нічога іншага ў лесе не было. Рабавалі вёскі, ваявалі сябар зь сябрам, жанчын у атрадзе пускалі па крузе... Немцаў не баяліся, развучыліся баяцца.

Тыя ў лес ня сунуліся, гэта была ня іх тактыка. Толькі калі фронт ужо наблізіўся, сталі накіроўваць для барацьбы з партызанамі рэгулярныя вайсковыя часткі. Супраць партызанаў віцебшчыны ў 1943 годзе ваявала цэлае войска выхадцаў з Расеі. І гэта не было войска Ўласава. Гэтыя не баяліся нічога, маглі зімовай ноччу раптам атакаваць партызанскую базу...

Дзядзька Жора.

Манумэнтальны, як айсбэрг.

Ён ваяваў яшчэ разам з Чан Кайшы супраць японцаў.

Цяжкая, быццам камень, галава, пудовая сіла ў твары, васільковыя пражаліны вачэй. Погляд без натугі. Чалавек, які ўмеў перакладаць аптымізм у разрад рэалізму. На паліцах ягоных эмоцый лянота перабірала павольна зрыўкі думак. На рыбалцы ён мог сядзець гадзінамі бяз руху, часам падавалася, што ягонае цела ўяўляла сабою абалонку, гаспадар якой адыйшоў па справах. Ён быў нешматслоўны, слоўнікавы запас насяляў яго глыбока ў сярэдзіне. Ён выпраменьваў татальны пазытыў, крэдыт яго самавалоданьня ніколі не канчаўся. Яму падабалася  выступаць па школах, начапіўшы ўвесь свой вялізны гербарый ордэнаў і мэдалёў, павучаць мяне любіць Радзіму. Ён – чалавек, які на сто адсоткаў упісаўся ў яе пракрустава ложа.

Я тады зараджаўся ягонай нягучнай упэўненасьцю, ад якой на душы станавілася лёгка і спакойна. Усё ж хацелася спасьцігнуць сакрэт таго залатога сячэньня, якое дазваляла яму хадзіць па штармах жыцьцёвага мора, як па сушы...

Як не хапае твайго штурмавіка, дзядзька Жора, на гэтую зграю, якая грызецца з-за месца каля краніка на трубе з нафтай у  разрабаванай імі краіне.

А памятаеш, колькі мы з табою тарані і сулы на Азоўскім моры перацягалі!

Прабач, я так і не ўпісаўся ў тваю сыстэму, дзядзька Жора, і цяпер лаўлю сулу ў Шпрэі, толькі завуць яе тут Zander...

Ты не крыўдуеш на мяне, стары рыбак?

Я заўважыў, што  многія з тых, хто наогул ня ведаў вайны, пад «вечар» свайго жыцьця становяцца цьвярдзей. А яны мякчэлі. Асабліва бывалыя фран-

тавікі. Людзі, якія адкрывалі пасьля бою кансэрвы штыкамі ў крыві, былі мяккія і добрыя да канца жыцьця. І самай мяккай і добрай сярод усіх была цётка Марыя.

Лёгкае, танцуючае цела, сетка горка-вясёлых маршчынаў вакол незабудачных вачэй, якія выпраменьвалі цеплыню. Прырода жыла ў ёй, як сьвятло паміж дрэвамі. Усё ў ёй было прасторна, сьветла, ціха... Здавалася, яна несла лёгкі цяжар шчасьця. У яе з Васілём Сідзякіным, партызанскім камандзірам, было пяцёра дзяцей. А папярэднія пяць загінулі ў яе на вачах, у 43-м на Лагойшчыне, у блякаду.

Яны жылі бедна, але лёгка і проста. Чаму?

Ведалі кошт праўдзівых пакутаў, пасьля якіх усё было лёгка. Ня ведалі пра сваю беднату — усе вакол так жылі. Лёгка праходзілі праз каравую ісьціну сонных хрушчоўскіх будняў. Хоць і былі ўкрыжаваныя паміж грубым побытам і татальнай ідэалёгіяй, ахвярамі сябе не лічылі. Была страха над галавою, на вуліцах не стралялі, было што апрануць і што паесьці. Ніхто не імкнуўся выкарыстаць сёньняшні пастулат: “Усе ў га*не, а я ў белым касьцюме”.

Ніколі не крытыкавалі ўладу. Адзначалі ўсе яе чырвоныя дні календара, радаваліся і напіваліся. Кніг чыталі мала, у асноўным расейскую клясыку. Кнігай кніг была сталінская “Кніга аб смачнай і здаровай ежы”.

Ведалі правіла: “Памнажаеш веды — памнажаеш скруху” і “Менш ведаеш — лепш сьпіш”.

Ведалі, што жыццё — барацьба, часам — бой.

Не дажылі да песьні БГ: “Нам паўтаралі, што жыццё гэта бой, але па новых дадзеных разьведкі, мы ваявалі самі з сабою”. А калі б і чулі, сэнс яе не зразумелі і не прынялі б.

Нацыянальнае самаадчуваньне калі і было, то ў лёгкай форме, не такое, як зараз. Антысэмітызму не было, былі толькі анэкдоты пра гэбраяў. Паважалі ўчастковага тэрапэўта Гольдбэрга, які хадзіў па хатах узімку і ўлетку.

Польскія, беларускія, расейскія, гэбрайскія, татарскія дзеці гулялі разам, як пад маім вакном гуляюць турэцкія, арабскія, кітайскія, афрыканскія, нямецкія... “Я жыд, я даўжэй буду жыць, а ты габрэй памрэш хутчэй”, — гучала ў дзіцячай кампаніі.

Нагадваю, гаворка ідзе аб Менску 50 — 60-х гадоў.

Разводаў у іх асяродзьдзі не было, жылі разам да самай сьмерці. Разам выжыць было лягчэй, і гэтае ўяўленьне аб правілах выжываньня ўвайшло і мне ў кроў. Ніколі не былі за мяжой, не вучылі і ня ведалі замежных моваў, так, зьлёгку, польскую і ідыш. Хаця не, хлушу, некаторыя ведалі пару дзясяткаў слоў па-нямецку тыпу: “Хендэ хох”. Толькі маці гаварыла па-нямецку бегла. Між тым, самі таго ня ведаючы, ужывалі вялізную колькасьць нямецкіх словаў, якія зьяўляюцца складной часткай беларускай мовы: “дах, шпіталь, фарба, цукар, цэгла, ганак, цэбар, швагер” і г. д. Паміж сабою размаўлялі на “трасянцы” — сумесі беларускай і расейскай.

Лазьня — гэта асобная песьня, бяз лазьні сур’ёзная гутарка не вытанцоўваецца. Мыліся ў лазьнях, дзе ва ўсіх было аднолькавае мыла — шэрае, аднолькавыя жалезныя тазікі-ражкі, аднолькавыя белыя ручнікі і аднолькавыя бярозавыя венікі, зь якімі ішлі па вуліцы, засунуўшы іх пад паху. Раз маці ўзяла мяне, пяцігадовага, з сабою ў жаночае аддзяленьне. Шматгагалосы гул вісеў

у парным, туманным паветры, шматгучны плёскат вады вакол, бляшанае бразганьне ражак аб камень доўгіх лавак. Чарга каля двух кранаў зь вялікімі драўлянымі ручкамі. Памятаю тоўстых цётак зь вялізнымі цыцкамі, у райтузах да калена, у доўгіх белых камбінацыях, некаторыя прышпільвалі панчохі да трусоў, калготак тады ня ведалі... Навошта ўзяла такога вялікага з сабою, ён усё разумее!

У мужчынскім аддзяленьні памятаю мужчын без адной рукі або нагі, усе ў чорных трусах да калена і белых саколках. Памятаю, я баяўся парыльні, больш за адну хвіліну там ня мог вытрымаць. Усё зьдзіўляўся, як гэтыя голыя мужыкі ў фетравых капелюшах сядзяць там цэлую гадзіну і лупяць адзін аднаго венікамі...

Мужчыны павінны былі стрыгчыся пад "канатку", а жанчыны насіць доўгія да поясу валасы, якія запляталі ў косы, укладвалі ў вянок на галаве, як Юлія Цімашэнка. Улетку варылі сочыва ў вялікіх медных тазах з маліны, якую зьбіралі самі ў лесе. Сушылі грыбы і ягады. На зіму квасілі капусту ў вялікіх дубовых бочках, у такіх жа ставілі і салёныя агуркі. Дарэчы, усяго гэтага навалам і тут, у Нямеччыне, але па смаку саступае. Ці то бочкі ў немцаў ня тыя, ці то смакавыя адчуваньні дзяцінства іншыя.

На сьвяты варылі халадзец, які атрымліваўся малочна-белым, дзе было шмат часнаку. Самі рабілі каўбасу, якую называлі "пальцам пханая". Нямеччына – радзіма каўбасы, але роўнай той, памятнай зь дзяцінства, я яшчэ не сустракаў. На Вялікдзень пяклі калачы, вялізнай, неверагоднай вышыні. Разнастайнасьцю кухня не вызначалася, галоўнай на стале заўсёды была бульбачка, праўда, у вялікім выбары: ад дранікаў да невядомых у Расеі "цэпялінаў".

На застольлях сьпявалі пад гармонік "Вот кто-то с горочки спустился", "Чаму ж мне ня пець". "Бывайце здаровы, жывіце багата". Танчылі вальс і танга. Круцілі пласьцінкі з песьнямі Шульжэнкі і Уцёсава, заходніх песень наогул не было... Куплялі адзін тэлевізар, адну лядоўку, адзін набор мэблі на ўсё жыцьцё. На сьценах віселі карціны, выкананыя алеем па шклу, зь белымі лебедзямі на чорнай вадзе, рэпрадукцыі карцін Шышкіна "Раніца ў хваёвым лесе" і Крамскога "Незнаёмка". Ва ўсіх усё аднолькава. Аб тым, што ёсць нейкі абстрактны жывапіс, нейкі там Пікасо, ніхто і паняцьця ня меў...

Парнаграфію ведалі, памятаю бачыў у мужыкоў чорна-белыя фатаграфіі, некаторыя размаляваныя анілінавымі фарбамі, некаторыя з клясычных карцін тыпу "Данаі" Рэмбранта. Калі брат, марак, у канцы 70-х прывёз першы "Playboy" – яны былі ў шоку. Але слова "порна" ня ведалі. Зараз, калі я пішу гэтыя радкі, у Нямеччыне заведзены справы на 12 тыс. аматараў дзіцячай парнаграфіі, і гэта не шакуе грамадзтва. А яны б ніяк ня ўцямілі, што можна зь пяцігадовымі дзецьмі рабіць. Нават хто такі "блакітны" ня ведалі. Ня ведалі ніякіх там "траўка, кайф, хохана, стафф, нарката, экстазі, перадазіроўка, наркадылер, шырнуцца, рухацца па вене, СНІД, гламур, піар,VIP..." А заадно і словаў "стрэс", "дэпрэсія" з прыметнікамі "пэрманэнтная" або "падлеткавая". Ня ведалі гэтак жа слоў "цэлюліт" і "эмансіпацыя" і жылі адпаведна. Вось чаму ў нас былі добрыя і любячыя маці і бабулі. Ім пашанцавала, яны не былі знаёмыя з гэтым слоўным трызьненьнем, здольным расстроіць разумовую арыентацыю нармалёвага чалавека. У іхныя галовы не намяло гэтага сьмецьця сучаснай цывілізацыі...

Яны вадзілі мяне ў наш старэнькі драўляны кінатэатар “Вымпел” на “Гусарскую баляду”, “Верных сяброў”, “Два плюс тры”, “Карнавальную ноч”. Гэтыя фільмы майго дзяцінства я з задавальненьнем гляджу і зараз. Любы зь іх варты ўсіх разам узятых сёньняшніх “Брыгад”, “Ваўкадаваў”, “Бандыцкіх Пецярбургаў” і да іх падобных. Гэта былі фільмы іншай цывілізацыі.

Я заўсёды дзівіўся іх жыццёвай сіле і ўстойлівасьці, яны нібыта былі забясьпечаныя іншай нэрвовай арганізацыяй. Ніколі ня памятаю, каб хтосьці зь іх скардзіўся на бяссоньніцу. Пісалі лісты сваякам, часам па некалькі ў месяц, і гэта яднала іх значна лепш, чым нас сёньня тэлефон, кампутар, курс эўра або даляру і мэксыканскія сэрыялы. Любілі адзін аднаго толькі за тое, што жывуць побач, а не за выгаду або таўшчыню кашалька. Грошай не зьбіралі, не станавіліся іхнымі рабамі, іхныя арганізмы не былі неадпаведна зношаныя грашыма...

— Якое цяжкае сёньня жыцьцё! — скардзяцца немцы адзін аднаму, лежачы на пляжах Маёркі.

— Я б не хацела, каб мае дзеці спазналі гэтае страшнае жыцьцё! — прызнаецца маці, якая забіла нядаўна пяцёх сваіх дзяцей...

Гэтыя людзі пражываюць ва ўласных катэджах, заваленых бытавой апаратурай, патрэбнай і непатрэбнай, у кожнага сваё аўта...

А ў іх тады не было нічога, акрамя абавязковай радыёкропкі, лядоўкі ўбачылі ў канцы жыцьця, хатняга тэлефону некаторыя так і не дачакаліся... Але яны былі шчасьлівымі людзьмі. Ясна ўсьведамлялі і прытрымліваліся сюжэту свайго існаваньня. Для іх мэтай жыцьця было проста само жыцьцё. Не блукалі ў пошуках шчасьця, якое прадаецца на разьліў, іх шчасьце звалася здабыцьцё душэўнай раўнавагі і рэальнасьці гамэастазу, жыцьцё ў згодзе з самім сабой, з саюзам усьведамленьня і падсьвядомасьці. Валодалі майстэрствам жыць побач, разам, сакрэт якога сёньня многімі згублены. Мабыць, нешта парушылася ў людзкім уяўленьні аб шчасьці. Яны ўсё прымалі спакойна. Любыя чалавечыя ўчынкі, любое словаблудзьдзе. Спакойна праходзілі дыстанцыю ад каханьня да страты, ад страты да набыцьця. На адных вагах у іх былі абломкі вясёлых сьвятаў і асколкі горкіх сьлёз... Былі не анёлы, шмат пілі, часта ўжывалі мудрагелістыя мацюкі. Але ведалі свой маштаб. Спакойна існавалі ў выбранай сыстэме каардынат. Струмень жыцьця не вадзіў іх, яны яго вадзілі. Інстынкт самазахаваньня працаваў у іх у біялягічным рэжыме. Нават калі ім давялося прайсьці празь неверагодныя выпрабаваньні, засталіся вернымі простым чалавечымісьцінам: любоў, вернасьць, дабро, справядлівасьць. Разьмяркоўвалі ўсё ў жыцьці раўнамерна на графіку падзей так, каб выходзіла роўная, плаўная лінія, бяз рэзкіх скокаў і падзеньняў.

Ня толькі бацька, але і ўсе яны падаваліся мне тады прэснымі, маркотнымі людзьмі, якія вырасьлі па сьвістку ў этыцы абмежаваньня і зьняважаньня, якія ляцяць на аўтапілётах па жыцьці. Ніякіх бур і запалу. Проста водарасьці нейкія, якія мірна пагойдваліся на глыбіні свайго ўнутранага спакою.

Але калі жыцьцё валіла мяне з ног, я прыпаўзаў і залізваў раны, паклаўшы галаву ім на калені.

Валодалі здольнасьцю зьняць любую праблему, разумна разважаць, расстаўляць усё па сваіх месцах, рабіць толькі правільныя ўчынкі. І сакрэт гэтай правільнасьці знаходзіўся дзесьці за граньню майго разуменьня!

Ich verstehe nicht!

Яны не вучылі мяне, але іхны вопыт, іхныя справы леглі тады кудысьці на дно маёй душы, у яе тайнікі, і зараз прасочваюцца па кроплі на паверхню...

На шчасьце, ня многія дажылі да эпохі развалу СССР, бязьлітаснай да старых. Ніхто зь іх не дасягнуў васьмідзесяці гадоў. Адыйшлі усе, быццам згаварыўшыся, адзін за другім у 80-х гадах. Спакойна рыхтаваліся да сьмерці, практыкаваліся ў пакорнасьці лёсу, як і ва ўсякім іншым мастацтве. Рыхтаваліся, сыходзілі ў апошнюю сваю восень ціха, павольна, як возера рыхтуецца да зімы. Гутарак і філязафаваньняў на гэтую тэму пазьбягалі. Проста часам хто-небудзь, купляючы новае паліто, мімаходзь кідаў: “Гэта апошняе”. Або: “Вось памру, усё, што на кніжцы, табе застанецца”.

Але несумненна, думалі, як будуць пераходзіць мост праз Стыкс, як будуць гандлявацца з Харонам, каго перавязе першым, каго другім да тых апошніх варот, у якія ня трэба біцца. Павольна рыхтаваліся да шлюбу са сьмерцю. Да існаваньня толькі ў маёй памяці, да гутарак са мной унутры мяне.

Не шукалі спосабаў амаладжэньня. І не таму, што іх ня ведалі, а таму, што тады, у той ГАЛОЎНЫ РАЗ, сьмерці пазьбеглі, і гэтага было досыць. Ніякіх крэмаў, ласьёнаў, масак для твару ў іх не было, “дэзікаў” таксама ня памятаю. Толькі “Трайны” адэкалён. Мне тады падавалася, што гэта наогул быў адзіны адэкалён у той час.

Былі шчасьлівыя ад таго, што ведалі: памруць у сваім ложку ў асяродзьдзі блізкіх, ня важна, у бальніцы ці дома, пахаваныя будуць на могілках, а не ў братэрскай магіле, расстрэльнай яме, балоце, у печы крэматорыю, канцлягеры...

Сыходзілі з пачуцьцём выкананага абавязку, з годнасьцю людзей, што ажыцьцявілі сваё прызначэньне на зямлі. Выжылі ў вайну, стварылі сем’і, нарадзілі дзяцей, вывелі іх у людзі, дачакаліся ўнукаў...

Неіснаваньне закралася ў іх жыцьцё даўно. Спакваля, цішком. Іх жыцці былі складзеныя ў штабелі, не для іх, для іншых, але целы ўсё яшчэ знаходзіліся ў старой прасторы, як пні на месцы высечанага лесу. Іх аднолькавыя гадзіньнікі маркі “Луч” усё яшчэ ішлі, але час ім ужо не належаў.

Усё гэта я запомніў, хоць і быў малады. Я толькі фатаграфаваў і пакідаў нэгатывы на ўнутранай сятчатцы вачэй, запісваў кампакт-дыскі на адваротным баку падсьвядомасьці. І зараз выяўляю ўсё гэта на вялікім экране плазмэннага TV майго жыцьцёвага досьведу. Бачу, як яны павольна вучыліся ня жыць, як рыхтаваліся да гэтага, адкладвалі пахавальныя грошы, апраналі старэчую вопратку, набывалі палачкі для хады, высяляліся з уласных галоў. Іх марудлівыя гады апускаліся ў багну будняў...

Памятаю гэты іх апафэоз смутку,  які ня спраўдзіўся. Пакорнасьць, якая вяршыла іх лёс, прымала безвыходнасьць перад надыходзячай цішынёй. Сьмерць – як варонка ад снараду. Яна запаўняецца толькі зь цягам часу і ніколі да канца. Яны сыйшлі і не вярнуліся проста таму, што намацалі маленькія патаемныя дзьверы ў сьцяне, зазірнулі... і апынуліся ў таямнічай гармоніі іншага боку быцьця.

Анёлы-навігатары перасталі пракладаць ім шлях. Яны ператварыліся ў барэльефы, якія пайшлі ў камень, у мікелянджэлаўскія фігуры сну, пагружаныя ў тканіну часу. На іхнюю старонку прыйшло прызнаньне і збаўленьне – вечнасьць.  А гэта ўжо мінулае. Аспрэчваць яго ніхто ня здольны, а тым больш, ня здольны выкупіць.

А яшчэ я думаю, што ім пашанцавала. Яны былі шчасьлівыя. Шчасьлівыя, што перажылі вайну, засталіся цэлымі і непашкоджанымі. Шчасьлівыя, як усе, хто жыве ва ўласным вымярэньні, па ўласнай шкале каштоўнасьцяў, апрабаваных жыцьцём. Шчасьлівыя, як і ўсе, хто жыве ў свой тэрмін.

Чалавек прыходзіць на гэтую зямлю, ня маючы нацыянальнасьці, расы, радзімы, партыйнасьці. Ён не нараджаецца наркаманам, садыстам, нацыстам, нацыяналістам, экстрэмістам. Адныя нараджаюцца ў багатай краіне з сталымі традыцыямі дэмакратыі і гуманізму, а іншыя наадварот, – у беднай, з дыктатурай і таталітарным рэжымам. Але ўсім ім даводзіцца прайсьці свой шлях на зямлі так, як гэта заплянавана творцам. Ім было заплянавана ўзважваць чалавечыя жыцьці. І свае, і чужыя. Стаць і ахвярай, і катам. Штурмавікі дзядзькі Пеці і дзядзькі Жоры прасавалі нямецкую зямлю. Яны адпомсьцілі за ўсіх. Бог зрабіў іх сваёй каральнай рукой.

Ім пашанцавала. Маці пашанцавла – яна ня трапіла ў “Яму”. Бацьку пашанцавала – яго жыцьцё не прайгралі ў карты крымінальнікі ў лягеры. Цётцы Надзі пашанцавала – яе параненую ня зьелі у тую зіму 43-га, калі іх атрад трапіў у блякаду. Дзядзьку Жору пашанцавала – у тым баі над Кітаем ён прыняў дакладнае рашэньне і ня быў расстраляны перад строем потым, пасьля бою. Цётцы Мані пашанцавала – яна прайшла ўвесь Сталінград бяз драпіны. Дзядзьку Пецю пашанцавала – ягоны падбіты самалёт усё ж дацягнуў да свайго аэрадрому. Дзядзьку Лёню пашанцавала – тады пад Кёнігсбэргам ягоны танк стрэліў першым.

Не пашанцавала тым, іншым, у каго стралялі яны, і ў чыіх хатах зараз жывем мы...

Сёньня я дасягнуў ужо таго ўзросту, калі гады зьмяняюць нумары з кулямётнай хуткасьцю. Люстэрка па раніцах часта хлусіць: “Гэта ты проста ня ў форме, але да абеду ўсё будзе а’кей».

Я гляджу ў вакно. Яно абдымае стракатасьць стрэхаў. Непадалёку віднеецца вежа Karstadt на Hermann Platz. У красавіку 45-га французскія эсэсаўцы пад камандаваньнем капітана Анры Фэнэ, падбілі там з фаўст-патронаў чатырнаццаць савецкіх танкаў. Пасьля чаго пераапрануліся ў цывільнае адзеньне і выдалі сябе за прымусовых працоўных. Шчасьліва дажывалі потым сваё стагодзьдзе ў Францыі...

У вакне сфакусаваліся дзьве перасякальныя ў ідэальна збалянсаванай кропцы бясконцасьці. Гарызантальная бясконцасьць часу і вертыкальная бясконцасьць будынкаў усіх эпохаў. “Нямеччына”, – гавару я, і час пачынае расьцягвацца, як гумовы... Чпок! – час расьцягнуўся да мяжы і са звонам лопнуў...

Шэраг файлаў зь мінулага жыцьця сьцёрліся ў галаве. Ці было гэта? Ці жыў я ў той хаце? Можа, гэта быў толькі сон? Куфар з чыімі ўспамінамі стаіць ў мяне пад ложкам? Хто яго забыў? Магчыма, Артур разам з іншымі рэчамі...

За акном ідзе сьнег.

Мароз стромка пасыпаў сольлю зялёныя кусты і траву.

Узрываюцца навагоднія пэтарды.

Натужліва гундосіць паліцэйская сырэна.

У фіялетавым зьмярканьні, скрозь мудрагелістыя хітраспляценьні зацярушаных сьнегам галінаў плятану, у вокнах насупраць гараць вогнішчамі калядныя зоркі.

Над галавою стаіць яркі, зьзяючы ілюмінатар месяца.

Сьнег падае і на мяне, і ня толькі зьверху, але і знутры.

На задворках маёй сьвядомасьці грае CD пад назовам “Berlin”. Я “падсеў” на голку тэлевежы з Alexander Platz, шпілі цэркваў беспамылкова знаходзяць цяпло маіх вен... Ці было ўвогуле тое жыццё? Было: для кагосьці яно стала яваю, а некаму – крохкім фотаздымкам. У спадчыну дасталося змучанае кампрамісамі з рэальнасьцю сумленьне, змучанае хуткасьцю бегу жыцьця сэрца...

Здымаю слой за слоем напластаваньне часу. Для мяне яно не існуе, як не існуе і адлегласьць. Паток сьвядомасьці, вызвалены мной, кружыць вакол, зацягваючы ў вір.

Нешта ўчапілася за краёк памяці...

Вуліца павольна тоне, расплываючыся ў часе... будынкі бурацца, абсыпаецца цэгла, ходнікаў не відаць, толькі сярэдзіна дарогі вольная. Па ёй ідуць танкі Т-34. Шмат танкаў. Яны ідуць бязгучна, нібы прывіды. Ідуць ад Hermann Platz праз маю Prinzen Strasse на канцылярыю Гітлера...

Яны нават не падазраюць аб маім існаваньні, яны аддзеленыя ад мяне не фізычнай дыстанцыяй часу, а безданьню духу. Я выразна разумею, што гэта адбываецца шэсьцьдзясят гадоў таму, гэта сьлед, які застаўся на сятчатцы вачэй таго, хто жыў у гэтай кватэры, чый дзёньнік захоўваецца ў мяне. І тое, што гэта сьледзтва незвычайнай экзальтацыі духу. Толькі памяць ратуе чалавека ад бясьсьледнага расьсейваньня ў прасторы...

З кожным годам тое далёкае сыходзіць, губляе афарбоўку, становіцца пляскатым. Я стаў ужо набліжацца да іх узросту, якімі яны сфакусаваліся ў аб’ектыве маёй памяці. Стаў шмат ведаць, умець, разумець... хаваць на паліцу ўспамінаў. Пачынаю адмаўляцца ад тых правілаў, якія раней здаваліся нормай... Часам задаюся пытаньнем, ці зразумелі б яны мой УЧЫНАК, маю эміграцыю? Мне падаецца, што зразумелі б. Асабліва, калі б даведаліся, што “ТЫХ” немцаў больш няма. Вайна была для іх нейкай змрочнай гульнёй у хованкі са сьмяротным зыходам. Слова “немец” у іх жыцьці было раўназначна слову “сьмерць”... І потым усё сваё жыцьцё яны былі асуджаныя вызваляцца ад гэтага грузу.

Немцы – народ, які навучыў чалавецтва філязофіі, які падарыў геніяў музыкі...

Як на гэтым месцы мог узрасьці Гітлер?!

Такое немагчыма было зразумець, а зразумеўшы – немагчыма з гэтым жыць.

Хто будзем мы для іх? Цывілізацыя, якая праз самаразбурэньне спрабуе знайсьці сябе? Людзі, якія малююць нэрвовую лінію дэпрэсіі са знакамі пунктуацыі... ідзем праз гады, па выгнутым варонкай калідоры, увешаным крывымі люстэркамі, зьбяжым па каналізацыйных трубах. Праходзім каля сяброў, набліжаем да сябе ворагаў, радуемся ўзьлёту, які становіцца падзеньнем...

Жывем з раскурочанымі ахоўнымі мэханізмамі, загнанымі ўглыбіню вечнымі праблемамі. Не можам пазьбегнуць цынізму. Ён – наш сродак зносінаў, ён неабходны нам, каб проста даказаць, што з намі ўсё ў парадку.

Замотваем унутраную пустэчу дрэс-кодам. Існаваньне ў атмасфэры пустэчы. Псыхалягічную напоўненасьць гэтага існаваньня шукаем у пагоні за рэчамі і забаўкамі.

Людзі, целы ў якіх знаходзяцца ў разносе з душой...

Чаму дарогі, якія мы выбіраем, не заўсёды выбіраюць нас?

Чаго дасягнулі мы з нашай прагай ідэалу, абсалюту, цуду?

Чаму пошук гэты носіць празьмерна ілюзорны, самазьнішчальны характар? І ў выніку – ні шчасьця, ні гармоніі, ні спакою.

А яны, у адрозьненьне ад нас, якія чакаюць усё жыцьцё, што вось-вось пачнем жыць, проста жылі кожным днём...

Я ведаю, яны не адыйшлі ў нябыт, як камяні ў глыбокую студню. Проста яны аднойчы зазірнулі за небасхіл... і не вярнуліся. Яны чакаюць нас там, дзе ня будзе ўжо ні гадоў, ні дзён, ні хвілін. Але кожная хвіліна нашага жыцьця, усе нашыя справы і ўчынкі запісаныя Тым, хто будзе нашым судзьдзём. Яны сыйшлі бясконца далёка, але пры гэтым чуюць нас кожнае імгненьне...

Я ведаю, там яны зноў разам, у нашай старой хаце, на маленькай вулачцы, патанулай у квітнеючых вішнёвых садах. Зьбіраюцца за старым сталом пад вялікім памаранчавым абажурам, дзеляцца навінамі, радасьцямі і нягодамі.

А пакуль мы, наступныя, застаёмся ў прыцягненьні вялізнай кулі, дзе ў кожнага, над шэрым попелам радасьці і гора, зьзяе свая зорка...

Летаргічнае бязмоўе... перакручаныя стрэлкі гадзіньніка... недапіты кубак віна... сэрцабіцьцё цемры... скальпель, які бяжыць па прасторы часу... зрыўкі сноў вачамі Бога... дагарэлы круг імёнаў... палёт у мінулае, як у студню... вера ў бясконцасьць кожнага імгненьня на Зямлі... усё, што магу...

Nota Bene...

*Бэрлін 2008 г.*

---

# Апавяданьні зь нізкі "Бэрлінская мазаіка"

## Апавяданьні з аднаго сказу

### "На шпрахах " (Sprachkurs)

На пытаньне настаўніцы аб тым, якую першую фразу па-нямецку пачуў у жыцьці, я шчыра адказаў: "Hende hoh!"

### З газэт

"На тэрыторыі былой ГДР ёсьць зоны, дзе лепш не ступаць назе чарнаскурага чалавека".

### Барацьба з капіталізмам

Кожны тыдзень fachtmann у расьпіратары счышчае аблітае кіслатою шкло шыкоўных вітрын на Friedrichstrasse.

### Амаль анэкдот

Старшыня Рады мусульман Нямеччыны – мясцовы немец.

### Мусульманскі гай-тэк для маленькіх

Калі мусульмане патрабуюць, папа рымскі прыносіць ім прабачэньне, а ў “Deutsche Oper” адмяняюць опэру Моцарта.

### Даніна традыцыі

Здагадайцеся, чаму адна з дыскатэк Бэрліну завецца “Сталінград”.

### Дзьве падзеі восені 2006, якія маюць адзін корань

Бульдазерыст падарваўся на старой авіябомбе і зьнеслі, нарэшце, руіны галоўнага ўпраўленьня СС у Бэрліне.

### Да псыхіятра або ў тэатар

Пад такім загалоўкам выйшла рэцэнзія на адну новую пастаноўку ў бэрлінскім тэатры, дзе сцэна нагадвае трэніровачную залю вар’ята-мясьніка.

### Дэмакратыя

Маладая сымпатычная немачка коціць па Hermanstrasse негра ў інваліднай калясцы, які трымае ў руках “Eulenspiegel”, дзе голую Анёлу Мэркель, што стаіць на карачках, засядлаў каўбой Джордж Буш і лупіць па тоўстых баках шпорамі.

### Казахстанскія памежнікі

Маладыя худзенькія казахстанскія памежнікі больш за ўсё любяць браць хабар з аўзідлераў нямецкімі цукеркамі.

### Мэтамарфозы

Гітлер паважаў і захапляўся Сталіным. Канцлер Шродэр, бацька якога загінуў ад расейскай кулі, – прэзыдэнтам Пуціным.

* * *

Асаблівае месца адводжу я вам, мае суайчыньніцы – красе нацыі, трымальніцам галоўнага пакету яе акцый. Не мужыкам, гэтым шалапутным казлам, якія растрацілі ў п’яных застольлях набытак продкаў. Па волі Божай апынуліся вы ў гэтай краіне і будзеце зараз працаваць на яе дабрабыт, умацоўваць яе эканоміку, фармаваць мэнтальнасьць гэтага народу, нараджаць яму салдат, бізнэсоўцаў, спартоўцаў і палітыкаў...

## Закалябаў, бля

Я вяртаўся дахаты надвячоркам.

Горад наліўся чырвоным віном заходу сонца.

Мінакоў ужо амаль не было, толькі напарадзе маячыла парачка.

Эфэктная, пышнагрудая, зграбная немка. Асьляпляльна белыя джынсы спаўзалі па стромкім сьцягне да ягадзіц, якія марылі аб сольнай кар'еры, струмень залатой пшаніцы валасоў да поясу, плоскі, карычневы жывот. За руку яна вяла маладога негра, тонкага і моцнага, як бамбук. Гадоў на дзесяць маладзейшага за яе. Мабыць, "зьняла" яго ў "Kato", негрыцянскім клюбе-дыскатэцы, куды немкі бегаюць натоўпамі.

Я міжволі пацешыўся за гэты ўдалы выбар. Уся яна – ёмішча формаў, ліній і фарбаў, а ён – яе прылада. Раптам зазьвінеў тэлефон. І тут яна загаварыла на той мове, на якой размаўляюць прыгожыя жанчыны толькі адной краіны ў сьвеце:

– Іду я дахаты, іду! Коля, ты што мяне вечна пільнуеш! Закалябаў, бля... Хто "разводзіць"?.. Што ты гоніш! Сам ты "разводзіш"!.. Усе мазгі з...ў! – лязо яе крыку рэзала цішыню.

– Я ўжо на Прынцэнштрасе... мы з Ленкай адцягнуліся ў францускім рэстаране... такая "джага" была! Што? ...Не зразумеў?... Добра, хопіць п...ць!... Lass mich im Ruhe! – і выключыла тэлефон.

– Я ж гавару, закалябаў! – зьвярнулася яна да негра, прыцягнуўшы яго за стан.

Той глядзеў вачыма, якія нічога не разумеюць, і блажэнна ўсьміхаўся...

Яна зацягнула песьню:

– І апошні патрон, як апошні гандон...

## Свая кроў

Яна, шыракатварая, моцна зьбітая, зь вялізнай капой ільняных валасоў. Як і ў іншых кабет зь яе вёскі, што ляжыць сярод віцебскіх балотаў і лясоў. Яны нашчадкі крывічоў, моцнага паўночнага народу, а продкамі іх, як і шмат якіх іншых эўрапейцаў, былі кельты.

У вайну яе маці і цёткі суткамі не здымалі аўтаматаў і фуфаек, лежачы ў балотах падчас блякад. На барацьбу з атрадамі партызан, якія базаваліся вакол Друі і лясных азёр са старажытнымі кельцкімі назвамі, немцы здымалі з фронту цэлыя вайсковыя злучэньні з танкамі і артылерыяй. Некаторыя зь яе сваячак страцілі там мужоў і дзяцей. Не міргнуўшы

вокам, забівалі палоннага немца або свайго безнадзейнага параненага. Пасьля вайны аралі, запрэгшыся ў плуг. Гадамі хадзілі ў адных лапцях. Забылі смак мяса. Насілі вянок зь цяжкіх косаў на галаве. Ня ведалі слова "дэпрэсія", зноў лёгка выходзілі замуж, нараджалі дзяцей.

Бацька памёр рана. У дзяцінстве яна лёгка ўпраўлялася з касой і віламі, бегала басанож да замаразкаў. Мільгаючы пшанічнымі коскамі, скакала на

кані, латошачы яго голымі пяткамі. Пяцігадовая, насілася на вялізным ровары. У яе была толькі адна лялька, набітая апілкамі. Маці ня шмат вучыла яе – яшчэ было чацьвёра дзяцей. Тую, адзіна дакладную жыцьцёвую аснову дала ёй сама зямля...

У Бэрліне ёй усё падабаецца.

Ня трэба ісьці ў куратнік, каб здабыць яйкі, ня трэба даіць карову, каб атрымаць малако і масла альбо ісьці з рыдлёўкай на гарод па бульбу.

Усё гэта можна купіць у “Lidl” за рогам.

Ёй падабаюцца стравы розных народаў сьвету, але перад ўсімі гэтымі “сушы” і “скампі” яна аддае перавагу варанай бульбе. У гарнітуры ад Лягерфэльда ходзіць на паказ мод у “Эскада” і KDW, і на вечарыне яе не адрозьніць ад мясцовых немак.

Магчыма, іх бацькі і дзяды стралялі ў яе сваякоў.

Але яны любяць яе за вясёлы і лёгкі характар, за тое, што яна пазбаўлена гіт-параду лёсавызначальных памылак, уласьцівых большасьці экстрэмалак. За тое, што, як і яе продкі, яна ня ведае слова “дэпрэсія”, умее жыць на ветры, можа сшыць браню-вопратку для сябе і для сваёй сям’і. За тое, што ў любой сытуацыі яна беспамылкова знаходзіць пазытыўны пачатак...

Адчуваюць, верагодна, сваю кроў.

## Зямлячка

Тыповая немка.

Профіль грэцкай багіні.

Выпешчаная, пышнацелая, бялявая.

Верагодна, хутка яна ператворыцца ў даму кустодзіеўскіх прапорцый.

У Бэрлін яе занесла пад “Wind of change” групы “Scorpions” адразу ж пасьля падзеньня сьцяны. Для такіх экстрэмалак, як яна, гэта быў самы лепшы час. Усе вакол жылі па законах рускай рулеткі, жаданьні і страх былі на аднолькавых ролях. Пасьпець ускочыць у цягнік надзей і згубіцца ў багатых, казачных гарадах Эўропы, пакінуўшы сваю зьняважаную і жабрацкую краіну...

Яна жадала славы, вар’яцтва і каханьня.

Ёй доўга шанцавала. Яна магла патрапіць у любую пастку і выскачыць у апошні момант, сымбіёз паляўнічага і ахвяры адначасова. Любіла лавіць сваё адлюстраваньне ў вачах мужчын, любіла глядзець, як яны ператвараліся ў мяккі воск у яе руках...

“Ператрахала” палову Бэрліну. Працавала ў казіно і барах, Spielhale, “пуфах”... дзе толькі не працавала. Яна заўсёды тонка адчувала, дзе мяжа, і спынялася за некалькі крокаў да яе...

Шакаляд на радзіму пасылала пудамі, грошы ў канвэрце часта не даходзілі, але яе гэта моцна не хвалявала. Калі прыяжджала ў родны Віцебск, свой “Мэрс” запаркоўвала на тратуары, плюючы семкі праз вакно. Каму трэба, абыйдзе па праежджай частцы...

Ёй было заўсёды лёгка і проста плаваць у булёне жыцьця. Але хтосьці там, наверсе, ужо ўключыў кранік і тэмпература пачала падымацца, забулькатала...

Сужыцель памёр ад “перадазьняка”. Прыбыткі пачалі падаць. З працы выгналі. Былі праблемы з “братвой”. Залезла ў пазыкі...

Час быў вызначацца.

“Замовіла” сабе мужа, мясцовага немца. Ня хутка, але знайшлі. Па фактуры барэц-клясык, бычара, вельмі падобны на прэзыдэнта Конга Кабілу, сябра і паплечніка Чэ Гевары. Толькі белы. Усе вечары і выходныя праводзіць у кнайпах. Выводзіць яе на паказ сябрам і сваякам. Кватэра вялікая, лецішча пад Бэрлінам. Што яшчэ трэба?

Яе чакала Маёрка, Італія і гармонія раю пад назовам Нямеччына...

Калі я яе ўбачыў, яна ўжо была падобная на Кліо, якая выбралася з мутнай пены. Усё засталося ззаду. Скончыўся джаз, час пайшоу на блюз, па горадзе ў ліпені мялі завеі.

У яе знайшлі рак маткі.

І ён нейкім чынам даведаўся пра гэта...

Моцны баец, які лёгка ўстае пасьля падзеньня, яна працягвала ваяваць за сваё шчасьце...

Нарадзіла яму сына, абставіла кватэру, выконвала любое ягонае жаданьне, стрыгла валасы ў носе і вушах, рабіла масаж, педыкюр... але прайгравала раўнд за раўндам.

Калі будзільнік расколвае мутнае люстэрка сну, яна доўга ня можа зразумець, дзе знаходзіцца, часта ёй падаецца, што яна ў беларускай вёсцы і трэба даіць карову.

Зь цяжкасьцю ўстаўшы, падыходзіць да люстэрка і ад жаху нямее... Хто гэта там?

На яе глядзіць незнаёмая жанчына. Куды дзеўся былы faschion-імідж, маска бестурботнага жаночага шчасьця...

Час струменіцца па крузе ўніз. Яна ўся застывае ў чаканьні чарговага візыту ягоных цётак, мэтафізычных носьбітаў законнасьці.

“Du muss Raus!”

Жыцьцё цячэ, як пясок з-пад падмурка, які хістаецца, зьбіраючыся паваліцца...

Наперадзе віткі невядомасьці...

## Роднае

Мікалай, Васіль і Валодзя насілі прозьвішча Зінгер, былі сваякамі. Родам усе з адной вёскі ў Казахстане, працавалі там трактарыстамі. У Нямеччыне ўладкаваліся добра, у кожнага свая хата, машына, у хаце ўсё як належыць. Але нуда па Радзіме заядала. А тут, адкуль ні вазьміся, прыехаў зь вёскі яшчэ адзін Зінгер – Санька. Прывёз пару пляшак дэнатурату. Гулялі ўсю ноч. Архаіка казахскіх вёсак звалілася на бэрлінскі асфальт...

Раніцой адзін асьлеп, а двое так і не прачнуліся...

Камісар паліцыі, стары баварац, пудовая сіла ў твары, казаў:

– Я шмат чаго пабачыў, усё разумею... але ж за вуглом іхняй хаты знаходзіцца “Lidl”, дзе сьпіртное прадаецца па кошце буханкі хлеба!

# Юбілей

Сёньня спаўняецца 10 гадоў клюбу немцаў-перасяленцаў “Ліра”.

Сьвята адкрыў бургамістар раёну Копенік.

Хор у швабскіх нацыянальных строях прасьпяваў старую нямецкую песьню аб Радзіме. Затым, зьняўшы строі, пяць гадзін запар сьпявалі расейскія песьні і танчылі пад Алу Пугачову, “Самацветы”, “Нагу зьвяло” і “Глюкозу”.

У фае вэтэраны пілі піва і разглядалі выдатна зроблены ў маштабе 1:100 макет лягера, у якім сядзелі ў Сыбіры...

# Экспарт расейскай вёскі

Побач з Бэрлінам ёсьць дзьве расейскія вёскі – Аляксандраўка і Нікольскае.

У складзеных зь бярвеньняў хатах жывуць нашчадкі расейскіх салдатаў напалеонаўскай эпохі, якія размаўляюць па-нямецку. Але побач ёсьць яшчэ адна – пасёлак лецішчаў, дзе 80 са 130 займаюць расейцы. Улетку там на адкрытым паветры ладзяцца дыскатэкі. Да раніцы чуваць сьвіст, рогат і крыкі: “Танцуюць усе!”

Танчаць пад Верку Сярдзючку і “Ласкавы май”. Немцы ціха стаяць убаку і глядзяць на гэтую сюррэалістычную фантасмагорыю. Часам танчаць таксама...

# На радзіме продкаў

– Гэта ты ва ўсім вінаватая! – паўтарае дзевяностагадовая Хільдэгарт немцы-перасяленцы Марце, суседцы па пад’езьдзе.

– Пасля таго, як мой Ёган загінуў на Ўсходнім фронце, ваюючы супраць вас, расейцаў, я так і ня выйшла замуж...





**ШАМЕЦЬКА Юрась** нарадзіўся і вырас у Менску. Скончыў Менскі радыётэхнічны інстытут. Вершы піша зь юнацтва. Друкаваўся ў беларускіх пэрыядычных выданьнях. Апошнія дзесяць гадоў жыве ў Атаве, Канада

## Каханьне

Мы любім застацца разам,
калі нікога няма.
Твой прыход стаў адказам,
нашыя словы – зіма.
Мы лічым хвіліны ў чаканьні,
каб запаліць сьвятло.
Дзень напаўняецца вечарам,
спакоем цямнее шкло.
Ты любіш слухаць мову,
я люблю глядзець,
Ты носіш з сабою ноты,
мы маем жаданьне пець.
"Пра што? Пра каханьне", –
замаўляеш ты.
"Добра. Гэта ня важна.
Важна тое, што мы адны".
Час, спынены цемрай,
губляецца на скрыжаваньні.
Каханьне – гэта мова
нашага існаваньня,
Яно спрыяе вечнаму...
Доўга б не прыйшло
Жаданьне знайсьці падставу,
каб запаліць сьвятло.

* * *

Пайшоў у поле – стаць халодным ветрам,
каб паляцець над вечнасьцю зямлі,
і аб’яднацца з цішынёй сусьвету,
не шкадаваць дні тыя, што прайшлі.

Пайшоў у лес – каб стаць высокім дрэвам,
каб моўчкі разумець, куды ляціць
увосень лісьце. Водгук патаемны
жыцьця і сьмерці ў яснасьці адчуць.

Пайшоў да рэчкі – стаць павольнай лодкай,
каб плыць і бачыць хараство вакол,
і адчуваць чароўную лагоднасьць
сваёй душы, надзею і спакой.

І не вярнуць той час, які мінуў,
нам не вярнуцца, а ісьці наперад,
каб стаць сабой, а час не абмінуў
жаданьня жыць, з упэўненасьцю верыць.

## Дзеячам Беларускай Народнай Рэспублікі

Дзяржава так была патрэбна
Паверыць, што мы не рабы.
А сэрца млела ў жорсткім пекле
Галечы, цемры і вайны.

Яны пайшлі, каб далучыцца
Да шляху лепшага жыцьця,
З ідэяй вольнай адрадзіцца
Дзеля далейшага ісьця.

За нас за ўсіх на Беларусі,
За гэтую зямлю і рэкі,
Каб беларус навекі мусіў
Зноў называцца чалавекам.

“Жыць Беларусі. Не схіліцца!” –
Ёсць праўда ў гэтым гучным сказе.
А нам ужо не памыліцца,
У нашай постаці мы разам.

## Хлопчык
### *(цыкль “Горад”)*

Калі я вярнуся?
Ня ведаю, можа к зіме.
Горад астылы, поўны спакою,
Цёмны, забыты, зімовы,
Будзе належаць мне.

Дрэвы вялікія, дужыя,
Наладжаныя на цішыню...
Недзе на вуліцы хлопчык знаёмы,
Стрыманы,
бескаляровы,
Сустрэнецца –
не абміну.

Спытаюся, як справы,
Ўбачу вочы і чуб,
І шапку, што мама вязала,
Нітак яшчэ не хапала...
Пазнаю... Бо гэта цуд...

Упэўнена  зразумею,
Што хлопчык гэты ёсьць я...
Трамвай грукатам у такт
Цяжкім,
гулкім і
сонным
Пацьвердзіць, што гэта так.

Калі я вярнуся?
Ведаю, гэтай зімой,
Адчую мой горад знаёмы,
Прыгожы,
нястомлены,
новы,
Той хлопчык будзе са мной.

* * *

Дым плыў у напрамку возера –
Палілі агонь увечары,
Садзілася сонца доўгае,
Каб весьці размовы  вечныя.

Каму гэта трэба полымя,
Што цешыцца, ды ня гасьне?
Каму гэта трэба сонца,
Якім яно грэе шчасьцем?

Мой час яшчэ  не спыняецца,
Агонь і сонца адзіны,
І сьніцца мне кожную раніцу
Твой позірк, такі праўдзівы.

Ня трэба старацца вырашыць...
Што будзе – то будзе з намі,
А мы праз размовы аб вечным
Адчуем, хто ёсьць мы самі.

* * *

Цішыня застанецца попелам
Ад агню, што палілі да раньня,
І душа мая робіцца сокалам,
Адшукаць сабе шлях да вяртаньня.





**ШЧУР Макс** нарадзіўся 5.12.1977 г. у Берасьці. Вершы спрабуе пісаць з 12 гадоў, некаторыя зь іх публікаваў у абласным і рэспубліканскім друку (“Бярозка”, “Першацьвет”, “ЛіМ”, “Полымя”). З 1994 г. — студэнт Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўнівэрсытэту, сябра антыпартыйнай групы “Чырвоны Жонд”. Аўтар вершаванай п’есы “Сьмерць тырана” (1997). З 1998 г. жыве ў Чэхіі, навучаецца на філязофскім факультэце Карлава ўнівэрсытэту (гішпанская і гішпанаамэрыканская літаратуры). Перакладае з чэскай, ангельскай, гішпанскай. Выдаў зборнікі вершаў “Спадыня Адзіноцтва” (Берасьце, 1993), “Амфітэатар” (Гданьск, 1999), “Раньні збор” (Стакгольм, 2006). Друкаваўся ў часапісах “Крыніца”, “Правінцыя”, “Nihil”, “Arche”, за мяжой — у выданьнях “Ariel” (Швэцыя), “Plav”, “Babylon” (Чэхія). Заснавальнік сайту ***www.niamiesta.net***

## Зь нізкі “Амфітэатар Revisited” (2008)

* * *

У траўні Берасьце нагадвае Трышынскі цьвінтар
безь вядомых імёнаў, безь безыменных герояў
аднафамільцы вымушана ўспрымаюцца як сваякі
пад густою лістотай, яшчэ гусьцейшым пылам
перавалачны пункт грэка-рымскае барацьбы
між магільнымі надпісамі, зорны прастрэл заміж сэрца
нярадасна тут памерці, быць пахаваным, жыўцом у тым ліку,
таму паэзія тут — мастацтва плянаваньня хаўтураў
і складаньня сабе эпітафій і нэкралёгаў
ну хіба не шаленства?
за вамі адзіна выбар жанру і мовы
а вырвацца за агароджу — як самагубства
разумею ахвоту блюзьнерыць,
бухаць, трахацца між магілаў, спраўляць патрэбы,
шукаць працу вартаўніка альбо далакопа,
раздаваць новапрыбылым
скрадзеныя на іншых магілах кветкі

сустракаць іх цытатамі кшталту “Пакінь надзею”
прыгаршчамі прадаваць
глебу з усіх канцоў сьвету
праводзіць экскурсіі па нябачных сьцяжынах
адзінае, аб чым тут ня маюць паняцьця, –
неўміручасьць

* * *

Ідучы па вуліцы, я падумаў:
“Тут магла б быць Вена ці Браціслава”,
і адразу адчуўся новапрыблудам,
што ня ведае шляху, зазьзяла слаба

пэўнасьць: “І я б мог быць кімсьці іншым,
напрыклад, сабою праз год ці летась,
Картасарам, Майрынкам, Леанарда да Вінчы,
кім заўгодна, каго меў шчасьце ня ведаць,

значыць, розьніцы мала – сядзець на месцы
ці кудысьці ехаць, усё адносна,
усё адно, жыць далей ці памерці,
здаць у сьмецьце смокінг з чужых абноскаў”.

* * *

У травені памерці сумна –
ня кожны хоча смуткаваць.
Адно сіроцкіх рэчаў сума
спрабуе вернасьць захаваць.

Ты шанаваў іх значна меней
свайго кампутару, а той
табе бяздушна і нязьменна,
штодзённа здраджвае са мной.

## Канец нядзелі

У канцы дня ўсе нядзелі любяць зьлівацца ў адну,
і робіцца відавочным, што астатніх дзён не існуе.
Вакно вяртае падачу ліхтара чужому вакну.
Нядзелі няма канца. Суседзі й стрэлкі заснулі.

Вясна памалу сыходзіць, нядзеля ўсё яшчэ тут,
змушае нас рабіць выгляд, што мы не адчулі сыходу.
Колькі мінула тыдняў за пару апошніх мінут?
Шкада, што нічога такога нельга сказаць пра суботу.

* * *

Сонца на нашых вачах
робіцца чырвоным гігантам,
паказвае нам нашу будучыню
горад спакойны, як акіян,
роўна дыхае

погляд нырае ўглыб
з даху няшматпавярховіка
зь лёгкасьцю прабівае шкло
ніводнага пырску

сонечныя спадарожнікі –
бледная пляма на шыбе
нібы місачка з малаком
шэрая пляма ў сярэдзіне вока

срэбная манэта зьмяняецца на залаты
жэтон, падае ў аўтамат
у шчыліну далягляду

тлусты шпрыц высмоктвае гной сьвятла
з прыціхлых памяшканьняў

ноч падае свой голас.

* * *

Галоўнае, ня як далёка ў часе
застаўся летні і дажджлівы Менск,
нават ня тое, што на працягу
гэтага часу з намі адбылося,
а тое, што мы ўсё гэта тады
прадбачылі з дакладнасьцю ў дэталях
і прадчувалі, лежачы на сьпінах,
нязьменнасьць будучых (цяпер ужо мінулых)
год, летаў, гарадоў і нас саміх.

* * *

Сынонім шчасьця – Прага з бадуна.
Пад сіняй фрэскай – месцы ўсяго сьвету:
вечар у Брно, касьцёл у Барунах...
Ты думаў, будзе лепей? Да ну на х!
Ужо было! (Карэту мне, карэту!)

Ня трэба так крычаць, ты ж не Рэмбо —
ідзі набудзь Букоўскага ў кнігарні,
на працу плюнь (па целіку футбол
нагадвае, карамба, карамболь),
адпачывай, як і бухаў – ударна.

Усё стамляе: праўда і пратэст,
прыгожае, аргазмы і мастацтва,
раскручаныя лёсы a la these –
адкінь ідэалёгіі пратэз
шырокім жэстам кепскае пастаці.

## Амфітэатар Revisited

Чытаючы аповеды пра духаў,
я сам жыву бязгучна, як той дух,
хаваюся ад сьпёкі ў цёмны кут
і назіраю за мэтамарфозай
свайго пакою доўгія гадзіны,
куды я не ўпускаю шмат сьвятла.
Ахоўнік гойнай прахалоды ночы,
я сам сабе здаюся пэрсанажам
адной з карцінаў Вэрмэра з Дэлфту.
Апроч гадзіньніка, нічога не яднае
мяне з маёй эпохай, аніводная
прылада, прызначэньне альбо дзейнасьць.
Я ўсё жыцьцё жыву ў старых карцінах,
выходжу зь іх, як прывід, зрэдчась,
калі ў пакоі зьявяцца чужынцы,
каб іх сваёй усьмешкай напалохаць.
Мне цяжка вызначыць дыягназ ці імя
свайго падвіду, ці замову супраць –
я не такі вялікі студыёзус,
я ўжо забыўся, як гучаў дэвіз
зацёртага за столькі часу герба,
прыдуманага некалі ня мною –
магчыма, я ня меў на яго права –
гляджу ў люстэрка на сваю адсутнасьць
і думаю, куды падзеўся носьбіт

ранейшых латаў, ляўраў, акуляраў...
Цяпер калі я й небясьпечны,
дык, можа быць, адно сабе самому,
хаця ўсе зубы зьеў я на сабаку,
і толькі адзін зь іх яшчэ пульсуе
(хоць я й глушу яго, бы радыё з замежжа),
паведамляючы мне які раз на тыдзень
усю вышэйпададзеную мудрасьць.

## Страшніцэ

Пахаладаньне ў ліпені – адліга.
Адзіна толькі мумія смаўжа
нагадвае аб сьпёцы сіратліва.
Рух – гразьне, перавучаны ляўша.

Як шмат вольнага месца на прадмесьці!
Зрэдзьчась флэш-мобы (цьвінтар – адзін зь іх,
які цяжэй закончыць, чым правесьці),
расьпяты памылкова вадзянік,

былыя бітнікі ля шапікаў а трэцяй,
порнаакторкі з канцылярый фірм,
Тэніэлава котка на партрэце –
якая розьніца, адкуль ісьці ў эфір.

* * *

Зь векам прарыты піксэламі скуры манітор
пад пылам валаскоў згасае больш павольна,
каб не ўключыцца болей аднаго дня,
калі яго нядбайна, нелагодна
ў апошні раз абмые санітар,
і сьмерць увойдзе ў цела, быццам сон,
пацюкаўшы калена малаточкам –
ці не спрацуе розуму кляксон,
ці скончылася бойка невідочных
котак у страўніку? – пасьля чаго сьвяточна
мышшу рукі замкне апошняе з вакон.

* * *

Залевы самалёт надгукавы
ўлез у паветра сонечнай краіны,
і рэчка апусьціла рукавы.
Пад дахам фінішуюць каляіны,

расьце спазьненьне – стаўка на прыезд,
хвалююцца набітыя трыбуны.
Размова пераходзіць на Трыест
і Джойса. Спадзяюся, легкадумны

нашчадак, што аднойчы гэты верш
(ці проза) дапаможа табе трахнуць
тваё дзяўчо – з табой вазьму я верх
і скончу тваёй хуцьцю – каб я спрахнуў!

* * *

Старыя душой і юныя розумам,
яны баяцца ня быць сучаснымі:
карыстаюцца СМС-камі й падкастынгам,
лацінкай і матэматычнымі знакамі,
пішуць дзёньнікі на лайвджорнале,
атрымліваюць прэміі ды стыпэндыі,
выдаюць зборнікі і часопісы,
ладзяць слэм-чытаньні й пэрформансы,
выкладаюць на катэдрах і канфэрэнцыях,
выклікаюць авацыі і сымпатыі,
спадзяваньні і ўсё, апрача хіба зайздрасьці –
толькі рэўнасьць пры карыстаньні імёнамі
тых, з кім ня маюць нічога агульнага.

* * *

Верасень падкарэктоўвае пляны,
што жнівень хацеў на яго перакласьці.
Неабавязковы й неабавязаны,
ён вернасьць захоўвае восеньскай касьце

непраціўленцаў і непрадрашэнцаў.
Што тут сьпяшацца, як час на гарбату –
топчуцца ў сенцах ва ўсім мностве сэнсаў
прыцемкі году ў чаканьні шабату.

Сядзем за стол, раздамо, бы таблеткі,
дробныя карты – суцеху для блазнаў.
Стомленым целам не супрацьпаказаны
лёгкі масаж рэвальвэрнай рулеткі.

## Вайна і мір

Лета, праведзенае ў Стакгольме
ў пары з залежнасьцю (алкагольнай),
прайшло, не ўвасобіўшыся ў радкі.
Помню, сьпёка спустошыла горад, помню,
што ў некаторай з краінаў поўдню
на выезьдзе рэзаліся ў гарадкі.

Дзе ўзяць цікавасьць да алімпіяды,
калі ў небе кланующца клоўны да ўпаду,
пляцэнтай адкідваючы парашут?
Тут жа град хіба па страсе зашклёнай
папкорнам скача й б’е па калёнах
нічым ня ўзброеных харашух.

Адзіна ў веласіпедных касках,
хрыбты сагнуўшы, у вулках праскіх
ад жоўтай поўні адстаюць ліхтары,
ды яшчэ ўначы ледзь ня кожнай хвілі
завываюць сабакамі Баскервіляў
арбалеты з лапкамі дагары.

* * *

Зуб пчалы калоціцца аб шыбу ад холаду
паплыўком, што рэагуе на зьмену эпохі
ў забабонаў цела на паваду.
Эпахэ-апахалам схаваны посьмех.

Восень адчыняе вячэрнія санаторыі,
каб лячыць алькаголем ад боязі цемры.
Да зімы з пацыентаў дажывуць некаторыя.
Час бяжыць, пакідае ў кватэрах паперы,

сшыткі, дзе запісы і мэтафары
насустрач адны адным прабіваюць
тунэль, маўляў хрысьціяне і барбары,
чарвякі сумневу, што здаўна выядаюць

цела Бога, яблык маўчаньня цнатлівага.
Дзеці, крыўляючыся, зазіраюць у старасьць.
Узрастае, здаецца, нат тлі вага,
і ты сам набываеш дада(т)ную вартасьць.

## Прывітаньне (з) Ісьляндыі

*Марыйцы Мартысевіч*

У восені ў крыві непрадказальнасьць:
хто б ведаў, ці напішаш ты хоць верш,
ці ёсьць між імі нейкая каўзальнасьць,
як між ільдом і каўзалём, ня менш?

Адсюль патрэба ў сонечнай разьвёрстцы
па белай пампе ільдзяной зямлі.
Каб першым землямерам быць на вёсцы,
на сэктары рысунак падзялі.

Пад лінзай небасхілу ўсе дэталі,
бы ў кроплі, усплываюць з глыбіні
прыблізнай мапы, каб мы у ёй пазналі
сябе колькігадовай даўніны.

Чарговы год лічыльнік абнуляе,
і ты арыентыры абнаві,
і ўбачыш у паўночнай высьпе пляму
ўласнай, даўно засохлае крыві.

* * *

Радзіма спазнаецца ўвосень
(вясну пракручваюць назад):
прыходзіць замірэньне зь лёсам,
зьнікае дужаньня азарт.

Зайздросьціш спрытнасьці вавёркі,
што адкідае шышку прэч,
нібыта конус ад мярзьлёнкі,
ты ж супраць кону – не папрэш.

Што ж, час на дэшыфроўку пахаў
(гнілыя яблыкі = кавун).
Тэрмомэтру чароўным махам
папрыгажэў людзкі табун.

Данайцы шлюць у места зь вёсак
Даніну – водараў дэсант...
Радзіма спазнаецца ўвосень.
Любы цяпер – рэпатрыянт.

* * *

Калі ты сыходзіш у ванную, лямпа ярчэе
я пачынаю лепш бачыць жоўта-зялёны водбліск
сьвятла на муры, сінія і чырвоныя цені,
магу ўявіць, што апякуся сьцюдзёнай вадой
і лепш адчуваю ейны хімічны смак.
Мяне палохае хуткасьць майго розуму,
яна нагадвае прыступы шалу – аргазмы наадварот.
Камары садзяць чырвоныя кветкі на бугорчыках,
дзе загінула ўжо столькі іхных братоў,
за вакном праясьняецца сытуацыя,
Букоўскі сканчаецца –
гэтая кватэра памятае больш, чым я сам.
у ёй ніхто ніколі ня жыў, апрача мяне,
яна – адзіная любоў майго жыцьця,
у якую я ўклаў жыцьцё:
нас яднае пакута й нянавісьць,
безьліч эякуляцый і меней цялесных экстазаў
цягам мноства іншых начэй, падобных да гэтай.

## Кастрычніцкія

### 1. Вечар

У закураным небе замялі бычок фаервэрку.
Гук вады ў вадасьцёчнай трубе – як з навушнікаў рок,
ды яшчэ плач дзіцяці імкнецца прарвацца ў кватэрку,
каб адсутнасьці спраўдзіць акустыку, бы незнарок.

Пуцяводныя ніткі пражэктараў цягнуць вагоны,
быццам рыбу лупатую з мутнай начной глыбіні.
на 3D-акуляры дыхнуў перагар самагонны –
іх ня зьняць, не разьбіць, не стачыць, не працерці ані.

Ліхтары нацягнулі ў знадворным тумане палаткі,
ды кудысьці разьбегліся ўсе цыркачы, гледачы...
Не ўключайце адразу сьвятла па вяртаньні дахаты –
дайце служцы старой ад абрыдлых гасьцей адпачыць.

### 2. Раніца

Як перамотка на пачатак,
бяжыць жыцьцё скрозь жалюзі
туды й сюды між сонных хатак,
і ты бяжыш, да жалю, зь ім.

Вядуць на вадапой будоўлі
кран за даўжэзную аброць.
Працоўны дзень падасца доўгім,
бы жудзік, бачаны шматкроць.

### 3. Дзень

Для дамоў бяз шыбаў вечар настаў хутчэй,
бо замест асьвятленьня ў іх – жаўцізна фанэры.
Рэчку места пяройдзеш там, дзе яна плытчэй
і шырэй разьлілася ў пойм тваёй наасфэры.

Абыходзіш горад з мэтай прабрацца ў тыл
па мясьцінах, дзе роўнядзь рэдкай яго тканіны
не ўтварае складак, здадзеная ва ўтыль,
і дзе вулкі не заламляюцца, як цясьніны

ці прамені, дзе зьзелянелы расьпяцьця знак
абяцае дзівосны лек ад усіх хваробаў.
Дрэва шле самалёцік-ліст, разьвітальны ўзмах –
яму жылы наркотык жыцьця наскрозь пакаробіў.

## Экспромт

Юная пара вясковых буржуяў
ложак стары перад хатай сьвяжуе.

Корабу выпусьцілі ўсе вантробы,
рэшту рыхтуючы да гекатомбы,

ці калі слушна сказаць – аўтадафэ.
Новы набыты. Стары ложак – на фіг.

Кінулі побач кальчугу спружынаў –
ржавая кроў на шкілеце, сьвяжына.

Шчасная парачка вылезла з чуму
экалягічную спраўдзіць задуму.

Месца ў кватэры няма ані трошку
ложку старому з-за новага ложку.

Новы нядаўна набыты ў IKEA –
болем ад зборкі запясьце калее.

Можа, ахвяры праклён у тым болю?
Значыць, праклятыя – мы два з табою.

* * *

Яшчэ лістапад, але ўжо безь лістоты,
аголенасьць сьвет прасьвятляе навокал,
карціну напоўніўшы болей глыбокім
і сэнсам, і фонам, і рынецца вока
ў атаку на дрот хмызьняковы, на доты,
на кропкі агнёвыя ў месьце далёкім,
каб трапіў у зрэнку снарад навылётны
пахмурнага сонца з тупой акаёмкай
і вечар пачаўся, нібыта на Поўначы —
апоўдні, чаканьнем на поўню час поўнячы.

## Чытаючы Кліму

Ад тлустага раману вее холадам —
прылашч яго, замест каб прагарнуць,
крані хрыбет — старонкі пойдуць ходарам,
па целе разальюцца, як іртуць.

Віном, як плязмай, падзяліся з кнігаю,
хай кроплі лічаць час замест пяску,
пакуль зямлю то ў жар, то ў холад кідае,
як наркамана на адхадняку.

## Ноўтбук

*Ты павінен навучыцца любіць рэчы больш за людзей...*
***Кліма***

Толькі калі ён невылечна захварэў,
мы выцягнулі з пылу яго кнігі
на ўсіх незразумелых мовах сьвету,
каб разабрацца, што ён быў такое —

бяз дай прэтэнзій на арыгінальнасьць
ён быў усім — усёмагутным, крохкім,
надзейным, мудрым — толькі што ня вечным

хутка старэў, заўжды на крок наперад
у веданьні, умеў згуляць і ў карты,
суцешыць показкай, праверыць нам урокі...

створаны для далёкіх падарожжаў,
ён бачыў з намі дзьве ці тры краіны
з узросту двух гадоў хварэў на сэрца

і навучыў хадзіць нашыя пальцы
па хісткіх клетках тратуараў мовы

(за што мы ўзнагародзілі яго
нястройным шэрагам іконак на дэсктопе)

і разам з тым ён быў старым дзіцём,
якому дактары пры нараджэньні
прарочылі жыцьця гадоў на дзесяць,
цягам якіх ён збольшага маўчаў
ці спаў, нібы адданая жывёла,
ня ў здогадзе, як блізка мы да сэрца
ўспрымалі ўсе ягоныя капрызы

цяпер ён дасягнуў сваёй Саньясы,
нязьменнасьці, замкнёнасьці люстэрка,
нязьменнай абыякавасьці люстра,
што сьніць сваё Сьвяшчэннае пісаньне,
дыктуючы нязграбнаму храністу
нязьвязныя, забытыя ўспаміны

гуляе сам з сабою ў кошкі-мышкі,
як часьцяком гуляў калісьці з намі

ці знойдзем мы калі замерзлае вакно,
што зразумее пальцам накрамсаны іерогліф
з паўдотыку, каб успрыняць яго як просьбу
дзіцяці да магічнага touch-pad'у, да кішэннай
скрыжалі, на чыёй паверхні зноў праступіць
сэнс нашай сувязі з сабою і з сусьветам?

* * *

*Сяргею М-ку*

Зьяжджаючы, бярэм з сабой ня жменю,
а пуп сваёй зямлі, адзіны компас.
І ўсё-ткі пазыўныя пакаленьня
накрыюць сваёй хваляй часьцяком нас –

мы травім байкі, показкі і былі,
даводзячы, што за дзесяцігодзьдзе
расстаньня анічога не згубілі –
то бок згубілі ўсё й наўрад ці знойдзем.

# Канец зімовай кампаніі 2008 году

*...and for his passage*
*the soldiers' music and the rites of war*
*speak loudly for him.*

***Hamlet***

Ты задзьмуваеш сьвечку, я сёрбаю супу з лыжкі,
падае сьнег у шклянцы – штучны, ад вітаміну.
На(стр)пой сьвяточны прыдбаны – у сілу ўступілі зьніжкі.
Нібыта ў канец тунэлю, сьняжынкі амфэтаміну

ляцяць жамярой да сонца, што пачало вяртацца,
цішком штурхаючы шклянку зімы на край раўнадзенства,
джын выпушчаны з бутэлькі. Ня выпіць яе – вар'яцтва,
выкінуць грошы ў сьмецьце – дзікасьць, амаль блюзьнерства.

Зь лепшых гадоў ніводны мы не праводзілі гэтак
самааддана, пільна, быццам на сьмерць дванаццаць
порцый гарматнага мяса ў аднастайных пакетах,
хуценька сфармаваных з хворых і навабранцаў.

Мы не капітулюем! Мы адступаем з баямі
па пройдзеных намі сьцежках углыб бацькоўскіх абшараў,
агромністага балота, раскінутага за намі,
дзе водзяцца партызаны, падобныя да кляшараў,

з нашых юначых кніжак, ладзяць вылазкі ў нетры
акупацыйнай зоны, грэюцца ля цяпельцаў,
крэсьляць мапы па памяці, ставяць пасткі на нерпаў,
нагадваючы фальклёрных вадзянікоў-тапельцаў.

Можа быць, лепш застацца ў лягеры для палонных,
акупаванай вёсцы, стацца калябарантам
зь ляўрамі Герастрата, міру вярнуць пагоны,
зь верай у падвышэньне здацца ў запас – а раптам?

Упарта, як чарапахі калені тараняць бога,
каб зьняў зь іх цяжар сусьвету й падштурхнуў да рашэньня
змусіць да эвакуацыі штаб і сябе самога,
прынамсі, для падрыхтоўкі наступнага адступленьня.

# З новых вершаў (2009)

Прывід апартэіду ў шахматнай бамбаньеры
нам адчыняе дзьверы ў новыя інтэр'еры.
Дрэвы пакрыты сьнегам, быццам кампутар – пылам,
загадзя шлях рыхтуюць будучым Тэрма-пілам.

Новыя далягляды ў пашчы зубоў піраньніх
вокнаў – браты-блізьняты колішніх, старадаўніх.
Стос неспажытых кніжак стогне пад ціскам зьніжак –
выкупі частку ўласнай кармы з абдымкаў хіжых,

дыск пратэрмінаваны выцягні з братняй ямы –
не, мы не мэляманы, проста запоўніць плямы
ў мапе благога густу, драйву паддаць і дусту
ў топку машыны часу, паспрабаваць вярнуцца.

Толькі сябе старога не прадасі нікому,
не дэшыфруеш цераз сонечную глаўкому
гіерогліфаў сьнегападу, ня вырашыш без падгляду
ў ключ мэтафараў ззаду верша свайго шараду.

Круціцца па інэрцыі, бы лятарэя пральні,
сэрца майго вінчэстар, вакуўм недатыкальны,
і выпадае ў нэце, бы ў гульнявым аўтамаце
пара тых самых вокнаў – значыць, час зачыняць іх.

* * *

Перад прыездам, як сьмяротным пакараньнем,
дзень прысьвяці жыцьця звычайным рытуалам –
сну, целіку, чытаньню, рыфмаваньню –
не віртуоз, ты быў прынамсі віртуалам,
за што адкажаш, хутка стаўшыся рэальным,
таму раскрый пазногці-дужкі, прымі ванну,
як госьцю рэдкую ў касьцюме пены бальным,

чакай званка – цябе паклічуць неўзабаве
з асобнай камэры на эшафот крывавы,
дзе цябе спусьцяць, нібы ў дзірку ў прыбіральні,
па хуткае лыжні ў абдымкі славы,
у карагод бязглуздых дзеяў пастмартальны,
а не паклічуць – застанесься параўнальна
жывы й шчасьлівы, параўнальна нецікавы

чакаць амністыі, як тыгр у капкане
чакае з паляўнічымі спатканьня.

* * *

Інкогніта
вяртаюся ў хоць няродны, адылі бацькоўскі горад,
як асуджаны партызан ці манарх, пазбаўлены ўлады,
у адным з сваіх страшных сноў – кароткія пераночкі,
хуткія перасоўваньні, грамадзкія прыбіральні,
каб адарвацца ад ценю, што сабакам бяжыць наперадзе,
замяняючы целу компас, тым часам як духу – люстэрка.
Горад: такі сама дакладны й з дакладнасьцю такі самы,
як ягоны вобраз у памяці, зусім цябе не зьдзіўляе
й ня вабіць прынамсі гэтым, адылі – людзі, абліччы
здаюцца неверагодна іншымі, блізкімі да інтымнасьці,
гожымі – нават чужыя, а што ўжо казаць пра знаёмых,
што лічаць мяне ўваскрослым. Я разьвітваюся зь імі
задоўга да ўласнай сьмерці, але назаўжды, сумленна –
так, як будуюць саборы.

* * *

Гартаю сьпіс тэлефонаў у мабіле
чытаючы ў цемры кніжку
са зьлепленымі, як вочы, старонкамі,
чый зьмест мне аднекуль як быццам вядомы –
дзякуй, сябры.
Нарэшце
парад вашых простых імёнаў
на братэрскім манумэнце экрану
здолеў
аказаць мне першую і найбольшую,
бо адзіна магчымую дапамогу.

* * *

У панэльных дамах мы жылі ў ілюзорным сусьвеце:
ледзь ня цэнтрам галяктыкі мроіўся мікрараён,
асабліва зімой, калі, быццам гірлянда ў суседзяў,
згодна з школьным законам у небе ўзьнікаў Арыён.

Нас выхоўвалі чыстыя геамэтрычныя формы,
не было недахопу ў барока, як надта зямным,
бо маліліся ціха да прыстасаваньняў і зор мы,
і фантастыкай звалася ўсё, што нагадвала сны.

Мы жылі, быццам сьвету наўкола больш не існавала,
і зьбіралі кунсткамэры ў нетрах стандартных кватэр,
дзе альбом ці партрэт мелі статусы арыгінала,
і падзеі вякоў адбываліся тут і цяпер.

Нас бянтэжылі лішнія словы, няшчырыя фарбы,
незалежна ад стылю, празьмерная вера й цынізм,
мудрагельства й наіўнасьць — наш хібны разьлік азначаў бы,
што міжзорны каўчэг немінуча абрынецца ўніз.

Хто зрабіў гэты крок і парушыў яго гермэтычнасьць?
Што з пакінутай станцыяй? З кім каляровы экран
размаўляе на роўных? Ці ўзьнёслую геамэтрычнасьць
захаваў для падлеткаў плятонаўскіх эйдасаў храм?

Сёньня шмат каму з нас не стае кіслароду пад шлемам,
і зьнікае цікавасьць да зор з набліжэньнем да іх,
і надзеі няшмат, што каўчэг пазыўныя дашле нам
па нэўронах, напятых мільярдамі год сьветлавых.

* * *

*(насьледаваньне А. Колінасу)*

Вёсачкі, што мінаюць за адну цыгарэту,
з чатырохкутнымі фартэцыямі могілак,
згубленымі ў бязьмежжы чужыннага часу,
пад аховай плячыстага, адборнага гарнізону,
дзе старыя дамы варагуюць з новымі праз дарогу
і вераць у шчасную зорку — лога выробніка шакаляду,
што на кожным вакне і ў скрыжаваньні шчытоў-напрамкаў
нагадвае пра прыналежнасьць да крыжацкага ордэну.
Атолы сьнегу тонуць у акіяне ўзаранай глебы, такім ціхім,
што гукі матчу лякальнага першынства,
парадыйнае рэканструкцыі гістарычнае бітвы,
чуваць усім заўзятарам у вакольлі
не праз радыё, а празь бясплатную сыроватку паветра
колеру вады пасьля мыцьця рабочае вопраткі.
Ніхто ня ўзгадвае забітых вояў сярэднявечча,
але іхнай прысутнасьцю ўгноены краявід
прамаўляе наўпрост да сэрца ў абыход розуму
па-гусіцку дасьціпным вайсковым манэўрам
і трапляе ў вечнасьць у абыход сучаснасьці
тысячай сьвісьцячых стрэлаў хвойнага лесу.

## Валянцін Тарас (1930 — 2009). In memoriam

Мы гулялі ў вайну. Вайна гулялася з намі.
Так, ад гораду й люду найлепшая схованка — лес.
Бой быў шчыры, бяз правілаў. Гэта пазьней мы спазналі,
што чужым можна быць між сваіх. Але між, а ня без.

Мо й дарэмна працягвалі слухаць загады старэйшых.
Натуральна, сьмяяліся. Выбачце, быў такі грэх.
І жылі сьвятым духам — сьвятым, як вам сёньня ні сьмешна:
марай жыць па начах і ня чуць над пілоткамі стрэх

самалётаў, а толькі машынкі друкарскае чэргі,
і правальвацца пальцамі ў кнопкі, ня ў купкі дрыгвы.
З гэтым шчасьцем упоравень рэшта — пустыя мітрэнгі.
Не дай бог, каб аднойчы пра мір гэтак марылі вы.

Мы хацелі замала для вас? Ці замала зрабілі?
Не стварылі дзяржавы? Ня грымнулі ў сьвеце імём?
Дык зрабеце за нас. Наша кроў і любоў дай вам сілы —
мы вам дадзены час ужо зь лёгкасьцю пераржывём.

* * *

Надвор'е, бы ў кампутарнай гульні,
мяняецца штодзень, нібы штоўзровень,
накшталт мэню — бязь лёгікі ані
патрэбы, быццам вопратка ў князёвен:

то высыпе асфальт пабітым шклом,
як дзецям навагоднія касьцюмы,
каб кожны падаў, бы нясьмешны клоўн
(што толькі ні навязваем дзіцю мы)

у лужын неядомы халадзец,
замерзлыя дзіцячыя сакрэты,
якіх няма цікавасьці глядзець —
а то, кілішкам сонечным сагрэты,

вакольны сьвет вяртаецца назад,
каб пераржыць спакойна, без чаканьня
канца ўсяму, мінулы лістапад,
што сакавік нагадваў надзвычайна.

* * *

Люблю самотныя нядзелі,
калі галоўныя падзеі –
абед, касьцёл, чыясьці сьмерць,
ня менш прывабныя хрысьціны
й збаўленьне часавай пухліны,
зь якім баісься не пасьпець –

галасаваць за раўнадзенства
так ці іначай давядзецца,
часавы пояс зацягнуць:
багі ласкавыя з Валгалы
на адрас здрадніка трывалы
гуманітаркі не дашлюць.

Вясна: штогоду горшы кавэр
старой вясны, мне не цікавы –
арыгінал я больш цаню.
Шалець па ведамым – навошта? –
і тым ня меней, тым зайздрошчу,
хто яго чуе ўпершыню.

## Шкада

Як хлеба, што намыліў цела плесьняй,
шкада мярзьлёншчыка катрынкавае песьні
пад вокнамі камфортнае турмы.
Шкада вясны канца тысячагодзьдзя:
яно ня прыйдзе – хай, але й ня пройдзе;
шкада сябе – што зробіш, бо дурны.

Шкада рукі, пакрытай валаскамі,
бы рэштай лускі – смаката марская,
шкада ўжо пройдзеных завулкаў, тэкстаў, сноў –
як першага ўсьвядомленага паху,
як першага свайго “ідзі ты на ...”,
прамоўленага гэткаю ж вясной.

Шкада ад сну забытага пароля,
вузла – чужога досьціпу сымболя:
дзе ж памяці канкураваць яму! –
шкада зануднай будучай цямрэчы,
і не шкада адной адзінай рэчы –
што нарадзіўся трыццаць год таму.

# Сямнаццаць імгненьняў музы, альбо Бататуйская літаратура XX стагодзьдзя ў эміграцыі ад А да Я

## *(старонкі з энцыкляпэдычнага даведніку)*

*Л. Юрэвічу*

*Пад уплывам першай кнігі чылійца Рабэрта Боланё “Нацы-літаратура ў Амэрыцы”, якая мне зь нейкай прычыны (магчыма, сваёй борхэсаўскай па сутнасьці ідэяй і маштабнасьцю яе рэалізацыі) адразу спадабалася і падабаецца да сёньня, я вырашыў стварыць аналягічную псэўдаэнцыкляпэдыю эмігранцкіх аўтараў адной асобна ўзятай усходнеэўрапейскай краіны. Як і ў Боланё, гэты твор імкнуўся быць плёнам амаль чыстай фантазіі – прынамсі, усе імёны прыдуманыя і ня маюць адпаведнікаў між рэальных творцаў, таму загадзя папярэджваю калег ад спробаў “пазнаць” у іх сябе ці кагосьці іншага – яны прынясуць вам толькі расчараваньне.*

***М. Шч.***

**Арахновіч, Дэлія** (у замужжы графіня фон Боген, нар. 1941) – дачка вядомага дзеяча бататуйскага дыктатарскага рэжыму, міністра гаспадаркі Паўла Арахновіча (1912 – 1976), якая праз некалькі год пасьля таго, як выйшла замуж за нямецкага шляхціца, афіцыйна выступіла ў заходнім друку супраць палітычных поглядаў свайго бацькі й адраклася ад яго, праз што кар’ера апошняга ў міністэрстве рэзка пайшла ўніз. (Паводле зьвестак з канфідэнцыйных бататуйскіх крыніцаў, ён скончыў самагубствам пасьля публікацыі прысьвечанага яму дочнага раману “Тропікі ўсюды” – у чаканьні амаль непазьбежнага арышту органамі дзяржбясьпекі на сваім лецішчы пад Мэгаполыскам.) Скончыла Мэгаполыскую Акадэмію прыгожых мастацтваў у 1963 г. Выкладала харэаграфію, нейкі час працавала як прафэсійная танцорка ў Нацыянальным тэатры опэры й балету, падпрацоўвала ў падпольных сталічных кабарэ, прызначаных для партыйных босаў і замежных дыпляматаў. Пазнаёмілася з мужам у 1970 г. у часе гастроляў танцавальнай трупы Нацтэатру ў Гамбургу, прыняла ягоную прапанову рукі й сэрца й засталася за мяжой. Ад таго часу сталася хатняй гаспадыняй – хаця сама называла сябе ў нешматлікіх вядомых нам інтэрвію “мастацкай кіраўніцай зладжанай трупы адданых пакаёвак”, якіх насамрэч навучыла выконваць у часе хатніх працаў розныя танцы, у тым ліку і танец жывата. Пасьля напісаньня свайго адзінага (прынамсі, у мінулым стагодзьдзі) раману “Тропікі ўсюды” і перакладу яго на нямецкую мову сталася (у тым ліку і дзякуючы мужавым намаганьням) літаратурнай зоркай, атрымала прэмію зямлі Памэраніі “Літаратурнае адкрыцьцё году”, сыйшла ад мужа (судовы працэс у справе разводу працягваўся да самай ягонай сьмерці й скончыўся нічым) і пераехала ў ЗША.

Уласьцівая першапачатковай прафэсіі Д. А. чульлівасьць – галоўная характарыстыка ейнага невялікага па аб'ёме, але вялікага паводле задумы раману. Твор ільга характарызаваць як бесьсюжэтны і бесстароньне-сатырычны, аднак некаторыя дэталі ў тэксьце (апісаньне полавага жыцьця дэльфінаў) дазваляюць зь вялікай доляй пэўнасьці выказаць здагадку, што ягонае дзеяньне адбываецца на караблі. Апісаньне ўяўнага марскога падарожжа, стылізаванае пад свайго кшталту дзёньнік, які галоўная гераіня вядзе спаміж радкоў капітанскага журналу (таямнічы Капітан, які ніколі не выходзіць на палубу – сымбаль патрыярхальнай мужчынскай улады, які прадстаўляе ў рамане антытэтычны фалялёгацэнтрычны дыскурс).

Факт напісаньня раману ў бататуйскай мове, чый лексыкон ня самым лепшым чынам прыстасаваны да апісаньня трапічных рэалій і пагатоў не вызначаецца багатай марацкай тэрміналёгіяй, крытыкі тлумачаць перадусім недастатковым веданьнем Д. А. іншых моваў. Як вядома, лёс бататуйскага арыгіналу раману быў незайздросны з прычыны перадузятага стаўленьня да тэксту ідэалягічна і лінгвістычна пільных рэдактараў эмігранцкіх выданьняў, якія фактычна не пакінулі ад раману жывога месца. Вось толькі некаторыя ўрыўкі, якія былі выкінутыя з эміграцкага выданьня “Выгнаньнік” цэнзурай:

“Яна не магла не адчуваць, што гэтае салёнае мора было створанае для яе, ягоны смак нагадваў ёй смак мужчынскай хуці, і яна выплюнула ваду з такой сама агідай, як рабіла гэта звычайна з насеньнем сваіх каханкаў”.

“Як вядома, пах мэнструальнай крыві нагадвае смурод, які пакідае нараніцу ў роце спажытая ўвечары сялёдка з цыбуляй. Таму заўжды, калі ў Адэлі пачыналіся месячныя, гэта нагадвала Пятру аб незваротна страчанай Бацькаўшчыне”.

“Нараджэньне дзіцяці пакінула яе халоднай. Яна ляжала ў паўнепрытомнасьці пасьля наркозу і ціха радавалася таму, што вялізны штурхлівы камяк, які не даваў ёй жыцьця на працягу апошніх дзевяці месяцаў, нарэшце пакінуў ейнае цела ў невядомым кірунку”.

Пасьля бязбожна скарочанай да васьмі старонак публікацыі ў “Выгнаньніку” раман быў выдадзены аўтаркай прыватным коштам у агульным накладзе 100 тысяч асобнікаў, бальшыня зь якіх цяпер захоўваецца ў наўмысна пабудаваным з гэтай мэтай сьвіране. На радзіме раман быў сустрэты з натхненьнем як прыклад маральнага разлажэньня эміграцкай культуры.

Маці траіх дзяцей, жыве ў Каліфорніі. Пасьля сьмерці мужа са зьдзіўленьнем даведалася, што пры жыцьці ён быў заўзятым наведвальнікам казіно і не пакінуў ёй у спадчыну нічога, апроч тытулу. У дадзены момант перакладае свой раман на ангельскую мову зь нямецкай – злыя языкі ў мэтраполіі сьцьвярджаюць, быццам узровень ейнай і дагэтуль нягеглай бататуйскай мовы ўпаў за акіянам настолькі, што аўтарка сама перастала разумець створаны ёю ў гады маладосьці раман.

**Варштат, Пятро** (нар. 1928) – выдавец найбуйнейшай эміграцкай газэты “Ня ваша дзела”, якая выходзіла на створаным і кадыфікаваным ім самім варыянце бататуйскай мовы, яскравы публіцыст, паліглёт. Асабісты сакратар А. Канона і перакладчык ягонага эпасу “Вечная Ідэя” на ангельскую, лацінскую і кітайскую мовы, а таксама на ўласнаручна кадыфікаваны літаратурны варыянт бататуйскай. Паводле сьведчаньня жонкі А. Канона, працаваў над

перакладам паралельна са стварэньнем эпасу, што надзвычайна раздражняла самога аўтара, тым больш што параўнаць пераклады П. В. з арыгіналам ён быў няздольны з-за няведаньня моваў перакладу.

П. В. нарадзіўся ў сям'і вясковага настаўніка, у якасьці добраахвотніка пасьпеў паўдзельнічаць у стварэньні школьных аддзелаў Бататуйскай гаёвай абароны незадоўга да адступленьня з краіны гітлераўскіх войскаў – з мэтай стацца ў атрадзе найстарэйшым штучна завысіў у дакумэнтах свой узрост на 10 гадоў, спрытна пераправіўшы ў даце свайго нараджэньня двойку на адзінку. Гэта стала для хлопца лёсавызначальным: неўзабаве ён быў вымушаны пакінуць сваю любую бацькаўшчыну ў адзіным магчымым кірунку – заходнім. Атэстат сталасьці атрымаў у лягеры для перамешчаных асобаў толькі ў 1948 г., калі яму, паводле ягоных афіцыйных дакумэнтаў, было ўжо трыццаць – чатыры гады спатрэбіліся яму на вывучэньне літаратурнага варыянту бататуйскай мовы, зь якім ён ніколі так унутрана й не пагадзіўся, а пагатоў не атаясаміўся. Пасьля свайго звальненьня з радыё "Падбухторшчык" празь нязгоду зь ягонай навязанай заходнімі спонсарамі назвай заснаваў у 1954 годзе ў Лёндане першую сур'ёзную эмігранцкую газэту "Ня ваша дзела" (яе папярэднікі, сатырычныя газэты "Перабежчык" і "Апартуніст", збанкрутавалі, паводле адной вэрсіі, празь недахоп друкарскіх машынак з кірылічнымі літарамі, паводле іншай – празь недахоп некаторых уласьцівых бататуйскаму альфабэту кірылічных літараў у раскладзе друкарскіх машынак), чыім нязьменным рэдактарам заставаўся яшчэ і нейкі час пасьля зьмяшчэньня ў псыхіятрычную лякарню, то бок на працягу амаль сарака гадоў.

У літаратуры найбольш выявіў сябе як крытык, чый патрабавальны вытанчаны густ знаходзіў сярод аўтараў-суайчыньнікаў мала ўлюбёнцаў. Найвялікшым паэтам усіх часоў ён лічыў, зразумела, свайго духоўнага сына А. Канона, на другое месца ставіў грамадзянскую лірыку М. Кулака, тым часам як Я. Волату закідаў схільнасьць да фармалізму, А. Пераможнаму – схільнасьць да палітычнага авантурызму і поўную адсутнасьць усялякага ўменьня абыходзіцца з мовай (маецца на ўвазе ў кадыфікаваным П. В. варыянце), А. Лемеш – залішні эратызм ейнага каханьня да бацькаўшчыны, распуснасьць нораваў і адсутнасьць здаровых мацярынскіх інстынктаў. Зразумела, што найбольш ад П. В. даставалася мужу Анісы Лемеш Васілю Васілевічу, якога П. В. кляў на кожным кроку як камуністычнага агента, што сустракаецца ў парыскай "Ратондзе" зь левымі інтэлектуаламі, а ў сваіх гермэтычных вершах дасылае са старонак некаторых эмігранцкіх выданьняў шыфраваныя паведамленьні ў Маскву. Пасьля таго як Васілевіч абвінаваціў яго ў тым самым, П. В. публічна выклікаў яго на двубой, у якім атрымаў цяжкое цялеснае пашкоджаньне бэйсбольнай бітай (пазьнейшыя дасьледчыкі назавуць гэты паядынак першым у гісторыі бататуйскай эміграцыі літаратурным гэпэнінгам, які меўся сымбалізаваць, паводле іх, перамогу маладой генэрацыі літаратараў над старой). Улюбёных празаікаў у П. В. наагул не было – калі нават Ігнат Кабздыр зь ягонай пяцітомнай эпапеяй здаваўся П. В. усяго толькі неперакананаўчым нападабненьнем Віктора Гюго, то казаць пра Дзяніса Скулу, Дэлію Арахновіч і Антося Халімонава наагул не выпадае... Зрэшты, П. В. прытрымліваўся думкі, што проза як жанр даўно памерла і нікому больш не цікавая, тым часам як сынтэзам сапраўднага мастацтва зьяўляецца эпічная паэма. (Асноўныя крытычныя артыкулы: "Вечная Ідэя" А. Канона і "Песьня пра

Нібэлунгаў" невядомага аўтара: паралелі і пэрпэндыкуляры"; "Васіль Васілевіч – хто ён?"; "Псыха-Дэлія і Арахна-фобія"; "Асаблівасьці правапісу ў паэзіі Я. Волата"; "Пераможны ці Недалужны?"; "88 прычынаў, празь якія немагчыма чытаць І. Кабздыра" і інш.)

Вядомы быў і як арганізатар культурнага жыцьця дыяспары, а таксама востры палітычны прамоўца. Асобным айсбэргам па-над неабсяжным маладасьледаваным мацерыком ягонай творчасьці ўзвышаюцца перадавіцы ў "Ня вашым дзеле", у якіх ён рэагаваў на падзеі ў Бататуі й за ейнымі межамі. Вось характэрны ўрывак адной зь іх:

"Напругі навесіць нам іншачужную таяжсамаснасьць з бачва мясьцейскіх пабывакаў мы абматаныя стракаць аднаякотнай непагодай. Тутакашнія "скарбовасьці" нямоглыя спадмяніць нам нашэцкіх уласьцяцкіх скарбовасьцяў, іміж ясуць папярод нашэцкая татуйшчына, нашэцкі мацерын гамон, непадлягайнасьць ай валявосьць. Вотжась, прапазыцыяную ўсчыначваць прывуку мацерыну сьпісоваму гамону з малечых рачкоў у выдарожніцкіх дзяцёвых абсяродках. Гэнто быціцьме нашэцкім найляпейшым высказам усецкім выпробам адасобных магутасьцяў засіліць татуйскую ўзаранку ў гайданцы". (Пераклад: "Намаганьні накінуць нам чужую тоеснасьць з боку мясцовых жыхароў мы абавязаныя сустракаць аднагалоснай нязгодай. Тутэйшыя "каштоўнасьці" няздольныя замяніць нам нашых уласных каштоўнасьцяў, якімі ёсьць перадусім нашая бацькаўшчына, наша матчына мова, незалежнасьць і свабода. Вось жа, прапаную пачынаць навучаньне літаратурнай матчынай мове з малых гадоў у эмігранцкіх дзіцячых школках. Гэта будзе нашым найлепшым адказам на ўсе спробы асобных сілаў задушыць нацыянальную культуру ў калысцы".)

Жыцьцё П. В. у замежжы было надзвычайна сьціплым і малазабясьпечаным: паводле ўспамінаў, ён надзвычай рэдка "адыходзіў ад варштату", то бок выходзіў са свайго габінэту. І тым ня менш, ягоная пакаёўка прыгадвае, што было ў ім штосьці накшталт падваеньня асобы – раз на месяц П. В. выходзіў са свайго пакою позна ўвечары, пераапрануты ў іншага чалавека, з вусамі і барадой, і накіроўваўся ў гарадзкі бардэль. Там ён выгульваўся і напіваўся ў зюзю, пасьля чаго звычайна нічога ня памятаў, а паліцыя прывозіла яго дамоў на наступную раніцу. Афіцыйная бататуйская прапаганда, што доўгі час сачыла за домам П. В., сьцьвярджала, што чалавек, які выходзіў па вечарох ад П. В., – гэта ягоны каханак, і ўвесь час намагалася здабыць каштоўныя кадры гомасэксуальнага кантакту з удзелам П. В., але гэта ёй ніяк не ўдавалася. Таму ўсе гэтыя показкі ільга сьмела лічыць сфабрыкаванымі, тым больш што бардэль, які П. В. наведваў з такою любоўю, быў цалкам традыцыйнай арыентацыі.

Зьехаў з глузду ад тугі па радзіме, дажывае век у Вялікай Брытаніі.

**Васілевіч, Васіль** (нар. у 1935 г.) – выбітны паэт-сюррэаліст, адзіны кавалер францускага ордэну Прыгожых мастацтваў з шэрагу выхадцаў з Бататуі. Эміграваў разам з бацькамі пасьля вайны ў Парыж, дзе спачатку зарабляў на жыцьцё як афіцыянт у славутай "Ратондзе", а пасьля доўгі час працаваў як страхавы агент. Да сёньняшняга дня зьяўляецца таксама адзіным бататуйскім літаратарам, якому пашанцавала выйграць у лятарэю (1970 г.), пасьля чаго адыйшоў ад паэзіі і заняўся пчалярствам (аўтар шэрагу падручнікаў у гэтай галіне, сярод іншага – спэцыяліст па пчалінай камунікацыі, якую выкладаў нейкі час на Калеж-дэ-Франс). Муж літаратаркі Анісы Лемеш, зь якою пазна-

ёміўся ў часе свайго выступу на сьвяткаваньні ўгодкаў абвяшчэньня Бататуйскай Няроднай Рэспублікі ў Мюнхене, які скончыўся скандалам: выступоўцу закідалі загостранымі на канцох нацыянальнымі сьцяжкамі й складзенымі з праграмак урачыстасьцяў самалёцікамі. Паводле ўспамінаў А. Лемеш, пасьля прачытаньня сваёй “Оды Рэспубліцы” паэт з мужнай усьмешкай працягваў стаяць на сцэне, ухіляючыся ад скіраваных у ягоны бок прадметаў з такой віртуознасьцю, што запрошаныя на вечарыну замежныя госьці палічылі ўсю сцэну часткай якойсьці бататуйскай нацыянальнай традыцыі – адмысловым кшталтам народнага тэатру. Што ж выклікала такое абурэньне прысутных? Усяго толькі наступны пасаж оды, якім яна, на няшчасьце для аўтара, завяршалася:

“Кінь, кінь! Паболей кін, кін!
Паболей кпін, кпін! Айчына – згінь, згінь!
Кан-кан!!!”

Менавіта пасьля гэтага выступу Аніса Лемеш не змагла ўстаяць перад шармам паэта і павалілася на падлогу ў нахлыне пачуцьцяў. На наступны дзень удзячны бард прыйшоў адведаць яе ў Мюнхенскі шпіталь, і першым, што яна ўбачыла пасьля дэтаксыкацыі, сталася боскае сваёй прыгажосьцю (як ёй тады падалося) аблічча В. В. Дзяўчына ўспрыняла гэта як знак звыш і ад таго часу пачала размаўляць вершамі, а неўзабаве яны ажаніліся, аднак гэта ўжо крыху іншая гісторыя.

У сьвеце В. В. вядомы перадусім як аўтар прысьвечанай суайчыньнікам паэмы “Каб вас”, напісанай (за выключэньнем назвы) з выкарыстаньнем толькі трох гукаў бататуйскай мовы, але надзіва традыцыйным і нетыповым для яго правільным мэтрам. Прыводзім тут ужо слынны пачатак паэмы, які яшчэ сяк-так паддаецца ўразуменьню, праз што і быў перакладзены на бальшыню эўрапейскіх моў, тым часам як наступных дваццаць старонак твору ўдаюць сабою чысты гукавы экспэрымэнт.

“Каб баб сааб кааб
каб бакс абак кабак
каб как сабак каса
каб абба каса сас
каб каска асака...”

і г. д. Зламысьнікі з шэрагу айчынных крытыкаў у мэтраполіі жартавалі, што мова Васілевіча ў эміграцыі абяднела і звузілася менавіта да гэтых трох гукаў, на што ён у свой час адрэагаваў пагатовым акравершам:

“Баіцеся?
Рыхтуйцеся
Уломкі
Дэбілы” (БРУД)

Прароцтва паэта спраўдзілася. Прызнаньне на радзіме (прынамсі, у творчых колах, аднолькава блізкіх як да палітычных апанэнтаў, так і да апалягетаў

рэжыму) прыйшло да Васілевіча адразу ж пасьля атрыманьня францускага ордэну. Тым ня менш, ён не прыняў афіцыйнага запрашэньня ўладаў стацца пажыцьцёвым членам-карэспандэнтам Бататуйскай нацыянальнай акадэміі навук і прынамсі завочна ўзначаліць у Інстытуце мовазнаўства Аддзел апісак і цяжкасьцяў вымаўленьня. Паводле афіцыйнай вэрсіі бататуйскай крытыкі, гэтага не дазволіла яму зрабіць напружанае чаканьне намінацыі на Нобэлеўскую прэмію, перадумовай атрыманьня якой была абсалютная адсутнасьць кантактаў з айчынным дыктатарскім рэжымам. Парадаксальна, прадстаўнікі бататуйскай дыяспары так і не даравалі В. В. таго, што ён адносна мала ангажаваўся ў нацыянальным руху і ў выніку Нобэлеўскай прэміі (якая магла б стацца першай у гісторыі Бататуі) да сёньня так і не атрымаў, а пасьля афіцыйнага сыходу з паэзіі ў пчалярства наўрад ці ўжо калі атрымае.

Перакладаў з расейскай С. Ясеніна і летапісы "Чылам Балам" з старажытнамайскай.

**Волат, Янка** (1920 – 1998) – без сумневу, найбуйнейшы (як па колькасьці, так і па якасьці твораў) і найбольш унівэрсальны паводле таленту паэт эміграцыі, галоўны канкурэнт Адальбэрта Пераможнага ў змаганьні за права насіць ганаровае званьне голасу свайго пакаленьня (тытул быў заснаваны Сэнатам Бататуйскай рэспублікі ў выгнаньні, але ніводнага разу так і ня быў нікому прысвоены праз адсутнасьць у бюджэце Сэнату сродкаў на выплату зьвязанай з уганараваньнем буйной грашовай прэміі). На радзіме працаваў настаўнікам, у гады вайны меў неасьцярожнасьць супрацоўнічаць з фашыстоўскімі акупантамі (удзельнічаў разам з І. Кабздыром і П. Варштатам у стварэньні Бататуйскай гаёвай абароны) – менавіта тады ім былі зробленыя першыя "спробы пяра" ў жанры патрыятычнай лірыкі. Пасьля эміграцыі на Захад у 1944 годзе неаднаразова вяртаўся дадому ляснымі сьцежкамі з мэтай узнавіць тамтэйшую антысавецкую партызанку, але штоперазу даходзіў толькі да Фінляндыі (з канца 1940-х гг. Я. В. трывала жыў у Нарвэгіі, паводле ягоных уласных словаў, "бязвыезна, хаця і не безвыходна"). Спачатку працаваў інструктарам па адстрэле дзікіх гусей, потым – экскурсаводам у музэі Фрыцьёфа Нансэна. Сям'і не стварыў, але зь дзяцінства любіў хатнюю жывёлу. Рана сыйшоў на пэнсію па стане здароўя, падарванага саматужнымі пошукамі нафты і дакладных выразаў для перадачы хараства нарвэскай прыроды, жыў сьціпла і адлюднена, а ўвесь свой час прысьвячаў выключна паэтычнай творчасьці. Ягоныя вершы адрозьніваюцца ад вершаў іншых паэтаў эміграцыі перадусім багацьцем мовы, шырынёй тэмаў і жанраў, арыгінальнасьцю рыфмоўкі і інш.

"Сутана сутак. Сутанее.
Сучасны горад сатанее,
І сутэнёрская прысутнасьць
Зноў выяўляе сваю сутнасьць.
А я адзін, бяз роднай вёскі
І бабы, верш ствараю собскі".

Зьвярнуў на сябе ўвагу ўжо сваёй першай паэтычнай кнігай "Навылёт" (1950), за якой у хуткім часе сьледавалі зборнікі "Возгры" (1952), "Сплюнь на Парыж" (1956), "Капец надзеі" (1959) і іншыя. Разнастайнасьць паэтычнага

голасу Я. В. нават спарадзіла ў крытыкаў сумневы, што ягоныя творы належаць аднаму аўтару, але ён сам канчаткова абверг гэтыя надуманыя тэорыі ў сваёй адзінай літаратуразнаўчай працы “Як мы пішу” (1974). Дамінуючай тэмай вершаў, гэтаксама як і нешматлікіх апавяданьняў Я. В., зьяўляюцца духоўныя пошукі інтэлектуала ў замежжы.

“Вокала, вокала, вокала –
ворагі, ворагі, ворагі.
Покала сэрца сокала,
Крылаў згадаўшы промахі...”

У выніку глыбокіх развагаў над сваім лёсам аўтар пад канец практычна кожнага верша прыходзіць да высновы, што ад’езд з Бацькаўшчыны быў галоўнай і адзінай памылкай ягонага жыцьця (“Я не хачу батата й ратату – адну цябе, сьвятая Бататуя!”). На трапную заўвагу Пятра Варштата, што калі б Я. В. застаўся на Бацькаўшчыне, ён быў бы асуджаны на сьмерць у бататуйскім астрозе за сваю патрыятычную лірыку ваенных часоў, паэт публічна адрокся ад гэтай лірыкі і назваў яе “нясьпелым плёнам юначага максымалізму”. Тым ня менш некаторыя радкі таго пэрыяду вартыя таго, каб іх працытаваць:

“Чытаю з раніцы “Майн Кампф” –
Які неапісальны кайф!
Я дарагую Бататую
З вэрмахтам разам уратую”.

У канцы свайго адносна небагатага на падзеі жыцьця (дакладней, пасьля сьмерці Адальбэрта Пераможнага ў 1985 г., што спарадзіла чуткі, быццам ненавісны канкурэнт Адальбэрт на адлегласьці выконваў ролю Волатава сумленьня) Я. В. усё-ткі вярнуўся на радзіму (гэтым разам на аўтобусе, за кошт бататуйскага ўраду) і стаўся адным з найбольш зацятых абаронцаў пануючага рэжыму, чаго палітычна сьвядомыя эміграцыйныя колы (П. Варштат, А. Канон) яму ніколі не даравалі. Перакладаў сябе на расейскую, у якасьці адзінага аўтара-эмігранта трапіў у школьныя падручнікі. Пасьля сьмерці Я. В. у шуфлядзе ягонага стала была знойдзеная нізка паэтычных твораў пахабнага зьместу, шырокая падборка якіх прасачылася ў неафіцыйную прэсу толькі нядаўна (бальшыня выданьняў, якія перадрукавалі матэрыял, была неўзабаве зачыненая). Цытаваны тут верш належыць да самых цнатлівых зь іх:

“Дарагая, калі я памру,
Не цалуй мяне ў лоб, але ў пэніс –
Няхай плебс тваю вернасьць ацэніць
Неўміручай душы песьняру”.

Аднак скандальная знаходка не адмяніла рашэньня ўладаў пайменаваць імем Янкі Волата ягоную родную вёску (раней Каратышкіна, цяпер Валатоўка), дзе неўзабаве быў адкрыты ягоны хлеў-музэй (у дзяцінстве Я. В. быў вялікім гарэзьнікам, і ў знак пакараньня ягоныя бацькі пакідалі яго спаць у хля-

ве, тым часам як парог роднай хаты ён пераступіў упершыню ў 24-гадовым узросьце для таго, каб разьвітацца з бацькамі перад ад'ездам у эміграцыю). Пахаваны ў сталіцы Бататуі Мэгаполыску ў брацкай магіле разам зь іншымі вялікімі палітычнымі і культурнымі дзеячамі краіны. Выданьне 20-томнага збору ягоных твораў, фінансаванае Бататуйскім таварыствам аматараў сельскагаспадарчых жывёлаў, не завершанае да сёньняшняга дня.

**Жываглот, Тодар** (уласным імем Хведар Набілкін, 1919 – 1994) – нарадзіўся ў сям'і бататуйскага рабочага і ўзбэцкай настаўніцы матэматыкі ў Баку, рана далучыўся да камуністычнага руху і нейкі час быў песьняром калектывізацыі ў Бататуі, пакуль у 1938 годзе яго не арыштавалі за празьмерную стараннасьць і не адправілі ў Варкуту. Адтуль яму ўдалося ўцячы праз Паўночны полюс у Канаду, дзе ён і жыў да самай сваёй сьмерці. Напачатку працаваў правай рукой індзейскага правадыра Бязрукага Грызьлі, потым – левым абаронцам гакейнага клюбу "Манрэаль Канэдыенс". Псэўданім "Жываглот", паводле меркаваньня Пятра Варштата, быў прыдуманы ім падчас ягонага арктычнага паходу, калі Т. Ж. мусіў насамрэч жыўцом глытаць марскую рыбу, каб выжыць (у сваю чаргу, афіцыйная бататуйская крытыка дала яму пагардлівую мянушку "Адмарозак"). З 1957 г. – галоўны рэдактар літаратурнага часапісу "Выгнаньнік". Як рэдактар адзначаўся выключным лібэралізмам што да формы публікаваных твораў і надзвычайнай строгасьцю ў ацэнцы іхнага зьместу. Дзякуючы такому падыходу тэксты бататуйскіх аўтараў друкаваліся ў часапісе "Выгнаньнік" усімі правапісамі, альфабэтамі і мовамі сьвету, але былі прысьвечаныя адной тэме – ролі гумару ў падвышэньні нацыянальнай самасьвядомасьці бататуйцаў, што выклікала ў кансэрватыўнай часткі дыяспары пратэсты і абвінавачаньні ў залішняй "гермэтычнасьці" выданьня. Тым ня менш, да сваіх аўтараў Т. Ж. быў вельмі патрабавальным: звычайна за публікацыю ў сваім элітарным часапісе ён патрабаваў ад іх ад пяці да пяці тысяч канадзкіх даляраў, у залежнасьці ад аб'ёму матэрыялу і ягонай адпаведнасьці тэме і поглядам самога Т. Ж.

Як літаратар Т. Ж. вядомы перадусім як аўтар побытавых апавяданьняў і п'ес, у якіх ён высьмейваў тых, каго называў "выраджэнцамі" – асыміляваных прадстаўнікоў дыяспары, якія забыліся пра асноўную мэту кожнага эмігранта – змагацца за вызваленьне Бацькаўшчыны. Гэтак, у алегарычнай п'есе "Паглядзі, сава, якая сама" (дарэчы, адзінай у сваім жанры ў гісторыі бататуйскай эміграцкай літаратуры) у якасьці дзейных асобаў выступаюць Сава, Заяц і Воўк, хаця любому чытачу зразумела, што гаворка вядзецца зусім не пра захаваньне рэдкіх прадстаўнікоў айчыннай фаўны:

"Заяц: Сава!

Сава: Са ва. Э туа – са ва?

Заяц: Я не сава, я заяц. Што ж ты, сава, змагаесься за незалежнасьць Квэбэку? А хто за незалежнасьць Бататуі змагацца будзе? Дзе твая мудрасьць? Сумленьне? Гонар? Выглядае, што ты мне ўжо і не таварыш?

Сава: Шэры воўк табе таварыш.

Воўк: Добры дзень, таварышы. Што за разборкі ў бататуйскім асяродзьдзі? Ці не пара нам усім траім вярнуцца на радзіму?

Заяц: Што гэта ты сёньня не ў авечай скуры? Легалізаваўся, агент камуняцкі?

Воўк: Ну, заяц, пагадзі!"

Заснавальнік першай у замежжы тэатральнай трупы “Каму пляж?”, якая славілася пастаноўкамі клясыкаў айчыннай драматургіі, але таксама твораў самога Т. Ж. – “Во дзе цьвіль”, “Хто апошні?”, “Жыцьцё комі-ваяджэра” і інш. Паводле ўспамінаў сучасьнікаў, Т. Ж. вызначаўся выкшталцоным пачуцьцём гумару і ў звычайных жыцьцёвых сытуацыях. Часта ўзгадваецца эпізод на адной зь вечарынак у рэдакцыі “Выгнаньніка”: калі Т. Ж. не хапіла крэсла каля сьвяточнага стала, ён з уласьцівым яму нязмушаным досьціпам падсунуў да стала раяль і сеў на яго, прычым якраз у момант, калі на раялі выконваўся нацыянальны гімн, сказаўшы пры гэтым легендарную фразу: “Я за раялізм у літаратуры!” Гэтае і іншыя дасьціпныя выслоўі Т. Ж. яшчэ пры ягоным жыцьці сталіся крылатымі фразамі, а некаторыя – анэкдотамі (непрыхільныя да Т. Ж. тэатральныя крытыкі сьцьвярджалі, што ўсё было якраз наадварот, і што гэта сам Т. Ж. кампіляваў свае п’есы з чужых крылатых фразаў і народных анэкдотаў). На жаль, апрача тых, якія былі скарыстаныя ў тэкстах ягоных п’есаў, ніводнага не захавалася.

Памёр ад сьмеху ў часе вычыткі рукапісу ўласных успамінаў “Жыцьцё – ня цукар” на фразе “Калі б не пачуцьцё гумару, зь якім я заўжды ўзгадваў Бацькаўшчыну, да Канады я б ніколі не дайшоў”.

**Кабздыр, Ігнат** (1910 – 1993) – гістарычны раманіст, які здолеў па-новаму зірнуць на гісторыю бататуйскай эміграцыі, аўтар пэнталёгіі “Сага роду Агасьфяровічаў” (том першы – “Хто куды”, том другі – “Пад прымусам”, том трэці – “У гады ліхалецьця”, том чацьвёрты – “Маланка зь неба”, том пяты – “Дамавіна”). Няпростае й бурлівае жыцьцё І. К. і ягонай сям’і легла ў аснову ягонага эпічнага раману, таму няма рацыі запыняцца на ім асобна: паводле выказваньня А. Пераможнага, “кожны радок на любой зь пяці тысячаў старонак эпапеі пражыты і адчуты аўтарам на ўласнай скуры”.

Дзеяньне першага тому адбываецца ў гады Першай сусьветнай вайны і непасрэдна пасьля яе. Малады Сымон Агасьфяровіч вяртаецца з фронту (дзе ў зямлянцы чытаў параненым “Нашу вярбу” з мэтай палегчыць іхныя перадсьмяротныя пакуты), каб паўдзельнічаць ва Ўсебататуйскім сходзе. Прыход бальшавікоў прымушае яго задумацца над пэрспэктывамі нацыянальнай ідэі на бацькаўшчыне. Ратуючы жыцьцё ад перасьледу, ён зьяжджае спачатку ў Летуву, адтуль – у Злучаныя Штаты Амэрыкі. Там ён навяртаецца ў мармонскую веру і вырашае заснаваць у штаце Юта калёнію па разьвядзеньні бататуйскіх патрыётаў. Нелюбоў вакольных мармонаў, якія не разумеюць патрыятычных ідэй Агасьфяровіча і ўвесь час даказваюць яму, што ўсе людзі – браты і сёстры, незалежна ад нацыянальнасьці, прыводзіць да ўзброенага канфлікту, у выніку якога Агасьфяровіч разам з усёй сям’ёй уцякае ў Чыкага. Там яго засьпявае трагічная вестка аб перадачы паўнамоцтваў Бататуйскай Няроднай Рэспублікі ўраду Бататуйскай ССР... Кніга выйшла ў нямецкім перакладзе і натхніла, паводле Макса Брода, Франца Кафку на напісаньне раману “Амэрыка”, што зьяўляецца адзіным зарэгістраваным у гісторыі фактам уплыву бататуйскай літаратуры на літаратуры іншых народаў.

Героем другога тому зьяўляецца малодшы брат Агасьфяровіча Мацей. На працягу раману ён чытае братавы лісты, якія той пасылае яму з Амэрыкі, дзе яшчэ няма прыкметаў эканамічнага крызысу. Сымон пераконвае Мацея паехаць у Амэрыку і далучыцца да створанага ім адгалінаваньня мармонскай веры,

каб разам гадаваць будучых патрыётаў. Мацей вагаецца, бо спадзяецца, што здолее вытрымаць прыгнёт буржуазнай Польшчы і правесьці свайго кандыдата на выбарах у Сойм. Аднак ягоныя мары руйнуюцца разам зь ягонай гаспадаркай. Тым часам памірае бацька абодвух братоў Сьцяпан. Пасьля ягонага пахаваньня Мацей выбіраецца-такі ў падарожжа за акіян. Тым часам іхная сястра Аўгіньня выходзіць замуж за цыркавога артыста з чэскай Прагі і пераяжджае туды. Даехаўшы да Амэрыкі, Мацей бачыць, што ЗША больш не прымаюць эмігрантаў і вырашае зьехаць у Паўднёвую Амэрыку – у Аргентыну.

У трэцім томе пэнталёгіі ўсе героі зьяжджаюцца на бацькаўшчыну, каб удзельнічаць у адраджэньні бататуйскага жыцьця – стварэньні Бататуйскай гаёвай абароны, Саюзу бататуйскай моладзі, нацыянальнай школы і друку. Адначасова яны спрабуюць выйсьці на сувязь з партызанскім падпольлем з мэтай аб’яднаць створаныя немцамі і саветамі атрады ў Нацыянальную вызваленчую армію. Падступныя партызаны бяруць у палон Аўгіньню Агасьфяровіч, але той удаецца ўцячы. Немцы з падазорам пачынаюць ставіцца да нашых герояў, аднак ад вернай сьмерці іх ратуе створаны наступленьнем Чырвонай арміі хаос. Пасьля вайны ўся сям’я знаходзіць прытулак у Нямеччыне. Тыя, хто не пасьпеў уцячы, зьнікаюць у сталінскім ГУЛАГу.

Чацьвёрты том распавядае пра адчайную спробу Сымона Агасьфяровіча трапіць на паветраным шары на тэрыторыю паняволенай краіны, якая сканчаецца ягонай сьмерцю (балён выходзіць з-пад ягонага кіраваньня і адлятае на Месяц, дзе Сымон пасьпявае яшчэ на апошнім дыханьні ўсталяваць бататуйскі сьцяг задоўга да зьяўленьня там амэрыканцаў), а таксама пра пачатак працы Мацея і Аўгіньні на радыё “Прыгожыя галасы”. Героі паступова старэюць, і аўтар прысьвячае большую частку кнігі лёсам шматлікіх асірацелых дзяцей Сымона Агасьфяровіча, адаптаваных халастым і бязьдзетным дзядзькам Мацеем – дзеці параскіданыя па сьвеце і ствараюць у Аўстраліі, Канадзе, Новай Зэляндыі й Ізраілі мармонска-патрыятычныя асяродкі. Аўгіньня застаецца ўдавой пасьля таго, як яе мужа, цыркавога дрэсіроўшчыка, разрывае тыгр, і прысьвячае ўсю энэргію і вольны час нацыянальна-вызваленчай працы. Сын Аўгіньні Алесь пачынае пісаць хроніку роду – толькі, на жаль, бацькавага роду цыркачоў, а ня матчынага роду змагароў...

Нясканчаны пяты том удае з сябе бэлетрызаваны дзёньнік падарожжа самога Ігната Кабздыра на Бацькаўшчыну ў 1993 годзе. У гэтым томе Мацей вяртаецца ў родныя мясьціны і прыходзіць да высновы, што ягонае жыцьцё было не дарэмным.

Падчас працы над пятым томам у Мэгаполыскім гатэлі “Бататуя” ў Ігната Кабздыра ня вытрымала сэрца, паколькі ён усьвядоміў, што ягоная творчасьць на радзіме цалкам невядомая, а на мове ягонага дзяцінства болей ніхто не размаўляе. Пахаваны ў роднай вёсцы за грошы бататуйскіх уладаў.

**Канон, Аўген** (1934 – 1996) – эпічны паэт усясьветнага значэньня, абсалютна нетыповы для сваёй эпохі, паводле сваіх апалягетаў – пазачасовы, паводле зайздросьнікаў – анахранічны. Як выказаўся ягоны духоўны мэнтар П. Варштат, “гэтага яскравага паэта можна толькі альбо любіць, альбо ненавідзець”. Удасканаліў спосаб пісьма Карласа Архентына, апісаны Х. Л. Борхэсам у аповедзе “Алеф” – то бок быў здольны фізычна перанесьціся ў любую кропку ня толькі прасторы, але і часу. Містык, зарабляў на жыцьцё астра-

лягічнымі прагнозамі. Памёр ад разрыву сэрца, выкліканага нянавісьцю да ворагаў Бацькаўшчыны. Галоўным і адзіным творам А. К. застаецца паэма “Вечная Ідэя”, выдадзеная ў трох тамах і трох тысячах асобнікаў уласным коштам за два гады да ягонай сьмерці. Крытыкі параўноўваюць яе з “Фаўстам”. Асабліва ўдаліся аўтару шматлікія батальныя сцэны, апісаныя зь ня меншым натуралізмам, чым у Гамэра, і з патасам Тассо:

“Куды ж ты павёў сваё войска, скаціна?
Вачом адкрываецца бітвы карціна:
З пагоркаў імчаць пераможныя воі
Ў запале, натхненьні і жудасным воі.
Ну хто б не лякнуўся распаленай раці?
Дрыжы, акупанце! Дрыжы, супараце!
За вечную мару, за вечную мрою
Цябе даганю, затапчу, абяззброю
Й на крыж насаджу пад Славутай гарою.
Аднак высьпявае між вершнікаў здрада –
Замест каб давыціснуць ворага-гада,
Узяць яго ззаду, паводле загаду,
Загад адступаць аддаецца атраду!
Мядовы запал маладых патрыётаў
Паскуднік як лыжкаю дзёгця збаёдаў.
Нашчадак, хіба мы такое даруем?
Ніколі ў жыцьці! Ні за што! Насяру ім!
Хай смажацца ў пекле падручныя катаў,
І быць тут ня можа ніякіх дэбатаў”.

Дадамо, што спробы крытыкаў чытаць паэму паводле таемнага ключа, нібыта схаванага ў складзеным аўтарам незадоўга да сьмерці ўласным гараскопе, як сьцьвярджаў П. Варштат, пакуль плёну не прынесьлі.

У жыцьці А. К. быў надзвычай актыўным, можна нават сказаць, нармалёвым чалавекам, сярод іншага ён стаўся чэмпіёнам краіны па більярдзе. Вядомы эпізод, калі ў якасьці чальца нацыянальнай зборнай ён быў павінен рэпрэзэнтаваць сваю новую радзіму на спаборніцтвах у сталіцы Бататуі Мэгаполыску – у апошні момант ён здолеў выскачыць з самалёту, баючыся перасьледу ўладаў Бататуі за пэрманэнтнае парушэньне сынтаксісу і склонаў у тэксьце ягонага эпічнага твору. Гэтая гісторыя і сталася нагодай для колкай эпіграмы Максіма Кулака:

“Канон більярднай куляй лётаў
Па сьвеце, толькі ў родны кут
Ні цягнікам, ні самалётам
На ланцугу не зацягнуць”.

Аднак сапраўднае стаўленьне А. К. да сваёй айчыны (якое, ня будзем спрачацца, мела рысы вытанчанага мазахізму, якім псыхааналітыкі тлумачаць ягонае аскетычнае адмаўленьне фізычнага кантакту зь ёю) як мага лепш перадаюць ягоныя ўласныя радкі, што не пакідаюць сумневу ў палымянасьці ягоных пачуцьцяў:

“Любі айчыну, маць тваю!
Каб як было – было заўсёды.
Я за цаной не пастаю,
А ўбараню свае гароды,
Свае авечыя чароды,
Дзівосы нашае прыроды,
Дзядоў калматыя бароды,
Няхай яны і выйшлі з моды,
Што мне сучасныя дрэс-коды!
Удзячны Богу за выгоды
Нашай шляхотнае пароды,
Іншай ня прагну ўзнагароды –
Толькі айчыннае пітво, ды
Магіла ў вёскі на краю”.

Уласнымі сіламі аднавяскоўцаў А. К. пасьля ягонай сьмерці на ягонай радзіме насамрэч пачаў узводзіцца маўзалей, аднак бататуйскія ўлады да сёньняшняга дня несупынна перашкаджаюць працы патрыётаў. Да канчатковай пабудовы маўзалею цела А. К. захоўваецца ў Інстытуце крыянічных дасьледаваньняў у штаце Масачусэтс, што дае падставу ягоным прыхільнікам на радзіме верыць у ягонае другое прышэсьце.

**Касьцяк, Канстанцін** (1945 – 1977) – вядомы выключна як аўтар афарызмаў, сабраных у кнізе “Хітрамудрасьці”, надрукаванай накладам у 200 асобнікаў незадоўга да ягонай сьмерці. Выглядае на тое, што К. К. пры жыцьці сам гэтыя афарызмы не запісваў – гэта было зроблена за яго невядомым добразычліўцам, які фінансаваў таксама і выданьне кнігі. Паводле іншых цьверджаньняў, аўтарам усіх афарызмаў зьяўляецца Юрка Расчавіў, а К. К. зьяўляецца толькі прыдуманым ім фіктыўным пэрсанажам, чымсьці накшталт ягонага альтэр-эга. Што ж, Ю. Расчавіў сапраўды меў дастаткова грошай, каб магчы сабе дазволіць стварыць “зь нічога” новага аўтара, які б адпавядаў ягонаму густу. Аднак параўнаньне ляканічнага стылю афарызмаў К. К. і праставатага стылю разьсяглых мэмуараў Ю. Расчавіла прыводзяць хутчэй да высновы, што Расчавіў быць аўтарам гэтых афарызмаў ня мог ні за якія грошы, то бок – ні ў якім выпадку. Пагатоў што існуе дакумэнтальнае сьведчаньне Васіля Васілевіча, які пацьвярджае той факт, што К. К. насамрэч быў рэальнай асобай, якая на працягу 1967 – 1969 гг. здымала зь ім у Парыжы агульны пакойчык на вуліцы Важырар. Большая частка накладу “Хітрамудрасьцяў” зьнікла пры пажары ў 1979 г. Бататуйскага цэнтру ў Парыжы, закладзенага Анісай Лемеш. Да аўтара гэтай энцыкляпэдыі дайшоў толькі адзін асобнік кнігі, на абгарэлых старонках якога захавалі сюю-тую чытэльнасьць наступныя выказваньні К. К.:

“– Быць ці ня быць? Пытаньне – кім.

– Будзем жыць, як набяжыць – сапраўды, бярозавік з бадуна дапамагае.

– Вяртацца на радзіму – самагубства. Гэтаксама як і зьяжджаць.

– Найцяжэй выжываць у “сьвеце мужчын” не жанчынам, а самім мужчынам.

– Ня вер мужчыну пасьля трыццаці гадоў; жанчыне – да.

– Па-бататуйску – як пачуваецца, так і пішацца...

– Пеpажыць бацькоў варта толькі дзеля таго, каб не расчароўваць іх сваёй сьмерцю. Пасьля можна адразу ж скончыць жыцьцё самагубствам.

– Самае прыгожае, што пакідае папярэдняе пакаленьне наступнаму, – свае нязьдзейсьненыя пляны.

– Сапраўдны дэндзі пазірае ў вочы іншым, толькі каб пабачыць у іх сваё ўласнае адлюстраваньне.

– Свой розум май, а людзей слухай.

– У некаторых сытуацыях выпусьціць газы – менш непрыстойна, чым пазяхнуць. Напрыклад, падчас сэксу.

– Ці існуе жаночае сяброўства? Цікава, што адказала б на гэтае пытаньне Сапфо – думаю, ейны адказ мне спадабаўся б.

– Чым больш думаеш пра дзейнасьць мазгоў, тым горш яны дзейнічаюць.

– Чын чынам вышыбаюць.

– Эміграцыя – найбольш выкшталцоны зь вядомых мне спосабаў самагубства, якое ў сваю чаргу заўжды ёсьць помстай сваім бліжнім”.

Пра жыцьцё К. К. вядома надзвычай мала. Тыя, хто ведаў яго ў Парыжы, прыгадваюць, што ён быў дзіваком – усе грошы растрачваў на вопратку ўзору дзевятнаццатага стагодзьдзя, жанчын і алькаголь. Першы час зарабляў на жыцьцё разносам газэт. Паводле непацьверджаных зьвестак, супрацоўнічаў з сакрэтнымі службамі мэтраполіі і быў адным з ініцыятараў няскончанага працэсу вяртаньня Васіля Васілевіча на радзіму. Як мяркуе Ю. Расчавіў, прычынай пераходу К. К. у шэрагі бататуйскіх агентаў стала празьмерная творчая актыўнасьць ягонага суседа па пакоі Васілевіча, якая не давала яму жыцьця, таму К. К. спрабаваў зрабіцца пасярэднікам паміж ім і спэцслужбамі бальшавіцкай Бататуі з мэтай арганізаваць яму творчую камандзіроўку ў Сыбір. Аднак плёну высілкі К. К. не прынесьлі: да Васілевіча неўзабаве вярнуліся жонка з сынам, і той замест Сыбіру зьехаў на прыгарадную вілу пад Парыжам, дзе жыве да сёньняшняга дня. Хутчэй за ўсё, бататуйскія спэцслужбы так і не даравалі К. К. краху апэрацыі, праз што ён мусіў хавацца ад іх да канца сваіх дзён, пераапрануты ў аднаго з парыскіх кляшараў.

Апрача “Хітрамудрасьцяў” стварыў бататуйска-француская слоўнік паронімаў, сынонімаў і блізказначных словаў, ганарар за які дазволіў яму жыць адносна бязьбедна да самай сьмерці, то бок з кастрычніка па лістапад 1977 году. Паводле адных зьвестак, памёр ад перадазіроўкі абсэнтам, паводле іншых – пасьля выхаду сваёй кнігі “Хітрамудрасьці” ад сораму перад сьветам зьмяніў імя на французскае і жыве да сёньня недзе ў Брэтані.

**Кулак, Максім** (уласным імем Максім Гарэцкі, 1905 – 1981) – паэт, бард, пераважна грамадзянскі лірык. Паводле ўласнай біяграфіі “Жыцьцяпіс змагара” – вэтэран баёў “Зялёнага буку” і Першай усясьветнай вайны, паводле іншых крыніцаў – адзін з бататуйскіх крымінальных аўтарытэтаў, які скарыстаўся тоеснасьцю загіблага ў грамадзянскую вайну маладога паўстанцкага камандзіра з мэтай легалізацыі й атрыманьня палітычнага прытулку ў ЗША. Паводле тых жа крыніцаў (Ю. Расчавіў), біяграфія “Жыцьцяпіс змагара” была напісаная на ягоную замову Тодарам Жываглотам у суаўтарстве зь Дзянісам Скулам. Як бы там ні было, Максім Кулак – адзін зь нямногіх бататуйскіх літа-

ратараў, якія мелі магчымасьць фінансаваць сваю літаратурную дзейнасьць самастойна, бо зарабіў неблагі капітал яшчэ да вайны на гандлі мыльнымі вяроўкамі ў гады вялікай дэпрэсіі. З пачаткам баявых дзеяньняў на тэрыторыі Бататуі ў 1939 годзе пачаў трызьніць вершамі, якія зьяўляліся яму ў гатовым выглядзе, напісаныя вогненнымі літарамі на сьцяне ягонай прыватнай пляцоўкі для гульні ў сквош:

“Мы йшлі пад грукат кананады,
мы сьмерці пазіралі ў твар.
Між нас быў юны барабаншчык –
Іначай кажучы, бубнар...”

“Хлопцу быў загад – “На захад”,
а дзяўчыне – ў іншы бок.
На змаганьне з акупантам
Выпраўляйся, галубок”.

Часьцяком разам з гэтымі радкамі, прасякнутымі вобразамі маладых бататуйскіх герояў, якія змагаюцца за свабоду бацькаўшчыны супраць бальшавіцкага прыгнёту, яму зьяўлялася і музыка да ўласных тэкстаў, якую ён запісваў адразу на Эдысанаў грамафон з мэтай перадаць пасьля кружэлку на фронт:

“Па лагчынах і па ўзгорках
шла дывізія наўпрост,
каб заняць мястэчка Горкі –
гнюсных сталінцаў фарпост”.

“Рушыў зьвяз на беразе,
рушыў ён здалёк.
Хтось ішоў наперадзе –
Ногі ледзь валок.

Галава абвязана,
Кроў на рукаве,
Сьлед крывавы сьцелецца
Па сырой траве”.

Аднак натхнёныя “Ваярскія сьпевы” (назва афіцыйнага песеньніка аддзелаў Бататуйскай гаёвай абароны) М. К. не падабаліся ўладам Злучаных Штатаў. Калі паліцыя даведалася пра ягоную патрыятычную творчасьць, якая фактычна ліла ваду на млын краінаў Восі (у часе нямецкай акупацыі кружэлкі зь песьнямі М. К. выходзілі ў Мэгаполыску шматтысячнымі накладамі), ён быў абвінавачаны ў шпіянажы на карысьць Японіі й інтэрнаваны як прадстаўнік несяброўскага этнасу ў адным са створаных для гэтай мэты лягераў. Цудам яму ўдалося пазьбегчы прымусовай і памылковай рэпатрыяцыі ў Японію на борце самалёту “Энола Гэй” у 1945 г., пасьля чаго ён арганічна ўліўся ў новую хвалю пасьляваеннай эміграцыі з Бататуі, стаўшыся на волі нязьменным старшы-

нём згуртаваньня “Зямеля”. Гэта забясьпечыла яму недатыкальнасьць і імунітэт ад усялякіх патрабаваньняў выдачы з боку бальшавіцкіх бататуйскіх уладаў. Аднак пэрыяд ягонага кіраваньня “Зямелем” характарызаваўся шматлікімі разладамі ў эміgranцкім асяродзьдзі, частка якога ўспрымала М. К. як махляра і выйшла з аб’яднаньня, стварыўшы ўласнае таварыства “Безьзямелькі”. Шматлікія кпіны няўдзячных суайчыньнікаў з псэўданіму М. К. падарвалі ягонае здароўе. Урэшце, пясьняр ня вытрымаў абвінавачаньняў у плягіяце і фальсыфікацыях сваёй біяграфіі і скончыў жыцьцё самагубствам. Многія зь ягоных вершаў-песьняў сталі народнымі.

Пісаў таксама прыгодніцкія і гатычныя “раманы жахаў”, аднак рукапісаў ніводнага зь іх не захавалася. Пасьля сьмерці М. К. быў знойдзены ягоны інтымны дзёньнік, у якім ён запісваў выключна сны, акорды сваіх песьняў і цэны на прадукты ў вакольных крамах. Дзёньнік быў шыфраваны, таму да сёньняшняга дня літаратуразнаўцам вядомыя толькі ягоныя першыя разьдзелы. Цікава, што яны не вытрымліваюць храналягічнай пасьлядоўнасьці, што спарадзіла ў некаторых спэкуляцыі наконт таго, што М. К., як і Аўген Канон, валодаў здольнасьцю перамяшчэньня ў часе (адсюль іхная ўзаемная нелюбоў і зайздрасьць – верагодна, ім нярэдка выпадала асабіста сутыкацца на палёх шматлікіх бітваў сусьветнай гісторыі, у якіх абодва ўдзельнічалі ў якасьці інтэндантаў варагуючых бакоў, каб магчы пасьля пераплавіць уражаньні ад назіраньня за батальнымі сцэнамі ў свае творы). Паводле іншых, М. К. прадаў душу д’яблу ў абмен на дасягненьне ўсенароднай папулярнасьці сваіх твораў у прафашысцкіх колах і квіток на фінал чэмпіянату сьвету па футболе ў 1986 годзе ў Мэксыцы, на якім, верагодна, хацеў ажыцьцявіць якуюсьці процібататуйскую прапагандысцкую акцыю пратэсту накшталт самаспаленьня, але да чэмпіянату не дажыў пяці гадоў, таму ў дадзены момант, хутчэй за ўсё, ажыцьцяўляе гэтую сваю задуму ў пекле.

**Лемеш, Аніса** (уласным імем Ядзьвіга Лемяшэўская, нар. 1942) – паэтка, фэміністка, добрая знаёмая і нейкі час каханка сумнавядомай Валерыі Саланас, жонка паэта Васіля Васілевіча. Сапраўднай падзеяй літаратурнага жыцьця эміграцыі стаўся выхад ейнай дэбютнай паэтычнай кнігі “Комплекс кастрацыі” (1959, Мюнхен), напісанай пад уплывам чытаньня Вірджыніі Вулф і Сымон дэ Бавуар, дзе ўпершыню ўва ўсёй бататуйскай літаратуры прагучалі прарочыя ноткі хуткай жаночай эмансыпацыі і сэксуальнай рэвалюцыі, арганічна спалучаныя зь дзявочай марай аб вызваленьні Бацькаўшчыны (якую А. Л. пасьлядоўна называла Мацькаўшчынай, гэтаксама як Айчыну – Мамчынай):

“Казёл сьмярдзючы, лапы прэч!
Раю кіроўцам самазвалаў
са мною пазьбягаць сустрэч,
а то пазбаўлю прычындалаў.

Я думкай аб адным гару:
Каб сінявокая дзяўчына
Кахаць Мамчыну, як сястру,
Мяне аднойчы навучыла”.

Жыцьцё юнай бунтаркі і нонканфармісткі пасьля ейнага адносна раньняга замужжа (эпізод знаёмства А. Л. з будучым мужам у Мюнхене апісаны ў артыкуле пра Васіля Васілевіча) на працягу некалькіх гадоў падазрона нагадвала тое, што называецца “звычайным жаночым шчасьцем”. Як вядома, пад мужавым уплывам яна перастала пісаць вершы і пачала імі размаўляць, што цягнулася да самага нараджэньня іхнага першага сына, Апалёна, калі А. Л. перайшла зь вершаў на дзіцячыя песенькі і калыханкі. Доўгі час лічылася, што паэтка раўнавала да мужавай славы й перастала займацца літаратурай, за выключэньнем складаньня кулінарных кніг (адна зь іх, “Гатуем з аныжам”, вытрымала некалькі выданьняў і сталася настольнай кнігай бататуйскіх жанчын на эміграцыі). Аднак у 1964 г. адной з бататуйскіх студэнтак у Парыжы пашчасьціла ў часе наведваньня ейнага дому ўкрасьці зь пісьмовага стала сьвежую падборку ейных твораў – палымяная чытачка (у сапраўднасьці тайная літагентка выдавецтва “Галімар”) спадзявалася, што гэта будуць творы ейнага мужа Васіля Васілевіча, аднак хутка пераканалася, што замест іх прысабечыла найноўшую нізку А. Л. “Ненавіджу й асуджаю”, якую неўзабаве апублікавала ў “Нью-ёрскім псыхалягічным месячніку”. Нізка ёсьць крыкам душы, бескампрамісным сьведчаньнем пра прыніжанае становішча маладой маці ў нечалавечых умовах патрыярхальнай сям’і:

“Муж – чуж – аб’еўся груш…
Вершаў маіх не расьцяруш!
Маўчы, кажу табе, ня руш,
Бо я пішу ж! Бо я твару ж!

Працуй, дыяспару мацуй!
На маім целе пагарцуй,
Але ў душу ня суй мне шнобеля –
Я верш пішу ня дзеля Нобэля…”

Пасьля сямейнага скандалу, выкліканага публікацыяй вершаў, часова сыйшла ад мужа ў калёнію гіпі, зь якой вандравала па сьвеце, але ў 1969 г. вярнулася ў Парыж з шэрагам новых сяброў і багатым жыцьцёвым досьведам, а неўзабаве пасьля вяртаньня нарадзіла другога сына, Джона. Злыя языкі (Юрка Расчавіў) спэкулююць, быццам Джон (гл. Сьцяпан Юнак) быў народжаны не ад В. Васілевіча, а ад іншага бацькі – амэрыканскага рокера Ігі Попа. Да канца жыцьця зарабляла на сябе сама літаратурнымі, але, на жаль, зусім не паэтычнымі публікацыямі. Апроч новых кулінарных кніг напісала па-француску некалькі дэтэктыўных раманаў, у якіх звычайна юная красуня, якая воляю лёсу і злых бацькоў выйшла замуж за багатага пэнсіянэра, дамагаецца ягонай сьмерці з дапамогай самых розных спосабаў, і заўжды пасьпяхова. У канцы гераіня звычайна сама выкрывае сябе перад публікай, якая пад пагрозай сьмерці клянецца не выдаваць злачынку.

**Макатоўша, Андрусь** (1935 – 2000) – аўтар пакуль яшчэ ня выдадзенага (верагодна, страчанага) аўтабіяграфічнага памфлету “Прайдзісьвет”. Тыя, хто быў знаёмы з аўтарам, і каму ён сам у значна падпітым стане зачытваў

урыўкі свайго рукапісу, аднагалосна сьцьвярджаюць, што публікацыя ягонага твору павінна была б адбыцца не раней чым празь пяцьдзясят гадоў пасьля аўтаравай сьмерці (у тым няшчасным выпадку, калі б ягоны тэкст захаваўся). Адным са сьведкаў адзінага публічнага чытаньня твору, якое адбылося ў 1991 годзе ў Празе, быў госьць з-за акіяну Тодар Жываглот, які ўзгадвае пра гэтую падзею наступным чынам:

"Ужо збольшага сэнільны Макатоўша запрасіў нас не да сябе дадому (дзе, паводле непацьверджаных зьвестак, трымаў закладніцай і бязьлітасна эксплёатаваў уласную маці), а ў сваю ўлюбёную піўную. Там было настолькі шумна, што прысутныя на вечарыне (пераважна непісьменныя прадстаўнікі ніжэйшых слаёў тутэйшага насельніцтва, якія прыйшлі паласавацца дармовымі бутэрбродамі) не маглі зразумець зь ягонага чытаньня практычна нічога, апроч песенных уставак, якія ён выконваў сам пад акампанэмэнт наўмысна нанятага з гэтай мэтай мясцовага піяніста. Скончылася вечарына бойкай між Макатоўшам і ягонай публікай, у якой Макатоўша перамог з дапамогай сваіх верных сяброў з шэрагу сталых наведнікаў піўной. Я сам захоўваю цёплы ўспамін пра гэтую сустрэчу разам з выбітым мне ў запале ідэйных і творчых спрэчак зубам".

Застаецца загадкай, што магло гэтак абурыць суайчыньнікаў у памфлеце. Магчыма, рэч у тым, што ў адрозьненьне ад бальшыні зь іх, А. М. эміграваў не ў Заходнюю, а ва Ўсходнюю Эўропу, дакладней – застаўся служыць у Празе пасьля 1968 году, калі ў якасьці капітана танкавых войскаў узяў актыўны ўдзел у аказаньні інтэрнацыянальнай дапамогі Чэхаславаччыне. З гэтай прычыны бальшыня прадстаўнікоў бататуйскай дыяспары да сёньняшняга дня лічыць А. М. акупантам і здраднікам. Паводле іх, памфлет "Прайдзісьвет" пісаўся ім па заданьні камандаваньня дзеля чытаньня на занятках палітінфармацыяй у савецкіх акупацыйных частках. Т. Жываглот намякае, што тэкст наскрозь прасякнуты імпэрскай ідэалёгіяй і прапагандуе вайсковае ўварваньне як самы танны і захапляльны кшталт экстрэмальнага турызму. Жываглот прыгадвае, што "галоўная ідэя твору – пераможнае шэсьце бататуйскага жаўнера ўпоплеч з маскоўскім салдатам на Захад, якому яны нясуць тысячагадовую праваслаўную культуру, панацэю ад распусты, дэгенэрацыі, атамізацыі й адчужэньня заходняга чалавека. Сканчаецца твор заснаваньнем царквы Сьвятой Еўфрасіньні на вяршыні Джамалунгмы". Згодна зь непацьверджанымі зьвесткамі, у 1987 г. А. М. сустракаўся ў Празе з расейскім пісьменьнікам Паўлам Пэпэрштэйнам, якому распавёў прыблізны зьмест свайго твору. Менавіта пасьля гэтай сустрэчы Пэпэрштэйн узяўся за напісаньне раману "Міфагенная любоў каст"...

Пад канец жыцьця А. М. зьдзівіў крытыку і сябе самога навукова-фантастычным раманам "Няўмёрлы", дзеяньне якога адбываецца на плянэце Зямля пасьля атамнай катастрофы. Племя дзікуноў знаходзіць невядомую магілу, у якой побач са шкілетам пахаваны стары зыржавелы кампутар. Нейкім дзіўным чынам дзікунам удаецца яго запусьціць, і з гэтага кампутару яны даведваюцца пра папярэднюю гісторыю чалавецтва. Зламысныя жрацы вырашаюць схаваць гэтае каштоўнае веданьне ад масаў і засноўваюць на падставе тэкстаў даўно мёртвага пісьменьніка новую рэлігію, галоўным боствам якой стаецца ён сам. Далейшае дзеяньне нагадвае хутчэй прыгодніцкі раман, чым навуковую фантастыку. Самым фантастычным у рамане зьяўляецца, бадай, тое, што кампу-

тар за час знаходжаньня ў магіле не сапсаваўся, што дзікуны яго запусьцілі, навучыліся ім карыстацца і здолелі зразумець мову і сэнс аўтаравых тэкстаў. Усё астатняе ў рамане абавязанае празьмернаму чытаньню Жуля Вэрна ў дзіцячым веку.

Памёр жахлівай сьмерцю, калі заснуў падчас інгаляцыі і ўпаў тварам у адвар траў, які лічыў эліксірам неўміручасьці.

**Мітрафан**, брат (у міры Міхаіл Карамазаў, 1938 – 1988) – рэлігійны мысьляр, філёзаф, публіцыст, пэдагог. Аўтар і перакладчык літаратуры для дзяцей. Пра тое, якім ён быў чалавекам, патрыётам і гуманістам, найлепш сьведчыць тыповы ўрывак зь ягоных “Маральных чытаньняў для дзетак-вісусаў”:

“З раніцы ў школку прыйшла чарнаскурая Алеся. Ніхто з бататуйскіх дзетак ня мог паверыць, што дзяўчынка – адна зь іх. Яны датыкаліся да яе скуры і аблізвалі ёй нос, каб пакаштаваць, якая яна на смак. Алеся разгублена маўчала, ня ведаючы, чаму дзеці сябе гэтак дзіўна паводзяць. Ёй захацелася плакаць. Калі ў клясу ўвайшоў Настаўнік, яна адразу пабегла да яго ў абдымкі, гэтаксама як мы, калі трывога, прыбягаем да Бога, як кажа народная мудрасьць. Настаўнік прытуліў яе да сябе і ласкава спытаўся:

– Што здарылася, Алеся?

– Яны ня вераць, што я – адна зь іх, – сумна адказала Алеся.

Пачуўшы яе чыстую, як воды Высьцязі, бататуйскую мову, дзеці сумеліся – ім зрабілася сорамна, што яны былі такімі недаверлівымі, як той апостал Тамаш.

– Хіба колер скуры ў вызначэньні нацыі галоўны, Пятрок? – спытаўся Настаўнік, гладзячы хлопчыка па галоўцы. – Галоўнае – мова, як казаў наш клясык. Бо мова – гэта душа. І на матчынай мове размаўляе душа з Госпадам. А бачыш, як цудоўна размаўляе па-бататуйску Алеся... Госпад стварыў усіх людзей аднолькавымі і даў ім роўныя правы, а нас, бататуйцаў, да таго ж яшчэ надзяліў самым унівэрсальным сродкам зносінаў – мовай нашых продкаў...

– Хіба нашы продкі не былі паганцамі? – падаў голас дапытлівы Кастусь.

– Усім уласьціва рабіць памылкі, – адказаў мудры Настаўнік, – пакуль яны не спазнаюць правільнага шляху... Вось і вы зрабілі памылку, не прызнаўшы Алесю сваёй, але цяпер усё, на шчасьце, Воляю Божай выпраўлена... А можа, гэта быў такі Божы плян – дазволіць і вашым продкам, і вам цяпер памыліцца, каб потым аднойчы і назаўжды стаць на шлях Ісьціны? Бо калі б мы засталіся на няправільным пшяху, куды б мы трапілі?

– У пекла! – хорам адказалі дзеці.

– Вось так і радзіма нашая ў чарадзе эўрапейскіх народаў, як тая чорная аўца, – працягваў Настаўнік. – Таму што няздольныя яны ў нас прызнаць свайго суродзіча. А мы – такія ж, як і яны, толькі, можа, крыху іншыя... Але душы нашы гавораць зь імі адной моваю – моваю Бібліі, моваю хрысьціянскай цывілізацыі...”

У М. было цяжкое ваеннае дзяцінства – ягоны бацька быў уласаўскім камандзірам, які дэзэртаваў на радзіму, тым часам як маці – партызанскай сувязной. У 1944 годзе сям’я апынулася на тэрыторыі Польшчы, адтуль праз Чэхію трапіла ў амэрыканскую акупацыйную зону. Пасьля раньняй сьмерці бацькоў у цяжкіх умовах чыкагскага гета, М. спрабаваў зарабляць на жыцьцё продажам індульгенцый і чышчэньнем ботаў, добра спазнаў матэрыяльныя цяжкасьці ніжніх слаёў амэрыканскага грамадзтва. Канец канцоў настаўнік бата-

туйскай царкоўнай школы прапанаваў яму стацца ягонай пакаёўкай, і брат М. пагадзіўся. Неўзабаве зрабіўся дзякам у адным з праваслаўных прыходаў і ў вольны ад працы час пісаў свае рэлігійна-павучальныя творы, якія пасьля пераклаў на царкоўнаславянскую. Не без дапамогі брудных камбінацый айчынных спэцслужбаў быў абвінавачаны ў распаўсюджанай сярод духавенства схільнасьці да пэдафіліі, аднак ачышчаны судом як сьвецкім, так і царкоўным. Нягледзячы на гэта, працяглы працэс і зьвязаныя з паклёпам духоўныя пакуты моцна адбіліся на стане ягонага здароўя. Паводле ўспамінаў сьведкаў, адыйшоў ад грамадзкага жыцьця і цішком аддаваўся алькагалізму. Памёр у веку 50 гадоў у кляштары сьвятога Пракопа-Заступніка ў Чыкага, так і не пабачыўшы ні Бацькаўшчыны, ні яе татальнай хрысьціянізацыі. Калі яго хавалі, у труну, паводле ягонага запавету, паклалі некалькі пустых бутэлек ад славутага лікёру айчыннага вырабу “Батат” і некалькі лялек у нацыянальных строях.

**Пераможны, Адальбэрт** (уласным імем Антон Аўсянка, 1925 – 1985) – паэт, публіцыст, эсэіст, драматург. Насуперак гучаньню свайго псэўданіму, пад якім пачаў публікавацца яшчэ на радзіме ў пачатку 1940-х гг., застаўся ў гісторыі эмігранцкай літаратуры як тонкі лірык. Пісаў надзвычай мала, бо быў, у адрозьненьне ад свайго галоўнага суперніка па ўзыходжаньні на Парнас, Я. Волата, пэрфэкцыяністам: над некаторымі радкамі і рыфмамі быў здольны працаваць цягам доўгіх гадоў. Працытуем тут ягоны хрэстаматыйны ўжо верш “Сасёнка” зь нізкі “Песьні душы”, безь якога не абыходзіўся яшчэ ніводны падручнік эмігранцкай літаратуры для дзяцей дыяспары:

“Я ўстаў зраньня і выйшаў вонкі,
І ўбачыў побач ля стаўка
Абрыс нягеглае сасёнкі,
Яна – нібыта мне дачка.

Узяць сьпіліць? Зрабіць Пінок’я,
Каб татам Карлам яму быць?
Але ж сваёй зямлі сынок я,
Адну яе магу любіць”.

Заснавальнік адзінай за мяжой палітычнай партыі, “Руху за вызваленьне Айчыны” (так званага “ЗаВА-руху”), якая нейкі час спрабавала канкураваць са створанымі П. Варштатам і Ю. Расчавілам культурна-асьветніцкімі структурамі, але ў выніку была вымушаная самараспусьціцца. Усе намогі А. П. далучыцца да бататуйскага літаратурнага жыцьця ў Амэрыцы і ў Эўропе не прынесьлі плёну, таму што сам ён баяўся лётаць самалётам і плаваць на караблі, а ехаць да яго ў Аўстралію ні ў кога не было магчымасьці ані асаблівага жаданьня. Ягоная ідэя арганізаваць у Сыднэі буйны Фэстываль Прыгожага Пісьменства Паняволеных Народаў (ФПППН “За волю”), фінансаваны з асабістых сродкаў А. П., не была падтрыманая нікім з калегаў па пяры. Доўгі час А. П. ліставаўся з А. Канонам (употайкі ад Пятра Варштата, які ніколі не дараваў бы Канону такога адыходу ад сваіх палітычных прынцыпаў, калі б даведаўся пра факт ліставаньня), скардзячыся ў сваіх допісах на аўстралійскі клімат і няўвагу чытацкіх і крытычных колаў, як мясцовых, так і бататуйскіх. Верагодна,

праз А. Канона ён спадзяваўся паўплываць на П. Варштата, каб той надрукаваў некаторыя зь ягоных санэтаў у “Ня вашым дзеле”, аднак паколькі А. Канон баяўся нават вымавіць імя А. П. перад Варштатам, як што яму забараніў гэта рабіць раўнівы Янка Волат, то таленавіты паэт так і не дачакаўся публікацыі ў згаданым выданьні. З тым большым імпэтам ён публікаваўся ў “Выгнаньніку” Тодара Жываглота, які цаніў у А. П. перадусім ягоны псэўданім, які лічыў даволі сугучным свайму. Пад канец жыцьця атрымаў стыпэндыю ад Фонду Ю. Расчавіла на выданьне Поўнага збору сваіх твораў у 2 тамах (Першы том – вершы, эсэ, п’еса “Раскепленае лязо”, палітычныя маніфэсты й дакумэнты “ЗаВА-руху”; другі том – ліставаньне з Аўгенам Канонам. Трэці том, у які А. П. хацеў уключыць творчасьць даэміграцыйнай пары, быў выкінуты з праекту на рэкамэндацыю Ю. Расчавіла).

Скончыў самагубствам у адным з сыднэйскіх гатэляў ва ўзросьце 60 гадоў, спрабуючы паўтарыць жыцьцёвы подзьвіг клясыка нацыянальнай літаратуры, зь якім у апошнія гады жыцьця, паводле ўспамінаў суседзяў, атаясамляўся ўсё мацней. Разьвітальны вершаваны допіс, над якім ён пільна працаваў на працягу апошніх дзесяці гадоў жыцьця (захавалася каля 200 ягоных чарнавікоў, што былі выдадзеныя пасьля ягонай сьмерці асобнай кнігай у якасьці дадатку да згаданага двухтомніку), поўны прыкрага асуджэньня няўважлівых суайчыньнікаў:

“Ах, качканос, ах, кенгуру –
Правобраз слухачоў няўдзячных...
Ці ж з вамі я пагавару,
На сьмерць асуджаны няўдачнік?

Лепш быць нічым, чым быць нікім,
Ня мець імя, ня выйсьці рангам...
Хай іншых на мяне пляўкі
Ляцяць у твар ім бумэрангам!”

**Расчавіў, Юрка** (1930 – 2002) – апошні прадстаўнік слыннага бататуйскага магнацкага роду, вядомы збольшага як мэцэнат, мэмуарыст і аўтар анэкдотаў з жыцьця нью-ёрскага бамонду. Фінансаваў дзейнасьць “ЗаВА-руху”, выданьне газэты “Ня ваша дзела” і часапісу “Выгнаньнік”, публікацыю твораў шэрагу эміграцкіх аўтараў, такіх як А. Канон, А. Пераможны, Я. Волат. Аўтар успамінаў “Жабракі духу”, выданьне якіх нечакана выклікала хвалю абурэньня ў эміграцкім асяродзьдзі. Выйграў усе зьвязаныя з публікацыяй судовыя працэсы паводле абвінавачаньняў у паклёпе. Для разуменьня кантравэрсійнасьці згаданых мэмуараў і аўтаравага палемічнага стылю падамо тут толькі ўрыўкі зь ягонай прадмовы (як што цытаваць рэшту нам замінае добры густ і пачуцьцё адказнасьці перад навукай і будучыняй бататуйскай нацыі):

“Кажуць, пра мёртвых альбо добра, альбо нічога. Ну, ня ведаю. Я з гэтым пагадзіцца не магу. Што б гэта былі за ўспаміны, калі б там пісалі пра адзін пазытыў? Чым бы яны адрозьніваліся ад прарэжымных газэт? Лухта гэта ўсё – абы ня сумна было. Тым больш што самім памерлым гэта ўсё да аднаго месца. Хопіць таго, што гэтыя так званыя пісьменьнікі на працягу жыцьця выстаўлялі сябе героямі і геніямі: прынамсі пасьля сьмерці надыйшоў час адкрыць вочы

грамадзкасьці на іхную дзейнасьць. Сядайце, дзеткі, распавяду вам ня казку, а быль...”

Сваім зьместам успаміны Ю. Р. нагадваюць хутчэй фантастычны раман, што дазваляе клясыфікаваць жанр гэтага твору як раманізаваную аўтабіяграфію (адзіны канкурэнтаздольны аналяг у гісторыі бататуйскага эмігранцкага пісьменства – “Прайдзісьвет” А. Макатоўшы, да зьнікненьня тэксту якога, паводле сьведчаньня В. Васілевіча, прыклаў немалыя намаганьні Ю. Р.). Але ж чаму фантастычны? – спытаецца чытач. Мяркуйце самі: хто б мог паверыць, што Аніса Лемеш, паводле Ю. Р., да канца жыцьця засталася паннай, а Дэлія Арахновіч насамрэч ніколі не жыла ў эміграцыі, а напісала свае “Тропікі ўсюды”, не вылазячы з роднай вёскі на мілімэтар (доказам яму служыць той факт, што ён ніколі зь ёю асабіста не сустракаўся, а ніякага графа фон Богена не існавала ў прыродзе)? Што ідэоляг нацыянальнай барацьбы Янка Волат у сям’і размаўляў выключна па-старажытнагрэцку з кокні-акцэнтам, а Ігнат Кабздыр перакладаў сваю эпахальную пэнталёгію з напісаных па-расейску ўспамінаў Максіма Кулака? Што брат Мітрафан ніколі ў жыцьці не чытаў Бібліі, а выкладаў дзеткам сутнасьць хрысьціянскага вучэньня паводле часапісу “Вартавая вежа”, тайным падпісчыкам якога зьяўляўся? Што Васіль Васілевіч біў сваю жонку Анісу Лемеш, калі яна была яшчэ цяжарнай сваім бязгрэшна запачатым сынам Сьцяпанам Юнаком, а апошні (то бок, аўтар гэтай энцыкляпэдыі) складаў яшчэ ў маціцы геніяльныя вершы, якія ягоная матка падслухвала, запісвала і пазьней выдала пад сваім імем, фактычна дапусьціўшы найгоршы плягіят, які магчыма сабе ўявіць, і пазбавіўшы гэтым сына ня толькі ягонай духоўнай уласнасьці, але і ўсялякага жаданьня зьвяртацца да паэзіі ў пазьнейшы час? (Магу пацьвердзіць, што, наколькі памятаю, ніякіх вершаў я ні да нараджэньня, ні пасьля яго ніколі не пісаў, ня кажучы пра тое, што не адчуваў у матчыных вантробах ніякіх асаблівых штуршкоў, якія можна было б кваліфікаваць як зьбіцьцё – хутчэй, ішлося пра звычайны полавы кантакт між маімі бацькамі. – *Аўтар*). І як пасьля ўсяго гэтага растлумачыць, што такім нізкім і амаральным людзям Ю. Р. даваў грошы на іхную літаратурную дзейнасьць, фактычна гарантуючы іхнае алібі і будуючы за свае грошы іхныя рэпутацыі, ад якіх пасьля не пакінуў каменя на камені ў сваіх мэмуарах? Гэта застаецца загадкай, гэтаксама як і сьмерць самога Ю. Р. – паводле адных, ён папіхнуўся труфэлем у часе банкету з нагоды атрыманьня В. Васілевічам Ордэну кавалера прыгожых мастацтваў, пасьля чаго выкінуўся з вакна, прычым ягонай адсутнасьці на банкеце ніхто не заўважыў; паводле іншых, яго падстрэлілі на сафары ў часе экскурсіі па Гемінгуэеўскіх мясьцінах у Афрыцы, памылкова прыняўшы за слана.

**Скула, Дзяніс** (пазьней – Дзіна Скуола(?), 1944–1997) – эміграваў за мяжу памылкова, перайшоўшы памежную рэчку ў час рыбалкі, пасьля чаго быў усыноўлены каталіцкім ксяндзом і таемна адпраўлены навучацца ў Італію, адкуль болей не вярнуўся. Аўтар да сёньня цалкам не дэшыфраванага гермэтычнага раману “Фатальвэрк”, які пачаў пісаць у веку 7 гадоў і які ў момант публікацыі складаў пяць тысяч старонак. Ляўрэат прэміі часапісу “Выгнаньнік” “Літаратурная катастрофа году” (1966 г.).

Дзеяньне раману (паводле вэрсіі аўтара энцыкляпэдыі): маленькі хлопчык знаходзіць у сваёй кішэні плястыкавую фігурку каня і ўсьведамляе, што

ён – дзяўчынка. Паступова мы пазнаем у дзяўчынцы аўтара раману. Апавяданьне вядзецца ў трох часавых пластах: пласьце дзяцінства, пласьце сучаснасьці й пласьце будучыні пасьля сьмерці, дзе дзяўчынка-аўтар вядзе доўгія дыялёгі зь сьвятым Пятром, які адмаўляецца пускаць яго ў рай (сьвяты Пётра зашыфраваны ў рамане ў вобразе вадаправодчыка, які прыходзіць на аўтараву кватэру, каб нібыта рамантаваць ягоную друкарскую машынку). Тэкст не структураваны па разьдзелах і пазбаўлены знакаў прыпынку, месцамі таксама прабелаў паміж словамі, таму аддзяленьне ад сябе часавых пластоў (часам адна “фраза” належыць да аднаго пласта, наступная – да другога ці трэцяга, і так увесь час) патрабуе значнай інтэлектуальнай намогі. Падзеі першага пласта зводзяцца да сутыкненьня хлопчыка-дзяўчынкі з пахамі дзетсадаўскай прыбіральні, якія ён антрапамарфізуе і зь якімі размаўляе на працягу свайго дысцыплінарнага арышту ў дзіцячым клязэце (сымбалічнае ўвасабленьне пекла), дзе нечульлівая нянечка зачыніла яго за нежаданьне публічна прызнаваць сябе хлопчыкам і за няведаньне тэксту акупацыйнай песьні “В лясу радзілась воблачка”. Менавіта пад арыштам дзяўчынка-хлопчык набывае першы сэксуальны досьвед са знойдзеным у кішэні каньком. Падзеі другога пласта раману нагадваюць дэтэктыў: дарослы мужчына з вышэйшай адукацыяй вырашае стацца садоўнікам, хаця ня ведае пра садавіну абсалютна нічога й нават пакутуе ад алергіі на яе. Патаемным матывам ягонага вырашэньня ёсьць жаданьне завалодаць вялікімі нажніцамі (ягоная маці забараняла яму дакранацца да нажніцаў на працягу ўсяго дзяцінства). Трэці пласт раману, згаданы дыялёг з вадаправодчыкам Пётрам, завяршаецца забойствам апошняга з дапамогай згаданых садовых нажніцаў і згвалтаваньнем ягонага мёртвага цела, якое пасьля разразаецца на кавалкі (асобныя моманты апошніх разьдзелаў выдаюць значны ўплыў маркіза Дэ Сада, але нашмат перавышаюць яго што да гнюснасьці й няўмеласьці апісаньня). Відавочны таксама ўплыў “Боскай камэдыі” Дантэ на структуру раману: першы часовы пласт адпавядае “Пеклу”, другі – “Чысьцяцу”, трэці – “Раю”, які сканчаецца непазьбежным грэхападзеньнем і выгнаньнем назад у рэчаіснасьць. Тэкст характарызуецца хваравітым ужываньнем дымінутываў, якія ўскладняюць ягонае ўспрыманьне, асабліва для асобаў, старэйшых за восемдзесят гадоў.

Дзеяньне раману (паводле вэрсіі рэдактара “Выгнаньніка” Тодара Жываглота): усе апісаныя падзеі адбываюцца ў адным-адзіным часавым пласьце і ўвасабляюць дакумэнтальны дзёньнік аўтара, які кароткі час (з 1960 па 1964 гг.) знаходзіўся ў вар’ятні ў мілым ягонаму сэрцу Мілане. Раман поўны алюзіяў на канкрэтных асобаў (гаспадар саду, у якім герой працуе садоўнікам, – гэта загадчык вар’ятні, сьвяты Пётра – ніхто іншы, як Пятро Варштат, рэдактар “Ня вашага дзела”, які сымбалічна ўвасабляе ўсю бататуйскую справу як такую, плястыкавы канёк у кішэні – успамін пра страчаную радзіму, тыпова юнгіянскі сымбаль).

Пасьля атрыманьня згаданай літаратурнай прэміі (якая складала 1000 канадзкіх даляраў, спагнаных з аўтара Тодарам Жываглотам у касу “Выгнаньніка”) Д. С. нібыта зьмяніў імя на італьянскае і пачаў пісаць сцэнары для фільмаў заснаванай ім асабіста на ўскрайку “Чынэчыта” парнаграфічнай кінастудыі, даходы якой дазволілі яму рэшту жыцьця не працаваць і прысьвячаць свой час вольнаму пісьмоваму пераказу “Фатальвэрку” для дзяцей. Аднак калі не пагаджацца з гіпотэзай пра тоеснасьць Д. С. і Дзіна Скуолы, то апошнія трыц-

цаць гадоў жыцьця аўтара пасьля публікацыі ягонага раману застаюцца загадкай. Ёсьць зьвесткі, што ён насамрэч стаўся пажыцьцёвым Ганаровым садоўнікам у аднаго таямнічага арыстакрата (невядома, ці ня быў гэта Юрка Расчавіў), паводле іншай вэрсіі – быў асуджаны да пажыцьцёвага астрогу за сувязі з мафіяй і згвалтаваньне рэдкай пароды марскога канька проста ў рыбнай рэстарацыі.

**Халімонаў, Антось** (нар. 1953) – празаік, у бататуйскай літаратуры застаўся як аўтар дзьвюх кніг псыхалягічнай прозы "Каторую гадзіну капае кран" і "Шрубалёт на даху". Заснавальнік інтэрнацыянальнай літаратурнай групоўкі абяздоленых пісьменьнікаў "Вігвам", пазьнейператворанай у групоўку "Ўсіх – хай". Адпачатна ўражваў неабмежаванасьцю бататуйскай праблематыкі і імпанаваў крытыцы скіраванасьцю сваіх твораў (мове якіх уласьцівыя шматлікія барбарызмы) да замежнага чытача. Літаратуразнаўцы адзначаюць таксама ўплыў француcкага "новага раману" на прозу А. Х. Пасьля публікацыі згаданых кніг (першая – цыкль апавяданьняў, другая – вострасюжэтны раман з асяродзьдзя ізраільскіх спэцслужбаў) і практычнай адсутнасьці рэакцыі на іх у бататуйскім эмігранцкім друку, не гатовым успрыняць новыя павевы ў нацыянальным прыгожым пісьменстве, перайшоў на ўкраінскую мову, любоў да якой, паводле ўласных словаў, душыў у сабе ўсё жыцьцё. Цяпер – вядомы ўкраінскі пісьменьнік, жыве ў Кіеве. (Для больш падрабязнай інфармацыі глядзі даведнік "Пісьменьнікі Ўкраіны й беларускага Палесься".) На бацькаўшчыну не вярнуўся. У ліставаньні зь Сьцяпанам Юнаком адмаўляў якую заўгодна прыналежнасьць да бататуйскай літаратуры, а свае раньнія кнігі на бататуйскай мове прыпісваў Дзянісу Скулу.

Урывак з апавяданьня "Кончаны" з кнігі "Каторую гадзіну капае кран":

"Я бачыў, якой намогі яму каштавала выцягнуць з свайго горла вадаправодную трубу, на якую я выпадкова яго штурхнуў, і тым ня менш не зрабіў у ягоным кірунку ніводнага жэсту, а стаяў, як услупянелы, і напяваў у душы адну зь вядомых сучасных песенек. Выцягнуўшы трубу і распластаўшыся ў лужыне крыві, мая ахвяра ўсёдаравальна пасьміхалася мне, як быццам у апошні момант усьвядоміла ўсю непатрэбнасьць свайго жыцьця, і журботным, як у сабакі, зьзяньнем сьлязьлівых вачэй здолела ня толькі дараваць, але й пакінуць мне ў спадчыну бальшыню свайго капіталу. Росчырк ягонай крыві якраз упаў на натарыяльна завераны запавет. Я пасьміхнуўся, паляпаў яго па плячы і сыйшоў, адчыніўшы фортку, каб пазбавіцца прынамсі пасьля сьмерці таго задушлівага смуроду, у якім я мусіў жыць на працягу доўгіх гадоў – ахвяра была маім бацькам".

Як тэарэтык узбагаціў бататуйскую літаратурную крытыку сваімі філіпікамі супраць чорна-белага бачаньня сьвету, у якіх сьцьвярджаў, што яно павінна быць выключна чорным. Выявіў сябе як пасьлядоўны і зацяты вораг усялякага гумару, апрача, натуральна, чорнага – хаця і той у ягоных творах сустракаецца зрэдку, за выключэньнем папулярнага ў дзяцей і дарослых коміксу "Чарнабог", у якім невідочная постаць галоўнага адмоўнага героя самаахвярна змагаецца з увасабленьнем Дабра – жанападобным загадчыкам дзіцячага садку, што жыве двайным жыцьцём філянтропа і галоўнага рэдактара часапісу для калекцыянэраў аленевых рагоў, чыя дабрачынная мафія распусьціла свае мацуны па ўсім сьвеце.

**Юнак, Сьцяпан** (уласным імем Джон Васілевіч, нар. у 1969, іншыя псэўданімы – Юнга, Крот, Матылевіч) – першы народжаны ў эміграцыі бататуйскі літаратар, сын Анісы Лемеш і Васіля Васілевіча (паводле іншых зьвестак – Ігі Попа), прадстаўнік другой генэрацыі творцаў дыяспары. Нягледзячы на абраны яму бацькамі пры нараджэньні літаратурны псэўданім, не пайшоў іхным шляхам, а прысьвяціў сваё жыцьцё ўпарадкаваньню іхнага архіву і дасьледаваньню літаратурнай гісторыі папярэдняй генэрацыі. Паводле адукацыі – патолягаанатам. Аўтар калясальнай энцыкляпэдыі "Бататуйская літаратура XX стагодзьдзя ў эміграцыі" — пакуль яшчэ нясканчанага і нявыдадзенага шэдэўру літаратуразнаўства, урыўкі зь якой мы тут публікуем. Упершыню падзяліў бататуйскую эміgranцкую літаратуру на дзьве "хвалі" – чырвовую і пікейную – іначай кажучы, на літаратараў грамадзка ангажаваных (народжаных да 1935 г.) і грамадзка неангажаваных (народжаных пасьля 1935 г.). У якасьці ўмоўнага "пералому" ў гісторыі разьвіцьця эміgranцкага пісьменства С. Ю. цалкам выпадкова абраў год нараджэньня свайго бацькі Васіля Васілевіча, падкрэсьліўшы гэтым прыналежнасьць апошняга да абедзьвюх плыняў. У прадмове да згаданай энцыкляпэдыі С. Ю. тлумачыць гэты так званы "літаратуразнаўчы закон Сьцяпана-Васілевіча" наступным чынам: "Нельга не адзначыць, што бататуйская эміgranцкая літаратура ёсьць неаднароднай, а дакладней – выразна падзеленай паводле сымпатый і, адпаведна, антыпатый да Бацькаўшчыны на дзьве "хвалі". Гэтак пісьменьнікі старэйшага, "чырвовага" (ад знаку сэрца, "чырва" – традыцыйнага сымбалю любові да Бататуі) пакаленьня, якія нарадзіліся да 1935 году, выяўляюць асаблівую заклапочанасьць лёсамі пакінутай Бацькаўшчыны і ўспрымаюць сябе як ейны працяг у вялікім сьвеце, штосьці накшталт мацуноў (П. Варштат сказаў бы "шчупальняў") вялізнага паліпу сваёй Радзімы, у задачу якіх уваходзіць перадусім: 1) прыцягненьне ўвагі шырокай усясьветнай грамадзкасьці да ейнай паняволенай палітычнай і культурнай сытуацыі; 2) прыцягненьне сьвядомасьці насельніцтва памежных з Бататуяю тэрыторый ва ўлоньне агульнанацыянальнай Вялікабататуйскай сьвядомасьці, каб шляхам гэткіх прыцягненьняў сілкаваць Бататую і ейнае культурнае жыцьцё з дапамогай зьнешніх здабыткаў. Наадварот, прадстаўнікі "пікейнага" пакаленьня эміграцыі (народжанага пасьля 1935 году; назва паходзіць ці то ад уласьцівай бальшыні зь іх тэндэнцыі апранацца ў камізэльку-піке ў знак сваёй адасобленасьці ад астатніх, ці то ад таго, што яны вельмі часта "пікіраваліся" з калегамі і потым скончалі жыцьцё самагубствам, імкнулі ўніз, "увайшоўшы ў піке" – адна этымалёгія не выключае другой і трэцяй) зьяўляюцца мацунамі, якія "залішне адарваліся ад народу" і ўсьвядомілі сябе ў якасьці самастойных, збольшага аднаасобных арганізмаў – настолькі адасобленых, што называць іх якойсьці "хваляй" нават не выпадае. На жаль, прадстаўнікі гэтага пакаленьня забыліся пра тое, што мацуны-шчупальцы, гэтаксама як пруты веніку, лёгка зламаць ці пасячы паасобку, бо зьяднацца ў адзіны венік яны да сёньняшняга дня так і ня здолелі. Мала таго, некаторыя зь іх перасталі ўспрымаць Бататую як вышэйзгаданага "паліпа", то бок галаву і мозаг усялякага літаратурнага руху, цэнтар Богам створанага сусьвету, што ў асобных выпадках прывяло да поўнага разрыву з бататуйскай культурай (ня варты нападабненьня прыклад А. Халімонава). Ці варта казаць, што гэты балючы разрыў так ніколі і не загаіўся – безь яго бататуйская эміgranцкая літарату-

ра засталася толькі галавой бяз чалясоў і зрабілася практычна няздольнай да дзеяньня. Адзін па адным адуміралі флягманы эміґранцкага пісьменства, такія як "Ня ваша дзела" і "Выгнаньнік" – іхны канчатковы скон быў выкліканы збольшага сконам іхных заснавальнікаў у канцы 1990-х гг. Але варта прызнаць, што асобныя папаўзнавеньні згаданых шчупальцаў зазьзялі ў гісторыі нацыянальнай літаратуры, як прамяні звышновай зоркі, чыё магутнае сьвятло даходзіць да нас яшчэ некаторы час і пасьля згасаньня ейнага жывільнага ядра. Што ж, пачакайма зьяўленьня новай хвалі эміграцыі, а зь ёю і новай эміґранцкай літаратуры, якая будзе ня проста новай, а БУБ-новай, гэта значыць – надзеленай Безумоўным Усьведамленьнем Бататуйскасьці Новай, іншай, больш яскравай, чым дагэтуль – і ні ў якім разе не "крыжовай", што змусіла б нас паставіць крыж на эміґрацыйнай творчасьці як гэткай. Спадзяваймася, што непазьбежны наступ БУБ-новага пакаленьня станецца дыялектычным сынтэзам намаганьняў абедзьвюх папярэдніх хваляў. Пісаць гісторыю новай хвалі бататуйскай эміґранцкай літаратуры – задача навукоўцаў будучыні, якім ужо сёньня можна шмат у чым пазайздросьціць".





**ЯКІМОВІЧ Валянціна** (да 1976 году Малахоўская) нарадзілася 27 лістапада 1949 году ў г. п. Касьцюкоўка на Гомельшчыне. У 1973 г. скончыла архітэктурны факультэт БПІ. Працавала архітэктарам, вядучым інжынэрам-канструктарам, настаўніцай крэсьленьня, жывапісу і народнага мастацтва, пэдагогам-арганізатарам, старэйшым навуковым супрацоўнікам. З 1987 году брала ўдзел у працы нефармальнага маладзёвага аб'яднаньня "Талака". Сяброўка Беларускага народнага фронту (ад 1989 г.), а таксама Таварыства беларускай мовы і Беларускага саюзу фальклярыстаў і фальклёрнага гурта "Дзяньніца". Народны майстар па вырабе нацыянальных беларускіх строяў. Аўтар шэрагаў культуралягічных артыкулаў і публікацыяў фальклёрнага і этнаграфічнага характару. З канца 1998 году — у ЗША, бярэ ўдзел у дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

# Мае гастролі ў Польшчы

Позьнім травеньскім вечарам 1993 году ўціскаюся ў перапоўнены цягнік менскага мэтро, дзьверы якога зь цяжкасьцю зачыняюцца. Міжволі шчыльна прытуляюся да маладога мужчыны, нават чую біцьцё ягонага сэрца, а мае вочы ўпіраюцца ў пульсуючую ямачку пад кадыком. Уздымаю галаву і нечакана сутыкаюся з паглядам вядомага ўсім сьвядомым беларусам маладога таленавітага гісторыка Генадзя Сагановіча. Абодва амаль ў адзін галас радасна вітаемся. "Валя, відаць, у цябе сапсуты тэлефон, бо колькі ні тэлефаную, ніхто не адказвае, а мне патрэбная твая дапамога. Адам Мальдзіс сасватаў мне маладую гістарыцу польскага паходжаньня з Чыкага, якая хоча абараніць дысэртацыю на тэму: "Ўдзел жыдоў у Грунвальдзкай бітве". Яна прылятае ў Менск, каб папрацаваць у бібліятэцы Акадэміі навук. Дык Мальдзіс папрасіў, каб яна пажыла нейкі час у мяне. А тут такія ўмовы, што ці кладзі яе ў ложак між сабою і жонкаю, ці між двух дзяцей, ці разам зь цешчай". — "Няма праблемаў", — адказваю. — Часова пакойчык сына і ягонай жоначкі вольны. Там яе і паселім. Вось толькі на якой мове мы будзем мецц між сабой зносіны, калі яна не размаўляе па-беларуску, а я не разумею па-ангельску і не гавару па-польску?"

Назаўтра сьціпла апранутая, у вялікіх акулярах і зь вялікім заплечнікам, які на ўсялякі выпадак быў набіты навюсенькам адзеньнем для немаўляці (і гэ-

та было чыстае супадзеньне, што мае дзеці ў самы бліжэйшы час абяцаліся зрабіць мяне бабуляй), Барбара Пэндзіх была ўжо ў нашай хаце. Аказалася, што няма праблемаў ва ўзаемапаразуменьні паміж беларускаю і полькаю, калі людзі хочуць адзін аднаго зразумець. Бася запыталася, ці можна ёй тэлефанаваць маці і мужу. Безумоўна, я не адмовіла ёй ў гэтым. Мы пасябравалі.

Нягледзячы на тое, што часам у людзей не было грошай на хлеб, тым ня менш у тэатар опэры і балету ў Менску было цяжка патрапіць, замаўляць квіткі трэба было за месяц наперад. Але па забраніраваных некім квітках мы з Барбарай умудрыліся нават схадзіць на балет Чайкоўскага “Лебядзінае возера” ды яшчэ змаглі, ня маючы візаў, дабрацца на цягніку да Вільні. Тады яшчэ толькі абвясьцілі пра закрыцьцё межаў між Беларусьсю і Летувой. Маральна і дакумэнтальна абедзьве краіны былі яшчэ абсалютова не гатовыя да гэтага. Едзем мы сабе ў цягніку, праз вакно ўзіраемся ў родныя краявіды. Празь дзьве гадзіны да нас падыйшоў мытнік, запатрабаваў візы, пашпарт і квіткі. Тут я і выдала яму гнеўна: “Якія такія візы вам патрэбныя, калі я на сваю радзіму еду ад бацькоў да бабці, калі ў Вільні ўсе дзяды мае пахаваныя?” Мытнік неяк нягегла, засаромлена ўцягнуў шыю ў каўнер, папрасіў прабачэньня і, азадачаны, моўчкі пайшоў далей. Барбара, якая 37 год пражыла ў Чыкага і, толькі пабраўшыся шлюбам з Адамам, год як жыла ва Ўроцлаве, была ў шоку ад майго ўчынку і таго, што нам удалося бяз той злашчаснай візы пераехаць дзяржаўную мяжу.

Быў пачатак чэрвеня. Сьвяціла сонца ў сінім небе. Ап’яняў водар бэзу, чаромхі, весела сьвяціліся ў сьветла-зялёным покрыве травы жоўценькія галоўкі дзьмухаўцоў. З захапленьнем мы ўзіраліся на Вострую браму, узьнёслы гатычны касьцёл сьвятой Ганны, цяжкія Бэрнардынскія муры, фатаграфавалі ўсе помнікі архітэктуры, вузкія ўтульныя вулачкі Вільні. Толькі пры ўсіх нашых сяброўскіх адносінах, мы стараліся не размаўляць на гістарычныя тэмы. Яна была гісторыкам і шчыра перакананая, што як Львоў, Горадня, Вільня, так і Менск – гэта землі польскія. Я абурылася: “А дзе ж па-твойму ліцьвінскія Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць беларускія, можа, толькі чарнобыльскія?” На гэтым размова на гістарычную тэму закончылася.

Ад’яжджаючы, Барбара запыталася колькі ж яна павінна заплаціць за пражываньне і карыстаньне тэлефонам. Я засьмяялася, што некалі, можа, прыеду ў Польшчу, тады спынюся ў яе, вось і ўся плата. Бася паехала дадому. А праз колькі дзён я атрымала квітанцыю, дзе значылася, што мушу аплаціць за тэлефонныя размовы суму, якая была ў пятнаццаць разоў вышэй за мой месячны заробак. Што рабіць? Давялося засесьці за “зінгер”, шыць на замову па начох, каб неяк выкруціцца з сытуацыі. Празь месяц па тэлефоне Барбара паведаміла, што яе муж Адам запрашае мяне да іх у госьці. Але дзе ж мне было ўзяць трыццаць даляраў? А тут, праціраючы пыл у хаце, адсунула зь верхняе паліцы таўстую кнігу, і на мяне, бы зь неба, зьляцела зялёненькая паперка ў дваццаць даляраў. Набыла квіток толькі да Варшавы, а там Бася з Адамам абяцалі мяне падхапіць, павадзіць па музэях і адвезьці да сябе ва Ўроцлаў. Барбара падказала мне захапіць з сабою мой найлепшы нацыянальны строй. З гэтым праблемаў не магло быць. Але, паколькі зборы былі хуткімі, я не пасьпела забегчы ў цырульню, таму папрасіла свайго сына, каб той падраўняў мне валасы. Недзе а другой ночы Руслан пачаў раўняць. У выніку а трэцяй раніцы на маіх скронях засталіся валасы з паступовым пераходам ад аднаго да трох мілімэт-

раў, а над ілбом і па патыліцы – каля аднаго сантымэтру, максымум. Крыху нязвыкла, але мне пасавала. Хацела паехаць зь невялічкай сумачкай, але сын сказаў, што за мяжу трэба ехаць з валізай. Паклала ў яе беларускі строй, у падарунак прыхапіла вышыты мною абрус і пляшку пшанічнай, хоць правозіць можна было і дзьве, але на другую ў мяне ўжо не было сродкаў: у кішэні ляжала купюра ў памеры аднаго беларускага зайчыка. З тым і адправілася за мяжу.

У Варшаве пазнаёмілася зь велічэзным Адамам, які ўвесь час замілавана глядзеў на Барбару і чульліва трымаў яе за руку, не адпускаючы ні на хвіліну. Адаму было ўжо сорак два гады, а Басі год трыццаць восем. Здаецца, і не было ў ёй нічога такога, каб так кахаць. Аказваецца, што і яны мелі няпросты лёс.

Адам у першым шлюбе, пражыўшы дзесяць год з жонкаю, ня меў дзяцей. І тая папракала яго і бацькоў мужа, як аказалася, людзей вельмі добрых, за ўсе свае няўдачы, ды так, што проста поедам ела, што такі й сякі Адам нyздатны нават зрабіць дзіцятка. Тым часам Адам з дапамогаю бацькоў прыдбаў для сям'і вялікую прыгожую хату і зноў адправіўся на заробкі. А каб зрабіць жонцы сюрпрыз, вярнуўся раней тэрміну без папярэджаньня з букетам чырвоных ружаў. І, як ў тым анэкдоце, застаў жонку ў ложку са сваім стрыечным братам, маладзейшым за яе на дзесяць год. Адам паклаў ружы на ложак, адкрыў шафу, дастаў адтуль свой гарнітур, паклаў у дарожную сумку і моўчкі выйшаў з хаты.

Бацька Адама – Тадэвуш – быў гінэколягам, а маці Зося – дзіцячым тэрапеўтам. Былая жонка Адама працягвала лячыцца ў свайго былога сьвёкра Тадэвуша й нейкім цудам, нарэшце, зацяжарала і нарадзіла сына. Цяпер яна старанна безь якой-небудзь паважнай прычыны, проста ад няўжыўнага характару, усе гады, бы тупая піла, няўмольна пілавала свайго другога мужа і новых сьвёкраў, што хоць тым сыходзь з хаты.

Адам тры гады нават не глядзеў у бок жанчын і думаў, што зьвякуе свой век бабылём. Пачаў весьці аседлае жыцьцё, выкладаў фізыку й матэматыку ва ўнівэрсытэце. Раптам яго паслалі ў камандзіроўку ў Ізраіль. Туды ж па накіраваньні асьпірантуры з Чыкага прырулявала і Барбара Пэндзіх. Недзе іх шляхі перасякліся. Адбылося знаёмства. Тут нечакана пачалася вайна. Ад жаху Барбара пабегла да адзінага знаёмага паляка Адама. А той зрабіў ёй прапанову пабрацца шлюбам і адразу папярэдзіў, што бязьдзетны. Басю ў яе сям'і лічылі няўдачніцай, бо ўсе яе пяцёра сясьцёр былі замужам і мелі дзетак. Гады Басі імкліва набліжаліся да саракоўкі, што непазьбежна аддаляла яе ад сярэдняга ўзросту нявесты. Яна думала, што так у дзеўках і памрэ, не магла адмовіцца ад прапановы. Ноч правялі разам, раніцой разьляцеліся: яна – у ЗША, а ён – у Польшчу. Празь месяц Адам атрымаў паведамленьне, што будзе бацькам. Паверыць у гэта ён ня мог, але й ня верыць не было як. Калі я прыехала да іх, па хаце на карачках поўзаў сінявокі, белагаловы дзьмухавец Янчка. А сёньня яны маюць трое цудоўных дзетак: сямнаццацігадовага Янку, Міхала, якому хутка споўніцца пятнаццаць, і адзінаццацігадовую чароўную Геленку.

Але вярнуся ў той час, у 1993 год у Варшаву. Я абыйшла ўсе музэі, найбольш затрымаўшыся ў этнаграфічным ля беларускіх вышыванак ды ля партрэтаў магнатаў ВКЛ. Доўга шчымела сэрца ў музэі ля шыкоўных слуцкіх паясоў. Ва Ўроцлаве хадзіла засмучоная па музэі беларускіх маляваных куфэркаў і думала: чаму ж тое, што належыць па праве нам – нашчадкам ліцьвінаў,

беларусам – фактычна нарабаванае, удаецца палякамі за сваё і з гонарам экспануецца ў Польшчы? У чыёй дзяржаве Слуцак, Кобрын, Пінск, Берасьце? Дзе ж справядлівасьць? Як вярнуць гэтае багацьце на Бацькаўшчыну?

У Кракаве цэлы дзень фатаграфавала і замалёўвала беларускія строі з Кобрыну, Пінску, Берасьця. Пры тым польскія строі, чысьцюткія, накрухмаленыя, красаваліся ў экспазыцыях. А нашыя, якія амаль сорак год нікому не паказвалі, былі ў такім стане, што мае рукі зрабіліся чорнымі, нібы я перабірала вугольле.

Мой адпачынак падыходзіў да канца. Барбара сказала, што я мушу зарабіць сабе грошы, а таму трэба, каб я выступіла з канцэртам. Тую адзіную пляшку пшанічнай гарэлкі, што я прывезла, яна падаравала Янку Станкевічу, дырэктару тэатру пантамімы, які знаходзіўся на Грунвальдзкім пляцы. Пазнаёмілі мяне зь ім з мэтаю, каб той дазволіў мне правесьці сваё выступленьне ў іхным тэатры. Брат Янкі Алесь быў мастаком і хуценька зрабіў мне афішу, на якой напісаў “Беларуске людовэ песьні”. Далей было пазначана, што будзе толькі адно выступленьне. Бася на кампутары надрукавала запрашальныя квіткі. Давялося мне двойчы выступіць на польскім радыё з запрашэньнем на канцэрт. Цэлы дзень мы з Барбарай хадзілі па ўсім Уроцлаве і расклейвалі афішы, раздавалі запрашэньні. Раптам адзін Басін знаёмы заўважыў, што на запросінах і афішах ёсьць адрас і час, але не пазначаны дзень, калі адбудзецца канцэрт. Давялося хадзіць па другому кругу і дапісваць. Нейкі ўжо немалады паляк, агледзеў маю фрызуру і неяк зьдзіўлена, амаль прасьпяваў: “Ку-рр-ва!”

У суботу 30 жніўня мае сябры Адам і Барбара прывялі мяне ў канцэртную залю са стольлю і сьценамі, абшытымі чорным аксамітам, з сьветла-жоўтым паркетам, дзе лаўкі былі адзіным убранствам. Людзей, на дзіва, сабралася шмат. Самае жахлівае, што дагэтуль я так ніколі не сьпявала, каб адна і цэлы канцэрт. Выйшла на сцэну ў строі, патлумачыла, што фрызура мая не зьяўляецца традыцыйнай беларускай. Пачуўся добразычлівы сьмяшок. Нясьпешна я пачала гаварыць па-беларуску. Спачатку крыху закранула нашу агульную гісторыю, потым перайшла да традыцыяў і стала распавядаць пра беларускае Купальле. Па меры апавяданьня ўстаўляла песьні, потым пачала запрашаць на карагоды дзяўчат і хлапцоў, што сядзелі ў першым шэрагу. У канцы майго канцэрту амаль усе прысутныя па майму знаку ўжо падпявалі на два галасы, дзе трэба, таму ўсім было весела. Хоць канцэрт быў разьлічаны хвілінаў на сорак пяць, ён доўжыўся амаль дзьве гадзіны. На заключэньне разам з прысутнымі ў залі мы прасьпявалі дзьве народныя польскія песьні: “Кукулечка, ку-ку, хлопец панну шукаў” і другую – пра вішню ля калодзежа. Разыходзіцца не хацеў ніхто. Нарэшце мне пачалі падносіць кветкі, нехта падараваў вялікі тэрмас для купальскага крупніку. Актор тэатру пантамімы Дзіхо ў чорным аблягаючым строі зьняў з галавы капялюш, паказваючы гледачам усім сваім выглядам, што ўваход быў вольны, а за выхад трэба плаціць. Ён назьбіраў больш за дзьвесьце даляраў і ўрачыста перадаў іх мне. Гэта было больш за мой гадавы заробак.

Наступны дзень быў апошнім. Я адправілася адна гуляць па старым мястэчку, дзе мяне чакаў дырэктар тэатру пантамімы Янка Станкевіч. Народжаны ў Беларусі пад Воршай, ён яшчэ памятаў гульні накшталт: “Кацілася торба з высокага горба...” Драбнаваты, невысокага росту, у чаравіках на высокіх абца-

сах, з важнай выпраўкай, бацька траіх дзяцей, пачаў мне гаварыць аб нейкіх "сур'ёзных намерах". Відавочна, што прэзэнт у колькасьці адной пляшкі за прадастаўленую мне залю, быў недастатковы. Яму хацелася нейкіх рамантычных прыгодаў, таму рабіў тонкія намёкі на тоўстыя абставіны, сыпаў камплімэнтамі й скосу, амаль па-дзіцячы, аглядаў мяне наіўным поглядам гулякі, што выклікала ў мяне ўнутраны сьмех. Нарэшце гэты сьпэктакаль мне надакучыў. Каб расставіць усе кропкі над "і", прасьпявала яму песьню: "З тае буйнай хмары дробны дожджык будзе, з нашага каханьня нічога ня будзе..." Ветліва адкланялася і сыйшла.

Гуляючы, патраціла ўсе грошы на кальле, бранзалет і пярсьцёнак з завушніцамі ручной працы з срэбра і бірузы, бо падумалася, што лёгка вельмі прыйшлі. Зося і Тадэвуш, Бася і Адам наладзілі разьвітальнае застольле. Падрыхтавалі мне столькі падарункаў, што акрамя маёй валізы давялося напакаваць яшчэ тры. А Зося ўгаварыла мяне ўзяць з сабою і букет. Патэлефанавалі майму сыну, каб прыйшоў сустрэць.

Я ледзьве ўмясьцілася ў купэ на двох, дзе нейкая полька ўжо забіла ўсю прастору сваімі торбамі з рэчамі, якія яна везла на продаж. На ноч полька начапіла на дзьверы купэ нейкае сьпэцыяльнае прыстасаваньне, каб нас не абакралі, як яна мне патлумачыла, праваднікі. Яна вельмі баялася польскіх мытнікаў, бо, маўляў, будуць ператрасаць рэчы. Але калі тыя ўвайшлі, то раптам вельмі паважна прамовілі: "О, пані акторка!" і выйшлі з купэ. Мая суседка з палёгкай уздыхнула. На беларускім памежжы мытнікі зазірнулі са словамі: "Вы актрыса?" і прайшлі міма. Тут мяне ўжо ўзяла цікавасьць. Пытаюся ў полькі: "Чаму яны вырашылі, што я акторка?" Тая давяла, што ў мяне дужа дарагі букет з архідэяў, які звычайна падносяць акторам, адзіная галінка якога на той час каштавала ажно 25 даляраў. Я падлічыла і аказалася, што мой букет каштаваў 175 даляраў. Прыгадала, што падараваў мне яго якраз дырэктар тэатру. Закралася непрыгожая думка, што лепей бы гэтыя грошы ён паклаў у капялюш Дзіхо.

На менскім пэроне я ўбачыла сына і закрычала: "Руслан!" Праваднік і двое маладых хлапцоў, што дапамагалі мне выцягваць мае пакункі ў тамбур, пачалі таксама голасна клікаць майго сына. Тым часам з вагону-рэстарану выйшаў добра падпіты паляк. У руках ён трымаў пляшку каньяку і вялікую шакалядку. Яго прыжмураныя вочкі на бурачна-чырвоным твары раптам спыніліся на маім букеце. Ліпкім языком ён аблізаў свае тоўстыя вусны і прамовіў: "Пані, прадай кветы за дзесяць даляраў для маёй каханай". Адчуваючы агіду да п'янага, я адмовіла яму. Тады ён пачаў паднімаць цану. І калі, нарэшце, назваў лічбу пяцьдзясят даляраў, з сумам мне падумалася, што вяртаюся я дахаты з тым жа адзіным зайчыкам у кішэні. І я пагадзілася. Паляк заплаціў мне, узяў букет, тут раптам цягнік моцна таргануўся і спыніўся. Ад няспадзяванкі добра падвыпіўшы паляк не ўтрымаў раўнавагу і, расьцягнуўшыся на ўвесь праход, з размаху ўляцеў у прыбіральню галавою проста ва ўнітаз. Неяк ўзьняўся, пастараўся набыць раўнавагу і, бы ў бой, з выкрыкам "Курва!" пасунуўся да сваёй каханкі.

Нам давялося наняць грузчыка і таксоўку, каб даехаць дадому, дзе нас чакала мая нявестачка Людачка і маленькая трохмесячная ўнучачка Настачка.

# Зьнічка

Трэці год запар стаяла засушлівае лета. Апошнія дажджы таго году выліліся ў купальскія ночы. Паветра накалілася да такой ступені, што нават неба зь сіняга сталася паліняла-жоўтым. Вось ужо ліпень і амаль увесь жнівень зь неба не пралілося ні кроплі. Ад замураванай у асфальт зямлі, як ад пяску на падагрэтай патэльні, струменьчыкамі ўздымаўся вогненны смурод. У гэтым гарадзкім катле, дзе ссыхаліся травы і лісты на дрэвах і, здавалася, павінна было загінуць усё жывое, імчаліся некуды тралейбусы, у якіх мільгалі змучаныя клопатамі й сьпёкай твары.

Як і большасьць, штодня я праводзіла ў пакоях з расчыненымі днём і ноччу вокнамі, празь якія замест сьвежага паветра ліліся душныя выпарэньні гарадзкой атмасфэры. Мара выканаць свой абавязак – выдаць кнігу, прымушала мяне з ранку да позьняга вечару змагацца з кампутарам, у якім я амаль нічога ня кеміла. У пакойчыку пры ўнівэрсытэце, цесным і душным, разам са мной у беспаветранай нерухомай прасторы працаваў студэнт матэматычнага факультэту, якога зьбіраліся адлічыць з трэцяга курсу. Калі б ня ён і яшчэ адзін мой прыяцель, глядзела б я на гэты кампутар, як баран на новыя вароты. Абодвум ня больш за дваццаць тры гады. З упартасьцю маньяка трэці месяц з раніцы да ночы набіраю нейкія невядомыя для мяне файлы. Бескарысьлівасьці сяброў, якія імгненна выпраўляюць мае памылкі, даводзіцца толькі зьдзіўляцца. Зрэдку ў наш пакой забягаюць маладыя хлапцы, якім неабыякавы лёс Беларусі. Гэта крыху ажыўляе. Але нястомнае сонца паліць, бы хоча расплавіць апошнія мазгі, нават а восьмай гадзіне, калі вяртаюся дахаты, — плюс дваццаць восем.

З вокнаў маёй кватэры сярод гарадзкой забудовы відаць выспачку лесу, на якой, як на фантастычнай карціне Язэпа Драздовіча, назву якой ужо ня памятаю, ці Чурлёніса “Пахаваньне сонца”, дрэвы з аднаго боку пранізаныя сонцам, а з другога – агорнутыя сіне-чорным ценем, гульня сьвету і цемры нібы нагадвала аб адзінстве маладосьці і старасьці, жыцьця і сьмерці. Нават убогая архітэктура панэльных гмахаў, асьветленая такім самым чынам, наводзіла мяне на думкі аб імгненнасьці й бясконцасьці жыцьця. Думалася, што маё жыцьцё, дый усіх нас, не даўжэйшае за жыцьцё матыля-аднадзёнкі. Хацелася кінуць усё і пайсьці ў той лес, дзе сінелі цені, паваліцца ў траву, каб уратавацца ад надакучлівага сонца і сьпёкі. Але ісьці ў гэты цень адной не хапала сіл.

Позіркі людзей і вулічных сабак зрабіліся падобнымі ў сваёй безвыходнасьці. Трава пажоўкла, высахла, як шчапа.

Душная, бясконцая адзінота сярод людзей была занадта невыноснай. Нэрвы напружвала ўсё: шум гораду і яго цішыня, абыякавыя і цікаўныя позіркі мінакоў. Сытыя і нахабныя твары новасьпечаных расейскамоўных бізнэсмэнаў, якіх разьвялося бы блох у сукі, польскія і турэцкія танныя шмоткі з дынамаўскага кірмашу ў дзявок на вуліцах даводзілі да адчаю. Ні зайздрасьці, бо тут няма чаму зайздросьціць, ні нянавісьці. Адзін адчай. Бо што ім тая Беларусь?

Як хворую, мяне ліхаманкава трэсла разам з навакольлем. Учадзелыя выпарэньні гораду, сьпёка і ўласная непатрэбнасьць усяму гэтаму сьвету былі занадта страшнымі. Вось ужо дзявяты месяц маладая, дужая і здольная я беспрацоўная. І не таму, што не магу знайсьці працу, проста ня бачу сэнсу працаваць

за бясцэнак, каб нейкі звыроднік-начальнік, як той цмок, за гэтую дробязь, што плоціць дзяржава, шчэ й піў зь мяне кроў.

Пасьля чарговай безвыніковай спробы ўладкавацца на прыстойную працу, вярталася дадому. Задушша паветра, разьлітага ў апошнім сьвятле сьвінцова-аблезлага неба, ужо змагалася з прыцемкамі вечару, калі, зьнямоглая, я ўвайшла ў распаленае чэрава перапоўненага тралейбусу. Вольным было толькі адно месца сьпераду, ля вакна кіроўцы. Села побач зь сьветлагаловым юнаком. Сусед неспакойна агледзеўся па баках. Потым погляд блакітна-шэрых вачэй перакрыжаваўся з маім. Выпадкова худавата-вострыя плечы пад бялюткай кашуляй крануліся маіх, кругла-агаленых, нібыта абодвух нас прашыла маланкай. Мой сусед сьветануў па вачох і нэрвах белымі роўнымі зубамі. Завязалася размова.

Духата ўсярэдзіне і звонку паглынала мяне. Хацелася прахалоды, сьвежага паветра. Гарачыня маёй крыві дзіўным чынам, я адчувала гэта, пачала пераліваца ў хлапца, імя якога аказалася сугучным імю майго сына. Паабяцаўшы падшыць яму новыя, з тонкага чорнага сукна порткі, якія ён, відаць, набыў толькі што і сам сабе падагнаў, закалоўшы шпількай, у выніку чаго адна калашына была даўжэйшай за другую, пры разьвітаньні пакінула свой адрас.

Вось я і дома. Аблілася халоднай вадою пад душам, і мяне агарнула недарэчнае і сьмешнае пачуцьцё – пачуцьцё чаканьня, хоць чакаць не было каго.

Званок! Адчыняю дзьверы. І мяне няўпэўнена-настойліва абдымаюць рукі юнака. Строгім поглядам адхіляю яго. Праводжу па сваіх пакоях. Ён па-дзіцячы захапляецца тым, што ўбачыў. Нейкая спакуса падштурхоўвае абняць яго. Але стрымліваюся. Бяруся за працу. І, каб абараніцца, ніжэй схіляю галаву над швачнай машынкай. Вось зроблены апошні шывок.

Раптам адчуваю за сваёй сьпіной яго напружанае цела і пяшчотныя рукі.

За расчыненым вакном раскінулася ноч, ад якой не было прахалоды. Скроні сьціснула, кроў закіпела, бы крупнік у казане на Купальлі. Я ўзьнялася, каб выйсьці з пакою. Шчэ не хапала раману з такім маладзёнам!

...Толькі юнацкія моцныя рукі затрымалі мяне і пухлыя вусны асьцярожна крануліся маіх. Скаланулася, бы ліст асінавы перад дажджом. Ён мацней, ужо па-мужчынску абняў мяне. Мае сухія й гарачыя вусны паддаліся ягоным вільготным. Спалучыліся прага і ап'яненьне. Бязвольна прытулілася да хударлявых, але дужых плячэй. Раптам адчула знураючую сьпёку: Яна, нібы асалода, любаярліва ахінула мяне. Заплюшчыла вочы і ўтапілася ў пацалунках настойліва-палкіх... Хацела адумацца, але ўжо не магла.

Крыху саромячыся сваіх акругласьцяў, растварылася ў абдымках і пацалунках вуглаватага хлапца. З невыказнай пяшчотай яго скура, чыстая, гладкая і пругкая, як рыпучы спасаўскі яблык, кранулася маёй гарачай. І мы зьліліся ў адно, бы хваля ў хвалю. Ціха патрэсквала чырвоным сьвятлом цьмяная лучына...

У нашых абдымках сыйшоўся сусьвет. Рэчаіснасьць канчаткова страціла свае абрысы гэтай фантастычнай ноччу. Мы патрапілі ў бясконцасьць, бесьсьмяротнасьць, у нейкае іншае вымярэньне часу.

Яго бялява-жытнія валасы краналіся маіх. Ад дзённай сьпёкі гарэў тарфянік ля менскіх балот. Сівы задушлівы смог праз адчыненае вакно павіс і над намі ў пакоі. Ён быў нашым сьведкам. Надакучліва гулі прыставучыя камары. Лучына дагарала. І толькі трапяткі агеньчык у душы бярэдзіў кроў, не жадаў

пагаснуць. Шкада было марнаваць час на сон. Дыханьне хлапца было лёгкае і чуйнае. Пры кожным пяшчотным дакрананьні, нашыя рукі спляталіся, а вусны адказвалі пацалункамі.

Мой любы хлопчык сыйшоў з досьвіткам, які наступіў так хутка. Прамільгнуў у маім самотным жыцьці, як зьнічка на небе.

Мой хлопчык – зьнічка! Я нават не пасьпела задумаць жаданьне. Разгубленая, стомленая зноў засталася адна.

Днела. Адзінокі пусты пакой палохаў, як дамавіна. І толькі ложак яшчэ трымаў адбітак і цяпло ягонага цела.



# УСТУП

Пабачыў рукапіс новай ананімнай паэмы й сумна ўсьміхнуўся. Колькі ўжо стагодзьдзяў мусяць нашыя літаратары хаваць сваё імя, адчуваючы час і грамадзтва, у якім жывуць. Сёньня, як і 100 й 200 гадоў таму казаць праўду небясьпечна, бо праўда – зьява прыстойная й культуральная – сутыкнуўшыся з помсьлівым агідным злом, звычайна прайграе. Пры гэтым найбольш церпіць аўтар. Вось і гэтая паэма, аўтар якой схаваўся пад мяном Вядзьмак Брайтан-Бруклінскі, ня ёсьць выняткам. Я разумею. Скажы хто ты, акажыся, і адразу ж наляціць груганьнё, пасыплюцца абвінавачаньні, разьнясуцца сабачыя брэхі. І тут ужо ня можна быць пэўным, што нехта возьме твой бок, абароніць ад пакрыўджаных у творы асобаў, якія, ведама ж, шмат лепшыя, чым іх паказвае гэты выскачка-рыхмач… І нікому ня прыйдзе думка: а можа, ён мае рацыю? Можа мне, аднаму з герояў паэмы, трэба нешта зразумець, пераглядзець, у нечым зьмяніцца? Не. Бо гэткая прырода чалавечага зла, якое ніколі не бывае хібным і ня ведае памылак.

Паэма «Найноўшыя дзеі беларусаў у Нью-Ёрку” паводле стылю больш нагадвае ня столькі славутыя “Тарас на Парнасе”, “Энеіду навыварат” ці “Лысую гару”, колькі гутаркі – ананімныя рукапісныя творы пачатку XIX стагодзьдзя ў якіх аўтары вялі размову з народам пра надзённыя праблемы. У той самы час паводле зьместу – гэта ўсё ж тып згаданых паэмаў. Карацей, аўтар здолеў аб’яднаць прыкметы двух розных тыпаў традыцыйнай ананімнай беларускай літаратуры. Спадзяюся, што гэткае аб’яднаньне – прыкмета завяршэньня жанру, прыкмета таго, што неўзабаве ў нашым грамадзтве (як на Бацькаўшчыне, так і ў эміграцыі) пачнуцца працэсы аздараўленьня, якія дазволяць кожнаму пісаць адкрыта й шчыра, не баючыся быць зьедзеным, раструшчаным, спляжаным.

***Сяржук* СОКАЛАЎ-ВОЮШ.**

**Вядзьмак БРАЙТАН-БРУКЛІНСКІ**

# Найноўшыя дзеі беларусаў у Нью-Ёрку

*У сямі быліцах вершам*

## Быліца Першая

Пад Саветамі стагнала
Наша Маці-Беларусь.
Змагароў лягло нямала –
Ўсіх зьлічыць іх не бярусь.

Але сьвежы дзьмухнуў вецер,
Зьмены адбыліся ў сьвеце.
У кожнай хаце стаў – скразьняк.
А ў парлямэнце – Пазьняк.

Сталі ладзіцца кантакты
Зь мілаю зямлёй бацькоў.
Менск: кантакты і кантракты
Данчыка і “Васількоў”.

Едуць усьлед за “Васільком”
Кіпель, Шчэцька зь Мерляком.
І ў адказ едзе люд памаленечку:
Пархоменка, Барткевіч, Маленчанка.

А раней яшчэ выпісаў з Польшчы
Юрага Рыжага брат яго большы.
Новы біскуп Рыжы пераняў справу:
Збудаваць БАПНЦ – Богу на славу.

Ходзяць чуткі на Брайтане й навокала:
“У Амэрыку перабраўся Воюш-Сокалаў!”
“Слынны бард, сьпяваў пра Адраджэньне,
Незалежнасьці наблізіў аднаўленьне!”

## Быліца Другая

Вось навіна для ўсёй на сьвеце публікі:
Абвешчана незалежная Беларуская рэспубліка!
Сьпікер Шушкевіч, міністар Краўчанка
Сталі ў Нью-Ёрку бываць часьценька.

Усё, здаецца, ідзе як трэба.
І ўжо сёй-той пытаецца ў БНР:
“Можа насьпела ўжо патрэба
У Менск здаць пячатку, імя і давер?”

Тут новая падзея, мы ўсе аж прыселі:
У Нью-Ёрк прыяжджае Зьміцер Левід!
Габрэйскі беларус ці беларускі габрэй –
Скарбнікам стаў, вядзе ў БАЗЕ рэй.

Другая падзея прайшла незаўважана,
Хоць і была яна вельмі важная –
Прыйшоў на сход высокі хлопец-марак,
Будучы рэдактар – Дабрахвоцкі Марат.

Перад ім прыехаў Архірэвіч Лявон,
Запісаць эмігранцкай культуры плён.
Зь ім аднавіўся “Запісаў” выхад,
І рэакцыя на кожны варожы выпад.

Ну, а далей ужо цэлы дэсант –
Юдзін, Дзёмуха, Знайка, Шчыравіцкі – камэрсант.
А за імі, быццам з-пад сьнегу пралескі, –
Душніцкая, Папутка, Зюгановіч і Паўлецкі.

## Быліца Трэцяя

Чорная навіна зь Беларусі – такога
Сіпатага, вусатага, лысага і дурнога
Людзі абралі там у прэзыдэнты...
Той скарыстаў незадаволеньня мамэнты.

Пасьля дэманстрацый у Менску гучных
У Амэрыцы апынуліся Пазьняк і Навумчык,
Зь імі змагар – Тварог Сяргей;
На новыя бітвы гуртуюць людзей.

А ў БАПЦаркве як жыцьцё віруе –
Уладыка Ізяслаў сваёй паствай кіруе.
Дапамагаюць Мітрапаліту кіраваць
Сп. Замілюк і Юдзін – пісьменьніка зяць.

Аддзел БАЗА ў Нью-Ёрку расквітнеў, ачуняў:
Старшынём Дабрахвоцкага Марата абраў.
Усёй БАЗАЙ загадвае Шукелойць Антон,
Стары змагар задае ў працы тон.

Накірунак змаганьня паказвае Пазьняк,
Ілжэ-апазыцыю плюшчыць у пятак.
Грантасмокаў перамельвае ў муку:
“Навала гэтая – горш за Луку!”

Тут зь неба сыйшоў Партугальскі Анатоль,
Самалюбства, фарсістасьць – ну проста пад столь.
Распавёў, як у Беларусі змагаўся за БАПЦ
З гранатамётам у кожнай руцэ.

## Быліца Чацьвёртая

Працягваюцца у Фундацыі БАЗЫ зборкі,
Стаў запраўляць на іх Знайка лоўкі.
Што ні слова ў яго – то дыямэнт.
Лукашэнку-тырана ён пляжыць ушчэнт.

Тут надумалі самі сабе Шчыравіцкі,
І Партугальскі з Алай Душніцкай:
“Гэдак пляжыць зможам мы тожа!
Дык нашая справа хай пераможа!”

Але не за іх галасуе народ,
І вось нарабіўся ужо закалот.
Лопнулі іх ідэі зь віскатам –
Пра банк, Беларускі дом і япіскапа.

Адставіў мяцёлку Патворнік,
Кінуў ён у Фундацыі жыць.
Недарэчныя прамовы
Стаў на сходах гаварыць.

Спыніла выхад газэта “Беларус”,
Не спрацавалі ўгаворы, прымус –
Ня ўзяўся за друк ані Юдзін, ані Знайка,
Архірэвіч палічыў – ня варта выедзенага яйка.

Больш за год цягнулася сытуацыя,
Пакуль Дабрахвоцкі не ачоліў рэдакцыю.
Палепшылася інфармаванасьць грамады –
У кожнага на пульсе рука заўсягды.

Пераадолеўшы млявасьць і паняверку
Сьвята Купальля сягнула ў Амэрыку.
Адрадзіла яго Кахановіч Валя,
Ускалыхнула грамадзкія хвалі.

## Быліца Пятая

Юдзін-Базылеўскі Юры
Дарам часу не губляў.
Распаўсюджваў скрозь ён бздуры,
А таксама іх зьбіраў.

Стаў нашэптываць ён радзе,
Самаму Замілюку –
У царкве даць па пасадзе
Хлопцам Віцю й Ігарку.

Праўда, хлопец Ігарок
Маральных хібаў меў мяшок.
Ну, але выйшлі з палажэньня –
За ім прыгледзіць Сяргееў Жэня.

А вось і сьвята ў нашай ваколіцы,
За біскупа Віцю парафія моліцца.
Дарма што расеец, ня ведае тарашкевіцы –
Паклоны б'юць Зюгановічы й Бажкевічы.

Паехаў Віця да Філярэта па інструкцыі,
А БАЗА зрабіла яму абструкцыю.
Скінулі зь сьвятароў Шчаўкуніна Ігарка,
Піша ў дзёньнік Юдзін: "Как жысьць горька".

А ў жыцьця ёсьць уважлівейшыя вучні:
Кінуў Зюгановіч баптысцкія штучкі,
Зрабіўся ісьцінна і сапраўдна праваслаўны,
Стаў будынку рамонтнікам дужа спраўным.

## Быліца Шостая

Тут узьнік, прадбачачы грошай пачкі,
Ветэран-бізнэсмэн, Спрытневіч Вячка.
Слаўнага і знакамітага роду –
За тое шукаў сабе ўзнагароду.

Вось Івонка Сурвіла – на чале БНР.
Да яе ўваходзіць Спрытневіч ў давер.
Гэта – першы крок да кансалідацыі!
На чарзе – прыватызацыя бел.арганізацыяў.

Цёмнаю ночкай ня сьпіць Мангасэт.
Завешаны вокны, працуе аператыўны савет.
“Патворнік зойдзе справа, Папутка – лявей,
Ты, Партугальскі, б’еш па галаве”.

Спрытневіч здабыў падтрымку ў Вашынгтоне,
ЦРУ абяцала зрабіць дзюрку ў законе.
“Спынім расьцярушанасьць сілаў дыяспары!”
І ўлада плыве ў рукі новаму Агасфэру.

“Чаго мы гэтак доўга трываем Шукелойца?
Учапіўся за ўладу, як за буталь прапойца.
Нам патрэбны сьвежы вецер перамен!
Ну й яшчэ – адна пасада наўзамен”.

Праўдамі й няпраўдамі зьбіраецца Кангрэс.
(Вы памыляецеся, БАЗА, не КПСС).
Вынік вырашаюць ліпавыя ўпаўнаважаньні.
Спрытневіч – старшыня! “Ад Кангрэсу – найлепшыя ўражаньні!”

## Быліца Сёмая

Прыбіўся аднекуль з жыцьцёвых віхураў
Да нас дынамічны Алесь Дымакураў.
Ад ягонай кар’еры я проста чмурэю.
Быў ніхто ён і жлоб – стаў дырэктар музэю.

За Алеську гарой Зюгановіч, Пазьняк.
Круг прыхільнікаў вузкі, але круг – добры знак.
Стаў ім засьціць сьвятло сам стары Замілюк.
Каб будынак царквы зь ім ня сплыў зь іхных рук!

У разгары рамонт – стаў цукеркай сабор,
Але грошай у скарбе – бы прайшоўся віхор.
Цьвердзіць скарбнік: “Тут – змова агентаў ГБ!”
“Я ж увесь свой заробак аддаю барацьбе!”
“Барацьбе – за сьвяты беларускі народ!”
(Ну, яшчэ – каб здабыць падатковых ільгот.)

Сілы большаюць. Зноўку ня сьпіць Мангасэт.
“Замілюк застары! Ходзіць ледзь у туалет!
Рэпетуецца той жа знаёмы сюжэт:
“Патворнік – Папутка”, “Партугальскі – па галаве”.

Парафіяльны пачаўся сход,
Права голасу хоча прысутны народ.
“Не, мы аддзелім авечак ад казлоў!
Галасуе толькі той, хто “Заўсёды Гатоў!”

У сакрэтнай манэры абралі – сябе.
А хто супраць той рады – ён агент ГБ.
“Мы адстаялі царкву ад хахлоў!
Хто ня з намі, той вораг! Дык біце яго!”

Два гады праляцелі, і Кангрэс зноў сабралі,
Па старым сцэнары кіраўніцтва абралі.
Нехта зноў разьдзьмувае закалоту цяпельца,
А дарма! Ён нібы тая брытва – тапельцу.

Закалотаў ужо шмат мае бачылі вочы.
Я зусім да таго не мастак, не ахвочы.
Але я не хачу пераседзець, змаўчаць.
Хто тут праў і ня праў – хай нашчадкі рашаць.

*(У паэме большасьць імёнаў і падзеяў – прыдуманыя, іх супадзеньне з рэальнасьцю – чыста выпадковае.)*

